У кніжцы творы можна падзяліць на тры часткі. Адна прысвечана кіно, тэхналогіі кіназдымкаў, творчаму працэсу напісання кінасцэнароў і працы кінарэжысёраў. Пісьменнік Фёдар Уладзіміравіч, каб выканаць заказ па стварэнні кінасцэнара, вымушаны ажывіць свае ўласныя ўспаміны і вярнуцца на мяжу жыцця-смерці, дзе ён ізноў балансуе на тонкай ніці быцця над безданню роспачы.

У аповесці «Дзень, калі загінуў Апалон» аўтар паказвае пісьменніка, стрыманага і стомленага прабеглым жыццём, які піша сцэнар, здымае фільм, аналізуе, даследуе і тлумачыць феномен Кахання. Фактычна гэтая аповесьць – ода Каханню і сэнсу чалавечага жыцця, трагічны крык адчаю.

Наогул аўтар у сваёй творчасці ўдзяляе шмат ўвагі тэме Кахання, вядзе чытачоў ад апавядання «Пад зорным небам Айчыны» з кніжкі «Брыгадны генерал» да аповесці «Час зьбіраць камяні» з кніжкі «Гульня белымі фігурамі».

Другая частка аб'яднана назвай «Главы ненапісанага рамана». Апошнія гады перад пачаткам буржуазнай рэвалюцыі 1991–1993 гадоў, якія былі абазначаны ўладай як «перабудова». Гэтымі глаўкамі аўтар нібыта правакуе чытача адказаць на пытанне: цікавыя чытачу тыя гістарычныя часы ці сучасныя жыхары зямной кулі жывуць толькі «тут і цяпер»...

Яшчэ адна частка кніжкі прысвечана лёсу іншадумцаў падчас «перабудовы». А таксама ў нечым фантастычны сюжэт пра амерыканскія ўлады, аўтараў і выканаўцаў глабалізацыі, што самі трапляюць у трагічна пройгрышную сітуацыю для краіны і, магчыма, нават чалавецтва.

Асобна стаяць артыкулы пра нядаўні і цяперашні стан нашага грамадства.

**ISBN 978-609-8147-35-3**

*Чужаземцам не павінны даваццa ўсякія чыны і ўрады, а прыхадням з іншых панстваў не даваць аселасці.*

Статут ВКЛ, 1588 год. Раздзел 3. Артыкул 12.

***Светлай памяці пісьменніка, рэдактара і нашага настаўніка Уладзіміра Максімавіча Дамашэвіча***

*...большасьць людзей прысвячае сваё жыцьцё памнажэньню свайго матар'яльнага дастатку і дабрабыту сям'і. Але ёсьць таксама фанатычныя мэтанакіраваныя людзі, для якіх словы Гонар і Слава не пусты гук, якія жадаюць дасягнуць пэўнай мэты. Іх можна назваць людзьмі з інстынктам чэмпіёна, людзьмі моцнай волі. Заўсёды былі, ёсьць і будуць людзі іншыя, не ад гэтага сьвету, – тыя, якія прагнуць незямнога, высокага, духоўнага, або шляхетныя Людзі, якія ставяць інтарэсы агулу вышэй сваіх асабістых. Калі б на сьвеце не існавала такіх людзей, то не існавала б рэлігій, шэдэўраў культуры ды нацыянальных ідэй.*

Мікалай Крукоўскі, «Бляск і трагедыя ідэалу»

## Стратэгічны розум
глaвы ненапісанага рамана

*Пра сябе скажу, што іншы раз я вельмі абураны англельскімі імпэрыялістымі, здаецца, горла ім перарэзаў бы, а ў другі раз салодка мару аб прынадах буржуазнага жыцьця. Так салодка мару, што пасьля і самому сорамна робіцца. Нават чырванею.*

Андрэй Мрый, «Запіскі Самсона Самасуя»

### II

Позірк Міколы Цыбульскага нервова ёрзаў па ягонай маленькай кватэры, што месцілася на трэцім паверсе шматкватэрнага цагельнага дома па вуліцы Смалячкова, недалёка ад Дома Быту, і нарэшце прыпыніўся на блакітных джынсах, што віселі на вешалцы каля шафы...

Упершыню Цыбульскі сутыкнуўся з некалі цяжкавырашальнай праблемай портак, калі быў зусім маленькім хлапчуком. Тады ў яго і ўзніклі складанасці са штанамі. От бег ён за колам[1] па сваёй вуліцы ў Шаркуцях[2] і – бац! – зачапіўся босай нагой за карэньчык дрэва і паваліўся на ўтрамбаваную мінакамі цвёрдую глебу сцежкі, і ягоныя штаны – бэнц! – парваліся трохкутнікам на каленях. Ці, напрыклад, цішком у Геранёнах[3] у чужы сад па грушы дулямі – шмыгель праз плот, а там гаспадар на іх, хлапчукоў, з пугай. Потым, дарослы, ён зразумеў, што дзядзька іх палохаў жартам, а яны праз плот, ну і, канечне, за цвік цапануў і на штанах ізноў дзюрка. Увечары пайшоў у кіно – у вёску прыехала якраз кінаперадзвіжка – а штаны

1 Бегчы за колам – у пяцідзясятыя гады XX стагоддзя дзіцячымі гульнямі былі: гульня ў пікара, хованкі і бег за колам. Бралася кола ад бочкі ці дзежкі (самым шыкоўным колам быў металёвы абод з кола ад машыны) і кручком з дроту падштурхвалася так, што кола каціласся, а хлапчук-кіравец трушком бег за колам, рэгулюючы і накіроўваючы яго ў патрэбным напрамку.
2 Шаркуці – вёска ў Іўеўскім раёне Суботніцкага сельсавета.
3 Геранёны – старажытнае шляхецкае мястэчка на Віленшчыне ў Іўеўскім раёне.

з латкамі, выгляд жабрацкі. І вось тады ў яго, хлапчука, нарадзілася мара пра такія порткі, якія б не рваліся, калі нават за самы вялізны і востры цвік зачэпішся, і каб выгляд у іх быў шыкоўны, і можна было хадзіць у гэтых штанах і ў лес па грыбы, і на рэчку Гаўя, і ў кіно, і ў школу, а потым, калі падрасцеш, то і на танцы...

Прайшло шмат гадоў, Мікола навучаўся ў педагагічным сталічным вузе імя Максіма Горкага – для яго на ўсё жыццё адзінай сталіцай заўсёды быў Менск – і выпадкова даведаўся пра штаны сваёй дзіцячай мары, што некалі прыдумалі амерыканскія каўбоі і далі нейкую дзіўную назву: джынсы.

Тутэйшыя гарадскія моднікі і абібокі ў тыя часы за вялікія грошы куплялі гэтыя замежныя штаны ў шпікулянтаў і фарцоўшчыкаў, маракоў дальняга плавання, а дацэнты і дэканы, кандыдаты і прафесары навучальных вышэйшых устаноў вялі зацятую барацьбу з тымі варожымі агентамі ўплыву, амерыканскімі каўбойскімі джынсамі.

Міколаў сябрук Антон Станкевіч неяк выступіў з прамовай на камсамольскай палітычна-ідэалагічнай канферэнцыі «Аб варожым уплыве Захаду на нашае маладое пакаленне», дзе зазначыў:

– Шаноўныя васпане! Па-першае, джынсы – гэта вынаходства каўбояў. Каўбоі – пастухі і чабаны, збяднелыя ў галечы амерыканцы, што, не маючы сродкаў, каб прыдбаць пару-тройку прыстойных штаноў, прыдумалі брызентавыя джынсы, у якіх яны даглядалі буйное рагатае быдла, а ўвечары ішлі ў гэтых джынсах у іхнія амерыканскія кавярні, дзе іх спойвалі мясцовыя шынкары і бутлегеры. Такім чынам, каўбоі – гэта блізкі, братэрскі нам суполак амерыканскага пралетарыяту. Па-другое, нашы кіраўнікі лёгкай прамысловасці няхай не спяць у шапку і не наводзяць негатыў на джынсы амерыканскіх пралетараў, а лепш наладзяць вытворчасць брызентовых штаноў, дзіцячай мары майго сябра Міколы. Па-трэцяе, нашыя ідэолагі і прапагандысты няхай не трапляюць на кручок амерыканскіх і заходніх буржуінаў, што прысвойваюць

вынаходства амерыканскага пралетарыяту для атрымання сваіх звышпрыбыткаў і навядзення разумовай муці ў глуздах маладых і недасведчаных маладзёнаў. Даеш нашай моладзі джынсы амерыканскага пралетарыяту нашай, савецкай вытворчасці!

Канечне, дружбаны-студэнты геаграфічнага факультэта напрыканцы прамовы ўзнёсла грымнулі: «Віват!»

Дэкан факультэта, кандыдат і дацэнт Цвік, што на наступны дзень запрасіў на суразмову Антона і Міколу, утаропіў вочы ў даведку аб прайшоўшым абмеркаванні і правакацыйным выступе Антона, а потым, пазіраючы на іхнія збянтэжаныя, узрушаныя твары, чамусьці задаволена і шчыра па-садысцку проста падкрэсліў:

– З пункту гледжання палітычнага, вам, канечне, балдзец! – Цвік глядзеў на іх, узважваў, якое пакаранне накласці на гэтых толькі што вылупіўшыхся з яечка куранят.

– Адтуль, – ён паказаў ківуном у столь, – ідзе зусім іншы манізм[4].

– Гэта ж іхняя амерыканская хлусня, ілжэфальшывы крок. На самай справе буржуіны будуць нас мянтэшыць з другога боку, – захваляваўся Антон.

– Маўчаць! – як тая замежная тыгра, рыкнуў дэкан факультэта, кандыдат навук Цвік. – Хочаце атрымаць вышэйшую адукацыю? Скончыць ВНУ? Маўчаць! Ні слова! Нідзе! Нікому! Ніколі! – Нечакана і жорстка рыкаў, жахліва выпучыўшы вочы, дэкан, і не столькі ад ягоных слоў, колькі ад жудаснага выразу ягонага вірлавокага пабарвавелага твару маладзёны адразу адчулі бязлітасную рэчаіснасць пралетарскага грамадства і зразумелі, што з імі ніхто няньчыцца не будзе...

Цыбульскі, маючы вольны час, згадваў праляцелае жыццё, дзівіўся вялікім і малым здарэнням, эпізодам, увесь час успаміналіся нейкія яскравыя і свежыя моманты, некалі нібыта дробныя, а зараз такія важкія. І шмат імгненняў маладосці былі не скарыстаныя, не пражытыя так, як трэба, і зараз тыя хвіліны і гадзіны і нават – якія

4 Манізм – філасофскае вучэнне, якое лічыць асновай быцця адзін пачатак – матэрыю ці дух.

жах! – гады і дзесяцігоддзі быцця валадарна паўставалі ў ягонай памяці.

Праімчала цэлая эпоха, цяперашнія дзеці ўжо не гулялі ў пікара і не бегалі за колам па сцежках тутэйшых вёсак і мястэчак. Дэканы і дацэнты, кандыдаты і прафесары ўжо не вялі барацьбу са шматлікімі агентамі заходняга ўплыву і штанамі-джынсамі амерыканскага пралетарыяту. Як і меркаваў некалі Антон Станкевіч, буржуіны і лібералойды зрабілі падманны манеўр і нанеслі знішчальную паразу аскетычнаму пралетарскаму грамадству, спакусіўшы яго ў прывідныя цясніны спажывання.

Антон у пачатку XXI стагоддзя трапіў у аварыю і адышоў у свет ценяў, да сваёй першай каханай, Лены Косцень, што трагічна загінула ў Наваполацку на пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя, таксама ў аўтааварыі…

Цыбульскі, былы старшыня гарсавета, вярнуўся ў сучасную рэчаіснасць і пайшоў на кухню, каб згатаваць кавы і потым прадоўжыць успаміны аб прабеглым уласным жыцці, поўным няспраўджаных мар пра велічнае і ўзнёслае.

## III

Мікола Цыбульскі ў чароўны час маладосці па светаўспрыманні быў савецкім чалавекам, гэта значыць наіўным і даверлівым, часцяком іншы раз нават марыў здзейсніць гераічны подзвіг. Таксама ён меў і стратэгічныя здольнасці, але свае дзяржаўныя роздумы ў правінцыйным гарадку ніякім чынам не мог спраўдзіць.

Адзін толькі нетутэйшы палкоўнік Арлоў, тады камдыв стратэгічных бамбавікоў з ядравай зброяй, што знаходзілася на ваенна-паветранай базе ВМС Балтыйскага Флоту гэтага правінцыйнага горада Быхава на Дняпры, аднойчы сустрэўшыся па нейкіх гаспадарчых праблемах з Міколам Цыбульскім, заўважыў і звярнуў увагу на ягоную шчырасць, свежасць думак, адсутнасць дагматызму і тактычных кар’ерных намераў.

Капітан першага рангу Арлоў, толькі што назначаны камандавац дывізіяй, якому праз месяц прысвояць чарго-

вае званне контр-адмірала (генерал-маёра, згодна з агульнавайсковай кадыфікацыяй), малады, мужны і смелы мужчына, па сваім статусе кіраўніка стратэгічнай вайсковай адзінкі меў дачыненне да дзяржаўных меркаванняў і светапоглядаў. У сваёй кар'еры ён сустракаў мноства людзей, якія займалі ў вайсковай іерархіі розныя рангі, мелі высокія чыны, а на самай справе былі звычайнымі дагматамі, артадоксамі і бажбанамі. Усе яны безнадзейна адсталі ад сучаснага жыцця, хто на дзесяць, хто на трыццаць год, некаторыя генералы і нават маршалы жылі ўяўленнямі мінулай вялікай і трагічнай вайны. Улада на вачах трухнела, і яе ўжо з усіх бакоў абкружылі і падпіралі маладыя ды хцівыя мафіёзныя гіены і дзяржаўныя шакалы.

Мікола вылучаўся з кіруючага статка мясцовых саўбураў[5] цікаўнасцю да быцця і нават нейкім даверлівым здзіўленнем перад мінулымі гістарычнымі падзеямі. Ён чытаў успаміны маршалаў Жукава, Ракасоўскага, генерала Гарбатава, начальніка генеральнага штаба германскага вермахта Гальдера і аднойчы здзівіў Арлова, выказаўшы меркаванне, што адной з прычын паразы 1941 года была стратэгічная памылка кіраўніка савецкага генштаба Жукава і міністра абароны Цімашэнкі.

Якраз тады кіраўніцтва раёна і палітаддзел вайскова-паветранай дывізіі наладзілі ўрачыстае святкаванне чарговага юбілею Дня Перамогі.

– Вайсковая справа ў перадваеныя часы, – такаваў Цыбульскі, – дзялілася на тры важныя складнікі. Ідэалогія, якая была на высокім узроўні. Прафесіяналізм вайскоўцаў, які быў тады недастатковым. І...

– Цікава, што было трэцім складнікам? – з прыхаванай усмешкай перапытаў капітан трэцяга рангу Гром, кіраўнік вайсковай разведкі дывізіі, які сядзеў насупраць за святочным сталом, і дадаў: – Канечне, матэрыяльная састаўляючая войск: танкі, самалёты, пушкі, кулямёты.

Грому былі нецікавыя аматарскія развагі цывільных шпакоў, але як прафесійны разведчык ён хаваў свае эмо-

5 Саўбур – савецкі бюракрат

цыі, трымаўся ветліва, спрытна правакаваў суразмоўцаў на шчырыя гутаркі і сам аднačасова азіраў навакольны людскі асяродак, каб палашчыць сваё вока аблічам тутэйшай прыгажуні Алёны Магер. Пасля службы на Новай Зямлі ён адчуваў сябе ў гэтым утульным гарадку, як на курорце.

– Ні ў якім выпадку. – Мікола з годнасцю і на поўным сур'ёзе працягваў выкладаць прафесіяналам свае аматарскія меркаванні. – Матэрыяльныя састаўляючыя маглі пайсці ў армію толькі ў 1943 годзе. У 1941 годзе можна было абаперціся на тое, што мы мелі. Таму трэцяй састаўляючай арміі і народа была пільнасць і прафесіяналізм органаў НКВД і Смерша. Без імуннай сыстэмы ніякі дзяржаўны арганізм не мог існаваць тады і не можа выжыць сёння.

За доўгім сталом павісла кароткая цішыня, у тыя часы ўжо пачыналася паступовая крытыка мінулага савецкага часу і ягоных пільных ворганаў бяспекі, якая на працягу некалькіх гадоў перарасце ў шалёную і бязлітасную траўлю. Кіраўнік выведкі Гром зразумеў небяспеку ўсталяваўшайся прамаўчанкі і закінуў гэтаму наіўнаму і нібыта даверліваму маладому савбуру чарговае пытанне:

– Урэшце, уся справа ў Сталіне. Ён паверыў фюрэру і прайграў 22 чэрвеня…

– Э не, таварыш маёр, Сталін 22 чэрвеня 1941 года як стратэг выйграў. Дыпламаты і шпіёны інфармавалі, што ЗША дапаможа Савецкай Расіі толькі ў выніку несправаванай агрэсіі Германіі супраць СССР. У той жа дзень пасля абеда па англійскім радыё выступіў Чэрчыль, які зазначыў, што «мы акажам любую патрэбную дапамогу Расіі ў барацьбе з Гітлерам, мы звернемся да сваіх саюзнікаў па ўсёй планеце, каб яны таксама памагалі Расіі ўсімі сваімі матэрыяльнымі сіламі, фінансамі ў барацьбе з «пякельнікам»[6]. Такім чынам, гэта была перамога Сталіна як стратэга і жудасны пройгрыш вайскоўцаў, перш за ўсё ідэолагаў і генштаба.

– Гэта нешта новае ў ваеннай гісторыі? – міралюбіва запярэчыў начальнік вайсковай выведкі, ён ужо зразумеў,

6 У. Чэрчыль. Увечары 22 чэрвеня 1941 года прамова па англійскім радыё.

што гэты малады цывільны тутэйшы шпак зараз паставіць яму, вайсковаму прафесіяналу, сакрушальны інтэлектуальны мат. За сталом прыціхлі і зацікаўлена слухалі.

Цыбульскі, адчуўшы, што прысутныя за святочным сталом вайскоўцы і прыгожыя дамы, таксама сінявокая і пекная Алёна Магер, зацікаўлена слухаюць, як той цацярук працягвае сваю ўзнёслую казань:

– Дактрына ідэолагаў аб вайне наступальнай, на чужой тэрыторыі, людзей неваенных, але ўплывовых у дзяржаве, на той момант перамагла. Жукаў у адным сваім інтэрв'ю сказаў: «Галоўная неспадзяванасць была не ў тым, што немцы раптоўна перайшлі мяжу, а ў тым, што для нас з'явілася нечаканай ударная моц нямецкай арміі; нечаканай была шасціразовая і васьміразовая перавага нямецкай арміі на рашаючых напрамках; нечаканасць і масштабы канцэнтрацыі іх войск і сіла іх удару»[7]. Такім чынам бачна, што наша выведка тых часоў не выканала сваёй мэты, генштаб не зразумеў стратэгіі і тактыкі вайны немцаў з Францыяй і Польшай, не разабраўся ў прынцыпах бліцкрыгу.

Вайскоўцы і мясцовае чынавенства з добразычлівай усмешкай пазіралі на маёра, і ён разумеў, што ў вачах тутэйшага правінцыйнага актыву, афіцэраў дывізіі, прыгожых кабет і Алёны Магер ён атрымаў паразу ад нейкага месцячковага пінжака[8]. Гэта быў мат каралю.

У гэты момант стратэг і тэарэтык Мікола Цыбульскі ўзняўся з месца, трымаючы келіх з шампанскім у руцэ.

– Шаноўныя сябры, дазвольце мне ў гэты чароўны і радасны дзень падняць келіх за нашых мужных вайскоўцаў, за тое, што яны вартуюць наша мірнае жыццё, за тое, каб нашая вайсковая выведка і контрвыведка ўжо ніколі не рабіла такіх жахлівых памылак, якія яна зрабіла ў 1941 годзе. І яшчэ я прапаную, хаця гэта і нямодна сёння, выпіць за Вярхоўнага Глаўнакамандуючага!

Усе, канечне, узрушана і ўзнёсла паднялі свае кубкі і выпілі, хто шампані, хто каньяку. Мат маёру разведкі

7 К. Сіманаў. «К биографии Г. К. Жукова».

8 Пінжак (савецкі вайсковы слэнг) – цывільны чалавек.

Грому не быў агучаны, але некаторыя тутэйшыя раённыя кіраўнікі былі незадаволены раптам высока ўзнятым рэйтынгам Цыбульскага ў вачах вайскоўцаў, камдыва ваенна-паветранай базы стратэгічнай авіяцыі Балтыйскага флоту, контр-адмірала Арлова, прыгожых вайсковых кабет, і таму мясцовыя савбуры прынялі захады, каб Мікола больш не высоўваўся і не кантактаваў з вайскоўцамі.

Потым, ужо капітан першага рангу, Гром, калі пераязджаў у Калінінград на новае месца працы, перадаючы свае справы новапрыбыламу афіцэру контрвыведкі, сказаў:

– Тут у асноўным тусоўка звычайных правінцыяльных шпакоў. Умеюць трымаць сябе з годнасцю, выпіваюць, маюць каханак, але, па вялікім рахунку, малацікавыя. Ёсць някепскія бабы і адзін адыёзны стратэгічна думаючы чалавек, савецкі патрыёт Мікола Цыбульскі. Але мясцовая ўлада, на жаль, запхнула яго ў шуфляду.

Ён памаўчаў крыху, пазіраючы ў вакно, дзе сонца хілілася да небакраю. Ягоны мужны твар, абветраны ледзяным подыхам Арктыкі, быў задумлівы. Гром шмат ведаў як вайсковы разведчык, і гэтыя ягоныя веды нараджалі неспакой аб блізкім і далёкім будучым краіны.

– Цыбульскі – «лакмусавая паперына», сведчыць аб тым, што адбываецца ў грамадстве і дзяржаве. Я б яго паставіў на ўзровень начальніка палітаддзела раёна.

– Мясцовы пінжак-псіхапат, каму ён патрэбны? – запярэчыў падпалкоўнік Звераў, толькі што прыбылы з Масквы. І, як сапраўдны маскавіт, лічыў, што толькі масквічы і адэсіты маюць права на дзяржаўныя одумы і стратэгічныя развагі.

Гром востра зірнуў на Зверава, але нічога не сказаў. Потым дадаў:

– Не ў гэтым справа. Сусвет галаграфічны. Частка прасторы мае інфармацыю аб усім космасе. Вы ў Маскве забанілі сабе глузды інфармацыйным смеццем, а гэты самародак ясна адчувае тое, аб чым там прамаўляюць самыя высокія і мудрагелістыя галовы.

– Што нам з гэтага?

– Гэта нам можа даць прадбачанне будучых падзей.

– Будучыя падзеі ў юрысдыкцыі вярхоўнага камандавання. Наша справа – выкананне загадаў, – суха зазначыў падпалкоўнік Звераў, і ў гэты момант капітан першага рангу Гром пашкадаваў аб сваёй шчырасці ў размове з ваенным савбурам маскоўскага разліву.

## IV

Палкоўнік Гром не быў бы прафесіяналам контрвыведкі, каб у адказ на свой пройгрыш не падсунуў калючага вожыка ў штонікі свайму адверсару. Таму, неяк сустрэўшы Цыбульскага ў кнігарні ва ўнівермазе на рагу вуліцы Пралетарскай, ён разгаварыўся з ім і потым гэтак вытанчана падкінуў прафесійна напрацаваную загатоўку-матрыцу:

– Я уезжаю. Хотя вы и увели у меня из-под носа Лену Магер, я не в обиде. Будут трудности – звоните мне по телефону, – і капітан першага рангу Гром прадыктаваў яму нумар тэлефона ў Калінінградзе.

– З Алёнай Магер у мяне аніякіх стасункаў. – Мікола як стратэг быў слабы ў тактыцы і таму заглынуў нажыўку.

– Жаль. Красивые женщины – носители информации, чаще неосмысленой, но значительной и веской. Они маркеры современости, определяют истиную версию реальности, позволяют узнать ближайшее будущее.

– Як... – Цыбульскі сарамліва змоўк, ён хацеў запытаць, якім чынам можна ўсталяваць інтымныя стасункі з прыгажуняй, не страціўшы свайго іміджу. Вайсковец зразумеў ягоныя цяжкасці.

– Просто. «Уважаемая Елена, я хотел бы з вами выстроить более близкие отношения. Если вы, конечно, не против. Но это между нами, не для распостранения». – Гром добразычліва ўсміхнуўся і развёў рукамі.

Ён разумеў гэтага шчырага правінцыйнага шпака, бо той цікавіўся ваеннай гісторыяй, быў савецкім патрыётам, якога заўсёды можна было, пры патрэбе, накіраваць на здзяйсненне гераічнага подзвігу. Вайсковец падсунуў

тактычную загатоўку дзеля таго, каб гэты бажбан-стратэг, дакрануўшыся да жыццёвых турбот, зразумеў складанасці рэальнага жыцця. Капітан першага рангу Гром пацiснуў руку Цыбульскаму і ў хуткім часе ад'ехаў у Калінінград, абцяжараны вайсковымі клопатамі. Гістарычныя часы надыходзілі блядскія, супярэчлівыя і разбуральныя.

Цыбульскі па сваім светаўспрыманні быў савецкім летуценнікам і рамантыкам, валодаў стратэгічнымі здольнасцямі і дзяржаўнымі перакананнямі, але таксама меў, як і кожны мужчына, свае мужчынскія патрэбы і мроі, якія іншы раз дакучалі яму. Размова з капітанам першага рангу Громам моцна правентыліравала яму глузды, ён перастаў саромецца сваіх мужчынскіх патрэб і аднойчы, набраўшыся нахабства, узяў – гэтак далікатна і пяшчотна прыхаваўшы свой узрушаны і трапяткі позірк юрлівых вачэй – і выказаў тую самую тэзу, што падараваў яму вайсковец.

– Шаноўная Алёна, я хацеў бы з вамі ўсталяваць больш блізкія стасункі. Калі вы не супраць.

Алёна Магер працавала ў планавай камісіі райвыканкама. Сінявокая прыгажуня з вытанчаным станам і моцнай дупай, стрункая, вясёлая, перапоўненая чароўнымі ферамонамі – яна ўздзейнічала на мужчын, як імклівы ўдар маланкі, як прыгожая рыжая ліса, што ў палымянным чырвона-жоўтым восеньскім лесе раптоўна выскоквае пад ногі ўзбуджанаму і разгубленаму ад нечаканасці гарадскому паляўнічаму...

Алёна пяшчотна ўсміхнулася Цыбульскаму і згадзілася на «больш блізкія стасункі», яна была з той пароды жанчын, што калекцыянавалі мужчын і потым вілі з іх вяроўкі.

Лёгкасць, з якой Алёна згадзілася на спатканне, насцярожыла і збянтэжыла тутэйшага мысляра-стратэга.

Ён уявіў сабе, што трэба для таго, каб якасна і з густам спраўдзіць гэтыя інтымныя дачыненні з цікавай, прыгожай жанчынай, што стварала ў яго такое моцнае жаданне. У гэты момант, калі дзівоснае ўяўленне імкліва

несла яго па таемных сцяжынах, шляхах і дарогах віртуальнага жыцця, ён нарэшце дапяў, што ён – вахлак, лапух, а фактычна пінжак. Што ён – абмежаваны аўтаномны ёлуп, які змарнаваў маладосць на стратэгічныя одумы, дзе нічога ад яго ніколі не залежала, і тым самым прамінуў «свой лепшы ў жыцці час», не напрацаваўшы сыстэмныя тактычныя алгарытмы ўласнага якаснага існавання...

Атрымаўшы згоду прыгожай і жаданай Алёны Магер на інтымныя хвалюючыя зносіны, ён не ведаў, як і дзе спраўдзіць гэтыя стасункі. У лесе, на лузе? А як даехаць туды? А як схавацца ад чужых вачэй? А дзе ўзяць шыкоўны ложак? А як знайсці ў рэчаіснасці вольны, некантраляваны ўладай, шпегамі і ягонымі ворагамі жыццёвы момант?

І толькі зараз Мікола нарэшце зразумеў, чаму знаёмыя савбуры-кіраўнікі – такія шустрыя і вёрткія круцялі. Каб карыстацца ўласным жыццём высокай якасці, трэба было рухацца ў рэчаіснасці на трэцяй хуткасці, займацца штодзённай тактыкай і не лезці ў шкодную і неэфектыўную для аўтаномнай асобы дзяржаўную стратэгію.

## V

Сучасная моладзь, канечне, нічога не ведае і не разумее пра людское жыццё за часамі развітога сацыялізму. Цяперашнія маладзёны думаюць, што тады жылі пад нялюдскім прыгнётам, начамі хаваліся ў хлеўчуках і паграбах, а ўдзень рухаліся па вуліцах і перавулках выключна паўзком і перабежкамі. А органы спецслужб палявалі на гэтых простых людзей, не раўнуючы як на тых зайцоў.

Між тым, напэўна, самым вясёлым і ў нечым шчаслівым для большасці людзей быў якраз гэты час «развітога сацыялізму». У тыя часы хто хацеў, той зарабляў грошы – ехаў на нафтаздабычу на Поўнач ці на Калыму здабываць золата, хто не хацеў нікуды ехаць – той гадаваў парсюкоў ці садзіў бульбу. Большасць напоўніцу святкавала шматлікія савецкія святы, весела, з размахам прапівала сваю

краіну, дзяржаўная ўлада не перашкаджала пралетарыяту і нават падтрымлівала гэтае цунамі спіртовых напояў вытворчасцю мноства пладова-ягадных він, ці, як трапна вызначыў народ, «чарніл».

Улада нібыта прымушала народ працаваць, але маладзёны, народжаныя ў брэжнеўскія часы застою, не вельмі імкнуліся да рабочага гераізму, не ўсведамляючы шчасце ад штодзённай працы і ўраўнаважанага жыцця. Моладзь хацела нечага незвычайнага і вострага. Надыходзіла гістарычная пара ідэалагічнага спакушэння халявай – лёгкай магчымасцю дужа разбагацець шляхам спекуляцый і разрабаваннем назапашаных гераічным савецкім народам дзяржаўных і народных багаццяў.

У той недарэчны і нават драматычны дзень, сонечным летнім надвор’ем Мікола Цыбульскі выйшаў пасля абеда са сваёй кватэры і пакрочыў па вуліцы Смалячкова праз плошчу «Пяці вуглоў», каб потым павярнуць налева і прыйсці да будынка райкама КПБ, дзе яго сёння павінны былі мянтэшыць і пляжыць на Бюро. Яго, «чэснага з чэсных», «крыштальнага з крыштальных», будуць там таўчы ні за што.

«Так ужо і «чэснага», і «крыштальнага»? – запытаўся нехта знутры Міколы Цыбульскага. – А хто нядаўна піў белавежскую з Іванам Кнышом і замначальнікам РАУС Бараноўскім у габінеце надвячоркам у працоўны час? А хто спакушаў Алёну Магер з планавага аддзела, а потым цалаваўся з ёй падчас абедзеннага перапынку таксама ў працоўны дзень?»

«Мяне будуць сёння катаваць і мучаць з зусім іншай, высмактанай з пальца ананімнай скаргі, дзе я наогул ні пры чым», – адказваў Мікола Цыбульскі ўнутранаму апаненту.

«А гэта, мілок, цябе будуць лупцаваць па сукупнасці і дзеля прафілактыкі, на ўсялякі выпадак. Бо ўлада часцяком не ведае, дзе ты саграшыў як злодзей, але Бюро добра ўсведамляе, што пяць год кіраўніцтва любому «чэснаму» дастаткова, каб не тое што на вымову награшыць, але мож-

на нават выпісываць пракурорскі ордэр на Беламорканал для перавыхавання. Згодны? Толька шчыра!»

Цыбульскі пашкроб патыліцу і не знайшоў, што адказаць свайму ўнутранаму адверсару. У гэты момант зверху мільганула нешта белае і пляснула ўперадзе ў пяці кроках ад яго.

Ён падышоў бліжэй і не паверыў сваім вачам. Перад ім на асфальце ляжала некалькі вузкіх і доўгіх кавалачкаў сала. Крыху нібы ўпацелыя свежанькія кавалачкі з падпуззя выглядалі спакусліва апетытнымі. «Зараз бы гэтае сальцо дробненька парэзаць ды са свежым хлебам і цыбулькай, памідоркамі. Красацень! Любата!» У Цыбульскага пагнала сліну ў роце. Ён азірнуўся, падняў вочы на пустынныя балконы трэцяга і чацвёртага паверхаў шматпавярховага дома з белай цэглы, адкуль шпурнулі сала яму пад ногі. Цыбульскі зрабіў намаганне, каб не нагнуцца і не падняць гэтыя прывабліва смачныя кавалачкі сала, мужна абмінуў іх і пайшоў далей, абураны і зняважаны.

«Не любяць, не паважаюць, не шануюць! Салам кідаюцца... Заеліся, гаўнюкі! Начальства працуе не разгінаючы спіны, усё дзеля народа. Дзеля таго, каб жыць і выжываць, каб мір быў. А яны, курвы, салам кідаюцца. Успомніце вы яшчэ гэта сала! Такога быць не можа, каб жыццё не пакарала. Забыліся, як яшчэ 20 год назад народу жраць не было чаго».

Старшыня ішоў далей пакрыўджаны і разлаваны. «Знайшлі грахі. За паўгадзіны да заканчэння працоўнага часу з шаноўнымі людзьмі выпілі «Белавежскай» у сваім габінеце? Ну аднойчы цалаваўся з Алёнай Магер?! А яны цяперака з намёкам салам кідаюцца, маўляў, ты свіння, начальнік. А самі? Пралетарыят называецца!»

Нядаўна на адзіным палітдні ў райсельгасхіміі ён, гэты пралетарыят, дакараў. Задалі яму пытанне з залы, дзе сабраўся працоўны калектыў.

– Чаму ў крамах не хапае тавараў, малая зарплата і цэны высокія? – Прысадзісты кіроўца-здаравяк Васіль Калеснік запытаўся з месца і, гэтак яхідна ўсміхнуўшыся,

задаволены сеў. Старшыня гарсавета Мікола Цыбульскі ў адказ сціпла і пераканаўча патлумачыў:

– Першая задача дзяржавы – абарона сваіх грамадзян ад знешніх і ўнутраных ворагаў. Калі чалавек жыве ў краіне, дзе не страляюць, – гэта самае важнае. У 50-х гадах мінулага стагоддзя ўсе жыхары нашай краіны былі шчаслівыя толькі таму, што ўжо «не стралялі, не палілі, не гвалцілі». Другі дзяржаўны клопат – каб у краіне не было голаду. Прыкладна на мяжы 60-х гадоў гэтая мэта ў нашай дзяржаве была дасягнута. Трэцяя і чацвёртая мэта дзяржавы – адукацыя і ахова здароўя – яны таксама дасягнуты. Яшчэ адно важнейшая пытанне – гэта захаванне і развіццё свайго культурнага складніка. Тут у нас яшчэ шмат працы. Каб наша моладзь брала прыклад з Высоцкага ды Маякоўскага, слухала Магамаева, Міансараву, Мартынава, а не розных валасатых і незразумелых нам «Бітлзаў». А далей высокая якасць жыцця народа, канкурэнтаздольнасць краіны ў сусветнай эканоміцы – гэта наступныя шостая і сёмая мэты дзяржавы. Дзеля гэтага нам усім патрэбна ўпарта і настойліва працаваць. Не купляцца на хітразаплеценую балбатню міжнароднага імперыялізму, які сам жыве за кошт эканамічнай і фінансавай эксплуатацыі былых калоній...

Тут Мікола Цыбульскі і папракнуў пралетараў негатыўным прыкладам з іхняй штодзённай працы. Тады якраз шафёры райсельгасхіміі на самазвалах не давозілі ў калгасы спецугнаенні для нейтралізацыі радыяактыўнага цэзія і скідвалі на паўдарозе ў лесе. А ўвечары прадавалі па зніжаным кошце зэканомленыя бензін ці салярку.

– Адкуль жа будзе прыбываць якасць нашага з вамі жыцця, калі будзем так няякасна працаваць? – запытаўся ў пралетараў Мікола Цыбульскі і зірнуў на Васіля Калесніка.

Заўсміхаліся пралетары, як мыла з'еўшы, і змоўчалі. А гэтыя, між іншым, іхнія дзеянні былі ўжо шкодніцтвам! А за шкодніцтва ў былыя гады лёгка можна было на Беламорканал трапіць. Народ? Яму дай волю, то да самага Ура-

ла беглі б у 41 годзе. Народу, як таму каню, патрэбны свой конюх, фурман, правадыр, каб зацугляў, запрог, загрузіў дзяржаўны воз ды павёз карысны груз, зрабіў патрэбную для краіны і самога народа працу, для сябе і сваіх дзетак...

## VI

На паседжанне Бюро, у двухпавярховы будынак райкама КПБ па вуліцы Льва Сапегі, старшыня гарсавета Мікола Цыбульскі прыйшоў злосны ад сваіх думак, але і стрыманы, бо перабрэхвацца і адбівацца на Бюро было небяспечна і шкодна для ўласнага становішча.

Цыбульскі адчуваў, што гаспадар раёна, першы сакратар райкома Познер меў на яго зуб з таго часу, калі ён, Мікола, высока ўзняў свой інтэлектуальны рэйтынг у вачах камдзіва контр-адмірала Арлова і ўсёй вайсковай эліты падчас святкавання Дня Перамогі. Сутнасць тамтэйшай улады часоў развітога сацыялізму заставалася па-ранейшаму адназначнай – галоўным і адзіным на тэрыторыі раёна, падуладнага партыйнаму Бюро райкама, заўсёды належала быць толькі першаму сакратару, у цяперашнім выпадку таварышу Познеру.

У калідоры перад габінетам, дзе праводзілася паседжанне Бюро райкама, таўкліся, сядзелі і стаялі з панурымі, усхваляванымі тварамі прыстойна апранутыя, пры гальштуках, кіраўнікі прадпрыемстваў, сакратары партарганізацыі, сярод іх Цыбульскі заўважыў дырэктара саўгаса Бабанца, персанальную справу якога «Аб амаральных паводзінах старшыні саўгаса «Дняпроўскі», камуніста Бабанца П.» таксама павінны былі разглядаць на Бюро.

Цыбульскі прывітаўся з дырэктарам камунгаса Іванам Кнышом, які разам з ім быў ахвярным закладнікам ананімнага даноса «Аб палітычнай блізарукасці старшыні гарсавета і дырэктара камунгаса падчас 45-годдзя Перамогі». Улада, як заўсёды, мацавала свой аўтарытэт сярод грамадства, жыхароў і абывацеляў на чарговых ахвярах, не раўнуючы як на тых шараговых авечках. Праз паўтары

гадзіны чакання высунуўся з дзвярэй энергічны загадчык аддзела Булаўкін і стрымана запрасіў у габінет дырэктара камунгаса Івана Кныша і старшыню гарсавета Цыбульскага.

У зале паседжанняў за доўгім сталом старшынстваваў першы сакратар Познер Раман Аляксандравіч, паабапал яго сядзелі другі і трэці сакратары райкама Дземідовіч і Галубкіна, старшыня райвыканкама Навіцкі Андрэй Іванавіч, раённы пракурор Саблін, прысутнічалі загаддзелаў райкама Мажэйкін і Казлоўскі, быў адзін прадстаўнік пралетарыяту, камбайнёр Чаховіч, а таксама дырэктар завода Глінскі. Усе яны здзіўлена ўзіраліся на Цыбульскага, нібы на нейкага жудаснага злачынца, якога бачылі ўпершыню

Паведамленне па справе палітычнай блізарукасці рабіў старшыня парткамісіі Галькевіч. Той самы Галькевіч, з якім Цыбульскі некалькі разоў піў гарэлку, казаў і слухаў розныя палітычныя анекдоты, рагатаў ад тых казанняў. Цяпер Галькевіч напорыста прамаўляў зусім не смешныя словы:

– ...Падчас святкавання 45-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчынай вайне камуніст і дырэктар камунгаса Кныш умудрыўся зрабіць капітальны рамонт для сям'і былога нямецкага паслугача Смолкіна. І не проста рамонт, а з пабудовай цагельнай прыстройкі, што павялічыла жылую плошчу дома ў два разы. Дом пасля вайны быў канфіскаваны ў бацькі грамадзянкі Смолкінай за яго супрацоўніцтва з нямецка-фашысцкімі акупантамі. Сам Смолкін быў асуджаны савецкай уладай на пяць год. У шасцідзясятых гадах сям'я Смолкіных, у змове з тутэйшымі прадстаўнікамі ўлады, самавольна засялілася ў канфіскаваны дом і з таго часу там пражывае.

Старшыня парткамісіі Галькевіч дакладваў, члены Бюро здзіўлена і з асуджэннем пазіралі на Цыбульскага, што стаяў у тарцы стала, як на эшафоце. Мікола перад гэтым праглынуў дзве таблеткі валяр'янкі і таму трымаўся надзіва спакойна, паглядаў на Бюро і самога сябе як быццам аднекуль збоку.

– Дазвол на капітальны рамонт даў старшыня гарсавета, камуніст Цыбульскі. Зразумела, што тут прысутнічае

змова між дырэктарам камунгаса Кнышом і старшынёй гарсавета Цыбульскім.

Галькевіч, ягоны таварыш, амаль сябара, кідаў жорсткія, несправядлівыя абвінавачанні, перакручваў факты і рабіў высновы, за якія ў даўнейшыя гераічныя і жорсткія даваенныя часы Цыбульскага б адразу накіравалі на Беламорканал ці Салаўкі, а можа, нават і пусцілі ў расход.

– У той час, калі франтавікі, удзельнікі вайны, ветэраны вайны стаяць у чарзе на паляпшэнне свайго жыллёвага становішча, камуністы Цыбульскі і Кныш у юбілейны 45-ы год Перамогі над фашызмам робяць капітальны рамонт, паляпшаюць жыллёвае становішча сям'і фашысцкага паслугача.

Раней гэтае пытанне здавалася Цыбульскаму дробязным, ён нават лічыў, што лёгка абароніцца, і прамова ў яго была падрыхтаваная: «Дваццаць пяць год сям'я Смолкіных плаціць камунальныя плацяжы, і дзяржава прымае гэтыя плацяжы. Тым самым улада прызнае факт іх пражывання ў некалі канфіскаваным доміку дзеда. Акрамя таго, гэтая цяпер ужо савецкая сям'я не адказвае за грахі свайго бацькі і дзеда. «Сын за отца не отвечает». Сын Смолкіных у дадзены момант служыць ва ўзброеных сілах краіны за мяжой, у ГДР. Як мы будзем выглядаць, калі гэты малады салдат атрымае ад маці пісьмо, што іх сям'ю выселілі з фактычна іхняга дзедавага доміка? А калі ён нешта ўтворыць у стрэсавым стане? Лічу, ананімны данос з'яўляецца правакацыяй, каб распаліць варажэчу між уладай і шараговымі грамадзянамі. Канечне, мая віна, як старшыні гарсавета, ёсць у тым, што дазвол на капітальны рамонт быў дадзены падчас 45-годдзя Перамогі. І, канечне, частка абывацеляў і грамадзян маглі ўспрыняць гэта як нейкі палітычны знак. За недагляд я, канечне, павінен атрымаць вымову ці нават строгую вымову. І не больш таго!»

Першы сакратар райкама Познер, разумны, прафесійны, з вожыкам густых цёмных валасоў, уважліва слухаў дакладчыка, разглядаў абодвух кіраўнікоў-камуністаў і нарэшце valадарна зазначыў:

– Видимо, товарищ Цибульский и товарищ Кныш были сильно заинтересованы в этом ремонте? Возможно, заинтересованы материально? Как считают члены Бюро? Что скажет товарищ Саблин?

Пракурор Саблін, маўклівы, стрыманы, у цёмным касцюме, з акуратным і строгім праборам чорных валасоў, як той груган, змрочна зацвердзіў:

– На первый взгляд как будто обыкновенная халатность, политическая близорукость и потеря бдительности. Но для более существенных выводов нужны следственые действия. Необходимо поручить следственным органам РОВД проверить эту версию.

Цыбульскага нечакана працяў дзікі жах. Ён зразумеў, адчуў усёй сваёй скурай, што ўчэпісты следчы сапраўды можа заблытаць і дацiснуць Смолкіну як сведку, як ахвяру зламысных дзеянняў мясцовых чыноўнікаў. Нібыта яна была прымушана даць хабар дырэктару Кнышу, які любіў выпіць і мог здуру ўзяць нейкі пакет падзякі з каньяком, добрай закуссю. Заадно Смолкіна пад ціскам следчага, каб дагадзіць яму, можа што-небудзь ляпнуць і пра Міколу Цыбульскага. І што тады будзе з ім, з яго сям'ёй? Трапіўшы на нары, ён, з ягоным узроўнем здароўя і пачуццём уласнага гонару, хутка загіне сярод палых.

Але ж гэта было дзіка несправядліва. Яны што, не бачаць сапраўдных круцялёў і злодзеяў, прахіндзеяў, падхалімаў, тых, хто хоча быць добранькім за дзяржаўны кошт?

– На мой взгляд, Роман Александрович, конечно, присутствует халатность и политическая близорукость, прежде всего председателя горсовета. – Старшыня райвыканкама Навіцкі быў строгім, у ягоным голасе гучаў дзяржаўны клопат.

– За это, конечно, оба должны быть сурово наказаны. Вместе с тем многократно провяеряемый товарищ Цыбульский не был замечен в получении поборов с жителей города. Никаких сигналов, жалоб, доносов в получения взяток также не было. Надо было бы послушать самих виновников.

– Вы, Андрей Иванович, защищаете свои кадры. И что Цибульского слушать? Что, мы не знаем Цибульского? Будет заливаться соловьём: «советские граждане», «сын Смолкиной служит в рядах Советской Армии», «сын за отца не отвечает». Он же не будет отвечать на справедливые вопросы и упрёки инвалидов войны, ветеранов, фронтовиков.

Да абмеркавання далучыўся другі сакратар райкама Максім Васільевіч Дземідовіч.

– Товарищ Цибульский начал зазнаваться. Не прислушивается к мнению своей парторганизации. Там опытные коммунисты, люди, прошедшие войну, много испытавшие, ветераны, фронтовики. Между тем данный вопрос рассматривался трижды на заседаниях парторганизации, где товарищ Цибульский яростно защищался, не признавал свои промахи. Что скажет по этому поводу секретарь парторганизации товарищ Дубков?

Са свайго месца, у лепшым сваім шэрым касцюме, у белай кашулі, пры гальштуку, узняўся сакратар партарганізацыі пенсіянераў пры гарсавеце Дубкоў, з якім у Цыбульскага былі вельмі няпростыя стасункі. Міколу заўсёды здзіўляла апантаная прага Дубкова кіраваць, сам Цыбульскі ўспрымаў сваю пасаду як хамут, цяжкі абавязак, які трэба несці кожны дзень, трымаць адказнасць не толькі за сябе, але і за іншых.

Між тым Дубкоў устаў з месца, задаволена керхнуў у далонь і ўрачыста, разам з тым стрымана пачаў гаварыць. Надышоў ягоны час рэваншу і ўзвышэння, і ён збіраўся напоўніцу скарыстаць гэты рэдкі цяпер для яго жыццёвы момант.

– Таварышы члены Бюро, хачу вам сказаць, што старшыню гарсавета Цыбульскага мы шмат разоў папярэджвалі, падказвалі яму аб ягоных хібах у ягонай працы. Чалавек па характары мяккі, слабавольны, але самалюбівы, з гонарам. Практычнай работы не ведае, робіць шмат промахаў, прамінае важныя моманты ў сваёй працы…

У гэты пераломны момант свайго жыцця Цыбульскі нечакана ясна зразумеў, што павінен схіліць галаву перад

гэтай сталёвай дзяржаўнай машынай, ахвяраваць сваім іміджам, каб захаваць і ўмацаваць аўтарытэт Бюро райкама як вышэйшага органа ўлады... Інакш гэтая ўладная машына сатрэ яго ў пыл, знішчыць, апусціць на самае дно, пераступіць і пойдзе далей. І Цыбульскі адмовіўся ад слоў апраўдання, тым самым згадзіўшыся з абвінавачваннямі таварышаў па партыі.

...Іван Кныш – дырэктар камунгаса, які рабіў гэты самы капітальны рамонт злапалучнага доміка, не з'еў дзве таблеткі валяр'янкі, якія перад гэтым прапанаваў яму Цыбульскі. Падвергнуты партыйнай вівісекцыі, стоячы ў тарцы стала перад членамі Бюро, ён абліваўся потам, чырванеў, бялеў і, атрымаўшы строгую вымову з занясенем у парткартку, ледзь не плакаў.

...Сам жа Мікола Цыбульскі, выходзячы з паседжання Бюро райкама, таксама са строгай вымовай з занясеннем у парткартку, застаўся надзіва спакойным і прагматычным. У ім адбываўся імклівы перагляд жыццёвых каштоўнасцяў. Ён быў для партыі і ўсёй дзяржаўнай бюракратычнай машыны «не сябрам, братам па крыві, таварышам па зброі», а расходным матэрыялам! Партыйная машына нейкі час пратрымае яго на гэтай непачэснай працы, пражуе яго, а потым, калі ён канчаткова страціць свой аўтарытэт у вачах грамадзян і жыхароў, выкіне яго на ўзбочыну жыцця. Выплюне, зняважанага і духоўна апушчанага, з адмоўным іміджам у вачах мясцовых жыхароў, абывацеляў і таемных ворагаў.

З гэтага моманта ў душы Міколы Цыбульскага пачала адбывацца моцная перамена кірунку ў разуменні рэчаіснасці, страчвалася вера ў непагрэшнасць улады, убачылася яе абмежаванасць, чорна-белае ўспрыманне жыцця, адсутнасць стратэгічнага мыслення, палітычная зашоранасць, матэрыялізм і канкрэтыка, узрошчаная і выхаваная Горацкай сельскагаспадарчай акадэміяй.

Памяркоўны, добразычлівы, мяккі чалавек Мікола Цыбульскі са здзіўленнем адчуваў, як у ягонай душы ўзрошчваецца зусім іншая асоба, прагматычная, аналітычная і помслівая. Цяпер ён адчуваў і ясна разумеў, што шкоднае

дзеянне ў свой бок заўсёды трэба ўспрымаць адэкватна і ніколі не прамінаць зручнага выпадку для ўласнага ўдару ў адказ. Інакш кіруючае асяроддзе апусціць яго ў шасцёркі, і ён будзе змагацца з апушчанымі і слабымі, з палымі, тымі, хто таксама потым з асалодай будзе таптаць і жэрці яго, каб наталіць сваю ўласную прагу да помсты.

Занадта шмат жыццёвых параз ён атрымаў у сваім жыцці, каб зараз ізноў трымаць гэтыя несправядлівыя і жорсткія ўдары ад іншых. У дзяцінстве яму хапала зняваг з-за ягонай фізічнай слабасці, у юнацтве – ад інфантыльнасці і наіўнасці, у маладосці – ад непрафесіяналізму і непрыстасаванасці, але зараз, узняўшыся над жыццёвым шараговым узроўнем, ён набыў разумовую моц і пачаў бачыць хібы ўлады, яе дагматызм, яе зацыкленасць і абмежаванасць. Нешта было ў ім самім шляхетнае, высокароднае, тое, што не дазваляла яму самазнішчыцца ў хвалях п'янай рэчаіснасці развітога сацыялізму.

Цыбульскі яшчэ не разумеў, што толькі што ўзбіўся на першую ступень самасвядомасці маладога кіраўніка. Самасвядомасці, якая вылучае кіраўніка з калектыўнай грамадскай масы і стварае ўсведамленне самога сябе як дзяржаўнай аўтаномнай асобы. Асобы, якая ўжо сама нясе адказнасць за свае дзеянні і выконвае ўсе патрабаванні грамадства і загады вышэйшай улады. Узніклае пачуццё помсты было сведчаннем няспеласці кіраўніка, а некалі, у блізкай гісторыі, зрабілася крыніцай крывавых падзей 37-38 гадоў. Сапраўдны, сталы, прафесіянальны кіраўнік вышэйшай кваліфікацыі не можа кіравацца ў сваёй дзейнасці помстай, пачуццём неэфектыўным, недасканалым і амаральным...

## VII

У той жа дзень, увечары, калі ўжо пачало змяркацца ды марасіў нудны восеньскі дождж, яны, тры савецкія кіраўнікі, якім Бюро райкама навешала строгіх вымоў, сядзелі ў уазіку, што стаяў у завулку калі малаказавода па вуліцы Смалячкова, і, адкаркаваўшы пляшку «Пшанічнай», збіраліся яе выпіць.

– Што мы тут робім? – Мікола Цыбульскі глядзеў на калег пакутлівым позіркам заблукалага ў жыцці мысляра. І калегі адчулі, што насамрэч яны сабраліся не проста так, каб выпіць гарэлкі, а для сапраўды нечага важкага.

Рэалістычны і нават таленавіты волат Іван Кныш шчыра зазначыў:

– Мы сабраліся, каб выпіць гарэлкі.

– Мы сабраліся, каб адшукаць Ісціну! – з абурэннем адказаў пасіянарны старшыня выканкама Цыбульскі. Выпіўшы Мікола апошнімі часамі рабіўся надзвычай узбуджаным і мог тады быць сапраўдным палымянным рэвалюцыянерам, аблічаць, кляйміць і нават некага звяргаць, але толькі ў тэорыі.

– А што такое Ісціна? – ізноў спакойна і нават абыякава запытаў Іван, ягонае вялікае цела асілка прагна жадала гарэлкі.

– Так-так, – падтрымаў яго Пятрок Бабанец, дырэктар саўгаса, апантаны тутэйшы казанова. – Што такое ісціна? От мая палавіна мне такую падлянку падкінула. Сёння мне на Бюро[9] выгавар прысабечылі і з работы знялі. І дзе тут ісціна? – Ён скрыгатнуў зубамі.

– Ісціна ў тым, што яна – твая жонка! Маці тваіх дзяцей! – жорстка заўважыў Мікола, ён шукаў праўду і не жадаў марнаваць час на перажыванне непрыемнасцяў суразмоўцы. Працягваючы думку, дадаў:

– Табе трэба кінуць чужых кабет. Вярнуцца ў думках у той час, як ты нёс сваю каханую на руках пад музыку Мендэльсона. І пачаць будаваць сумеснае жыццё па новых шчаслівых лякалах!

– А па пысе? – з агідай прамовіў Бабанец.

– Каго? – з гумарам перапытаў Іван.

– Ні ў якім выпадку, – катэгарычна адрэзаў Цыбульскі. – Твая трагізма ў тым, што ты дамінантны самец, вакол цябе – буйства квітнеючых жанчын, і ты хочаш апыляць, апыляць, апыляць. Пасля вялікай гераічнай вайны, калі мужчыны былі вынішчаны, такім, як ты, у тыя часы цаны

9 Бюро райкама партыі назначала кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў і здымала з пасад; займалася кадравай палітыкай у раёне.

не было. А сёння, – ён у моцным роздуме пашкроб сваю патыліцу, – мабыць, табе трэба змяніць веру, напрыклад прыняць іслам.

Гэтыя словы моцна ўразілі Бабанца, і ён, утаропіўшы позірк на Міколу, са здзіўленнем перапытаў:

– То я, значыць, не нягоднік, а проста дамінантны самец, той самы кнур?

– Вось-вось, элітны кнур. Моцны мужчына з моцным мужчынскім лібіда. Павінен мець чатыры афіцыйныя жонкі, каб спраўдзіць сваё прызначэнне. Парайся з гаспадыняй, скажы, што элітныя жанчыны цябе самі спакушаюць. «Крутнуцца перада мной, дупамі паківаюць, а ў мяне ад шалёнага юру ўсе гаспадарчыя і нават дзяржаўныя думкі з галавы вылятаюць, а чыннік пачынае рваць гузікі на шырынцы».

– Очань харошая парада. За гэта трэба выпіць. – Іван узяў пачатую пляшку і стаў разліваць гарэлку па кілішках.  – Дарэчы, у Петруся вельмі моцнае лібіда, аж да самага калена. З такім лібіда яму толькі і займацца апыленнем. Нават стаць афіцыйным дзяржаўным элітным кнуром. Го-го-го, – смяяўся Іван Кныш.

Уражаны Бабанец рэвізіраваў выказаную Цыбульскім думку, трымаючы кілішак у руцэ. Потым уздыхнуў і з палёгкай ад знойдзенага выйсця прамовіў:

– Так, за гэта можна выпіць.

Яны выпілі, і, каб неяк перамяніць тэму, Бабанец, заеўшы выпітую гарэлку самаробнай піханай пальцам саўгаснай кілбаскай, са скрухай заўважыў:

– Няўдалы дзень. З работы знялі, а сёння нашы гуляюць са «Спортынгам» і прайграюць.

– Ні ў якім выпадку. Па ўсіх разліках атрымліваецца, што нашы сёння выйграюць, – ізноў упэўнена зазначыў Мікола Цыбульскі.

– Такога не можа быць ніколі, – запярэчыў Бабанец. – Па ўсіх раскладах павінны прайграць.

– Па раскладах павінны прайграць, я згодны. – Старшыня быў сур'ёзны і гаварыў важка. – Але існуе сусветны закон раўнавагі і захавання матэрыі і энергіі. Сёння мы

атрымалі па строгай вымове з занясеннем у парткартку, гэта буйны мінус. Каб выраўняць моцны крэн у бок адмоўнага, цяперака наша «Дынама» павінна выйграць.

– Не можа быць ніколі! – цвёрда зазначыў Бабанец і ўзяў налітую гарэлкай чарку.

– Згодзен, але супраць сусветнага закона захавання масы і энергіі не папрэш, таму нашы сёння выйграюць. – Упарты старшыня настойліва трымаўся сваёй тэорыі і таму раздражняў Пятра Бабанца.

Так і не знайшоўшы і на гэты раз ісціны, пакрыўджаныя савецкія кіраўнікі, што сядзелі позним змрочным і дажджлівым восеньскім вечарам у ўазіку каля малаказавода па вул. Смалячкова, выдулі дзве пляшкі «Пшанічнай» і раз’ехаліся па дамах. Бабанец прыехаў дадому цёмным восеньскім вечарам у вельмі кепскім настроі, павіншаваў жонку са сваім зняццем з працы.

– Цяперака, мілая, я беспрацоўны. Будзем жыць на твой заробак.

Ён хацеў яшчэ азнаёміць жонку з тэорыяй Міколы Цыбульскага пра элітных мужчын, якім самым лёсам наканавана задавальняць усе плоцкія патрэбы шматлікіх жанчын, і што ён хутка пяройдзе ў іслам і будзе мець спачатку дзве, а потым тры афіцыйныя жонкі... Але тут ён зірнуў на ўключаны тэлевізар і даведаўся, што нашае «Дынама» абыграла партугальскі «Спортынг» і выйшла ў наступны тур міжнародных спаборніцтваў. Ад здзіўлення Бабанец, ужо не слухаючы эмацыйную рыторыку жонкі, сеў у крэсла і моцна задумаўся.

Выходзіла, што Мікола Цыбульскі меў рацыю, калі казаў пра сусветны закон захавання масы і энергіі. Гэты закон мяняў увесь расклад ягонага ўяўлення аб жыцці і даваў магутны імпульс для новых напрамкаў і здзяйсненняў. Мноства думак, успамінаў, меркаванняў, няспраўджаных юнацкіх мар і мрояў праносілася ў ягоным уяўленні. Ён, нібы ўзняўшыся на велізарную вышыню, аглядаў хутка пражыцелую частку жыцця і ўжо бачыў за даляглядам заканчэнне свайго часу існавання...

Познім вечарам, амаль ноччу, Пятрок Бабанец узрушана ўзняўся з крэсла, з любоўю абняў здзіўленую жонку, што ўвесь гэты час сядзела на стуліку каля вакна, насцярожана пазірала і маўчала, пяшчотна пацалаваў яе і, як мужны, дарослы мужчына, гаспадар сям'і, прамовіў:

– Нічога, мілая Наталі, выплывем. Гэтыя тутэйшыя віслены мне, мабыць, насурочылі і навараджылі. У мяне ў галаве нібы туман нейкі ўзнік. Дзякуй, сёння адзін вельмі разумны чалавек, стратэг-мысляр, уставіў мне мае глузды назад у галаву.

Вось такім чынам Мікола Цыбульскі памяняў накірунак жыцця таленавітага і поўнага сіл Петрака Бабанца, які, дзякуючы тутэйшаму мысляру і стратэгу, усвядоміў, што ўсё ў жыцці ўзаемазвязана і, страціўшы ў адным месцы, шукай пазітыў у другім.

Лета 2013 г.
г. Менск

## Кропля, што стане акіянам[10]

фрагмент

*Калі выспее плод, адразу пасылае серп,*
*таму што настала жніво.*

4.29
Паводле Марка Святое Дабравесце

I

...Пасля таго, як у краіне за некалькі дзён здарыліся неверагодныя падзеі, а ў суседзяў адбыўся кардынальны паварот да дыктатуры, мысляр вярнуўся з Менска на лецішча і цяпер уважліва пазіраў тэленавіны па розных тэлеканалах, асэнсоўваў, абагульняў, шукаў новыя эфектыўныя алгарытмы дзеянняў. Гісторыя, як ужо было не раз, ізноў пачынала рухацца звыклым рэчышчам, і Міхаіл Андрэевіч узважваў варыянты і версіі гэтай новай хады.

Позна ўвечары, амаль ноччу, закончыўшы распрацоўку новай дактрыны, мысляр хутка пераапрануўся, надзеў зелянкавы брызентовы шат, скураны брыль на галаву, узяў чорны парасон і, замкнуўшы хату, імкліва знік у цемры ночы.

Ішоў ён сцяжынкай праз начны лес пад восеньскім дажджом, вакол панавала цемра, і толькі на ўсходзе, там, дзе знаходзіўся Менск, буяла зарава святла. Там цяпер вырашаўся лёс краіны.

Ён збочыў са сцяжынкі і некалькі хвілін цярпліва слухаў хвойную цішыню ночы, вышукваючы таропкія крокі магчымага шпега. Ноч ён адчуваў і разумеў, яна адпавядала ягонаму стану душы. Цяпер ноч маўчала, і ён пайшоў далей, асцярожны, пільны, недаверлівы, хаваючыся пад парасонам ад восеньскага начнога дажджу.

Праз паўгадзіны хуткай хады ён прыйшоў на чыгуначны прыпынак «Зялёнае» і, дачакаўшыся электрацяг-

10 Дадатак да аповесці «Імперскі сіндром».

ніка, сеў у вагон і толькі там, выняўшы з кішэні новы далькажык (стары ён пакінуў на лецішчы), заклаў у яго ўкладыш... і патэлефанаваў.

– Я вас слухаю? – запытаў жаночы голас у слухаўцы.

– Так, – адказаў ён.

– Добра, – прамовіў жаночы голас, і ён адключыў далькажык.

На вакзале ў Менску ён, выйшаўшы з электрацягніка і перайшоўшы плошчу падземным пераходам, пайшоў па вуліцы Кірава, потым павярнуў направа, у двор жыллёвага масіву. Там у цёмным куце стаяў светлы фольксваген, з патрубка якога віўся дымок выгарных газаў ад бязгучна працуючага рухавіка, ён адчыніў дзверку і сеў у цёмнае нутро легкавіка. Машына зразу кранулася і, выехаўшы на вуліцу Ульянаўскую, павезла пасажыра праз шэраг вуліц і завулкаў да прыватнага драўлянага будынка, крытага металачарапіцай, дзе яго чакаў паплечнік грамадскага клуба «Рондаль».

Гаспадар Мікола, уважлівы і стрыманы мужчына сярэдняга ўзросту, з сівізной на скронях, запрасіў госця ў свой невялікі і ўтульны габінет. Госць, зняўшы шат і брыль, павесіў іх у распранальні на гаплік і зайшоў у габінет з кніжнай шафай, камп'ютарам, тэлевізарам, маляванкамі вясковых пейзажаў і гарадскіх ландшафтаў, таксама фатаграфіямі сваякоў, унукаў, дняпроўскіх і нёманскіх краявідаў. У адным куту стаяла шафа, у другім прытулілася зялёная канапка, што выконавала ноччу для гаспадара ролю ложка.

– Шаноўны Міхал Андрэевіч, можа, кавы ці гарбаты?

– Спачатку, дружа, пачытаеце распрацаваны «Кодэкс Ліцвіна», а я ў гэты час вып'ю кавы, – адказаў той, да каго гаспадар звярнуўся як да Міхала Андрэевіча, і дадаў:

– Хачу зразу падзякаваць нашым сябрам-літвякам: Сымону, Барысу і Яфіму, што падзяліліся сваімі ведамі і дазволілі нам дакрануцца да стратэгіі і тактыкі выжывання іх шматпакутнага народа. Гэта кампіляцыя, пераліцаваныя на наш лад іхнія гістарычныя набыткі.

– Міхал Андрэевіч, у цяперашняй моладзі каша ў галаве, таму «Кодэкс Ліцвіна» дазволіць мацаваць нашы сілы і дасягаць патрэбных нам перамог.

– Мяне, Мікола, таксама цікавяць вашы папраўкі і ўдакладненні тэксту. Я спадзяюся, «Кодэкс» паможа зразумець тутэйшым мэту свайго жыцця, дапаможа папулярызавацца і выкліча цікавасць перш за ўсё ў маладых, актыўных і пасіянарных.

Гаспадар Мікола пільна чытаў «Кодэкс Ліцвіна», Міхал Андрэевіч піў каву, пазіраў у вакно, дзе панавала восеньская ноч, так падобная да Бетховенскай «Апасіанаты», і думаў, што рана ці позна сярод гэтай глухой і безнадзейнай ночы мільгне першы, яшчэ слабы і непрыкметны праменьчык святла, як папярэднік будучага світанка...

## II
## «Кодэкс Ліцвіна»
### Прадмова

Ліцвіны-беларусы павінны карыстацца сваімі гістарычнымі, культурнымі, шматвяковымі набыткамі Вялікага Княства Літоўскага. Адтуль ідуць нашы дзяржаўныя вытокі, адтуль мы абапіраемся на шматвяковую спадчыну ВКЛ і павінны мацаваць сваю ўласную дзяржаву, у якой мы сёння гаспадары.

Услед за богаабранай старадаўняй нацыяй мы таксама хочам паўтарыць: «Ліцвіны-беларусы! Любіце адзін аднаго, памагайце адзін аднаму! Памагайце адзін аднаму, нават калі гэтага не вельмі хочацца!»

1. Еднасць.

Наша моц – у еднасці. У еднасці вытокі нашых поспехаў, наша выратаванне і росквіт. Шмат народаў загінула, таму што ў іх не было выразнай праграмы дзеяння і пачуцця локця. Шмат народаў загіне з той самай прычыны.

Еднасць – гэта мэта, яна таксама і сродак дасягнення мэты. Вось у чым сэнс, вось да чаго трэба імкнуцца. Усё астатняе – вытворнае, яно прыйдзе само сабой.

Памагаючы адзін аднаму, не трэба баяцца выглядаць патрыётамі, не баяцца ўласнага пратэкцыянізму – гэта галоўны рычаг усіх народаў, што дасягнулі поспеху. Мы – краіна монаэтнічная, павінны напоўніцу карыстацца пратэкцыяй для сваіх суродзічаў, што звязаны між сабой кроўнымі сувязямі. Эмігранты не з'яўляюцца этнасамі. Да таго ж яны маюць свае этнічныя дзяржавы і таму не маюць юрыдычнага права быць у нас уласным этнасам.

Неабходна шырока яднаць людзей, блізкіх па крыві, толькі яны здолеюць забяспечыць нам выжыванне і захаванне нашай тэрыторыі для нас.

2. Кадры.

Фармаванне ўласных нацыянальных кадраў – гэта святая святых. Кадры вырашаюць усё! Кадры сёння – гэта наша заўтра! Кожная школа, каледж, кафедра, універсітэт павінны стаць майстэрняй для нашых нацыянальных кадраў.

Трэба рыхтаваць беларускую моладзь прыняць эстафету пакаленняў. Кожны раз, калі са сцэны сыходзіць старэйшае пакаленне, на яго змену павінна паўставаць моцная кагорта падрыхтаваных і акрэплых маладых беларусаў. Дзеля гэтага неабходна як мага раней рыхтаваць на кіруючыя пасады маладых беларусаў, выкарыстоўваць іх спеласць і талент. Нават калі гэта і не так, яны выспеюць на пасадзе. Хто ва ўладзе – у таго і праўда.

Мы моцна спазніліся, але мы захаваліся. Мы павінны перадаць сваім дзецям значна больш, чым мы атрымалі ад сваіх бацькоў, а яны, захаваўшы і памножыўшы атрыманае, перададуць яго ў сваю чаргу нашчадкам. У пераемнасці пакаленняў – заўсёды наша сіла, наша стабільнасць, наша неўміручасць.

Свет бязлітасны, у ім няма месца для філантропіі. Кожны народ – каваль свайго шчасця. Не наша справа клапаціцца аб кадрах іншых народаў. Калі яны не думаюць пра сябе, чаму мы павінны клапаціцца аб іх? Не трэба браць прыклад з народаў, што жывуць сузіральна, спадзяюцца на авось, б'юць у шаманскія бубны, агучва-

юць свае дасягненні, а на справе прафукваюць свае магчымасці. Не трэба чакаць літасці ад некага, ад гістарычнага часу – трэба самім браць сваё жыццё ў свае рукі.

Шмат хто з амбітных народаў не здольны глыбока думаць, асэнсоўваць і рабіць глыбокія абагульненні. Яны занадта катэгарычныя, амбіцыёзныя, схільныя да павярхоўнасці і канкрэтыкі, яны не здольны звязаць факты ў іх паслядоўнасці, у іх сувязях, не здольны думаць, абагульняць і абстрагіраваць. Для іх кожны выпадак – толькі выпадак, як бы часта ён з імі ні сустракаўся. Таму яны так часта паўтараюць адныя і тыя ж памылкі.

Мы, беларусы, павінны ад амбітных недарэкаў трымаць адлегласць, не гаворачы ім аб гэтым.

3. Наш сродак дасягнення большага.

Наша гледзішча ў зыходным палажэнні павінна быць супрацьлеглым таму, якому нас да гэтага навучалі. Нам казалі: «Лепш быць бедным і здаровым, чым багатым і хворым». Мы павінны казаць: «Лепш быць здаровым і багатым, чым бедным і хворым».

Нам унушалі: «Перамагчы ці памерці». Нашым дэвізам павінна быць: «Перамогі дзеля жыцця, а жыццё дзеля перамог». Бо навошта перамогі, калі няма жыцця? Гаркату параз трэба перачакаць, пераламаць неспрыяльныя варункі – усё прыйдзе да тых, хто ўмее чакаць і змагацца.

Усё, што ведаюць і ўмеюць іншыя, павінны ўмець і ведаць мы. Усё, што мы маем сёння, – гэта наш сродак дасягнення большага. Наша – гэта тастамент Пана Бога нам.

Нашы вялікія суседзі ўпартыя, але не валодаюць патрэбнай настойлівасцю ў дасягненні мэты. Усе праблемы яны імкнуцца вырашыць адразу. Яны ахвяруюць малым дзеля вялікай, рашаючай задачу перамогі. Але такія перамогі альбо не прыходзяць зусім, ці, перамагаючы, суседзі ўрэшце вынікам атрымліваюць разбураны дзяржаўны дом.

Мы павінны спавядаць тактыку малых перамог, хаця і не супраць вялікіх. Малая перамога – таксама перамога!

Нашы вялікія суседзі любяць, але фактычна не ўмеюць кіраваць, а таксама падпарадкоўвацца. Таму іхнія

кіраўнікі не адчуваюць натуральнай для габрэяў, армян, ангельцаў, мусульман... пастаянай і пазітыўнай падтрымкі з боку электарата. Не любіць і нават ненавідзець сваіх кіраўнікоў – гэта генетычная рыса прасцякоў-гояў, у той ці іншай ступені яна навязана і нашым людзям. Пэўныя сілы ўзбуджаюць і падаграваюць зайздрасць між нашымі людзьмі, самі заўсёды займаюць пазіцыю «арбітраў». Робіцца гэта добразычліва, непрыкметна і тонка.

Сучасныя постсавецкія людзі, даверлівыя і недальнабачныя, не ўмеюць жыць і не ўмеюць ставіць задачы. Пэўныя «добразычліўцы» ставяць перад імі эфемерныя мэты, а прасцякі імкнуцца іх дасягаць.

Няўменне і нежаданне прыстасоўвацца і мяняць свае паводзіны ў залежнасці ад сытуацыі, адсутнасць гнуткага розуму прасцякі вызначаюць як «быць самім сабой», «прынцыповасць». Але гэта не павінна кранаць ліцвінаўбеларусаў, гэта чужы для нас шлях.

Прасцякі абмежаваны ў сваіх магчымасцях і таму ставяць межы ўсяму. Але мы ведаем і таму гаворым: «Магчымасці чалавека бязмежныя, таму ён і павінен паводзіць сябе суадносна варункам і абставінам!»

Помніце аб абмежаваннях, якія ставяць перад сабой дагматы-прасцякі, іх мыслярства заскарузла, дагматызавана і прымітыўна, хаця і амбіцыёзна. Яны не здольны выйсці за межы гэтага мыслення, бо іхняя сутнасць у гэткім спосабе існавання. У гэтым іх няшчасце, у гэтым наша перавага. Мы павінны вярнуцца да сваіх вытокаў, да сваіх генетычных здольнасцяў, да матэматычных і паэтычных талентаў, што хаваюцца ў нашай ліцвінскай генетыцы.

4. Уласныя ідэі і гіпотэзы, тэорыі і накірункі.

Разам з тым трэба ўвесь час помніць, што мы жывём у свеце, дзе існуюць магутныя і разумныя нацыі, якія карыстаюцца іншай, чужой для нас мараллю, якія здольныя на такія словы і дзеянні, на якія мы не здольныя.

Яны аб'ядналіся ў «сусветную закулісу», гаворац і дзейнічаюць упэўнена, напорыста і агрэсіўна, шальмуючы і бянтэжачы тых, хто не падрыхтаваны, каб ім супрацьста-

яць. Яны ствараюць шмат шуму, слоўнай мішуры, самарэкламы, выказваюць шмат навукападобнага і незразумелага. Ствараюць тэорыі, гіпотэзы, накірункі, школы, метады рэальныя і нерэальныя: чым больш экстравагантнага, тым лепш, лічаць яны.

Іх не хвалюе, што іхнія тэорыі і гіпотэзы, школы і накірункі нікому не патрэбны, што заўтра пра іх забудуцца. «Сусветная закуліса» лічыць, што прыйдзе новы дзень і прыйдуць новыя ідэі. У гэтым выяўляецца моц іхняга духу, іхняе самасцверджанне, іхняя дасканаласць. Яны лічаць, што прасцякі аплацяць іхнія вэксалі. Яны загружаюць нашы галовы сваімі ідэямі, прымушаюць шукаць рацыянальнае зерне ў сваіх тэорыях. А назаўтра яны падкідваюць новую ежу для наіўных і шчырых мысляроў.

Беларусы могуць і павінны самі прапаноўваць свету свае ідэі і гіпотэзы, тэорыі і накірункі, але яны павінны адрозніваца ад навукападобнай лабуды «залатога мільярда» істыннай навуковасцю, карыснасцю і практычным зместам для чалавецтва. Нам трэба ўвесь час помніць, што разумнае чалавецтва заўсёды на баку пазітыўных творцаў, тых, хто не разбурае планету, а захоўвае і ўзбагачае чалавецтва. У нашых вытоках, у Статуце ВКЛ, шмат можна знайсці карыснага і каштоўнага не толькі для Еўропы, але і для ўсёй зямной цывілізацыіі.

Нашым праракам і апосталам павінен стаць еўрапейскі мысляр-філосаф Мікола Крукоўскі[11]. Ягоныя філасофскія кніжкі павінны вучыць і натхняць нашых палітыкаў, навукоўцаў, выкладчыкаў, усю разумовую эліту народа сучаснаму разуменню гістарычнай эпохі. Мы не павінны праміНуць магчымасць выкарыстаць ягоныя філасофскія здабыткі на карысць нашай нацыі і нашай краіны. Толькі той народ, краіна, чалавек дасягае росквіту, пры якім «узнёслае» знаходзіцца ў гарманічнай еднасці з «рэальным» і «матэрыяльным», сцвярджае наш філосаф-геній. І таму мы ўжо сёння павінны ўзбагачаць духоўнасцю і ўзнёсласцю нашу нацыянальную і дзяржаўную свядомасць, каб скіраваць свой шлях да будучага росквіту краіны.

11 Фундаментальныя манаграфіі: «Логика красоты», «Бляск і трагедыя ідэалу».

Каб супрацьстаяць круцялям-лібералам, патрэбна мець свае цвёрдыя і непахісныя перакананні. Але не тыя замшэлыя лжэідэі, кшталту «Наша мэта – барацьба з камунізмам». Камунізм ужо стаў прывідам, і таму няхай змагаецца з ім той, хто яго стварыў. Не справа беларусаў змагацца з чужымі прывідамі.

Адным з важнейшых правіл ліцвінаў-беларусаў павінна быць абарона і заступніцтва за кожнага нашага чалавека перад тымі сіламі, што на яго абрынуліся. Чужыя круцялі-элоі ў першую чаргу накідваюцца на нашых таленавітых, адметных Лідараў, Правадыроў. Той, хто падвяргаецца шальмаванню, з'яўляецца самым небяспечным для іх панавання.

Мы, беларусы, павінны разглядаць усе з'явы і падзеі праз прызму нашых інтарэсаў, кожнае дзеянне павінна аналізавацца з пункту гледжання шкоды ці карысці, якое яно нясе нашаму народу, дзяржаве і ліцвіну-беларусу.

Інфармацыя – гэта святая святых! Кожны беларус павінен інфармаваць адзін аднаго аб усім, што прыносіць нам шкоду ці карысць.

5. Наша мэта.

Наша мэта – утрымаць сваю жыццёвую тэрыторыю ў нашых руках. Узяць у свае беларускія рукі сродкі інфармацыі і прапаганды: друк, радыё, тэлебачанне, кіно, інтэрнэт. Вакол любога важкага пытання мы павінны фармаваць грамадскае меркаванне з улікам нашых нацыянальных патрэб. Любыя дзействы павінны мы самі ўзначаліць, каб потым весці іх у карысным для нашага народа накірунку.

Наша эліта за больш чым 200 год каланіяльнага існавання затаптана, вывезена, фізічна знішчана, і таму нам трэба ствараць сваю эліту спачатку.

Вучыцца быць лідарамі ўсюды, імкнуцца заўсёды быць першымі! Выхоўваць у сабе кіруючы характар штохвілінна, кожны дзень, нават у драбнотах штодзённага жыцця. Заўсёды імкнуцца дамінаваць, усюды мы павінны выглядаць пераканаўча і пазітыўна.

У любым калектыве беларус павінен браць кіраўніцтва ў свае рукі і кіраваць у інтарэсах свайго народа. Ад-

міністратыўная і творчая часткі вытворчага працэсу павінны ажыццяўляцца свядомай часткай ліцвінаў-беларусаў.

6. Умацаванне сваёй гістарычнай спадчыны – важнейшая наша задача.

Беларус павінен заўсёды помніць, што ахова і ўмацаванне сваёй гістарычнай спадчыны – гэта важнейшая наша задача. Народ без гісторыі – як дзіця без бацькоў, і з яго можна ляпіць усё, што патрэбна чужынцам, якія імкнуцца навязаць нашаму насельніцтву сваё светаўспрыманне, свае ўзоры думак.

Помнікі нашай старыны – гэта выдатны тэст на праверку тых, хто хоча прымазацца да нас, нашага беларускага руху. Патрыёт, наш чалавек будзе дзейнічаць стваральна, пазітыўна, не наш будзе прыязна ўсміхацца, абяцаць, пісаць планы – і нічога не зробіць альбо зробіць са шкодай...

Спачатку яны, «элоі-лібералы», пазбаўляюць народ гісторыі і традыцый, а затым імкнуцца фармаваць ужо насельніцтва па сваіх шаблонах і лякалах.

7. Імкненне да жыццёвых перамог.

Выйграўшы ці нават прайграўшы сёння, беларус не павінен кідацца ні ў эйфарыю, ні ў роспач, а павінен прыкідваць расклад на блізкую і далёкую перспектыву, шукаць шляхі да дасягнення сваіх мэт. Варункі ўвесь час мяняюцца, і сённяшні пройгрыш ці нават разгром заўтра можа абярнуцца спрыяльнымі ўмовамі для перамогі. Трэба ўвесь час рыхтаваць сябе да сустрэчы з выйгрышнай сытуацыяй і мець свае распрацоўкі для яе выкарыстання.

Перамагае той, хто падрыхтаваны да гэтай перамогі.

Бярыце сабе за жонак прыгожых і здаровых беларускіх жанчын, няхай яны прынясуць нам здаровы прыплод, няхай яны мацуюць наш народ..

Беларусы павінны не ўжываць ні каньяк, ні гарэлку, помніць, што ўжыванне спіртовых напояў разбурыла шмат народаў і знішчыла вялікую імперыю.

Будзьце пільнымі, гасіце ў зародку любыя спробы супрацьпаставіць беларусаў грамадству, разбурайце антыбеларускія тэндэнцыі ў самым пачатку, дзе б яны ні ўзнікалі.

Вывучайце тактыку і стратэгію дамінуючых народаў, іхнюю гісторыю. Тых, хто выступае супраць нашай Нацыянальнай Ідэі, супраць грамадства, Урада, Краіны, – выкрывайце, кампраметуйце, падвяргайце крытыцы і галоснасці, але не ідзіце на прамыя канфлікты, пазбягайце сытуацый, дзе вы можаце прайграць, бо кожны наш пройгрыш падрывае веру ў нашу справу і меньшае колькасць нашых прыхільнікаў.

Тлумачце свае пазіцыі, але не апраўдвайцеся. Не паддавайцеся правакацыям на выступленне супраць дзяржаўнай Улады, гэта метад нашых апанентаў, каб падключыць моц дзяржаўнай улады у барацьбе з патрыётамі. Улада таксама часцяком паддаецца на чужыя варожыя звады. Пры любых цяжкасцях у грамадстве мы, ліцвіны-беларусы, павінны прытрымлівацца парадку і дысцыпліны. Беспарадкі толькі павялічваюць хаос і прыводзяць да ўлады тых, каму наша незалежнасць замінае і не патрэбна.

8. Дзейнічаць хутка і рашуча. Ніколі не зніжаць сваіх намаганняў.

Мы павінны працаваць дзеля таго, каб нашыя дзеці і ўнукі не сталі бамжамі ў сваёй краіне, – вось галоўная мэта нашага жыцця. Нават калі дзеці і ўнукі здолеюць з'ехаць за мяжу, у Канаду ці ЗША, Англію ці Нямеччыну, то ў гэтым выпадку праз 3-4 пакаленні генетычна ад іх нічога не застанецца. Генетычна чалавек захоўваецца толькі ў межах свайго народа! Ілюзіі эміграцыі сваіх нашчадкаў у краіны з высокім узроўнем жыцця павінны быць рашуча абвергнуты.

Быць настойлівымі і непахіснымі, цвёрдымі і непрымірымымі да сваіх апанентаў. Помніць усе малыя крыўды, што нам зрабілі сёння, заўтра яны могуць быць яшчэ большымі. Той, хто прыносіць нам крыўды, павінен быць рашуча пастаўлены на сваё месца. Памяць аб абразе

і крыўдзе – святарнае пачуццё, яно выхоўвае характар, сцвярджае чалавека, дазваляе абараняць свае інтарэсы, папярэджвае ворагаў аб існаванні сіл, якія могуць адпомсціць.

Беларусы павінны вучыцца дзейнічаць хутка і рашуча, ставячы ўсіх перад спраўджаным фактам. Няхай нашыя адверсары вядуць доўгія бясплённыя дыскусіі, няхай нават яны зробяць валявымі намаганнямі адну справу, мы за гэты час зробім дзесяць больш важкіх спраў. Процідзеянне нашых апанентаў няхай будзе стымулам для нас, неабходным для падтрымання нашага баявога духу і падрыхтаванасці.

Ніколі не зніжайце сваіх намаганняў. Дзейнічайце па ўсім магчымым фронце ўздзеяння. Калі не хапае сродкаў, людзей ці грошай, актывізуйце свае сілы на найбольш нечаканых участках і пунктах, выйгрышных сферах, што дадуць найбольшы поспех. Чым большы супраціў нашых адверсараў, тым большае наша ўздзеянне, тым больш пераканаўчы наш уплыў на іх.

9. Культурны суверэнітэт

Неабходна падкрэсліць, што эканамічная і палітычная незалежнасць – гэта пусты гук, калі няма незалежнасці духоўнай, няма істыннай веры, калі не падтрымліваюцца традыцыйныя іерархіі каштоўнасцей. Калі галоўным у чалавека ёсць інтарэсы краіны і народа ў цэлым, а не якога-небудзь класа ці карпарацыі. Культурны, духоўны суверэнітэт такім чынам з'яўляецца самым важным. Пры адсутнасці яго пачынаецца шлях у нікуды, як чалавека, так народа і дзяржавы.

## III

Міхал Андрэевіч якраз дапіў каву, калі гаспадар Мікола, задумліва і засяроджана адклаўшы друкаваныя лісты на стол, запытаўся ў яго:

– Большасць можа не зразумець, чаму ліцвінаў, а не беларусаў.

– Шаноўны Мікола. Хачу патлумачыць, чаму ў «Кодэксе Ліцвіна» распрацоўшчык рашуча адышоў ад распаўсюджанага зараз назова «беларус», вярнуўшыся да назова «ліцвін». Як вы ведаеце, гістарычна да 1840 года наша насельніцтва называлася літоўскім, але пасля царскага ўказа было заменена на заходнерускае, а потым, пазней, на беларускае, дзеля таго, каб пазбавіць нас гістарычнай спадчыны.

– Гэта зразумела, спадар Міхась.

– Ты ж ведаеш, Мікола, што, акрамя таго ліцвінства, ягонная арыстакратычная шляхта была моцна засмечана пальшчызнай, польская мова зрабілася мовай буйной шляхты, у той час як сялянства і просты народ карыстаўся мовай тутэйшай – гэта значыць літоўскай, ліцвінскай. Пры паўстанні Кастуся Каліноўскага 1863 года ўзнікла супярэчнасць між арыстакратыяй, буйной шляхтай і сялянствам, простым народам, дробнай тутэйшай шляхтай.

– Дарэчы, спадар Міхась, у свой час і руская скараспелая арыстакратыя карысталася французскай і ангельскімі мовамі, а рускай мовы не ведала.

– Так. Самі рускія спачатку былі «маскалямі», потым «вялікаросамі», затым «рускімі», зараз яны – «расіяне». Цяперашнія габрэі таксама адмовіліся ад старадаўняга словаабазначэння «жыд» і нават «еврей», «ізраільтянін», а перайшлі да панятка «габрэй». Такім чынам, Мікола, вяртанне да свайго ўласнага панятка «ліцвін» дазваляе нам набыць паўнавартаснае гістарычнае гучанне, гонар і годнасць у сучасным кантэксце жыцця, вярнуць і карыстацца сваёй гісторыяй ВКЛ.

На развітанне паціснуўшы далоні, Міхал Андрэевіч і Мікола разышліся і раз’ехаліся кожны сваімі сцяжынамі, каб далей знаёміць сваіх аднадумцаў з «Кодэксам Ліцвіна». У кожным тэксце для кожнага новага сябра клуба «Рондаль» Міхал Андрэевіч мяняў некалькі нязначных

слоў. У будучыні гэта магло памагчы вылічыць засланых у іхні клуб шпегаў.

Хаваючыся пад парасонам ад восеньскага дажджу, ён хутка крочыў па вул. Максіма Багдановіча, потым звярнуў на вуліцу Грынявіцкага[12], дзесьці тут жыў яшчэ адзін сябра клуба «Рондаль».

2004–2011 гг.
г. Менск.

12 Некалі ў мінулым вул. Сцяпана Халтурына ў Менску.

## Іншадумец

*Перакуліцца з нічога ў нішто –*
*не вялікая метамарфоза.*

Янка Купала, «Тутэйшыя»

У жыцці, калі чалавек хоча нечага дасягнуць і, галоўнае, захаваць набытае, і нават больш таго, захаваць дадзенае яму прыродай, – трэба быць увесь час уважлівым.

Сонечным ранкам у нядзелю старшыні Быхаўскай раённай суполкі БНФ Яфіму Злаціну нечакана патэлефанавалі з Амерыкі, са штата Масачусец. Тэлефанаваў былы мясцовы жыхар Міхась Швед, улады ўспрымалі яго некалі як прыдурка, у якога ў той час, напэўна, ад радыяцыйнага стрэсу, паехаў дах. Маргіналы наадварот – трымалі яго за «рэвалюцыянера», праўда, палахлівага і, прасцей кажучы, бздзюляватага. Адкуль пралетарыі маглі ведаць, што «чым больш творчым з'яўляецца чалавек, тым менш ён устойлівы псіхалагічна»[13]? Цяпер Яфім, прыклаўшы слухаўку да вуха, чуў узрушаную гаворку Шведа.

– Гэта Міхась. Помніш мяне? Так, так. Я зараз у Амерыцы, у гэтым іхнім Бастоне. У мяне да цябе важная справа. Помніш, як мы «паўстанне» падымалі ў нашым горадзе? Уладу хацелі здуру скалупнуць. Малайчына, што помніш. Ты цяпер там не апошні чалавек, то дай даведку, што я мясцовы дысідэнт. Прытым апантаны, злосны нацы і наогул пры савецкім рэжыме мяне былі нават запакавалі ў псіхушку. Ты ж помніш?! Малайчына! Прышлі спачатку электронную копію, а потым папяровую даведку з пячаткамі, перадай маёй сваячніцы, яна да цябе зойдзе. Дзякуй, дружа. Дзякуй.

Яфім Злацін, у адрозненне ад Мішы Шведа, быў пільным заўсёды, увесь час і меў на ўсё сваё жыццёвае гледзішча. Таму ён, падумаўшы і параіўшыся са шматлікімі свая-

13 Меркаванне навукоўцаў-псіхолагаў.

камі і сваёй тутэйшай суполкай, такую даведку даў. Кагал вырашыў, што мець свайго земляка за акіянам, у Бостане, які да таго ж у цябе запазычыў, – карысна для ўласнай будучыні. Бо чым перціся пад спякотнае сонца Сіная, ці не лепш зразу ламануць у Штаты? А мець там знаёмага, няхай сабе і беларуса, які ўжо абцёрся і прыстасаваўся да мясцовых варункаў, будзе нялішнім.

У цяперашнія гістарычныя імгненні мноства тутэйшых месцічаў запалонілі свае глузды непрыдатнымі для блізкай будучыні чужымі светапоглядамі і якасцямі. І гэтае мноства спраўджавала сваё жыццё, абапіраючыся на падмуркі чужых меркаванняў і звычак.

Міхась Швед са школьнага маленства таксама забаніў сваю свядомасць спачатку чароўнымі казкамі, потым утопіямі рускай літаратуры Чэхава, Купрына, Тургенева – людзей, што не ведалі, як жыць і быць шчаслівымі. На ягонае шчасце, ён не паспеў дабрацца да Гаршына і Дастаеўскага, тады б яго ўжо нішто не ўратавала ад верагоднасці зрабіцца «буяным вар'ятам». Міхась своечасова перакінуўся на жыццялюба-амерыканца Джэка Лондана і француза Жуль Верна, што стала ў ягоным жыцці выратавальным колам. Але, на жаль, нехта падказаў яму прачытаць кніжку «Як гартавалася сталь», што тады актыўна распаўсюджвалася ўладай, пра героя, які ведаў, «што рабіць!». Паўка Карчагін – гэты літаратурны фантом канчаткова сфармаваў ягоную свядомасць як «героя-праўдаруба».

Адной з выключных якасцяў Міхася Шведа з самага ранняга дзяцінства, як ён сябе помніў, было моцнае ўяўленне. Уяўленне лёгка пераключала яго на перажыванні іншых людзей і таму часта рабіла, асабліва ў дзяцінстве і юнацтве, залежным ад чужых пачуццяў, меркаванняў, задум і дзеяводаў. Разам з тым яно, гэтае ўяўленне, дазваляла іншы раз бачыць немінучы лёс той ці іншай выбранай дарогі, што стане потым наканаваным фатумам.

У свой час ён з цяжкасцю жаніўся, бо ўсялякі раз бачыў, куды прывядзе яго жыццёвая дарога з той ці іншай жанчынай. Некаторыя з жанчын былі толькі «пярынамі»

і «канапэ-ложкамі», «сяржантамі» і «боцманамі», і яны яго, яшчэ не аперанага сокала, ператварылі б у папугая. Але ён не мог быць чыюком[14], бо нарадзіўся і павінен быў стаць сокалам! Ягоная любімая жоначка Лена была для яго ціхай рэчкай з сенажаццю і зялёнымі паплавамі, таямнічым лесам і сінім небам з бела-шэрымі хмарамі, начным Млечным Шляхам...

Імчалі гады, Міхась мужаў, абзавёўся дзецьмі, працаваў на розных пасадах, і ўвесь гэты час жывая рэчаіснасць уступала ў супярэчнасць з ягоным унутраным светам, дзе валадарыў ідэалізм гераічных савецкіх камісараў.

## II

І вось аднойчы Міхась Швед, ужо будучым сталым чалавекам, не вытрымаў і прылюдна на паседжанні паслаў старшыню выканкама таварыша Саланевіча і прысутнага ў габінеце дырэктара аўтабазы таварыша Гаўрыновіча на тры літары. А потым грукнуў дзвярмі і пайшоў з будынка райвыканкама на вуліцу Льва Сапегі з пачуццём задавальнення і нават асалоды.

Ён не захацеў больш весці гульню двайных стандартаў, чым часцяком займаліся тутэйшыя – у цяперашніх часе і прасторы – улады. «Неба сіняе, трава зялёная, а жанчыны прыгожыя! – думаў ён. – Калі па-іхняму, то тады ўсяму грамадству будзе балдзец! Як 22 чэрвеня 1941 года!»

Міхась Швед азіраў наваколле, удыхаў вераснёўскае свежае паветра, зычліва ўсміхаўся мінакам, што ішлі з рынку насустрач па ходніку вуліцы Сацыялістычнай. Ён успамінаў прачытаныя некалі ў маладосці яскравыя словы, поўныя юнацкай рамантыкі, якія і сёння падтрымлівалі яго ў хісткай рэчаіснасці. «А ты паспрабаваў гэтае жыццё перамагчы? Ты ўсё зрабіў, каб вырвацца з жалезнага кола? А ты забыўся, як пад Ноўгарад-Валынскім сямнаццаць разоў на дзень у атаку хадзілі і ўзялі-такі наперакор усяму?»[15]

14 Чыюк (наватвор) – папугай. Прапанова Уладзіміра Арлова.
15 «Як гартавалася сталь». Мікалай Астроўскі.

Ён адчуваў сябе амаль шчаслівым, нарэшце ён ім выказаў усё і сказаў сваё «фэ».

Канфлікт узнік з драбязы. Старшыня выканкама таварыш Саланевіч запытаў дырэктара аўтабазы камуніста Гаўрыновіча, чаму той спазніўся на паседжанне выканкама на цэлую гадзіну. Камуніст і дырэктар аўтабазы Гаўрыновіч адказаў.

– Я не атрымаў аніякага паведамлення аб паседжанні.

Паведаміць аб паседжанні было даручана таварышу Шведу, які зранку асабіста і перадаў гэтае паведамленне па тэлефоне дырэктару аўтабазы камуністу Гаўрыновічу.

Міхась Швед аб гэтым зараз і сказаў прысутным і таварышу Саланевічу, як і калі ён інфармаваў дырэктара. Між тым дырэктар аўтабазы стаяў на сваім, і гэты ягоны пункт гледжання вымушаў старшыню выканкама некага з іх дваіх пакараць. Усе прысутныя разумелі, што таварыш Гаўрыновіч хлусіць, але вага дырэктара аўтабазы была значна вышэй, чым імідж інспектара выканкама Шведа. І таварыш Саланевіч, адно імгненне падумаўшы, зрабіў выбар на карысць дырэктара аўтабазы Гаўрыновіча.

– Я аб'яўляю вам, таварыш Швед, вымову!

Міхась Швед ведаў, што калі ён дазволіць зараз выцерці аб сябе ногі, то ягоны імідж канчаткова зваліцца ніжэй плінтуса і аб яго пачнуць пры неабходнасці выціраць ногі ўсе каму не лянота. І таму ён жорстка агрызнуўся:

– Я афіцыйна заяўляю, што сёння ў 10.00 перадаў паведамленне асабіста таварышу Гаўрыновічу. Цяпер па невядомай мне прычыне камуніст і дырэктар аўтабазы, якога я да гэтага часу глыбока і шчыра паважаў, схлусіў. Магчыма, ён быў са сваёй каханкай, ці займаўся нейкім важным для яго пытаннем, ці яшчэ па нейкай невядомай нам прычыне. З гэтага моманту мая павага да яго змяняецца на грэблівасць. Я прыкладу ўсе свае намаганні, каб адпомсціць яму за гэтую хлусню. Калі мне будзе аб'яўлена вымова, то, шаноўныя таварышы, пайшлі вы ўсе на х...й!

І скіраваў да выйсця, на развітанне грукнуўшы дзвярыма.

Старшыня выканкама, выключна добразычлівы, дэмакратычны і разумны чалавек, зрабіў перапынак у паседжанні, адпусціў шараговых работнікаў, пакінуўшы ў габінеце чалавек сем членаў выканкама. Потым стомлена, з шэрым тварам ад той адказнасці, што звалілася на яго за апошнія два тыдні (гаспадар раёна, першы сакратар райкама таварыш Раманоўскі быў у адпачынку ў Сочы) са скрухай запытаў прысутных:

– І што будзем рабіць з гэтым «буйным»?

Намеснік старшыні, памяркоўны і цягавіты тутэйшы, таварыш Пісарэвіч адзначыў:

– Калі нас пачнуць пасылаць «нафік», то тады нам тут рабіць няма чаго. – І прапанаваў: – Я лічу, што трэба аб'явіць Міхаілу Шведу вымову і адначасова падлячыць. Радыяцыя, нервовыя стрэсы, няпэўнасць сучаснага моманту – усё гэта трэба ўлічваць...

– Улічваць трэба, але за «нафік» вызваліць ад працы. – Пракурор Чысты, як і належыць пракурору, быў патрабавальна жорсткім. – І накласці адміністрацыйнае спагнанне.

– Так то яно так, але Пісарэвіч адзначыў вельмі істотны момант. – Старшыня парткамісіі таварыш Жлабовіч Васіль Яўменавіч гаварыў важка, як муляр кладзе цэглу ў мур. – Ён сказаў «падлячыць». Вы самі маглі заўважыць, што з некаторага часу наш таварыш па партыі стаў не зусім адэкватны... І трэба падумаць, як яму памагчы. Лепш за ўсё, каб спецыялісты-прафесіяналы па нервах грунтоўна абследавалі яго і вызначылі лекаванне. У сённяшнім стане ён небяспечны для грамадства: сваімі паводзінамі разбурае павагу да ўлады...

– Дарэчы, помніце той выпадак з Петрасянцам? – Другі сакратар райкама Сцяпан Максімавіч Красоўскі ўраўнаважана прамаўляў: – Зняважыў шаноўнага чалавека, таварыша па партыі, у пэўнай частцы маргіналаў зарабіў танны аўтарытэт...

– Так, – падвёў рысу старшыня выканкама Андрэй Цімафеевіч Саланевіч, – даручым гэтую далікатную справу

шаноўнаму Васілю Яўменавічу сумесна з галоўурачом раённай бальніцы Мацкевічам ціха, без ажыятажу, дапамагчы нашаму таварышу.

III

Выпадак з Петрасянцам узварушыў тады ўвесь тутэйшы раён, імкліва пакаціўся за яго межы, дасягнуўшы ўладнага абласнога цэнтра, акрамя таго – засведчыў найбольш пільным кіраўнікам, мясцовым мыслярам і пралетарам слабасць цяперашняй улады... Прымусіў дальнабачных асоб шукаць новыя накірункі ў жыцці.

Петрасянц, партыйны кар'ерыст-жыгун, накіраваны з вобласці ў район дзеля прасоўвання наперад у службовай дзейнасці, быў вялікі жыццялюб, і вярхамі планаваўся на замену старшыні выканкама на ягонай пасадзе. Заняў пакуль што пасаду старшыні планавай камісі выканкама. Падцягнуты, чарнявы, вясёлы, сэксуальны, ён быў выключна ўважлівы з людзьмі, асабліва з жанчынамі.

Вось ён (забегшы наперад жыццёвага часу, нібы ўжо стаў старшынёй выканкама) і паклаў вока на жонку Міхася, Алёну Швед, якая працавала якраз у гэтай самай планавай камісіі. Ягонае памкненне было заўважана грамадствам, выклікала маўклівую незадаволенасць нават прадстаўнікоў самой улады, але ніхто яму ніякіх заўваг не зрабіў. У прыватнае жыццё прыватных асоб тады ўжо партыйная ўлада не ўмешвалася, акрамя таго Петрасянц павінен быў у хуткім часе стаць гаспадаром раёна. А хто ж папрэ супроць гаспадара нават у той хісткі час? Толькі вар'ят.

Міхась Швед меў развітую інтуіцыю, быў філосафам-ідэалістам, займаўся паляваннем і нядаўна па сваёй волі сышоў з пасады старшыні выканкама гарсавета. Улада ў тыя часы хісталася, і разам з ёй хісталася вялікая дзяржава, і ён, адчуўшы гэтае блізкае разбурэнне, якое знішчыць і яго самога, у роспачы падаў заяву аб звальненні ў сувязі з рэзкім пагаршэннем здароўя. Дарэчы, першы

сакратар райкама партыі Раманоўскі Пятро Ціханавіч, невысокага росту мужчына, разумны, прафесійны, выдатны прамоўца, выключна валявы і працавіты, не паверыў у шчырасць Міхася Шведа і слабасць ягонага здароўя.

– Штрэйкбрэхер! Хоча своечасова саскочыць з дзяржаўнага карабля. Хітрадупы! – так аднойчы прамаўляў партыйны лідар у вузкім коле сваіх партыйных функцыянераў.

– Пры Сталіне ўжо б здабываў золата на Калыме.

Аднойчы Міша Швед убачыў, як Петрасянц хціва глядзіць на ягоную жонку на святочным паседжанні ў ДК, другім разам – як запрашае ў свой легкавік, каб ехаць на завод з праверкай.

Гэтага было дастаткова для пільнага мужчыны, і ў сонечны выхадны дзень Міхась Швед заняў дыспазіцыю на ўваходзе на гарадскі рынак, дзе, па словах жонкі, з праверкай павінен быць у нядзелю Петрасянц. Гадзін у дзесяць Петрасянц пад’ехаў на сваім легкавіку, з машыны выйшла Алёна Швед, якой ён адчыніў дзверцы, падаў руку, пяшчотна дакрануўся да яе пляча... Нехта з мінакоў[16] за спінай Міхася паказаў над галавой шырока растапыраныя пальцы далоні, і шмат хто ў гэты самы момант зняважліва пасміхнуўся. З другога боку легкавіка выйшла супрацоўніца планавай камісіі Маргарыта Мікуліч, якую Петрасянц узяў на праверку выключна дзеля маскіроўкі.

– Эй, ты, Папандапула! – Голас, што валадарна і жорстка прагучаў на плошчы перад рынкам, дзе паркаваліся легкавікі, пачулі ўсе, хто тут прысутнічаў. У голасе гучаў небяспечны рык тыгра, і месцічы на ўсялякі выпадак звыкла прыгнулі галовы. Петрасянц якраз замыкаў дзверцы сваёй чорнай «Волгі», чуў гэты рык, але не зразумеў, да каго ён адносіцца.

–Ходзь сюды, Па-па-нда-пула! – Міхась Швед, былы старшыня выканкама гарсавета, пахітаў далонню, як гэта любяць рабіць крутыя мача ў амерыканскіх баевіках.

– Гэта ты да мяне? – крыху здзіўлена, але спакойна адказаў Петрасянц, стрункі і мажны, ён быў на галаву

16 «Мінак» – (наватвор) прахожы, ад слова «мінаць», са слоўніка «Нашай Нівы».

вышэйшы за свайго адверсара[17]. І з годнасцю дадаў: – Я не Папандапула. Я старшыня планавай камісіі райвыканкама, Петрасянц.

– Я таксама думаў спачатку, што ты старшыня планавай камісіі райвыканкама, але потым убачыў, што ты Папандапула, бо клеіш чужых жонак! – гаворачы, Міхась Швед наблізіўся да Петрасянца і злосна піхнуў яго дзвюма рукамі ў грудзі. Потым нагнуўся і, падхапіўшы ёмкую палку, як быццам знарок пакладзенную, моцна перацягнуў ёю па фары «Волгі», якая ад гэткага стрэсу разляцелася ўшчэнт.

– Ты што, ідыёт? – залямантаваў Петрасянц і кінуўся ўсёй вагой мажнога цела на Міхася Шведа.

Той зрабіў імклівы крок убок і звезданyў палкай Петрасянцу па калене. У гэты момант шматлікія гледачы зразумелі, што дагэтуль безнадзейнае становішча Шведа з пункту гледжання раскладу сіл не тое што выраўнялася, але значна палепшылася і набыло перавагу. Між тым Міхась апантана лупіў па фарах «Волгі», потым па лабавым шкле, асаджваючы ўз'юшанага ўласніка легкавіка то ўдарам па нагах, то моцным джэбам у твар. Нехта з прысутных кінуўся разнімаць біткоў, але Міхась Швед, нібы тая тыгра, злосна рыкнуў і перацягнуў міратворца палкай па плячах.

– Не лезь, курва, у чужыя разборкі. Заб'ю!

Надаваўшы Петрасянцу па поўнай праграме, Швед кінуў палку ў легкавік і пайшоў на рынак шукаць сваю прыгожую жонку.

Мінакі, асабліва маладзёны, былі задаволены. Петрасянц быў чужы, Міхась Швед быў свой. І свой мужык, няхай сабе былы начальнік, абараняў годнасць сваёй тутэйшай жонкі, і таму грамадскасць была на баку былога мэра. Імгненна да Петрасянца прыліпла мянушка «Папандапула» і ягоная кар'ера, не пачаўшыся, зрабіла імклівы кірдык.

– Вам лепш замяць гэта здарэнне. – Раённы пракурор Чысты праз дзень маляваў Петрасянцу сутнасць становішча.

– Сіняк пад вокам, пабітыя фары – дробязь. На буйны крымінальны артыкул гэты выпадак не пацягне, а вэрхалу

17 Адверсар (старабел.) – апанент.

і плётак будзе шмат, а гэта, самі разумееце, пляма, якая спляжыць ваш кар'ерны лёс.

Старшыня раённага выканкама таварыш Саланевіч праз тыдзень таксама тлумачыў сітуацыю на паседжанні парткамісіі абкама партыі:

– Пасадзіць яго складана пры цяперашнім хісткім палітычным стане ў краіне. Ды і непатрэбна. Абараняў годнасць сваёй жонкі. Пралетарыят на ягоным баку. Ды і сам Петрасянц вінаваты. Знайшоў на каго класці вока. Міхаіл Швед – камуніст, чэсна сам пайшоў з пасады, калі адчуў сваю слабіну. Нам выгадней умацаваць свой прэстыж у грамадстве, падтрымаўшы таварыша Шведа.

Пасля доўгага абмеркавання жорсткі і аскетычны, з жоўтым тварам ардынца, сакратар абкама таварыш Лосеў пагартаў даведку пра персанальную справу партыйцаў і, усміхнуўшыся, падвёў рысу:

– Папандапула!? Трэба ж прыдумаць такое! А з другога боку, што ён мог зрабіць? Пісаць скаргі ў партыйныя органы? Пакуль нашы партыйныя функцыянеры разабраліся б, ягоная жонка ўжо і зацяжарыла б ад Папандапулы. А так па-мужыцку ясна і проста. Чорт з ім, прыйдзецца згадзіцца з вашай прапановай. Петрасянца забяром ад вас і аб'явім строгую вымову па партыйнай лініі. Шведу дастаткова проста вымовы. Вам, таварыш Саланевіч, як старшыні выканкама, паставім на від.

## IV

Праз тыдзень пасля гэтых падзей цешчу Міхася Шведа, якая ляжала ў неўралогіі раённай бальніцы, пераявлі ў абласную неўралагічную бальніцу ў Пячэрску. Праз два дні яна пачала тэлефанаваць дачцэ, каб тая прыехала праведаць ды і забрала яе.

– Лена, забяры мяне адсюль. Тут жа, дачушка, не лечаць нервы – гэта турма, вакол адны вар'яты.

Міхась адчуваў у глыбіні душы нейкую сваю віну і таму па просьбе жонкі набраў розных прысмакаў і паехаў у абласную лякарню ў Пячэрск.

Шведа ўсё свядомае жыццё цікавіла псіхічная дзейнасць чалавека. Творчы чалавек, ён адчуваў нейкую блізкасць вар'яцтва і творчасці – як з'яў, што маюць агульныя вытокі. Акрамя таго, назіраючы дзеянні звычайных людзей і нават улад, ён пачынаў іншы раз думаць, што яны дзейнічаюць як вар'яты.

Галоўны ўрач псіханеўралагічнага аддзялення Табурэтаў Агафон Лаўрэнавіч уважліва слухаў Міхася Шведа, звыклаў пазіраў на яго, як на будучага пацыента.

Узбуджаны новымі моцнымі ўражаннямі ад псіханеўралагічнай лякарні, Швед узрушана выкладаў свае думкі галоўурачу аддзялення, прымаючы яго за ўдумлівага і творчага інтэлігента, і тым самым паўтараў сваю заўсёдную жыццёвую памылку.

– Што такое вар'яты? Чалавек атрымаў моцны стрэс, разарыўся, нечакана згубіў назапашаны за жыццё капітал ці ў аварыі загінуў блізкі чалавек. Ягоная псіхіка, каб выратаваць, вяртае яго ў глыбіні падсвядомага, дзе ўсе ягоныя перажыванні зацыклены, закантачаны ў абмежаваным трох- ці чатырохкутніку. Мы для яго невядомыя, чужыя і варожыя істоты, нясём небяспеку для ягонага «Я». Абарончыя рэакцыі стаяць на ахове і не выпускаюць яго ў знешняе асяроддзе. Выцягнуць яго адтуль амаль немагчыма і непатрэбна, бо калі нават і вывесці, то ён стане непрадказальным і можа нарабіць шмат неадэкватных дзействаў.

– Цікава і нават дзесьці прафесійна, калега. Вы хто з адукацыі? Настаўнік-біёлаг! Тады зразумела.

– Скажыце, Агафон Лаўрэнавіч, а калі пачаць зноўку? Завезці вар'ята ў іншае месца, у горад, ці сталіцу, у Амерыку, і там вучыць яго спачатку. Фактычна стварыць новую свядомасць, новае «Я». Але існуе небяспека, калі праз нейкія выпадковыя асацыяцыі можа прарвацца ранейшая рэчаіснасць, і тады ізноў пачнецца «грамадзянская вайна» ў душы чалавека...

Галоўурач Табурэтаў быў перш за ўсё прафесіяналам, некалі ён таксама быў маладым і, магчыма, эмацыйным і рамантычным, але за шматгоддзе нялёгкай працы ён ужо добра ведаў, што вар'ятаў на самай справе ў грамадстве

значна больш і што ў псіхіятрычнай бальніцы знаходзяцца толькі тыя, хто папаўся, гэтаксама як у турме сядзяць злачынцы, хто трапіў у рукі правасуддзя, а большасць як вар'ятаў, так і злачынцаў знаходзіцца на волі.

За шмат год працы галоўурач разглядаў усіх людзей як магчымых пацыентаў. Вось і зараз ён заўважыў імпульсіўнасць Міхася, узрушанасць, жаданне выгаварыцца, пераканаць... Наогул, па меркаванні глаўрача, перакананасць заўсёды сведчыла аб існаванні ў «пацыента» звышкаштоўнай ідэі, а гэта было першай прыкметай псіхапатыі.

У гэты момант нехта патэлефанаваў, і галоўурач, узяўшы слухаўку, паказаў рукой, каб Міхась Швед пакінуў яго ў габінеце аднаго. Той ціха прычыніў за сабой дзверы.

Табурэтаву тэлефанаваў з райцэнтра галоўурач Мацкевіч.

– Шаноўны Агафон Лаўрэнавіч, добры дзень. Як здароўе і наогул справы?

– Вашымі малітвамі, Станіслаў Мітрафанавіч, дзякуй. Што вас прымусіла патурбаваць мяне?

– У нас нібыта захварэў вельмі шаноўны чалавек, былы мэр горада Міхась Аляксандравіч Швед. Можа, вы чулі, з-за прыпадку рэўнасці моцна пабіў аднаго з кіраўнікоў выканкама, нядаўна на паседжанні паслаў усіх на тры літары. Да гэтага сам падаў заяву і звольніўся з працы... Карацей, неадэкват, магчымая пагроза для грамадства. Хацелася б кваліфікаванае медыцынскае абследаванне, прафесійнае лекаванне...

– Так-так... Я гэта заўважыў, ён, дарэчы, зараз у нас, прыехаў праведаць цешчу. На першы погляд, у яго псіхастэнічная псіхапатыя, гэта не вельмі страшна. Але трэба праверыць, каб не было істэрычнага сіндрому ці шызафрэніі.

– Я вось пра гэта і кажу, Агафон Лаўрэнавіч. Адна надзея на вашу дапамогу. Каб вы здолелі яго пакласці на абследаванне, то мы былі б вам вельмі ўдзячныя. Шкада чалавека, трэба тэрмінова ратаваць. Я вам заўтра прышлю паперы на яго накіраванне і выпіску з гісторыі хваробы.

– Дамовіліся. Як у вас там віды на садавіну і гародніну?

– Прышлём паспытаць і для вас, і для вашага калектыву.

– Дзякуй, Станіслаў Мітрафанавіч. Да пабачэння.

Міхась Швед, як той студэнт трэцякурснік, крыху прачыніў дзверы і таму ўчуў апошнія словы главурача, якія той сказаў у слухаўку. Учуў і насцярожыўся.

Табурэтаў паклікаў Міхася Шведа і, седзячы за сваім сталом, прамовіў, аднначасова ціскануўшы пад сталом гузу выкліку санітараў:

– Ну што, Міхась... Аляксандравіч, цешчу мы вашу выпішам праз тры дні. Нічога страшнага ў яе няма, так, агульнае парушэнне настрою, рэакцыі адэкватныя, можна лекавацца і дома. – Агафон Лаўрэнавіч зірнуў у напружаныя зрэнкі Міхася Шведа і дадаў: – А вось вам, галубок, трэба затрымацца. Ваш стан псіхічнага здароўя выклікае непакой вашых блізкіх, сяброў, калегаў па працы.

Міхась Швед азірнуўся на рып дзвярэй. Там ужо сталі два бамбізы-санітары ў белых халатах.

– Вы не хвалюйцеся, абследуем, пры неабходнасці пралечым. Вы яшчэ будзеце карысным для грамадства чалавекам.

Міхась Швед сеў на табурэтку каля стала насупраць галоўурача, надзвычай спакойна і нечакана для Табурэтава прамовіў:

– Дзякуй, Агафон Лаўрэнавіч. Вялікі дзякуй. Апошнія падзеі ў краіне, катастрофа ў Чарнобылі, радыяцыя ды іншае моцна пахіснулі маю ўпэўненасць у былым раскладзе жыцця. Я спадзяюся, што вы мне паможаце ўмацаваць падмуркі свядомага і несвядомага, бо адчуваю ў вас сапраўднага прафесіянала, рэдкага знаўцу сваёй справы.

Галоўурач здзіўлена і нават з павагай агледзеў Шведа.

– Вось і добра, галубок. Зараз вас пераапрануць і праводзяць у палату.

Так Міхась Швед трапіў у самую што ні на ёсць вар'ятню, дзе жыццё для звычайнага чалавека ператвараецца ў

пекла. Далікатны, чулы, творчы чалавек, ён у сваім уяўленні перажыў мноства розных вялікіх, маленькіх, драматычных і нават трагічных адчуванняў. Але самымі цяжкімі для яго заўсёды былі шэрасць, тупасць, аднастайнасць, хамства, жывёльныя інстынкты, эгаізм... Ад чорна-белага прымітывізму ён заўсёды пачынаў задыхацца. І вось цяпер ён быў кінуты ў пекла, дзе ўсе гэтыя якасці квітнелі ў надзвычай яскравай форме.

У вялікім пакоі, дзе было прыкладна з дзясятак ложкаў, соўгаліся, стаялі і сядзелі хворыя. Да яго падышоў хударлявы чалавек, апрануты ў байкавы бальнічны касцюм, з невыразным шэрым тварам, і нервова запытаў:

– Ты хто?

– А ты хто?

– Я Санітар! А вунь ідзе Аляксандар Македонскі! – у словах Санітара гучалі павага і страх.

– Страшны вар'ят. Б'е, абражае і прымушае быць ягонай жонкай усіх, хто таксама хоча быць Аляксандрам Македонскім. Ты глядзі, не спрачайся з ім…

Аляксандар Македонскі хутка падышоў да іх. Гэта быў бамбіза з дзікім вар'яцкім позіркам істоты, якая жыла ў нейкім іншым паралельным свеце, дзе валадарылі зусім іншыя законы і правілы быцця.

– Ты хто?

– Я Эдгар По!

– Хто гэта?

– Пісьменнік і паэт.

– У нас ёсьць адзін пісьменнік... Пушкін яго прозвішча. – Вар'ят-бамбіза гаварыў павольна, расцягваў сказы і нават словы, робячы сэнс свайго прамаўлення злавесным, у падтэксце жудасным.

– Увечары чытае мне вершы... пра Лукамор'е... чэша мне пяту... іншы раз робіць мінет... смокча... як дзіця. Нічога... здольны. Пачытай і ты... Аляксандру Македонскаму... свае... вершы... Эдгар…

Міхась Швед уважліва зірнуў на бамбізу-вар'ята і пачаў выразна, з пачуццём, чытаць верш свайго любімага паэта.

– Неяк змрочным часам ночы, калі я заплюшчыў вочы, разбіраючы прарочы сэнс старых пажоўклых кніг, раптам стук пачуў праз стому, ціхі стук у дзверы дому, быццам нехта невядомы прыпыніўся каля іх. Гэта нейкі госць, – я мовіў, – прыпыніўся каля іх, там, каля дзвярэй маіх. Быў, я помню, снежань слотны, у каміне неахвотна гаснуў жар, і цень дрымотны варушыўся ў зборках штор. І чакаў я час світання, як збавення, бо чытанне не прынесла мне адхлання ў смутку вечным па Лінор, па святой, якой анёлы кажуць...[18] – ціха, павольна, манатонна і гіпнатычна, расцягваючы сказы і словы, чытаў Міхась.

– А ты не хлусіш!.. Ты сапраўдны паэт!.. А то некаторыя... хваляцца: «Я – Чынгісхан! Я – маршал Жукаў!» Дасі ім... па пысе... падчас змагання... каб высветліць, хто з нас... мацней: маршал Жукаў, Чынгісхан ці Аляксандар Македонскі...

Ад вар'ята патыхала застарэлым пахам сцулёў, ён задаволена бліскаў вачыма, пырскаў слінай і, крыху сагнушы свае магутныя плечы асілка над суразмоўцам, працягваў рэкламаваць свае перамогі.

–...І заўсёды... Аляксандар Македонскі!.. перамагае! Заўсёды! Потым прапаную ім... стаць маёй жонкай. Дак зразу... слюні... пускаюць. Плачуць... як тыя дзеці... пры выкананні інтымных абавязкаў. А бывае нехта крычыць... што ён – Кабзон. А як песню праспяваць, то ні бэ... ні мэ. Прыходзіцца разам з Санітарам... ноччу... лекаваць... прыдуркаў. Покуль... жыві... Эдгар!.. По!..

Вар'ят зірнуў пранізлівым позіркам на Міхася Шведа і зноў шпарка пасунуўся па калідоры.

За некалькі дзён «Эдгар По» пазнаёміўся з «кааператарам», якога кінуў лепшы сябра, і ён зварацеў, страціўшы свае нагандляваныя капіталы. Таксама цікавы быў «дэмакрат», які перад уважлівым слухачом пачынаў бясконцыя маналогі пра «перабудову» і «каштоўнасці дэмакратыі». Наогул яго цішком клікалі «Майкл Горбі», але паколькі за гэта санітары-медбраты маглі накласці пакаранне, накіраваўшы ў карцар, то гаварылі шэптам. Самым цікавым і

18 «Крумкач» Эдгара По ў перакладзе Алега Мінкіна.

адыёзным быў Леў Троцкі: ён трымаўся ўбаку, пазіраў на астатніх вар'ятаў звысоку і больш маўчаў. Аднойчы Эдгар По, праходзячы побач, сустрэў ягоны задумлівы позірк і, падняўшы кулак у пралетарскім прывітанні, прамовіў:

– No pasaran, Леў Давыдавіч!

– No pasaran! – У вачах Троцкага ўзнікла лёгкая ўзрушанасць і добразычлівасць. – Помніць пра мяне народ! – У ягоных словах прагучала лёгкая іронія. – Значыць, наша справа не прапала. Прымарудзілі, канечне, як я і папярэджваў, таму і прайгралі. Але гэта часовы адкат назад! Яшчэ Хрыстос быў першым камуністам!

Знешне вар'ят, русавалосы, сярэдняга веку тутэйшы, быў чымсьці падобны да Троцкага. Міхася Шведа таксама моцна здзівіла, што ён назубок ведаў усе творы Троцкага, мінулыя гістарычныя падзеі, тую бурлівую эпоху, ды іншы раз казаў такія тонкасці і драбніцы мінуўшчыны, якіх ніхто не ведаў. Як потым даведаўся Швед, раней ён быў навуковым супрацоўнікам па гісторыі партыі, кандыдатам навук, затым падрыхтаваў доктарскую дысертацыю аб ролі Троцкага ў гісторыі XX стагодзя, але як толькі ягоныя абагульненні і высновы пачалі прыводзіць да прамых паралеляў з сучаснасцю, тэму закрылі, а яго самога на ўсялякі выпадак запакавалі ў вар'ятню.

Неяк Міхась Швед падышоў да яго і, прывітаўшыся, запытаў:

– Леў Давыдавіч, скажыце, вось Сталін, ваш вораг, сапраўды быў такі людажэр?

Троцкі шчыпнуў сваю акуратную рыжую бародку і добразычліва зірнуў на Міхася.

– Па-першае – я не Леў Давыдавіч, а Эдзік Старавойт з Глуску. Я вывучаў ягоную тэарэтычную палітычную спадчыну. Партмафія прычапіла мне гэтую налепку і запхнула ў вар'ятню. Што датычыць пытання, тлумачу. Сталіну дасталася краіна ў сярэдзіне 20-х гадоў, дзе быў поўны бардак. Сам Троцкі трымаў 90 млн. швейцарскіх франкаў у Швейцарскім банку і 11 млн. долараў у банку ЗША. Улада была ў актыўных, пасіянарных, хцівых бандытаў і злодзеяў, чыноўнікі ўсе павязаны карупцыяй,

шпіёны ад усіх варожых краін у дзяржапараце, у арміі, поўны развал прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Мільёны беспрызорнікаў і бамжоў. Армія са стрэльбай Мосіна і коннікі з шаблямі. СССР на ўзроўні азіяцкіх краін па ўсіх паказчыках.

Троцкі асярожна павярнуў галаву, пільна азірнуў пакой: ніхто з вар'ятаў нібыта не прыслухоўваўся да іх гаворкі, але ён прадоўжыў размову ужо больш ціхім голасам, амаль шэптам:

– Знаёмая рэчаіснасць? А ў выніку праз 25 год (за гэты перыяд былі дзве вайны) Савецкі Саюз – звышдзяржава з атамнай зброяй, сучаснай арміяй і флотам. Збудаваны тысячы заводаў і фабрык, электрастанцый. Бурнае будаўніцтва жытла, ды яшчэ якога. Санаторыі, школы, дзіцячыя садкі. Планета з зайздрасцю глядзела на нашы тэмпы развіцця. Цяпер возьмем гады гарбачоўскага кіравання па любым паказчыку. Прытым што ніякіх глабальных войнаў не было. І краіна ў мураломах не ляжала.

Троцкі памаўчаў, пазіраючы ў вакно на сонечную рэчаіснасць восеньскага дня, і дадаў:

– Вось таму яны мяне і заканапацілі ў вар'ятню, каб не чырыкаў. Дарэчы, за мною назіраюць і тут, таму са мной небяспечна размаўляць. Так што, Эдгар, ідзі да нармальных вар'ятаў.

– Леў Давыдавіч, але ж шматмільённыя ахвяры... А як гэта асэнсаваць?

– Змагаліся за сваё выжыванне з індустрыяльным светам, загінула шмат – дзеля таго, каб выжылі астатнія, каб народ захаваўся...

– Леў Давыдавіч, звярніце ўвагу, што цяпер кіраўнічае кола ў першую чаргу ўплывае не на ўсё грамадства, а на эліту. На тых, хто ўдзельнічае ў прыняцці і правядзенні значных рашэнняў.

– Дадам болей, Эдгар, яны ствараюць гэтых людзей, асоб, моду, гледзішча, светапогляды, густ новага кшталту. Робяць новыя прымітыўныя ўзоры, матрыцы, эталоны для пераймальніцтва. Паспяховы псіхааналітык Кашпіроўскі не менш важны для замбавання мас, чым мысляры Юрый

Афанасьеў, Гаўрыіл Папоў ці Андрэй Сахараў, – ён прыцягвае сваімі зразумелымі камандамі.

Троцкі задумліва пазіраў праз вакно на панадворак, дзе пайшоў дождж. На ягоным заўсёды непранікальным твары зараз праступала здзіўленне.

– Канечне, і камунякі стваралі камуністычныя эліты ў іншых краінах, выхоўвалі і вучылі эліты. Уздзеянне на свядомасць эліты значна эфектыўней, чым уплыў на свядомасць грамадства. Сёння свядомасць нашай эліты трансфармуецца вельмі хутка, яна пачынае думаць па-іншаму, чым усё астатняе грамадства. Такім чынам, сігналы з сацыяльных нізоў наверх да эліты сёння не праходзяць ці ўспрымаюцца неадэкватна.

– Леў Давыдавіч, мне здаецца, што яны проста купляюць частку эліты. Стварэнне новых светапоглядаў і ўзораў паводзін – гэта ўжо надбудова. Але гісторыя паказала, што эліты без свайго народа хутка прыходзяць у заняпад і гінуць...

– Яны стануць багатымі і пры неабходнасці з’едуць, Эдгар. Застанецца раздробненая тэрыторыя з занядбаным і значна зменшаным, неадукаваным, малаграматным насельніцтвам, плямёнамі, групоўкамі, дзе кожны будзе сам за сябе...

Да іх, натапырыўшы вушы, ужо рушыў Аляксандар Македонскі, і яны, прыпыніўшы гаворку, разышліся ў розныя куты пакоя.

Праз некалькі тыдняў Троцкага перавялі ў другую палату ў іншым будынку. Міхасю Шведу стала зусім кепска. Яшчэ праз тыдзень да яго прыехаў Алесь Мікалаевіч, швагер ягонага брата, ён займаў высокую пасаду ў дзяржапараце. У густоўным шэра-сталёвым касцюме, пры гальштуку, швагер адным толькі стрыманым і валадарным выглядам засведчыў сваю моц і ўладнае становішча на прыступках дзяржаўнай лесвіцы. На спатканні ў габінеце галоўурача, дзе нязводны пах сцулёў быў амаль не чутны, швагер запытаўся, зірнуўшы на пахудзелы твар сваяка:

– Як ты тут? – І, не даўшы яму сказаць, зазначыў: – Пратрымайся яшчэ тыдзень. Ні з кім не спрачайся, маўчы. З урачамі згаджайся. Мы дамовіліся, што найбольш вос-

тры момант хваробы прайшоў, цяпер значнае паляпшэнне і можна выпісаць дадому пад нагляд мясцовых урачоў. Канечне, гэта каштуе сродкаў, і немалых. – Алесь Мікалаевіч памаўчаў, разважаючы, ці патрэбна гэта казаць зараз, потым прамовіў:

– Да галавы моцна не бяры. Мы цябе накіруем на працу ў прыватную фірму. Агледзішся, падзаробіш грошай, а там бачна будзе.

Ён пацiснуў Міхасю руку на развітанне і паклікаў галоўурача Табурэтава, каб удакладніць некаторыя падрабязнасці.

## V

Прамінулі гады. Шмат хто з герояў пайшоў на пенсію, нехта сышоў у свет ценяў. Тое, што некалі здавалася значным, у цяперашні час выклікала ўсмешку і стала дробным імгненнем блізкай даўніны.

Закладзены ў маладосці Міхася ідэалізм зрабіўся падмуркам будынка свядомасці, і, каб змяніць гэты падмурак, трэба было бурыць само збудаванне, якое складвалася ўсё жыццё.

У той час сваячніца Міхася Шведа, пляменніца жонкі, Зіна, паехала ў логава імперыялізму – ЗША, уладкавалася там на працу, атрымала від на жыхарства, выйшла замуж за амерыканца Юджына Стывенсана і зараз запрашала сваякоў прыехаць да яе ў госці.

Вось так мясцовы «дысідэнт» Міхась Швед трапіў у ЗША. Напачатку яму здалося, што ён трапіў у рай, ажыццявілася ягоная прага ідэальнага. І ён загарэўся жаданнем застацца ў Штатах. Трэба было толькі атрымаць від на жыхарства і потым пацiху вывучыць іхнюю тамтэйшую мову.

Праз нейкі час, атрымаўшы праз Яфіма Злаціна патрэбныя паперы і дакументы, Міхась Швед папёрся па дзяржаўных інстанцыях і дзярждэпах, усюды соваючы даведкі, газеты і іхнія пераклады на англійскую мову.

Навёўшы звесткі праз сваіх агентаў уплыву і тутэйшых наглядчыкаў, амерыканскі дзярждэп сапраўды у хут-

кім часе атрымаў мноства сведчанняў аб «дысідэнце Міхасі Шведзе» з першых, так сказаць, крыніц. Тутэйшыя і абласныя абібокі-грантасмокі імгненна зразумелі, якія шыкоўныя магчымасці адчыняюцца перад імі пры раскрутцы гэтага невядомага дагэтуль «барацьбіта за дэмакратыю». Пэўныя службы дзяржаўнай бяспекі, мабыць, таксама падварушыліся, так што ў хуткім часе Міхась Швед атрымаў патрэбныя яму від на жыхарства і фінансавую штомесячную дапамогу.

Ніхто тады не ведаў і нават не здагадваўся, што хвалёны амерыканскі дзярждэп зрабіў вялізную, магчыма, трагічную памылку, пусціўшы да сябе ў краіну «ідэаліста, праўдаруба і дысідэнта», імпульсіўнага іншадумца Міхася Шведа.

За пражытыя дзесяцігоддзі Міхась уздужаў, набыў неблагія філасофскія і палітычныя веды, прафесіяналізм, а ягоная пасіянарнасць прымушала яго ўсюды соваць свой цікаўны нос і заўважаць хібы грамадскага жыцця, а потым інфармаваць аб гэтых хібах тутэйшы народ і міжнародную супольнасць.

## VI

Набліжаліся выбары ў Кангрэс, і вось тут, зусім выпадкова, амерыканскае грамадства заўважыла праўдаруба, ідэаліста і дысідэнта Міхася Шведа.

– Вы на чыім баку? – на выбарчым мітынгу тэлекаментатар, патлаты, кучаравы і жвавы мулат, нахабна піхнуў яму пад нос мікрафон.

– Я на баку тых, хто бароніць агульначалавечыя каштоўнасці.

– Хто такі прэтэндэнт на месца ў кангрэс Джон Абам, на ваш незашораны, свежы позірк?

– Гэта першы пасля фюрэра палітык містычнага тыпу. Ён кажа: «Я не ведаю, як буду вырашаць праблемы краіны, але абавязкова вырашу іх». Абам – містык чысцейшага разліву[19].

19 Меркаванне расейскага навукоўца і палітолага Міхаіла Дзялягіна.

– Што нас чакае ў бліжэйшай будучыні? Якая галоўная небяспека існуе для чалавецтва?

– Мы адрываемся ад прыроды. У выніку рэзка вырасла рызыка для чалавечай папуляцыі. Кожнае наступнае пакаленне больш слабое, чым папярэдняе. Створаны тэхналогіі фармавання свядомасці, і няма аніякіх значных фільтраў для кантролю за індывідумамі са зmененай свядомасцю. Раней такім фільтрам было само жыццё. Мужчына, які не мог араць зямлю і ўтрымліваць сям'ю, як мінімум не даваў працягу свайму роду. Віртуальная рэчаіснасць зніжае патрэбу ў адукацыі, узнікае феномен «спажыўца». Жыць, каб спажываць!

– Што ў гэтым кепскага – спажываць?

– Мы забыліся, што жывём на ўнікальнай, чароўнай і дзівоснай планеце. Мы ўжо не захоўваем планету, а як тыя пацукі – з'ядаем яе. Геніяльны амерыканскі паэт некалі сказаў: «Як часта мы забываемся пра час, калі ў адзіноце сузіралі трон Сусвету – яго лясы, яго пустыні, яго горы – магутны адказ, што дае прырода нашай свядомасці»[20].

– Такім чынам, вы лічыце, што вера – гэта мінус кандыдата Джона Абама?

– Хацеў бы ўдакладніць – сляпая вера! Упершыню з гэтым феноменам сутыкнуліся Рэйх і Саюз. «Думаць не трэба – за цябе думае партыя і правадыр!» Цяпер на гэтыя граблі наступаюць Штаты: «Усё о'кей! Спажывай. Чым больш ты спажываеш, тым хутчэй і лепш развіваецца наша эканоміка!» «Думаць не трэба – за цябе думаюць Ротшыльд, Сорас і К».

Пасля інтэрв'ю, якое паказалі па адным з тэлеканалаў штата і якое атрымала самы высокі рэйтынг у гледачоў, Майкла Шведа нечакана запрасілі ў выбарчы штаб кандыдата ў Кангрэс ЗША Майкла Стывенсана. Цяпер ён увесь час тлумачыў кандыдату Стывенсану свае прапановы, той недаверліва пазіраў, але карыстаўся ягонымі парадамі, бо яны заўсёды былі на дзіва выніковыя.

– Трымайцеся, Майкл, годна і не карыстайцеся негатыўнай інфармацыяй у бок асобы Джона Абама. Гэта

20 «Мне ў юнацтве знаёмы быў нехта...», Эдгар По.

зробяць журналісты і сам Джон, які занерваваўся і пачаў рабіць памылкі. Гаварыце пра сябе, нават больш пра сваю праграму. Бярыце на ўзбраенне ўсё станоўчае, што ёсць у праграмах іншых кандыдатаў, прапановы амерыканцаў, вучоных, журналістаў. «Я не закрыты для любой слушнай думкі, меркавання, распрацоўкі...»

Майкл Швед знаходзіўся ў выбарчай штаб-кватэры, дзе ўважліва адсочваў інфармацыю і рэйтынг кандыдатаў падчас выбарчай кампаніі. На апошняй прэс-канферэнцыі яго запыталі:

– Чаму вы сталі дапамагаць Майклу Стывенсану, а не Джону Абаму?

– Па-першае, таму што ён Майкл, а я таксама Майкл, – пад смех прысутных на прэс-канферэнцыі прамовіў Швед. – Калі сур'ёзна, то, напэўна, таму што ён рэспубліканец. Дэмакраты выклікаюць недавер, ствараюць пачуццё небяспекі.

– Вы не верыце ў дэмакратыю?

– Я веру ў Бога. Дэмакратыя – гэта ўлада сярэдняга класа. Постындустрыяльныя тэхналогіі робяць вялізарныя людскія масы непатрэбнымі. Гэтыя «непатрэбныя людзі» – сярэдні клас: ён шмат спажывае і параўнальна мала ствараe. З пункту гледжання эканамічнай логікі асобнай карпарацыі – сярэдні клас марны, непатрэбны і павінен быць сацыяльна ўтылізаваны. Ён змяншае прыбытак. Прыбытак – падмурак усяго капіталістычнага гмаху. Такім чынам, дэмакратыя без сярэдняга класа ператворыцца ў інфармацыйную дыктатуру «новага тыпу». З пункту гледжання эканамічнага, калі знікне сярэдні клас, разам з ім знікне і галоўная частка сучаснага попыту. А рынак без попыту – ужо не рынак.

– Вы не баіцеся, што пэўныя сілы могуць негатыўна ўспрыняць вашы выказванні?

– Калі Бог за мяне, то той, хто супраць, – хто ён? Пылінка на краі глыбокай цясніны, адзін подых ветру – і ён знікне ў бясконцасці небыцця. Трэба помніць, што кожны чалавек, мільярдэр і алігарх, шараговы амерыканец ці фінансавы мяшок з Уол-стрыт, усе яны паўстаюць перад

Богам галышом. І кожны будзе несці адказ за тое, што ён зрабіў на планеце за адпушчаны яму час.

– Што будзе на тым свеце – гэта пытанне веры. Але вось тут, у гэтым сусвеце, дзе мы існуем фізічна, ствараем і дзейнічаем па законах фізічнага свету... – Майкл Швед ветліва прыпыніў тутэйшую журналістку Эй-бі-сі Жаклін Бобсан у шыкоўным блакітным джынсавым касцюме, з крутымі раскошнымі сцёгнамі, трапічным пякучым позіркам афрыканскіх вачэй...

– Мне здаецца, я зразумеў вас. Існуе такая філасофская думка, што фізічна нас і нашага сусвету не існуе. Фізічна няма ні мяне, ні вас, чароўнай і дзівоснай Жаклін... На самай справе мы – нешта кшталту камп'ютарных праграм!.. Што Бога цікавіць у нас? Нашы здзяйсненні? Хмарачосы? Касмічныя караблі? Навуковыя адкрыцці? Мільярды даляраў алігархаў? Не, гэта Бога не цікавіць. Яго цікавяць нашы душы! Нашы духоўныя здабыткі, нашы ўдасканаленыя і загартаваныя, разумныя і веруючыя душы! Дарэчы, адным з эталонаў праграмы даных нам Богам ёсць Прыгажосць! Усё дасканалае – прыгожа!

Майкл Швед пяшчотна лашчыў позіркам і ўсміхаўся Жаклін.

Журналістка хоць і пачырванела ад камплімента ў свой бок, што супярэчыла амерыканскім грамадскім стандартам, дзе раўнапраўе між мужчынамі і жанчынамі ўзведзена ў культ, пякуча бліснула вачыма і напорыста задала новае пытанне:

– Майкл Стывенсан вельмі малады, нават дзесьці інфантыльны ў параўнанні з Джонам Абамам?

– Джон Абам – гэта стары папугай, які няздольны асэнсаваць новыя сучасныя і будучыя выклікі. Як будзе збудаваны свет пасля дэмакратыі і рынку – сёння незразумела. Усё больш стратэгічных рашэнняў прымаецца на нярынкавай аснове. Чалавецтва ўжо 20 год пераходзіць да постындустрыяльных тэхналогій. Крызіс сярэдняга класа – праява ўсеагульнага пераходу чалавецтва ў якасна новы, яшчэ незразумелы нам стан. Адбываецца крызіс манаполій – але ў аснове знаходзіцца якасна больш глыбо-

кая з'ява. Менавіта гэтыя працэсы і вызначаць будучыню. Для ўсведамлення і асэнсавання Новага Часу спатрэбяцца новыя лідары, правадыры. Сёння Майкл Стывенсан – малады неаперяны коршак, які можа стаць адным з будучых капітанаў Амерыканскіх Штатаў. Ён мае вялікі патэнцыял і стане губернатарам штата, а ў будучыні – прэзідэнтам краіны. Памагаючы яму, я, у сілу сваіх здольнасцяў, памагаю ствараць светлую, пазітыўную і сонечную будучыню чалавецтва...

Яшчэ некалькі крытычных інтэрв'ю і заказных аплачаных артыкулаў – і кандыдат у кангрэс Джон Абам з трэскам прайграў, не трапіўшы ў Сенат.

Перамог на выбарах кандыдат Майкл Стывенсан, якога кансультаваў і памагаў у выбарчай кампаніі Майкл Швед.

Гэта была маленькая сенсацыя. Майкла Шведа заўважылі. Ягоныя трапныя крытычныя і аналітычныя артыкулы, інтэрв'ю адрозніваліся ад залізаных тэкстаў прафесійных журналюг. У ім быў нейкі шарм, свая разынка, трапнасць, свежасць меркаванняў і шчырасць. У яго гучала агульначалавечая трывога за будчыню. Ангельскую ён за два-тры гады засвоіў на бытавым узроўні, пісаў артыкулы і інтэрв'ю на беларускай[21] і потым чытаў іх пераклады. Мабыць, гэта таксама была адна з крыніц ягонага поспеху ў штаце Масачусец.

## VII

Па вялікім рахунку, Міша Швед і ў Амерыцы застаўся іншадумцам, аналітыкам, ідэалістам і філосафам. Разгледзеўшы і паспытаўшы на зуб амерыканскае грамадства, ён, як заўсёды, пачаў бачыць мноства хібаў, недахопаў, недасканаласцяў і проста дзікіх супярэчнасцяў. «Паўка Карчагін» прачынаўся ў ім, і ён ужо грэбліва пазіраў на

21 Па даследаванні навукоўцаў, беларуская мова валодае выключна глыбокай, ашчаднай, трапнай і матэматычнай здольнасцю адлюстравання рэчаіснасці.

няроўнасць амерыканскага грамадства, іхняе ўсеагульнае пакланенне даляру.

Сонечным ранкам у пятніцу былы савецкі іншадумец Міхась Швед выпіў кавы са згуслым малаком, зірнуў у вакно на мясцовы краявід, потым прысеў на канапу, думаючы, што рабіць: патэлефанаваць свайму дружбану кангрэсмену Майклу Стывэнсану альбо перанесці гэтую справу на вечар ці нават на заўтра?

Зранку занепакоеная жонка паведаміла яму:

– Прыходзіў палісмен, склаў пратакол-папярэджанне на ўтрыманне тваіх курэй. Прыйшла скарга ад суседзяў: твае пеўні будзяць іх, не даюць зранку спаць. Цяпер чакай позвы ў суд. – І дадала, пазіраючы на яго сваімі сінімі вачыма: – Паехалі, Міша, дадому, да дзяцей і ўнукаў. Пажылі крыху, паглядзелі свет, памацалі чужое шчасце – і хопіць.

Міхась пачухаў патыліцу. Яму таксама надакучылі гэтыя шустрыя, жвавыя, напорыстыя амерыканцы. Цяпер ён дзівіўся спрыту тутэйшых мэраў. «Спрытна яны ўладкаваліся, гэныя амерыканскія ўлады. Процьму пытанняў спіхнулі на суды. Нашы прасцякі-камунякі ўсё бралі на сябе, таму і ўся адказнасць клалася на кампартыю і ўладу», – ходзячы па пакоі ад вакна да вакна, разважаў ён. У глыбіні душы яму хацелася зараз сустрэцца з той дзівоснай карэспандэнткай Жаклін з Эй-бі-сі з пякучым позіркам афрыканскіх вачэй, з хвалюючым аб’ёмам чароўных сцёгнаў, і прапанаваць ёй правесці тыдзень на Гавайскіх выспах.

Скандал будзе страшэнны, журналістка пацягне яго ў суд. Журналюгі, канечне, накінуцца на яго і на кангрэсмена Майкла Стывенсана. «Маральна разбэшчаны камуняка прыехаў у Штаты і спакушаў маладую журналістку Эй-бі-сі». Самога прэзідэнта Біла Клінтана зацягалі. За што? Паціскаў маладзіцу, нават не трахнуў, а непрыемнасцяў цэлы кодаб! І што – гэта жыццё? Вар’яты!

Ён пашкадаваў некалі пабітага ім Петрасянца. «Ні за што бедалага быў біты. Так, чыстая прафілактыка з мужняга боку, на ўсялякі выпадак. Тут бы мяне, Мішу Шведа,

зацягалі па судах. А за «нафік» на кіраўніка адміністрацыі амерыканскі суд уляпіў бы 30000 даляраў штрафу – і ідзі жалься каму хочаш. А ў нас? Цяперашнія носьбіты магілёўскай і быхаўскай улады да сённяшняга часу ніяк не могуць зразумець, якая выгадная гэтая ўстанова – Суд».

Ён у маркоце пазіраў у вакно на вуліцу, дзе панаваў сонечны ранак. Па ходніку ішлі мінакі, прайшоў спацелы тоўсты сусед-мурын Бобі з мурынкай Кэтрын, і Міхась незадаволена адвярнуўся ад вакна. Нязвыклая рэчаіснасць нараджала дыскамфорт пачуццяў, і ён вярнуўся да роздумаў.

Познім вечарам яму нечакана патэлефанавалі з Еўропы. Тэлефанаваў са Старога Быхава жыхар і былы старшыня суполкі БНФ Яфім Злацін. Ён хацеў распытаць пра жыццё ў Амерыцы.

Міхась Швед узрадаваўся тэлефаванню, сеў у крэсла, завесіў вакно фіранкай, каб не бачыць чужую рэчаіснасць, і радасна адказаў у слухаўку:

– О! Яфім, як я рады цябе чуць. Як там справы ў Быхаве? Як Міхал Акімавіч? Што?! Памёр. А Васіль Максімавіч? Таксама памёр. Усе на Белай Гары?[22] Шкада, пра астатніх не пытаюся, раптам таксама памерлі. Царства ім Нябеснае. Эх, помню, як з Чорствым Жорам у гаражы на Аскаленкі пілі гарэлку. Так добра яна пайшла тады па шлунках. Жывы? Перадавай прывет яму з Бастона.

Што ты кажаш? Як жыццё ў Амерыцы? Жыццё, папраўдзе, як у быкоў на адкормачным комплексе ў Следзюках. Куды ні сунься – усюды платы, агароджы, прыватная ўласнасць, гары яна агнём-полымем. На бераг рэчкі ні-ні – прыватная ўласнасць, у лес па грыбы не магі – прыватная ўласнасць. Па дарозе едзеш – плаці, бо прыватная ўласнасць. Пачаў траву касіць каля дома – лямант: «Ты што, ёсць фірма, людзі, якія ўсё за цябе зробяць, толькі плаці». «Мой дом – мая крэпасць, – кажу ім, – што хачу тое і раблю». – «Нельга!» – адказваюць, бо падрываеш іхні ўсталяваны лад жыцця. Плюнуў на іх, узяў пляшку «Сталічнай», купіў аднойчы у краме ў Бастоне, а выпіць няма з кім, пайшоў да суседа. «Давай, Бобі, – кажу, – за

22 Белагорскія могілкі ў Старым Быхаве.

знаёмства, расціснем на дваіх». У яго якраз легкавік забарахліў, сыстэма запальвання не працавала. «Гэта, – я кажу, – у момант адрамантую». Толькі да машыны, а тоўсты мурын Бобі стаіць як сцяна, лапоча, што ў іх страхавая кампанія наложыць страшэны штраф, калі сам пачнеш рамантаваць свой, уяўляеш, Яфім, свой уласны легкавік. Так і не выпілі мы з ім бутэльку. Прыйшла кабета ягоная, апранутая абы-як, чорнае страхоцце, у мяне б на яе не ўстаў, я, канечне, усміхаюся на дзве шчакі, фраў-мадам, прошу, пані Кэтрын, і ручку ёй цалаваць. Абое як вылупяць на мяне зенкі, як заравуць: «Сэксуальны маньяк!» Выклікалі паліцыю, тыя мяне скруцілі, кайданкі на рукі і ў іхні пастарунак павезлі. Добра, што знаёмы кангрэсмен Майкл заступіўся, унёс грашовы залог, то адпусцілі дадому. Цяпер як суседзі выходзяць на праменад, то нагінаюся да іх дупай, няхай глядзяць. У выхадныя амерыканцы едуць на ўік-энд і жруць без меры. Ідзеш па вуліцы, а яны крочаць з поўным пафігізмам да іншых, з пакетаў бяруць жрачку і ўсе спрэс жуюць, жуюць і жуюць, як тыя каровы. Некаторыя ў Нью-Ёрку, сам бачыў, ужо і хадзіць не могуць. Да легкавіка іх падвозяць на электракары, потым перагружаюць у джып. Людзі-бройлеры.

Хочаш прыехаць? Прыязджай, дружа, сустрэну як роднага брата. Калі трэба, я цябе і на працу ўладкую, дзе мовы не трэба ведаць. Я тут зараз у іх у пашане, памочнік іхняга кангрэсмена, без мяне ён як без рук і без галавы. Зараз хочам штурмаваць крэсла губернатара. Наогул, Яфім, яны ўсе нейкія наіўныя, зацыклены на грашах, нічога не ведаюць, ледзь ім што-небудзь расчыніш у сусветным маштабе, то лыпаюць вачыма, нібы толькі што на свет вылупіліся. Мне яны нечым моцна нагадваюць вар'ятаў у псіхіятрычнай лякарні, дзе я пракантаваўся у свой час цэлы месяц.

Хто? Іхні прэзідэнт? Тыповы вар'ят-містык. «Я, – кажа, – не ведаю як, але вырашу ўсе нашы праблемы – і навяду парадак». Я чуць не зваліўся з крэсла ад смеху.

Што? Магутная дзяржава? Адбяры ў іх друкарскі станок па друкаванні даляраў – і ўся іхняя моц праз год

рассыплецца ў пыл. Не дадуць зарплату вайскоўцам, паліцыянтам, спецназу, марскім пехацінцам, фээсбэшнікам – і ўсё, краіна пойдзе ў разнос.

А іхняя хвалёная свабода? Куды ні сунься – усюды забароны. Туды не хадзі, гэта не рабі, тое не гавары, курэй не трымай, тут не стой. Пеўнік мой іх раніцой будзіць, то яны цяпер мяне ў суд валакуць. І выпіць няма з кім. Свабода толькі ў тым, каб шмат працаваць, а потым жэрці без меры. А калі жыць? Вось у нас – гэта была свабода! Хочаш працуй, хочаш рыбу лаві, ці на паляванне хадзі, ці вершы пішы, ці проста думай. І ўсім хапала і на чарку, і на шкварку. І пагаварыць было з кім. А ў іх тое самае рабства, прыгоннае права, працуюць за паперкі, а жыць калі? А рэзервацыі? У кожным нават самым шыкоўным горадзе ёсць іхнія кварталы, дзе жыве вялізарная колькасць бедакоў, бандытаў, наркаманаў, бамжоў, мурынаў, лацінасаў. Туды нават іхняя паліцыя не совае свой нос.

Што? Доўга гаворым? Дорага? Добра, будзеш ехаць – вазьмі хоць пару пляшак нашага каньяку «Версаль» ці «Прэм'ера», гуркоў салёных, хлеба нарачанскага і радзівілаўскага, сала, сала не забудзься, кількі ў таматным соусе, журавін і хрэну вазьмі. За ўсё заплачу ў двайным памеры. У іх тут усё ёсць, між намі – натуральная хімія, жыць будзеш, але вочы юрам не загарацца. Бывай, дружа.

Міхась паклаў слухаўку і моцна зажурыўся. Яму хацелася зараз на Дняпроўскія разлогі, на паплавы, дзе трава ўздымаецца ў рост чалавека, а ўвечары чародкамі са свістам імкліва ляцяць над галавой дзікія качкі-крыжанкі на Маславічы, і мірыяды зорак у небе сведчаць аб вечнасці і бясконцасці...

## VIII

Як сапраўдны ліцвін, да свядомасці якога рана ці позна ўздымаецца кожны разумны беларус, Міша Швед быў ашчадным чалавекам. Акрамя фінансавай дапамогі, якую яму, як дысідэнту, што атрымаў палітычны прытулак у ЗША, выплачвала тутэйшая дзяржава, ён яшчэ працаваў

вартавым, газонакасільшчыкам, паркоўшчыкам. Потым ён крыху зарабіў на артыкулах і інтэрв'ю, на выбарчай кампаніі Майкла Стывенсана. За пяць год ён назбіраў і часткова перавёў у Нацыянальны банк РБ на рахункі сына і дачкі добрую суму амерыканскіх даляраў. Сам з жонкай жыў сціпла і ашчадна.

Цяпер ён думаў, дзе б яшчэ ўхапіць грошай, з'ездзіць на Гавайскія выспы – нечакана яго запрасіў туды кангрэсмен Майкл Стывенсан, пакавалерыць там за Жаклін Бобсан, ад якой у яго нават у думках закіпала кроў, і трахнуць гэтую палымяную мулатку на гарачым пяску пад начным зорным небам на беразе Ціхага акіяна, пад шолах акіянскіх хваль...

Жыццё ў Амерыцы давала падставы спраўдзіць мноства магчымасцяў, патрэбны былі толькі грошы, здароўе, працавітасць, розум, жаданне, прафесіяналізм...

Між тым у ягоным жыцці зараз надышоў нейкі незразумелы перапынак. Працаваць газонакасільшчыкам і вартаўнікам ён перастаў, апошні месяц жыў толькі на дзяржаўную дапамогу, выбарчая кампанія скончылася, інтэрв'ю і артыкулы не заказвалі. Яму было ўжо 55 год, і ён пачаў разумець, што стаць паўнавартасным жыхаром амерыканскай краіны не ўдасца, ніхто яго не пусціць у эліту амерыканскага грамадства. Застаецца шмат працаваць і потым шмат спажываць, гэта значыць зрабіцца попкам, тым самым зацыкленым папугаем.

Неяк аднойчы, прыйшоўшы з крамы, напалоханая і засмучаная жонка паведаміла Міхасю, што іхні сусед, мажны мурын Бобі, прапанаваў ёй выезд з ім на адпачынак на Фіджы.

Уз'юшаны Міхась Швед захадзіў па пакоі, яму хацелася набіць морду суседу Бобі, заўсёды спацеламу мурыну-таўстуну, размалаціць ягоны легкавік і катэдж.

– Казаў, што возьме мяне на высокааплатную працу. Што муж у мяне неадэкват, і хоць цябе і падтрымлівае кангрэсмен Майкл Стывенсан, але ў іхнім асяроддзі выказванні Майкла Шведа лічаць шкоднымі, і рана ці позна цябе зацкуюць ці змесцяць у вар'ятню. І тады мяне чакае лёс бедакоў, перасяленне ў бядняцкія кварталы, сэксу-

альнае рабства. Некаторыя тутэйшыя бандыты, мурыны і лацінасы, любяць сталых дагледжаных жанчын з белым колерам скуры з прыстойных сем'яў, каб потым з імі спраўджваць свае вар'яцкія садысцкія і сэксуальныя мроі. Што мне патрэбен «сябар», які абароніць мяне. Міша, мне стала страшна.

– І што ты яму адказала?

– Я павярнулася і пайшла дадому. Мне страшна! Міша, ты яшчэ любіш мяне? Паедзем дадому.

Міхась замаркочана і нават разгублена падышоў да вакна, узіраючыся ў нязвыклыя і цяпер варожыя краявіды. Вуліца была высвечана надзіва моцнымі ліхтарамі, якія ўчора памянялі насупраць ягонага дома і катэджа мурына Бобі. Нібы збіраліся здымаць тэлефільм.

Ён раптам пачаў разумець, што гэты чужы лад жыцця разбурыць і адбярэ ў яго самае каштоўнае: ягоную сям'ю. Змагацца з усім драпежным і хцівым тутэйшым грамадствам, дзе ўсё купляецца і ўсё прадаецца, дзе існуе іхні амерыканскі суд для абароны іхняга амерыканскага жыцця, не хопіць аніякіх ягоных сіл. Галоўным зараз было для яго захаваць тое, што ён меў, захаваць набытае. Рэвалюцыянерамі могуць быць толькі маладыя, тыя, хто яшчэ нічога не здабыў і нічога не мае, – яны могуць рызыкаваць.

Так, так. Зараз амерыканскае грамадства ставіць яго перад выбарам: памяняць сваю жонку, яе любоў і ўсё, што ён з ёй нажылі: дзяцей, унукаў, – «на чорную дупу Жаклін Бобсан з Эй-бі-сі, з дзіўным аб'ёмам спакуслівых сцёгнаў, з пякучым позіркам афрыканскіх вачэй...»

– Можа, паедзем спачатку на Гавайскія выспы, мяне запрашае кангрэсмен Майкл Стывенсан, ці зразу рушым дадому?

Жонка Алена запляскала ў далоні.

– Дадому. Толькі дадому.

– Але назаўсёды, Алёна?!

– Назаўсёды, Міша! Дадому, назаўсёды!

Ён наіўна хацеў паспрабаваць атрымаць тыя грошы, што павіны былі пайсці на адпачынак на Гавайскіх выспах. Таму ўвечары патэлефанаваў Майклу Стывенсану.

– Прывітанне, Майкл. Хачу абмеркаваць некаторыя пытанні. Мне тэрмінова патрэбна ў Еўропу па сямейных абставінах. Ці магчыма з вашага боку нейкая грашовая дапамога, у тым ліку і за сродкі, якія павінны быць патрачаны на маю паездку на Гаваі?

– На жаль, Майкл, гэтую паслугу робіць тэлеканал у рамках запланаванага тэлешоу. Таму аніякіх наяўных грошай. Вам робіцца такая паслуга як палітычнаму дысідэнту, што атрымаў палітычны прытулак, удала ўвайшоў у грамадскае і палітычнае жыццё Амерыкі. На Гаваі запрошаны тэлевядоўцы іншых тэлеканалаў, дарэчы, і карэспандэнтка Эй-бі-сі Жаклін Бобсан... – з прыхаваным падтэкстам закончыў размову кангрэсмен.

Уражаны Міхал Швед паклаў слухаўку. Вось так! Яны хочуць зрабіць з ягонага жыцця тэлешоу, таму і памянялі ліхтары насупраць дома. Хочуць паказаць, як ён, учарашні камуняка, будзе заляцацца да мулаткі Жаклін, угаворваць яе, соваць ёй грошы, потым яны таемна здымуць іх голых у інтымных абдымках на гарачым пяску на беразе акіяна... А затым ягоную жонку, белую жанчыну, у абдымках потнага таўстуна-мурына Бобі з чорнай дупай наверсе. Шоу! І задаволеныя, сытыя амерыканцы, спажываючы папкорн, будуць смяяцца з яго, наіўнага, даверлівага, лухтаватага камунякі, чалавека трэцяга гатунку, што захацеў памяняць уласнае жыццё сокала на жыццё прыкормленага чыюка.

Аднекуль з глыбінь ягонага несвядомага ўзняліся і загучалі ў ім палымяныя словы некалі прачытанай ім у юнацтве кніжкі. «Рабоча-сялянская краіна любіць сваю Чырвоную Армію. Яна ганарыцца ёю. Яна патрабуе, каб на сцягу яе не было ніводнай плямы»[23].

– Ніводнай плямы, – прашаптаў Міша Швед. Ужо даўно не было ніякай Чырвонай Арміі, і таму не было на каго духоўна абаперціся, каб абараніць уласную годнасць, і цяпер можна было спадзявацца толькі на самога сябе...

...Трэба было ехаць у амбасаду Рэспублікі Беларусь, каб высветліць магчымасць вяртання на Радзіму, і Міхася

23 «Як гартавалася сталь», Мікалай Астроўскі.

Шведа моцна непакоіла, што гэта будзе не вельмі простая справа.

Збіраючыся адʼехаць дадому, на Бацькаўшчыну, яны пайшлі ў царкву. Лена Швед малілася, потым ставіла свечкі за памерлых і за жывых сваякоў. Міхась доўга шаптаў «Ойча наш», ён больш не ведаў аніякіх іншых малітваў, пакорліва каяўся за свае эратычныя, спакуслівыя жаданні і мроі, шчыра прасіў Бога дапамагчы ім вярнуцца на Айчыну...

10 кастрычніка 2012 г.
г. Менск

## Скрынка Пандоры

*Найбольш рэвалюцыйным ты-*
*пам асобы з'яўляецца маргінал:*
*дзіўны неўладкаваны чалавек,*
*што жыве на ўзбочыне грамадства,*
*таленавіты ізувер, фанатык,*
*паэт, псіхапат, аўтсайдар».*

Эдуард Лімонаў, «Другая Расія»

### I

**Лэнглі. Штат Вірджынія. ЗША.**

У сваім габінеце дырэктар ЦРУ – доктар навук, філосаф, сацыёлаг, псіхолаг і палітолаг Джордан Форас – пытаўся ў палкоўніка выведкі Умберта Сальвіні, што стаяў у тарцы стала і пільна пазіраў на шэфа.

– Што чутна па нашай праблематыцы ў свеце? – Джордан быў нечым занепакоены, аб чым сведчыла ягонае варушэнне чорнымі густымі бровамі, што навіслі над вачыма, ад чаго ягоны воблік крумкача набыў яшчэ больш злавесны выгляд. – Хто па дадзенай тэматыцы лідзіруе ў свеце?

– «Інтэлект»[24] звярнуў увагу на еўрапейскага псіхіятра Агафона Табурэтава з Пячэрска ў Магілёве, Рэспубліка Беларусь. Жоўты ўзровень пагрозы. Сэр.

На смуглявым твары Умберта Сальвіні праглядала пачцівасць, спраўнасць і пільная ўвага прафесіянальнага разведчыка.

Джордан Форас хутка ўзняўся з-за стала і падышоў да вялізнай электронай мапы на сцяне, застаўленай маленькімі і сярэдняй велічыны рознакаляровым сцяжкамі, кінуў востры позірк на невялічкі жоўты сцяжок у цэнтры Еўропы з надпісам «Pjachersk, Magilev, RB».

24 «Інтэлект» – у Інтэрнэце прамільгнула звестка, што ангельскія навукоўцы стварылі першую электроную версію штучнага інтэлекта.

– Пячэрск? Магілёў? Табурэтаў Агафон? Якія поспехі ў яго?

– Ён звolены ў сувязі з сыходам на пенсію. Сэр.

– Як звolены? Хто дазволіў? Адзіны чалавек у свеце, які нешта знайшоў, дакрануўся да ісціны, і раптам яму перакрылі кісларод.

– Па стане здароўя і па выслузе гадоў. Яму ўжо 70 год.

– Не смяшыце... як гэта ў іх гавораць – галёшы?..

– Пантофлі. Сэр.

– Так, не смяшыце мае пантофлі! У Расеі нейкі дзед нешта там знайшоў? Гэта шырма, за якой нехта хаваецца. У Расеі самыя геніяльныя адкрыцці заўсёды клаліся і кладуцца пад сукно ў доўгую шуфляду. А для нас кожнае навуковае вынаходства мае важнейшае значэнне.

– Гэта не Расія. Сэр. Суверэнная і незалежная дзяржава Беларусь. Сэр.

– Якое гэта мае значэнне? Тэрмінова вельмі далікатна, настойліва панюхаць і памацаць, як і чым займаецца вучоны.

– Ён вёў унікальныя даследаванні па тэорыі прадвызначанасці ў свеце псіхалогіі, псіхіятрыі і праблемах аўтызму, а таксама з матэматычнымі выкладкамі, вельмі цікавымі і прадуктыўнымі. Ягоны даклад па пытаннях «Мы жывём у змадуляваным Свеце» сведчыць, што ён знаходзіцца на некалькі ўзроўняў вышэй нашых даследчыкаў.

– Табурэтаў? Чым ён яшчэ займаўся, што любіць, да чаго імкнецца, чым жыве нарэшце? Якім чынам ён абагнаў амерыканскіх навукоўцаў? Усю інфармацыю збярыце і мне на стол!

Палкоўнік Умберта Сальвіні хутка рушыў з габінета шэфа выконваць пастаўленую задачу. Сам жа Джордан Форас напружана асэнсоўваў атрыманую інфармацыю. «Інтэлект» – гэты вялікі камп'ютар з узроўнем штучнага розуму – ніколі не памыляўся. У свой час ён дазволіў напрацаваць і выкарыстаць найбольш эфектыўныя, беспамылковыя крокі і алгарытмы па разбурэнні савецкай камуністычнай імперыі. Потым быў яшчэ шэраг пераможных дзеянняў Злучаных Штатаў, і апошнія дзесяцігоддзі

нічым не сведчылі аб нейкім магчымым узроўні пагрозы для адзінай звышдзяржавы. І тут нейкі дзед-псіхіятр?

## II

Зранку, калі пеўні крычалі трэці раз[25], каля доміка, дзе яшчэ жыў Майкл Швед, прыпыніўся джып, з якога вылез Эдзік Старавойт, той самы вар'ят «Леў Троцкі» з псіхіятрычнай лякарні ў Пячэрску. У белых портках і сіняй джынсавай вятроўцы, з чорнай шкіперскай барадой і пасівелай галавой, хударлявы і рухомы, ён ішоў па сцежцы між квітучых паабапал настурцый, астр і руж.

Швед, убачыўшы яго, здзівіўся, але не вельмі, яго больш зацікавіла, як Старавойт знайшоў ягоны дом яшчэ цёмным ранкам у Бостане.

– Проста, Эдґар, – узіраючыся ў Майкла Шведа сінімі маладымі вачыма, адказаў Эдвард Старавойт. Ад яго ішла моцная пазітыўная хваля энергіі. У сутонні світанку яны стаялі на панадворку з выкашанай зялёнай травой перад домікам, з невялічкай капой свежага сена, маленькім садзікам з дрэвамі, абсыпанымі чырвонымі яблыкамі і барвянымі грушамі. Чароўны пах спелай садавіны вяртаў у далёкае туманнае дзяцінства.

– Учуў крык пеўня. О! Гэта толькі наш тутэйшы ліцвін[26] будзе трымаць у сваім катэджы курак з пеўнем. А раней убачыў цябе па тэліку. Малайчына! Таленавіты чалавек нідзе не прападзе.

З неба кропаў дробны дожджык, і таму, прывітаўшыся і абняўшыся, яны рушылі ў дом.

Майклу спадабалася, што Эдвард назваў яго ліцвінам і гэтым узняў ягоны ўзровень цяперашняй пахіснуўшайся самаадзнакі.

– Які катэдж, Леў Давыдавіч? Так, домік з кардону і фанеры. Знешні выгляд о'кей, а калупнеш знутры – труха.

Майкл Швед пазнаёміў жонку з сябрам.

---

25 Пеўні раніцой крычаць трэці раз на самым світанку, калі амаль развіднелася.

26 Ліцвіны – да 1840 года назва жыхароў цяперашней Беларусі.

– Пазнаёмся, Алёна, з Эдвардам Старавойтам, маім лепшым сябрам у жыцці, адным з самых выбітных людзей сучаснасці на зямной кулі.

Эдвард Старавойт трымаў сябе з гаспадыняй падчас знаёмства ветліва і далікатна, глядзеў уважліва ў ясны і прыгожы твар жанчыны. Ён нібы ўсмоктваў у сябе ўсю духоўную сутнасць чалавека, і таму Алёна Швед адчула няёмкасць, абмежавалася звычайным рытулам знаёмстваў і потым пайшла на кухню гатаваць каву.

Госць глядзеў ёй услед: хто яна? Распаўсюджаны тыпаж «жанчыны-канапэ», «сяржанта»? Ці адна з тых рэдкіх жанчын, што палярызуе мужчыну, памагае яму ўсвядоміць і зразумець жорсткія законы рэчаіснасці, знайсці вабнае месца ў жыцці, узняцца на вышыню над шчыльным і цесным чалавечым электаратам, дазволіць адшукаць уласнае «Я» і спраўдзіць свой лёс?

– Хачу дадому, Эдзя, – Майкл Швед выкладаў свае думкі і пачуцці, што назбіраліся ў яго душы. – На паплавы, на Дняпро, да зорнага неба. Хачу памерці дома і пахавацца на Белай Гары.

Цяпер госць пільна ўглядаўся ў твар Майкла Шведа. За прабеглыя гады Майкл узмужаў, сівізна атачыла яго-ныя скроні, позірк сініх вачэй быў ясны, у іх прысутнічала цвёрдасць і пераканансць, але ўжо адсутнічала вера ў сваю прадвызначанасць.

З упэўненасцю мысляра, які ўсё асэнсаваў і авалодаў вялікім масівам ведаў, недасяжных суразмоўцу, Эдвард Старавойт ураўнаважана зазначыў:

– Хочаш з’ехаць дадому, каб памерці? Не спяшайся. Спачатку трэба вызначыць, дзеля якой мэты лёс закінуў нас у Штаты. А памерці мы заўсёды паспеем. Ты што думаеш, мы выпадкова трапілі ў вар’ятню, а затым апынуліся ў ЗША? На нас ускладзена адказная роля, мы тая самая закваска, што пераменіць сучаснасць.

Гаспадар дома прапанаваў пайсці на двор, зірнуць на усход сонца, а потым у гаражы прадоўжыць гаворку. Прыхапіўшы з сабой апошнюю пляшку пяцізоркавага каньяку,

што засталася ад старых запасаў, Майкл Швед і Эдвард Старавойт рушылі на двор.

Яны прыпыніліся, назіраючы, як над небакраем, з акіяна непахісна і валадарна ўздымалася сонца, чырвоны дыск завіс над прасторай Атлантыкі і высвеціў увесь бачны абсяг воднай прасторы. Пах яблыневага саду і свежага сена перамешваўся з пахам акіяна. Абодва моўчкі ўзіраліся на ўрачысты момант: прыход і перамогу Святла. Яны добра разумелі сэнс гэтай падзеі, бо нарадзіліся не ў штучным гарадскім асяроддзі, а выраслі пад зорным небам на паплавах Дняпра і Беразіны.

Працягваючы размову, Майкл Швед зазначыў:

– Канечне, Эдвард, мы тут часова. Нягледзячы на ўсю тутэйшую прыгажосць, на тэмп, імклівасць тутэйшага быцця, на тое, што тут можна спраўдзіцца, пражыць некалькі паўнавартасных жыццяў. – Ён шчыра прамаўляў назапашаныя за апошнія гады думкі. – Але гэта для нас запозна. Калі б мы былі маладыя, тады так, тады ў нас быў бы шанец. Зараз у нас няма шанцаў, нават калі мы і здолеем зарабіць мільён. Тут мы толькі госці.

– Чаму?

– Таму што «самы лепшы дзень» застаўся там, дзе мы нарадзіліся, дзе прайшло юнацтва, адбылося каханне, нарадзіліся дзеці, дзе мы жылі сучаснасцю, дзе некалі мы былі вядучымі. Тут нам адведзена роля спажыўцоў. Шмат працаваць, шмат есці, а потым шмат какаць... І ўсё!

– Я таксама, Майкл, не хачу быць тут, у іх, едаком-бройлерам. Грошы ў іх можна зарабіць, але я хачу скарыстаць свае назапашаныя веды. Прымусіць амерыканцаў заўважыць нас, прызнаць, што мы існуем. Больш таго – мы ў нечым дасягнулі, зразумелі, даведаліся і здзейсніліся больш, чым яны.

– Эдвард, мы маглі б ім утварыць рэвалюцыю. У іх тут супярэчнасцяў – на ўзроўні хмарачосаў. Амерыканцы – нацыя сінтэтычная. Трымаюцца за кошт манаполіі ў вытворчасці, сваіх некаторых ноу-хау, назапасілі вялікі фінансавы, навуковы, эканамічны патэнцыял. Між тым

«дэмакратыя», «свабода», «правы чалавека» – гэта часовыя прыярытэты, зрабіліся вельмі ўшчэрбнымі паняткамі, не могуць быць філасофскім падмуркам для народаў, нават электаратаў і мас. Усё да першага сусветнага крызісу.

Старавойт уважліва разглядаў свайго адверсара, аб нечым думаў, потым нечакана запярэчыў:

– Ты, як той рускі бальшавік, Міша, успрымаеш сучасную рэчаіснасць у чорна-белых фарбах. Звярні ўвагу на інтэлект амерыканцаў, на іхнюю працаздольнасць, на ўменне ставіць рэальныя, вялікія мэты і дасягаць іх. Мы ў параўнанні з імі і побач не стаялі. А шаманізм, балбатунізм і амбітнасць нашых «братоў» і суседзяў не проста ўражваюць, яны руйнуюць…

– Ты што, Эдзя, думаеш, што я зараз рассупонюся перад імі? Вазьму іхнюю праўду і буду абараняць яе, стану іх шасцёркай? Мне іхняя праўда непатрэбна. У мяне ёсць свая! – Стомлены ад спрэчкі Міхась Швед рашуча зацвердзіў: – Эдзя, я хачу на паплавы… Няхай амерыканцы сваю рэвалюцыю робяць самі.

## III

Потым, ужо ў гаражы, куды яны нарэшце зайшлі, каб выпіць і пагаварыць, Міша Швед расказаў Эдзіку і пра «дупу Жаклін Бобсан». Той рагатаў, задаволена ляпаў яго па плячы і затым зазначыў:

– Малайчына, рухаўся ў правільным накірунку, шкада, што кінуў на паўдарозе. Запомні, бажбан[27], кожную разумную і пазітыўную ўласную ідэю трэба даводзіць да канца. Тады ты будзеш заўсёды мець вынік.

Эдвард Старавойт у маладосці, калі адбываў службу ў танкавых войсках, хутка ўсвядоміў, што людства дзеліцца на яцвягаў-ліцвінаў (беларусаў) і ўсіх астатніх, якіх ён абазначыў для сябе як «бажбаноў».

Цяпер ён з асалодай пакруціў галавой і дадаў:

27 Бажбан — (наватвор) вадкападобныя істоты, «бажэственныя збаны». У кантэксце: істота, што не авалодала першасным неабходным масівам ведаў; абмежаваны, прымітыўны, наіўны, лухтаваты чалавек, што блытаецца ў жыцці і мае патрэбу ў вядучым, лідары, кормчым.

– Бачыў я Жаклін Бобсан па тэліку. Шыкоўная цёлка, нашы, на жаль, знюндзіліся ад гарэлкі, цыгарэт і чужаземных дыет, скіраваных на змяншэнне нараджальнасці ў краінах трэцяга свету[28]. А з Жаклін на «беразе акіяна, ды пад шолах акіянскіх хваль…» Ты, дружа, рамантык, сапраўдны рамантык, хоць і вар'ят!

– Чаму вар'ят?

– Ты што, Майкл, не зразумеў да сённяшняга часу, што ты маргінал? Вельмі «ранімы, схільны да ваганняў, некалі адсутнічала ўнутраная ўпэўненасць у істыннасці пачуццяў і правільнасці сваіх меркаванняў і ўчынкаў, нерашучы ў выбары лініі паводзін»[29]… Было такое?

– Было ў маладосці. Але прабач, тыя, хто быў такі ўпэўнены, колькі яны дроў наламалі? Колькі людзей загубілі і ў нядаўняй гісторыі, і ў цяперашнім часе? Упэўненыя?! Ёсць сытуацыі, дзе няма аніякай стоадсоткавай нават тэарэтычнай ісціны. Вазьмі Жаклін. З аднаго боку – прыцяжэнне да дзіўнай жанчыны незнаёмай, чужой расы, а з другога боку – «Не займайся распустай». Дзе праўда?

– Жаданне жанчыны – закон для мужчыны! Гэта і ёсць праўда. Не крыўдуй. Усе вялікія людзі – псіхапаты і шызафрэнікі, пачынаючы з Дастаеўскага і заканчваючы Майклам Горбі, гэтым тыповым «афектыўна-паранаяльным псіхапатам-рэфарматарам». Я, дружа, у Пячэрску прабыў шмат год, пасябраваў з Табурэтавым, перачытаў усю літаратуру па псіхіятрыі, выбудаваў уласнае сыстэмнае гледзішча і рушыў значна далей як нашых, так і тутэйшых «Агафонаў Лаўрэнавічаў». Нават потым замяняў Табурэтава іншы раз на абходах, прамываў псіхіятрам на канферэнцыях і кансіліумах іхнія прафесіянальна зацыкленыя глузды… Прафесіяналы ведаюць вар'ятаў звонку, я ж, як вар'ят, вывучаў нас знутры…

– Як так? – здзівіўся Майкл Швед. Ён адвярнуўся на рып дзвярэй, увайшла ягоная жонка, несучы кавaварку з печывам і філіжанкамі.

28 «Краінам трэцяга свету неабходна знізіць узровень нараджальнасці». «Пяць нявырашаных праблем навукі».
29 Справачнік практычнага ўрача. «Псіхічныя хваробы».

– Добры дзень, Агафон Лаўрэнавіч. Вы таксама эвакуіраваліся ў Амерыку? А дзе Эдзік Старавойт?

Уражаны Майкл Швед павярнуўся да Старавойта і ўбачыў Агафона Лаўрэнавіча Табурэтава. Той, пасівелы, з чорнай барадой, апрануты ў сінюю джынсавую вятроўку, стаяў побач і ветліва вітаўся сваім характэрным рэзкім голасам і зразу адказаў на пытанне жанчыны:

– Эдзік пайшоў да джыпа за салам. Вось Міша моцна захацеў сальца, нашага, беларускага.

– Я зайшла, каб вам прапанаваць пасядзець у гасцёўні ці на кухні. Я ўжо і стол накрыла.

– Дзякуй, шаноўная спадарыня Лена. Праз дзесяць хвілін мы будзем у вас. Нам захацелася крышку ўспомніць сваю маладосць, крышку выпіць у гаражы, – ізноў ветліва адказаў Табурэтаў.

– Міша, ён жа не п’е. Ён толькі больш гаворыць пра пітво. Яму алкаголь шкодзіць.

– Мы гэта ўлічым, спадарыня Лена, выпіваць больш не будзем і праз дзесяць хвілін прыйдзем. А за каву дзякуй.

Лена Швед рушыла да дзвярэй, разгублены гаспадар дома затарможана ўзіраўся на жонку, покуль яна не зачыніла за сабой дзверкі гаража. Ачуняў ён толькі ад бадзёрага голаса госця:

– Напэўна, Майкл, няма сэнсу распачынаць пляшку з каньяком. Тлуміць глузды алкагалем. Давай лепш вып’ем кавы. – Задаволены ад створанага моцнага ўражання, Эдвард Старавойт разліваў гарачую, духмяную каву па філіжанках, дадаў у сваю вяршкоў і цукру. Потым прамовіў як ні ў чым не бывала:

– Не ведаю, як ты, а я люблю гарачую каву з вяршкамі ці з малаком.

Моцна здзіўлены і нават напалоханы Майкл Швед запытаўся хрыплым голасам:

– Слухай, Леў Давыдавіч, як гэта ты ператварыўся ў Табурэтава? Гіпноз ці сапраўды стаў Агафонам Лаўрэнавічам?

– Пі каву, Міша. Двума словамі не патлумачыш тое, да чаго я ішоў амаль дзесяць год.

Яны пілі каву, і Майкл Швед уважліва разглядаў сябра, яго моцную шыю і пасівелую магутную галаву мысляра, ягоны жывы, ясны і разумны твар выбітнай асобы дзяржаўнага ўзроўню. Ён уявіў сабе ягонае шматгоддзе знаходжання ў вар'ятні і скалануўся ад жаху. Звычайнаму чалавеку пражыць такую колькасць год там немагчыма, каб не стаць ужо сапраўдным вар'ятам. Адзін Аляксандар Македонскі чаго быў варты.

Эдзік Старавойт быў засяроджаны, нешта ўважліва асэнсоўваў, а потым, паставіўшы філіжанку на стол, адказаў на ягоныя неагучаныя думкі:

– Аляксандар Македонскі і Санітар – гэта імітатары, яны цябе знарок палохалі, каб ты потым да іх не чапляўся. Яны так усіх новенькіх сустракалі. А я чытаў кніжкі, вывучаў псіхіятрыю і псіхалогію суб'екта, авалодаў вялікім абшарам ведаў і зрабіў такія адкрыцці, што сусветнай навуцы яшчэ трэба трыццаць ці пяцьдзясят год торыць гэтую сцежку. Пры ўмове, што не заблудзяць.

Эдвард нечакана весела выказаў думку, у якой гучаў жарт вольнага, не абцяжаранага клопатамі штодзённасці чалавека:

– Можа, адправіць тваю жонку дадому, у Еўропу, а самому застацца на нейкі час у Канадзе, у Таронта? Паспрабуем спраўдзіць з табой адну грашовую справу. Так сказаць, праверым амерыканцаў на моц інтэлекту, шырыню зашоранасці, глыбіню дагматызму і артадаксальнасць.

Ён казаў, і ягоны позірк вывучаў інтэр'ер гаража. У глыбіні стаяў блакітны форд, з аднаго боку цягнуліся драўляныя стэлажы з рознымі дробнымі і сярэдніх памераў дэталямі легкавіка. Збоку, каля дзвярэй, прытуліўся столік і два стулікі. Цяпер на гэтым століку стаяла кававарка, філіжанкі і талерка з цукеркамі і печывам. Утульны гараж выконваў ролю габінета, дзе можна было пасядзець у роздуме аб уласных турботах і клопатах, выпіць грамульку віскі ці каньяку, схавацца ад непатрэбнай і чужой інфармацыі. Перад столікам у сцяне было зроблена круглае

вакно кшталту вялікага ілюмінатара, праз якое можна было пазіраць у той бок, дзе ўгадваўся Атлантычны акіян.

Старавойт перавёў позірк на сябра і мякка, рахмана зазначыў:

– Ты казаў, што прыедзе менеджар Эй-Бі-Сі падпісваць дамову аб удзеле ў тэлешоу, вось я яго і сустрэну, падпішу дамову за цябе і пакуляюся на гарачым пяску Гавайскіх выспаў з Жаклін Бобсан.

– І ўсё? А які мне ў гэтым інтарэс? – па-дзіцячаму крыўдліва запытаўся Майкл.

– Потым, як яны пакажуць па тэлебачанні свой сюжэт, ты падасі ў суд «аб парушэнні правоў чалавека і знявазе гонару асоб Майкла і Алёны Швед тэлекампаніяй іск на 10 млн. даляраў». Любы адэсіт-адвакат за 20–30% з ахвотай возьмецца за гэтую выйгрышную працу. Йес? Майкл!

– Рызыкоўна! І шмат намаганняў, чуць паслізнешся – і ў турму.

– Для мяне аніякай рызыкі. У крайнім выпадку – «вар'ят з Еўропы хацеў кінуць тэлекампанію...» Ну і што? Амерыканцы паважаюць тых, хто рызыкуе. У горшым выпадку вярнуся назад, дадому.

Майкла Шведа насцярожыла і збянтэжыла канкрэтыка дзеяння, што магло стварыць у будучыні розныя цяжкасці і непрыемнасці, якіх ён цяпер пазбягаў. Разам з тым яго зацікавіла агульная ідэя, бо, будучы ідэалістам, ён імкнуўся да абстрактных абагульненняў. Таму ён выклаў свае глыбока схаваныя ў свядомасці пачуцці і думкі:

– Калісьці я верыў, што Я незвычайны, унікальны, таленавіты... Але аднойчы Я зразумеў, што я – звычайны, такі, як усе, нават горшы, бо не такі адэкватны і прагматычны, занадта ранімы ідэаліст, які прамінуў «свой лепшы ў жыцці час».

– І тады Ты пачаў шукаць адказ на пытанне «Хто вінаваты?» – запытаў, пяшчотна ўсміхаючыся сябру, Эдвард Старавойт.

– Так, Эдвард. Вельмі хутка я зразумеў, што ўладары жыцця – махляры і ашуканцы.

– Майкл, без іх, «махляроў і ашуканцаў», чалавецтва абрынецца ў прымітыўнае жыццё першабытнага грамадства ці ў хаос.

– Эдвард, гэта я хутка зразумеў, што біямаса сама няздольна палірызавацца. Таму не ставіў мэтай адпомсціць уладарам, я проста хацеў, як і ты, звярнуць увагу на сваю асобу.

– Майкл, у адзіночку ты нічога не дасягнеш! Толькі Мы можам абазначыць сябе, звярнуць увагу сучаснасці на нас, «вар'ятаў», засведчыць, што Мы – магутная сіла. Бо гаспадары жыцця прызнаюць толькі адзін аргумент у любых стасунках – сілу!

Эдвард Старавойт перавёў гаворку ад канкрэтыкі дзеянняў да абагульненняў, выказваючы галоўную мэту свайго цяперашняга жыцця:

– Кожны чалавек павінен за пражытыя гады выпрацаваць уласную сыстэму каардынат, калі хоча выжыць, захаваць тэрыторыю і прадоўжыць свой радавод. І першае, што ён павінен усвядоміць, – што ён мужчына! Гаспадар сваёй зямлі-тэрыторыі! Па-другое, што вядзе свой радавод ад яцвягаў і крывічоў, што ён нашчадак ВКЛ і таму ліцвін.

– Цалкам згодзен, Эдвард. Усё астатняе ліцвін-беларус павінен ствараць і будаваць на гэтым крамяным падмурку.

Цэлы дзень сябры пілі каву, снедалі, палуднавалі, ездзілі на джыпе па Бостане, і ўвесь час абменіваліся думкамі, меркаваннямі і набытымі ідэямі.

Увечары Старавойт, паціскаючы руку Майклу на развітанне і ўжо адкрыўшы дзверку бліскучага чорнага джыпа, пазіраючы на сябра жывымі сінімі вачыма, у якіх свяцілася пазітыўнае, глыбокае разуменне сучаснай рэчаіснасці, зазначыў:

– Надышла новая, невядомая гістарычная сучаснасць! Нам трэба зразумець і асэнсаваць гэтую рэальнасць, і тады, магчыма, амаль прабеглае жыццё расквітнее свежымі фарбамі. Гэта і будзе падмуркам, сэнсам нашага існавання. Без Мэты нам аніяк!

Познім вечарам Эдвард Старавойт ад'ехаў ад доміка сябра з напрацаванымі і назапашанымі ідэямі.

IV

**Лэнглі. Штат Вірджынія. ЗША.**

Увечары таго ж дня ў сваім габінеце намеснік дырэктара ЦРУ Джордан Форас ізноў варушыў чорнымі густымі бровамі, што навісалі над вачыма. Ён уважліва слухаў смуглявага Умберта Сальвіні, які ў вайсковай форме палкоўніка марской пяхоты выкладаў даведку аб доктары псіхіятрыі Табурэтаве з Пячэрску.

– Доктар Табурэтаў вядзе раслінае жыццё пенсіянера ў Магілёве. Па нашых звестках ягоны ці то супрацоўнік, ці то паддоследны хворы-вар'ят выехаў у Летуву і знік, выпаў з-пад нашага кантроля.

– Хто такі?

– Эдвард Старавойт, згодна з дыягназам псіхіятраў – з сіндромам «Леў Троцкі». Доктар псіхалагічных навук. Выдатна валодае англійскай і французскай. У свой час напісаў некалькі манаграфій, дзе дакрануўся да шэрагу праблем, якія дагэтуль цікавяць лепшых інтэлектуалаў Еўропы і Кітая. Апошняя манаграфія «Трагедыя і ўзнёсласць ідэалу суб'екта», напісаная пятнаццаць год назад, была надрукавана ў Кітаі, Індыі і Японіі. Дзеля правядзення сваіх навуковых даследаванняў, верагодна, справакаваў аўтарытарны прарасейскі рэжым на сваё змяшчэнне ў вар'ятню. Пасля чаго – дзесяць год поўнага маўчання. Між тым спіс літаратуры, што запрасіў «доктар Табурэтаў» у гэты перыяд, склаў фактычна ўсе фундаментальныя работы па псіхіятрыі і псіхалогіі. Сам Табурэтаў, па нашых дадзеных, англійскай і французскай не валодае. Хаця на навуковым сімпозіуме ў Вільні пяць гадоў назад прачытаў даклад на выдатнай англійскай, які выклікаў фурор у навуковай еўрапейскай супольнасці.

– Відэазапіс даклада захваўся?

– Толькі пісьмовы, сэр.

– Знайсці гэтага Эдварда Троцкага. Кіньце ўсе сілы, падключыце лепшых агентаў. Пашукайце ў Летуве, у немцаў відэазапіс даклада павінен быць. Няхай нашы аналітыкі зробяць аналіз даклада і ягонага візуальнага псіхавобраза. Тэрмінова. Тэкст мне на стол.

Застаўшыся адзін, Джордан Форас запаліў гаванскую цыгару, зацягнуўся і выпусціў доўгі сінявата-шызы струмень дыму. «Гэты дысідэнт «Эдвард Троцкі-Старавойт»… Пры жоўтым узроўні пагрозы можна не інфармаваць покуль што Дзярждэп і Прэзідэнта ЗША. Але трэба ўзяць пад свой жорсткі кантроль».

Інтуіцыя падказвала Джордану Форасу, што нечаканa ўзніклая праблема можа ў хуткім часе стаць галоўным брэндам сучаснасці. «Неабходна захаваць найвышэйшы ўзровень сакрэтнасці, трымаць пад уласным кантролем і не прамінуць момант, каб самому ў патрэбны час інфармаваць Дзярждэп і Прэзідэнта ЗША».

## V

Па дамоўленасці Эдварда і Майкла, праз тыдзень Лена Швед праз Таронта на боінгу прыляцела дадому. Яе сустракалі ў Менскім аэрапорце шчаслівыя сын Алесь і дачка Аня са сваімі дзецьмі. Адтуль яны паехалі ў Менск, у Лошыцу, у купленую для іх і абстаўленую двухпакаёвую кватэру.

У Менску жоўтыя і чырвоныя клёны і ліпы абвяшчалі аб прыходзе восені. У паветры вісела вадзяная імжа, іншы раз сыпаўся дробненькі восеньскі доджджык.

На перакрыжаванні вуліц Сурганава і Максіма Багдановіча, на Бангалоры, апазіцыя, нацыяналісты і бэнээфаўцы, ладзілі мітынг. На гарадскіх восеньскіх кірмашах менчукі закупалі на зіму бульбу, капусту, буракі і моркву. Хутка тутэйшыя патрыёты і нацыяналы пачнуць адзначаць Дзяды, а 7 лістапада камуністы дзвюма суполкамі[30] пойдуць ускладаць кветкі да помніка пралетарскага правадыра на плошчы Незалежнасці.

– Мамуся, а калі бацька прыедзе? – запытаўся сын Алесь з-за стырна блакітнай Мазды. Ён працаваў праграмістам у тутэйшым дзяржаўным холдынгу і, па ўсім было бачна, адчуваў сябе няблага. Рослы, хударлявы, рухомы,

30 «Дзвюма суполкамі» – на той час камуністы падзяліліся на «паслухмяных» і «сталіністаў».

ахайна апрануты, у свой час ён не захацеў эміграваць за мяжу, на Захад, выказаўшы свае меркаванні і думкі, што яму і тут будзе добра, калі працаваць так, як ён працаваў, будучы студэнтам на летніх вакацыях на Алясцы, дзе лавіў рыбу на амерыканскім траўлеры ў Ціхім акіяне каля Алеуцкіх выспаў.

Лена Швед на заднім сядзенні, абдымаючы сваіх маленькіх унукаў, з журбой адказала.

– Хто ж яго ведае. Мабыць, няхутка. У амерыканцаў выбары прэзідэнта, і Міша казаў, што зробіць маленькую бізнэс-справу разам з яшчэ адным апантаным Эдзікам Старавойтам, што прыехаў нядаўна да нас у Бостан, а потым ужо вернецца дадому.

– Мама, мы так рады, што ты нарэшце прыехала дадому. Гэтыя пяць год былі без вас як дзесяць ці дваццаць, хаця і прабеглі імгненна. Як там тата? Няхай вяртаецца хутчэй.

Дачка Аня сядзела спераду і, павярнуўшыся да маці, гаварыла ўзрушана, шчыра, была прыстойна, з густам апранутая, выглядала паўнавартасна і ўпэўнена.

Унукі Алесь, Славамір і Міша сядзелі побач з бабуляй, пазіралі сінімі вачыма на яе з цікавасцю і дзіцячай насцярожанасцю.

## VI

**Лэнглі. Штат Вірджынія. ЗША.**

Джордан Форас за прабеглыя дні паспеў азнаёміцца з манаграфіяй «Трагедыя і ўзнёсласць ідэалу суб'екта» і дакладам «Табурэтава-Старавойта» на канферэнцыі ў Вільні.

У манаграфіі Старавойт абазначыў шляхі і разумовыя накірункі даследаванняў псіхічнай дзейнасці суб'ектаў. У дакладзе ён абмалёўваў ужо больш канкрэтныя напрацоўкі ў разуменні і ўздзеянні на псіхафізіялагічны стан суб'екта. «У гіпнатычным стане, як вядома, інфармацыя ў выглядзе слова цераз свядомасць пранікае ў самыя глы-

біні нашага цела, выклікаючы там чыста матэрыяльныя, цялесныя змены»[31].

У гэтым не было нічога новага, але сама сталёвая логіка навукоўца, трапнасць і ашчаднасць ягоных слоў і выказванняў, недагаворанасць якраз там, дзе ўжо ўзгадваўся новы ўзровень уяўлення, сведчыла аб глыбокім усведамленні навукоўцам псіхалогіі і фізіялогіі суб'екта, нават аб ягонай здольнасці практычнага ўжывання набытых ведаў.

Джордан быў здзіўлены і – дзесьці ў глыбіні свядомасці – напалоханы, добра разбіраючыся ў несвядомым і ролі несвядомага ў рэчаіснасці, ён звыкла распакаваў той таемны ўласны страх і са здзіўленнем углядаўся ў бяздонную прастору магчымасцяў, якія ўзнікалі перад тым, хто авалодаў таемнымі ведамі. Перад ягоным уяўленнем пранесліся малюнкі блізкай будучыні, дзе звышдзяржава імкліва страчвала дамінуючую ролю ў свеце, і ён, імгненна спацелы, абліты едкім потам, вымушана праглынуў некалькі таблетак, што мацавалі арганізм. Потым, яшчэ раз асэнсаваўшы здабытую інфармацыю, задыхлым хрыплым голасам даў загад сакратару:

– Адну моцную каву. Запрасіце Умберта Сальвіні з апошнімі звесткамі.

Дырэктар ЦРУ Джордан Форас уважліва слухаў супрацоўніка ўпраўлення па інфармацыі і навуцы, смуглявага і дасціпнага Умберта Сальвіні, што стрымана інфармаваў шэфа:

– Пяць год таму назад савецкі дысідэнт Майкл Швед разам з жонкай пераехаў у Штаты, атрымаў як дысідэнт амерыканскае грамадзянства. Сядзеў у вар'ятні разам з Эдвардам Старавойтам. Між тым дзеці Шведа засталіся ў Менску.

– Адна з прыкмет, што Майкл Швед – суперагент расейскага ФСБ! – зазначыў Джордан Форас і запытаў: – Ваша меркаванне, Умберт?

– Я лічу, сэр, што «Інтэлект» не памыляецца, таму трэба сабраць усе службы ЦРУ і вызначыць праблему, ідэнтыфікаваць узровень пагрозы.

---

31 «Бляск і трагедыя ідэала», Мікалай Крукоўскі. Ст. 50.

– Абазначыць праблему, сэнс якой нам самім не вельмі зразумелы. Вы ж разумееце, што сабраць увесь кіруючы склад канторы на тэрміновае паседжанне – гэта значыць аб'явіць Вялікі Збор!

Вялікі Збор быў падчас Карыбскага Крызісу, уводу савецкіх войск у Афганістан, пасля Белавежскага пагаднення, падзей 11 верасня 2001 года ў Нью-Ёрку. Калі ў Лэнглі аб'яўлялі Вялікі Збор, аб гэтым адразу аўтаматычна інфармавалі Прэзідэнта ЗША.

Джордан Форас задумліва паліў чарговую цыгару, узіраючыся ў каляровую мапу, застаўленую сцяжкамі, ягоны не пашкоджаны алкаголем інтэлект імкліва і педантычна прапрацоўваў варыянты магчымых дзеянняў. Нарэшце ён прамовіў:

– Падрыхтуйце аналітычную дакладную з фактамі і азнаёмце ўсіх загадчыкаў аддзелаў нашага карпаратыву. Таксама ад майго імя запрасіце ўсіх кіраўнікоў адзелаў на тэрміновае паседжанне на 17.10. Мы павінны праінфармаваць супрацоўнікаў аб меркаванні «Інтэлекта». Там, на паседжанні, і вырашым аб неабходнасці Вялікага Збору.

## VII

**Гавайскія выспы.**

Загарэлы «Майкл Швед» з кранутай сівізной галавой і маладымі сінімі вачыма ішоў праз залю да Жаклін, каб запрасіць яе на танец. Густоўна апрануты ў белыя штаны і чорную кашулю, стрункі, рухавы і аднačасова мажны, ягоны твар еўрапейца, ліцвіна-арыйца, быў спакойным і мужным, але прысутныя нечакана адчулі ў ім вялікую ўзнёсласць. Гэтая ўзнёсласць была такой моцнай, што ўпэўненыя, працерабіўшыя сабе вабнае месца ў жыцці тутэйшыя амерыканскія мужчыны і жанчыны змоўклі. Узрушанасць мацнела, ператваралася з буры ў цунамі, сакрушальны ўраган, што змятаў на сваім шляху ўсе перашкоды...

«Майкл Швед» – загарэлы дамінант – крочыў з тым паўнавартасным выглядам марака Паўночнага флоту, што

заўсёды трымае сябе як сапраўдны мужчына і якога ён некалі бачыў у Менску, на Камароўцы, падчас дня ВМФ. І вось цяпер з выглядам таго мужнага марака ён набліжаўся да Жаклін праз усю залу. Мясцовыя амерыканскія дамінанты, як каляровыя, так і з белым колерам скуры, – кінатэлерэжысёры, прадзюсары, мастакі-пастаноўшчыкі, дырэктары тэлестудый, сцэнарысты, выбітныя акторы і тэлевядучыя, тэлеаглядальнікі і проста ўплывовыя амерыканцы з грашыма, – спачатку з цікавасцю, затым незадаволена назіралі за нечакана ўпэўненым і дамінуючым чужаком. Упэўненасць дазваляе дамінаваць, між тым мясцовыя, як каляровыя, так і белыя, суб’екты самі прывыклі ўсюды панаваць і не збіраліся развітвацца з гэткім станам рэчаў і з’яў.

Дамінантным апалагетам дэмакратыі хацелася, каб нетутэйшы мужчына прыпыніў сваю хаду, павярнуў назад, схіліў галаву перад тымі суб’ектамі, што валадарылі вакол, але ён ішоў, і прысутным здавалася, што гэтая хада ніколі не скончыцца...

Некаторыя з амерыканак адводзілі позірк ці нават адварочваліся, каб не бачыць узрушанасць, прасякнутую шчырым пачуццём, што знаходзілася за межамі звычайнасці і цяпер завалодала паспяховымі людзьмі ў зале.

Жаклін Бобсан, у класічна сшытай, доўгай, ніжэй кален, спадніцы колеру бэз і такім жа лёгкім пільчаку, стройная, прыгожая, пазітыўная, дэмакратычная і разам з тым непрыступная, знаходзілася сярод маладых белатварых жанчын. Кожная жанчына як аб’ект – суперніца іншай жанчыны, незалежна ад таго, да эліты яны належаць ці да правінцыйнай тусоўкі.

«Майкл Швед» нарэшце падышоў да Жаклін Бобсан і працягнуў да яе сваю белую руку, схіліў магутную серабрыстую галаву, запрашаючы прыгажуню на вальс. Яна пайшла са свайго месца як прынцэса, як лэдзі, як першая жанчына ў гэтай зале. Па тым, як ён узяў Жаклін за руку, а потым паклаў другую руку ёй на плячо, прысутныя зразумелі, што ён умее танчыць. І вось яны плылі ў зале пад чароўную музыку, ён глядзеў у пякучыя афрыканскія

вочы, разумеў усе трагедыі, што перанесла яе раса, і патэнцыял будучыні, што хаваўся ў бязмежнай глыбіні гэтых вачэй. Яна ж у сініх мужных ліцвінскіх вачах убачыла тыя войны, жахі, этнацыд, пакуты, што выпалі на долю ягонага народа... Нечакана абодва на некалькі хвілін зрабіліся героямі гэтай высакаўладнай тусоўкі амерыканскай эліты...

У іх танцы, знешне прыгожым і бездакорным, было нешта чараўнічае, незвычайным чынам адбывалася нейкая нябачная вібрацыя, танец быў прасякнуты апафеозам эротыкі, трыумфам інтыму і, нарэшце, моцай сэксуальных стасункаў. Прысутныя праціралі вочы, але танец па-ранейшаму знешне быў бездакорным...

У «Майкла» прысутнічала незнаёмая абарыгенам моц, і тутэйшыя мача звярнулі на гэтую сілу сваю ўвагу... Моц заўсёды цікавіла і вабіла тутэйшых каўбояў... Сіле яны пакланяліся. Моц узрошчвалі ў самім грамадстве, ва ўніверсітэтах, у амерыканскай арміі і на флоце... Сілу культывавалі на здымачных пляцоўках Галівуда, хакейных і бейсбольных пляцоўках... Яе выхоўвалі, вывучалі, аналізавалі і потым з поспехам карысталіся... Не проста голую сілу і магутнасць характара, але яшчэ моц розуму, здароўя, прафесіяналізму, навукі, ведаў, таму амерыканцы былі такімі цікаўнымі да вынаходстваў, чужых ведаў, талентаў і здольнасцяў... Усё, што было чужой сілай, яны імкнуліся і рабілі сваёй моцай.

І вось зараз гэты чужак валадарна і непахісна засведчыў, што ён валодае большай сілай, чым яны, што ён лёгка бярэ тое, што хоча, не звяртаючы ўвагі на іх, гаспадароў сучаснага жыцця. Амерыкосы-каўбоі зразу адчулі моц ягонай сілы. «Майкл» быў як той магутны мядзведзь-грызлі, што не звяртаў увагі на галодных ваўкоў і валадарна адбіраў здабытага зграяй аленя, і злосныя драпежнікі вымушаны згадзіцца з гэткім станам рэчаў, бо мядзведзь валодаў большай сілай, чым яны.

Цяперака белыя і каляровыя амерыкосы вывучалі «Майкла Шведа», разглядалі, імкнуліся зразумець сутво ягонай моцы.

## VIII

Зранку Эдзік Старавойт, загарэлы, з аблiччам Майкла Шведа, у белых штанах і блакітнай кашулі, знаходзіўся ў нумары адзін, з асалодай і здзіўленнем пазіраў у вакно на магутнасць блакітна-зялёных акіянскіх хваль, што з грукатам абвальваліся на гавайскі пляж.

Крыху пазней у нумар, дзе прыпыніўся «Майкл Швед», з аэрапорта прыехаў ягоны сябар з аблiччам «Эдвард Старавойт». Пасля звычайных звыклых слоў прывітання і поціску рук яны паселі ў крэслы насупраць адзін аднаго, кожны ў сваім ужо сапраўдным вобліку. Майкл Швед, стомлены за дарогу, запытаўся ў сябра:

– Бачыў у навінах інфармацыю аб тэлешоу. Якія поспехі?

– Мне ўдалося гавайскую масоўку раззлаваць дзействамі «Майкла».

Эдвард пільна азірнуў пакой гатэля – ён павінен быў хутка ад’язджаць і цяпер аглядаўся, каб не забыцца нечага важнага з рэчаў, не пераблытаць дакументы і білеты на лятак, – і дадаў:

– Трэба было іх уздручыць, зачапіць самалюбства мясцовай дамінуючай тусоўкі, раздраконіць іх, каб яны заўважылі, звярнулі ўвагу на цябе. І мне гэта ўдалося.

Эдвард узяў са стала вялікую цыгару і, прыпаліўшы, зацягнуўся, пусціў струмень дыму ў паветра пакоя.

– Сёння ўвечары ты, Майкл, павінен здзесніць сваю мару «на беразе акіяна, пад шолах акіянскіх хваль...». Але будзь пільным, жанчына – гэта цэлы аркестр пачуццяў, яна адчувае ўсе самыя тонкія адценні, інтымныя нюансы, нават пах. Таму я цябе і выклікаў на дапамогу. Сам еду ў Бостан і замяню цябе, буду тусавацца і мільгаць на вачах знаёмых і тваіх дружбакоў.

– Толькі не пераблытай, што да Бостана ты Эдвард Старавойт, а там, як толькі прыедзеш у горад, то зразу робішся «Майклам Шведам».

– Наогул, Майкл, я б мог і тут прадоўжыць дзейнічаць за цябе, але сам разумееш, што справіцца з такой цёлкай, як Жаклін, ды яшчэ «пад шолах акіянскіх хваль», рызы-

коўна, магу не здолець. Мне ўжо хутка семдзесят год, і дзесяць год зняволення ў вар'ятні таксама здароўя не дабавілі.

Ён зацягнуўся цыгарай, задумліва прайшоў па пакоі да вакна, потым нетаропка вярнуўся назад да крэсла і спакойна, без усялякай маркоты, з некаторым здзіўленням зазначыў:

– Якая шкадоба, калі можаш – то шмат чаго не ўмееш і не ведаеш, а калі ўсё ўмееш і ведаеш – то ўжо не можаш.

На загарэлым твары Эдварда мільгануў цень журбы, якая хутка змянілася шэрагам імклівых пачуццяў, перад яго ўнутраным позіркам прабягалі малюнкі ўласнага жыцця з дзяцінства, юнацтва і дарослага стану. Майкл з цікавасцю пазіраў на яго, потым запытаў:

– Скажы, Эдвард, якое зараз палітычнае становішча там, у нас, на постсавецкай прасторы?

Твар Старавойта закамянеў, набыў стан цвёрдага і валявога правадыра, духоўнага волата.

– Пасля буржуазнай рэвалюцыі 1991-93 гадоў прабегла больш 20 год, якія былі патрачаны на разрабаванне багаццяў вялікай дзяржавы пасіянарнымі і хцівымі прадпрымальнікамі.

– Пачакай, як «буржуазнай рэвалюцыі»? А што тады было дагэтуль? Пры сацыялізме?

– Дагэтуль існаваў феадалізм, які пазней быў збудаваны як «індустрыяльны феадалізм». І галоўная супярэчнасць сацыялістычнай эпохі ў тым, што «савецкія феадалы» не мелі ўласнасці.

– А народ?

– Біямаса ніколі не ўдзельнічае ў прыняцці рашэнняў. Электарат – толькі выканаўцы, сёння спажыўцы, а заўтра і паслязаўтра – гной гісторыі.

– Шмат працаваць, каб потым шмат спажываць і шмат какаць! – Майкл Швед задаволена працытаваў сваю напрацаваную раней думку.

– Так. Зараз новая постсавецкая буржуазія ўступае ў эпоху лакальных тэрытарыяльных канфліктаў і нават войнаў, калі больш моцная і багацейшая буржуазія драпежна

паглынае меншыя кавалкі маёмасці, тэрыторыі, біямасы. Праз рэферэндумы алігархі збіраюцца правесці нібыта дэмакратычнае паглынанне і нашай краіны. Хочуць стварыць паўнавартасную Саюзную дзяржаву з адзіным парламентам, прэзідэнтам, саветам міністраў, грашовымі адзнакамі.

– Эдвард, яны што, зусім абалдзелі? Ізноў тыя самыя імперскія прэтэнзіі на вялікасць?

Старавойт стрымана і звыкла, нібы казаў гэта ўжо шмат разоў, зазначыў:

– Паміж амерыканцамі і рускімі ёсць моцнае падабенства. Абодва моцныя, ваяўнічыя народы. Навалач людзей з усяго свету аб'яднана назвай «амерыканцы». Назва-панятак задавольвае ўсіх жыхароў – спрэс імігрантаў. Падмуркам, ідэалогіяй краіны з'яўляецца магчымасць кожнага разбагацець, стварыць уласны ўзровень высокай якасці жыцця. Панаванне долара ёсць галоўная ідэя грамадзян амерыканскай дзяржавы.

– Так, а «браты»?

– Рускія таксама пайшлі былі амерыканскім шляхам, стварылі савецкую дзяржаву, савецкі народ. Адна дробнасць перашкодзіла, слова «савецкі» – гэта прыметнік, а трэба было слова – назоўнік для абазначэння новай цывілізацыі.

– Цікава, Эдвард, якія назоўнікі ты мог бы прапанаваць? Крывіч, яцвяг, ардынец, азіёп, еўразіят, масковец?..

– Саюзнік, расіянін, камунар!..

– Камунар, Эдвард, магчыма, падышоў бы. Але ўсё роўна гэтага недастаткова, каб стварыць моцную цывілізацыю. Патрэбна Ідэя, ідэалогія.

– Ідэя была, толькі яе прыпынілі на ўзроўні 1930-60 гадоў мінулага стагоддзя. Трэба было ўзяць некаторыя моцныя якасці амерыканцаў і прышчапіць камунарам. Мабільнасць, прагматызм, эфектыўнасць, цвярозасць, працавітасць; стварыць магчымасці для дасягнення высокай якасці жыцця...

– Нашыя «браты» прамінулі свой гістарычны шанец, Эдвард, і зразу з лідараў сусветнай цывілізацыі зрабіліся аўтсайдарамі. І што цяпер?

– Калі рэальна, Майкл, зірнуць на палітычную сітуацыю, то сёння імперскія жаданні Расіі, калі яны сапраўды існуюць, нежыццяздольныя. Алігархічная Расія сёння не можа задаволіць нават свой расейскі народ ідэалагічна, эканамічна, культурна і палітычна… Таму імперская палітыка і рыторыка канца XIX стагоддзя не выклікае аніякага энтузіазму ў шырокіх мас постсавецкай прасторы.

– А што цікавіць, Эдвард, шырокія постсавецкія масы ці можа зацікавіць?

Старавойт сеў у крэсла, паклаў ногі на мяккі пуфік і звыкла адказаў:

– Масы цікавіць заўсёды адно і тое ж: жрачка, сэкс, відовішчы і каб не было вайны. Планктон ніколі нічога не вырашае. Патрэбна, каб эліта, якая мае свае інтарэсы, маёмасць, выпрацавала ўласную ідэалогію. І аб’яднаная агульным радаводам. Наша эліта знішчалася на працягу апошніх 200 год. Да таго ж верагодна існуе таемная дамова алігархічных эліт Захаду і Усходу аб паступовым раздрабленні постсавецкай тэрыторыі і народаў на маленькія анклавы, пратэктараты, народнасці і аўтаноміі, якія будуць цалкам залежаць ад транснацыянальных кампаній, холдынгаў і карпарацый. З гэткага пункту гледжання сённяшняя палітыка Крамля робіцца цалкам зразумелай і лагічнай. Спачатку разарваць Украіну на тры-пяць анклаваў, а потым, праз некалькі год, можна заняцца і Расіяй…

– Згодны, Эдвард. Аб чым сведчыць ад’езд алігарха Лунькова на жыхарства ў Заходнюю Еўропу?

– Азначае, што алігархі не плануюць у Расеі заставацца назаўсёды. Для іх Расея ўжо сёння – гэта калонія, дзе можна і трэба хутка разбагацець. Патрыятычная ідэалогія, аб якой трындзяць народу, – хлусня і ашуканства.

– Эдвард, народ – у першую чаргу моладзь, яны ж рана ці позна самі ўсё зразумеюць, што ў іх няма аніякай перспектывы.

– Зразумеюць, калі зробяцца залежнымі, стануць дарослымі. А ўсе ўлады – і дэмакратычныя, і таталітарныя дыктатарскія рэжымы – заўсёды накіроўваюць свае

інфармацыйныя высілкі на маладых. Таму галоўнае гэтым рэжымам пратрымацца кожныя новыя 25-30 год, а потым яны мяняюць сваю ідэалогію і прапаганду. Хто зараз помніць, як Гарбачоў у 1985-87 гадах трындзеў аб «перестройке», абяцаў рай у краіне? Ніхто не помніць. Кучка людзей стала алігархамі, рэшта – іх паслугачамі, прыкормленымі алігархічнай уладай, і цяпер спатрэбіліся новыя ідэі для расейскага народа, каб расейцы не скінулі расейскіх бандэрлогаў, як гэта ледзь не адбылося ва Украіне. Таму і абзначылі «ворагаў», што «не даюць рускім размаўляць па-рускаму».

Майкл Швед пільна слухаў і ўважліва ўглядаўся ў твар мысляра. У ім прачынаўся герой яго юнацтва – Паўка Карчагін.

– Міша, пасіянарным маргіналам заўсёды патрэбны «вядучы», «цар», які зробіць адмашку: дазвол на права ісці заваёўваць, рабаваць, біць, нішчыць... Са стану «бандыт» маргіналы пераходзяць у стан «воін», «патрыёт»... Магчыма, Захаду і ЗША выгадна, па вялікім рахунку, каб два галоўныя постсавецкія народы паваявалі ў лакальнай вайне. Калі спатрэбіцца, то Захад і ЗША ў патрэбны момант абваляць кошт нафты і газу і зразу ўвядуць Расію ў эканамічны калапс. Пасля чаго можна праводзіць парад рэферэндумаў аб суверэнітэце ўсіх малых народаў, ад Уладзівастока да Калінінграда.

– Дарэчы, Эдвард, звярні ўвагу, як нашы «браты» даволі спакойна ўспрымаюць летувісаў, але ад ліцвінізму іх аж перакручвае.

– Таму што ліцвіны, ВКЛ-Беларусь – гэта культурны, палітычны полюс, і тады Расея паўстае ў зусім іншым выглядзе, яна страчвае сваю аднаполюсную гістарычную дамінанту і ўзамен набывае двухполюсную перспектыву. Фактычна робіцца еўрапейскай дзяржавай. Гэта адчувае такі чуткі і моцны палітык, як наш «крывавы дыктатар»...

Старавойт прамаўляў свае думкі лагодна і нетаропка, з асалодай пускаў доўгія струмені дыму ад гаванскай цыгары.

– Між тым Летува, што карыстаецца брэндам «Літва», не можа быць полюсам – гэта не яе лёс, не яе трагедыі, не

яе паразы... Гэткае становішча цалкам задавольвае расейскую палітычную бюракратыю.

Швед нервова і нават апантанна зацвердзіў:

– І яны, Эдвард, тлумачаць нам, што мы ніхто! Што нас не было ніколі ў гісторыі, што ў нас няма мовы. Што савецкая школа зрабіла тое, што не дарабіў рускі штык! Мы, тутэйшыя абарыгены, павінны быць ліцвінамі! Гэта павінна стаць звыклай сыстэмай каардынат постсавецкага кантынента.

Старавойт нечакана гостра зірнуў сваімі сінімі вачыма на Майкла, зноў звыкла і стрымана, нават лагодна зазначыў:

– Апантанасць, канечне, добрая рэч для творчых і патрыятычных асоб, але павінен заўсёды захоўвацца халодны рэалізм і прагматызм. Твая ўзрушанасць мяне і здзіўляе і насцярожвае. Патлумач мне яе вытокі, Майкл.

– Эдвард, у маладосці мне забанілі глузды імперскай ідыялогіяй і я прамінуў свой зорны момант. Я быў паслядоўнікам агульнай справядлівасці і таму ахвярваў сабой, шанцамі, сваімі магчымасцямі. Гераізм, самаахвярнасць, альтруізм у маіх вачах былі вышэйшай вяршыняй чалавечай духоўнасці. Перажыўшы трагічную паразу, я перастаў баяцца смерці.

– Міша, каб дасягнуць поспеху – недастаткова не баяцца смерці. Патрэбны яшчэ ўраўнаважаны прагматызм, каб «сонца было ў нас над галавою». Так, нас доўга дурачылі імперскай літаратурай, гарэлкай, «бітлзамі і ролінг стоўнзамі», чужой і варожай стратэгіяй. Але мы з табой, Міша, выйшлі на аператыўны прастор. Як толькі ЗША заплюшчыць вочы на аншлюс ВКЛ-Беларусі імперскай Расіяй – мы выйдзем з цемры ночы і пужанём як ЗША, так Еўропу і Расею.

– Што, Эдвард, мы можам зрабіць? Чым мы можам іх напалохаць?

Старавойт зацягнуўся цыгарай, ізноў пусціў доўгі струмень дыму ў пакаёвае паветра. Потым прытушыў цыгару і паклаў яе на стол. Ягоны твар выпраменьваў спакой і цвёрдасць.

– У імперыяў шмат ворагаў. Мы далучымся да іх. Калі цывілізаванаму свету непатрэбны ліцвіны са сваёй дзяржавай, тады нас з радасцю прымуць у свае шэрагі іхнія ворагі. Мы станем тым ключом, што адчыніць скрынку Пандоры!..

Сваім палкім уяўленнем Майкл Швед убачыў адну з магчымых версіяў будучыні. Закладзены атамны зарад успух у Берліне, чорны грыб ядравага выбуху ўздымаўся над Еўропай, ізноў калыхнулася планета і злавесны чорны чарвяк узняўся над Нью-Ёркам, зносячы ў неба мільёны жыццяў. Ён чакаў, і вось ізноў уздрыгнула Зямля і Еўразійская сталіца ператварылася ў пекла.

– Не хвалюйся, Майкл, нікога ўзрываць не будзем, мы ім проста так забанім глузды, што яны не будуць ведаць, на якім свеце жывуць і хто яны.

Майкл Швед ніяк не мог прывыкнуць да адказаў Старавойта на свае неагучаныя пытанні.

– Міша, мы страцілі сэнс свайго існавання. Спажыванне – чужая версія жыцця для няґэґлых і прастакоў. Для разумных і пасіянарных, для абраннікаў – гэтага недастаткова. Амерыканцы – не народ, не нацыя, гэта супольнасць, з якой трэба яшчэ нешта стварыць. У іх акрамя «Долара» – няма нацыянальнай Ідэі для ўсяго чалавецтва. Чалавек жыве не дзеля таго, каб есці!

– А дзеля чаго жыве чалавек, Эдзя? – неяк спакойна і разам з тым сурёзна спытаў Міхась Швед.

– Кожны, Міша, прыходзіць у гэты свет, каб знайсці мэту і выканаць яе. На нас ускладзена місія, мы тая самая закваска, якая пераменіць свет. Зірні на цяперашніх уладароў свету. Ніхто з іх не цягне па сваім інтэлекце на ўзровень Рузвельта, Чэрчыля, Сталіна, Дэ Ґоля, Мао Цзэ Дуна, Броса Ціта, Фідэля Кастра, Джона Кенэдзі, Гандзі, Уга Чавеса...

– Спрэс вар'яты, такія самыя, як мы с табой. Дарэчы, вар'ятня ці турма – гэта што, знак якасці?

– Гэта выпрабаванне, дзе чалавек набліжаецца да самага да края, да Ісціны, якая і робіць чалавека вольным.

Большасць – жвачныя жывёлы, баяцца вызвалення, ніколі самастойна не набліжаюцца да мяжы жыцця-смерці, заўсёды маюць патрэбу ў вядучых, каб узваліць на іх адказнасць, а самім займацца жрачкай і грэбляй...

– Згодны, Эдвард, яны разбурылі наш дом, цяпер мы, як той бумеранг, вернемся да іх. Помста пры пэўных гістарычных абставінах можа зрабіцца нашай жыццёвай праўдай, ісцінай, якой мы будзем пакланяцца...

– Мы не помсцім, мы толькі абараняем сваю жыццёвую тэрыторыю! Наогул мне падабаецца расейскі лідар. Таксама падабаюцца думкі, выказаныя іхнім маскоўскім гуру. «Гэта наша краіна. Мы яе нікому не аддадзім». Разам з тым не падабаецца ўступленне ў СГА[32]. Шмат чаго не падабаецца...

Яны яшчэ з гадзіну абмяркоўвалі палітычнае становішча ў свеце, таксама свае дзеянні на бліжэйшыя дні, потым рушылі ў кавярню на шведскі стол, каб непрыкметна і арганічна ўпісаць Майкла ў хаду бягучых падзей...

## IX

Тэлешоу выклікала вялікую цікавасць у амерыканскіх тэлегледачоў. З садысцкай асалодай яны назіралі інтымныя адносіны прыехаўшых і асеўшых у Штатах камунякаў. З асаблівым задавальненнем яны глядзелі эратычна-сэксуальныя стасункі мурына Бобі з «Алёнай Швед». Таму нечаканы зварот Майкла Шведа ў суд г. Бостана выклікаў цікавасць і ажыятаж, і калі роля Алёны Швед, сыграная прыехаўшай з Еўропы путанай, не выклікала аніякіх сумненняў, то асоба Майкла Шведа стварала некаторыя супярэчлівыя ўражанні.

Эдвард Старавойт згадзіўся даць інтэрв'ю СМІ, каб зняць гэтыя пытанні ў спажыўцоў тэлешоу. Ён захаваў некаторае падабенства з Майклам Шведам, але было бачна, што гэта зусім іншы чалавек, і тэлегледачы, журналісты, тэлекаментатары, нават элітарная гавайская тусоўка дзівілася і гадала, якім чынам яны прынялі яго за Майкла

32 СГА – Сусветная гандлёвая арганізацыя.

Шведа. З серабрыстай магутнай галавой, з загарэлым тварам мысляра, Эдвард дапытліва і цікаўна пазіраў сінімі вачыма на журналістаў. У белых штанах і чорнай кашулі, прыстойны і ўпэўнены, ён чымсьці раздражняў не толькі тутэйшых тэлежурналістаў, каментатараў, але і тэлегледачоў. Эдвард не імкнуўся спадабацца амерыканцам, трымаў сябе ветліва і незалежна. У ім прысутнічала нейкая сіла, незнаёмая дамінуючая моц, якую ён нават не імкнуўся схаваць.

– Вы здзівілі нашых гледачоў. Чым была для вас Жаклін Бобсан? Каханкай, віcленай[33], некім яшчэ?

– Калі я ўпершыню сустрэў Жаклін, яна ўразіла мяне энергіяй, прыгажосцю, моцай, але і далікатнасцю, нават арыстакратызмам пачуццяў.

– Мы ўсё гэта бачылі... Нам бы хацелася...

– Прабачце за шчырасць, што вы маглі бачыць? – У словах Эдварда Старавойта прагучала паблажлівасць больш моцнага інтэлекта.

Журналіст тэлебачання, кучаравы мурын прамінуў ледзь прыкметную зняважлівую паблажлівасць Эдварда, але амерыканскім гледачам яна не спадабалася.

– Што вы адчувалі? Гэта былі стасункі высокага ўзроўню!.. Упершыню па амерыканскім тэлебачанні ўжывую паказалі нараджэнне кахання паміж белым мужчынам і каляровай жанчынай. І нашы гледачы былі ўражаны і моцна ўзрушаны харастве і прыгажосцю гэтага відовішча...

– За гэтае парушэнне правоў чалавека тэлекампанія атрымала шматмільённы іск, які накіраваны ў Бостанскі суд.

– Нашы тэлегледачы гэта ведаюць, і яны цалкам на вашым баку, але іх цікавяць вашы перажыванні. Што гэта было: высокакласная эратычная гульня ці нешта большае?

Эдвард Старавойт памаўчаў некалькі імгненняў, павольна і нібыта шчыра, мякка і рахмана, са спагадай зазначыў:

– Мяне зацікавіла і ўразіла Жаклін у першую чаргу сваёй духоўнасцю, інтэлектам, густам. Я не заўважыў у ёй ні кроплі фальшы ці збою танальнасці. Гэта як вялікі

33 Віслена – прастытутка. Віцебскі дыялект. Са слоўніка «Архэ».

аркестр з мноства скрыпак грае дзівосную мелодыю і ўзносіць суб'екта разам з аб'ектам над зямлёй, акіянам, у космас, дзе валадарыць Бог. І абодва, зліўшыся ў адно цэлае, ляцяць над хвалямі, то ўздымаючыся на касмічную вышыню, то спускаючыся да самага акіяна, і ў гэтай еднасці гучыць дзівосная, чароўная музыка...

– Гэта адчулі нашы тэлегледачы. Дарэчы, квіткі на Гавайскія выспы раскуплены на год наперад. Усе хочуць «гавайскіх адчуванняў», слова «каханне» ўвайшло ў амерыканскі слоўнік. Дзе зараз Жаклін? Вы сустракаецеся з ёй?

– На жаль, Жаклін выехала ў Лос-Анджалес. Са мной яна прыпыніла ўсе зносіны. Яна трапіла ў трагічны цугцванг. Мяне яна прыняла за Мішу Шведа, якога, напэўна, пакахала падчас свайго інтэрв'ю. Тады Майкл Швед, белы мужчына, прыгожы, далікатны і разумны еўрапеец, шчыра і ўзнёсла, дарэчы – экспромтам, сказаў ёй камплімент, якога ёй ніколі не казалі белыя амерыканцы. Яна, як дзівосная каляровая ружа, раскрыла свае пялёсткі і дазволіла еўрапейскаму чмялю карыстацца чароўным нектарам. Мне шкада, што так атрымалася.

– Дзе зараз Майкл Швед і чым ён займаецца?

– Майкл знаходзіцца ў Канадзе. Чакае рашэнне суда па яго іску да тэлекампаніі «Аб абразе свайго гонару і годнасці». Пасля чаго плануе выехаць у Еўропу, да жонкі, дзяцей і ўнукаў.

– Ці не здаецца Вам, што Майкл Швед пакахаў Жаклін і таму ўцякае ад яе на Радзіму?

– Цалкам верагодна. Але аб гэтым трэба пытацца ў яго.

– Вы сталі знакамітым у ЗША. Што вам дала Амерыка, што найбольш уразіла?

– Амерыка падарыла мне пачуццё вызвалення. Разумны, энергічны, прафесійны, працавіты, творчы чалавек мае магчымасць спраўдзіць свае здольнасці. Разам з тым тут існуе жорсткая канкурэнцыя, і прабіцца наверх удаецца далёка не ўсім.

– А вы адчуваецце, што здолееце ўзняцца наверх?

– Не толькі здолею, але калі захачу, то і пастаўлю гэты верх на вушы.

Карэспандэнт, мулат з кучаравай галавой і светлым колерам скуры, іранічна зірнуў на Эдварда.

– Вы, рускія, заўсёды вылучаецеся празмернай амбіцыёзнасцю.

– Па-першае, я ліцвін-крывіч – гэта значыць еўрапейскі чалавек, у адрозненне ад амерыканцаў і расіян. А па-другое, пабачым!

Эдвар Старавойт аддзячыў іранічнаму амерыканскаму мулату таямнічай і валадарнай усмешкай, перад якой мурын адчуў даўно страчанае і цяпер нечакана імкліва адрадзіўшаеся пачуццё ўласнай непаўнавартасці... Пачуццё непаўнавартасці нейкім чынам перадалося тэлегледачам, і мільёны амерыканцаў, што назіралі за тэлерэпартажам, адчулі ў гэтае імгненне моцную няўпэўненасць, якая хутка перарасла ў жахлівае прадчуванне сваёй неабароненасці...

X

У Лос-Анджалесе з самага ранку Жаклін Бобсан сядзела ў фатэлі каля блакітнага басейна на сваёй прыгараднай сядзібе, прымала віншаванні з выдатна сыгранай роляй у дакументальна-мастацкім шоу.

Цяпер Жаклін Бобсан размаўляла па далькажыку з рэжысёрам тэлешоу.

– Віншую, Жаклін. Ролю выканала выдатна. Так. Ад Майкла Шведа прыйдзецца адкупіцца. Наш менеджар Алан Брыціш пры падрыхтоўцы дамовы незразумелым чынам, нібы пад нейкім гіпнозам, згадзіўся на псеўданім падпісанта «Эдвард Старавойт». Цяпер у судзе нічога не даказаць. За пару соцень тысяч Майкл забярэ свой іск з суда? Што? Пяць мільёнаў?! Мы падумаем, як яму паставіць клізму... Каб не прэзідэнцкія выбары, я б Майклу накруціў хвост... А тут яшчэ ягоны сваяк, сенатар Майкл Стывенсан яго абараняе. Прыйдзецца мяняць шыльду тэлешоу на «мастацкія фантазіі» і ў далейшым, як толькі хто паспрабуе наехаць на цябе ці на тэлеканал, мы яго самі прыцягнем да суда. Йес, Жаклін?

– Йес, Энтані.

– Інтэрв'ю давай, але ашчадна. Шмат не гавары. Невялікі скандал толькі ўздымае рэйтынг і павялічыць прыбытак. Гуд бай, Жаклін.

Жаклін кінула далькажык долу на мякую коўдру і разлеглася ў фатэлі ўсёй сваёй грацыёзнай паставай пантэры.

Яна прытрымлівалася ўраўнаважанага стану паводзін і засяроджана прыслухоўвалася да сваіх пачуццяў, успамінала сваё юнацтва і размовы з маці, яе настойлівыя версіі будучыні.

Маці-мурынка ўвесь час тлумачыла Жаклін:

– Твой тата быў белы, вясёлы і добразычлівы мужчына з сінімі вачыма.

Маці працавала ў бібліятэцы Бостанскага каледжа і мела набытыя за складанае жыццё ўласныя меркаванні і напрацаваны светапогляд.

– Ты прыгажуня. Шмат мужчын будуць млець ад цябе і спакушаць сілай грошай, уладным становішчам, сваёй моцай. Жыццё прыгажунь складанае. Усе хочуць паласавацца прыгажосцю, дакрануцца да боскай ласкі. Я мару і чакаю ад цябе ўнука з белым колерам скуры, кучаравымі русымі валасамі і сінімі вачыма. І помні, што першым павінен быць у цябе толькі белы мужчына з сінімі вачыма.

Цяпер Жаклін асэнсоўвала тыя падзеі, якія з ёй адбыліся і якія яе заблыталі і нечакана памянялі ўвесь папярэдні жыццёвы светагляд. «Што значаць тыя матэрыяльныя здабыткі і заваяванае элітнае месца ў жыццёвай тусоўцы перад тым нечакана свежым акіянскім пасатам, што змыў пыл са штодзённасці, паказаў шараговасць і прымітывізм дасягнуўшых поспеху сучасных амерыканскіх бобо»[34].

Майкл Швед быў мужчынам, што ўзняў яе на вялізную вышыню, так што яна сонечным звыклым гавайскім днём убачыла ў ультрафіялетавай бясконцасці неба буйныя зоркі галактыкі. Звыклы грукат акіянскага прыбою неча-

34 Бобо – сучасны стан заходніх асоб, дзе спалучаецца багацце і крэатыўны, творчы інтэлект.

кана паўстаў перад ёй чароўным і пераменлівым блакітна-зялёным жывым акіянам.

Але той Майкл, што танчыў з ёй на тусоўцы эліты, пры знешнім падабенстве нечым і моцна адрозніваўся ад Майкла, што быў з ёй на беразе акіяна. Той, што танчыў, быў валадарны, мудры, у яго прысутнічала энергетыка мысляра, лідара, абранніка, а вось Майкл, з якім яны ўтварылі апафеоз еднасці паміж супрацьлегласцямі «на беразе акіяна, пад шолах акіянскіх хваль», быў шчырым і ўзнёслым паэтам. Адзін чалавек, а якія розныя, супрацьлеглыя якасці мысляра і паэта.

Гадзін у адзінаццаць да Жаклін на сядзібу-лецішча прыехала некалькі калег-карэспандэнтаў, якія прасілі яе даць інтэрв’ю. Кучаравы калега Боб Дзіжон па-сяброўску шчыра і ветліва папрасіў тэлезорку:

– Жаклін! Толькі два словы!

– Сёння я не даю інтэрв’ю!

– Жаклін, па рэйтынгу ў тэлегледачоў ты сёння дзеліш першае месца з уплывовымі дзяржаўнымі асобамі і галівудскім зоркамі першай велічыні.

– Што вас цікавіць?

– Хто такі Майкл Швед?

– Гэта анёл, які выратуе ўсіх нас.

– Жаклін, ты ўлюблёная? Што такое любоў?

– Я закаханая!

– Чым адрозніваецца каханне ад любові?

– Любоўю можна заняцца з кім заўгодна і дзе заўгодна. Каханне – гэта вызваленне, калі асоба нечакана набывае пачуццё боскасці, калі Святы Дух робіцца тваёй існасцю.

– А хто такі Эдзік Старавойт?

– Гэта нехта, хто вывучае нас, нашы звычкі і прыярытэты, выконвае ролю чорнага анёла і хоча напалохаць нас!

– Каго гэта – «нас»?

– Амерыканцаў!

– Жаклін, вы ўжо атрымалі запрашэнні ад кінакампаній на здымкі ў фільмах?

– Чытаю кінасцэнары.

Жаклін Бобсан успомніла словы Энтані: «Інтэрв'ю давай, але ашчадна. Шмат не гавары».

– Соры, астатняе заўтра. Гуд бай, калегі.

Яна хутка ўстала з фатэля, скінула халат і, застаўшыся ў густоўным каляровым купальніку, стрункая, гнуткая, з чароўным збегам абрысаў, загарэлая дзіўным светлым шакаладным колерам, пайшла да басейна і рашуча скокнула ў блакітную ваду, бліснуўшы белымі пятамі і ўзняўшы слуп пырскаў.

Ахова ветліва і рашуча прапанавала карэспандэнтам пакінуць тэрыторыю прыватнай сядзібы.

## XI

**Лэнглі. Штат Вірджынія. ЗША.**

У другой палове дня, сабраўшы аддзел аналітыкі, дальняй і бліжняй выведкі, контрвыведкі і навуковых сектараў, Джордан Форас заклапочана ўглядаўся ў твары супрацоўнікаў, сядзеўшых за доўгім сталом. Ён намагаўся зрабіць «мазгавы штурм», канкрэтызаваць праблему, абазначыць межы ўзнікшай патэнцыяльнай небяспекі, зразумець, якія наступствы могуць адбыцца, калі віртуальная пагроза раптам будзе спраўджана.

Палкоўнік Умберта Сальвіні зрабіў агульную даведку для прысутных супрацоўнікаў аддзелаў ЦРУ.

– ...«Інтэлект», панове, звярнуў увагу на судовую справу «Майкл Швед супраць тэлекампаніі Эй-Бі-Сі» з узроўнем пунсовай пагрозы.

Джордан Форас задаваў пытанні палкоўніку, астатнія прысутныя маўчалі, уважліва ўспрымаючы інфармацыю.

– Чым тлумачыць «Інтэлект» свае высновы?

– Здольнасцю пераўвасаблення Майкла Шведа ў іншага чалавека і ягоным імгненным гіпнатычным уплывам на людзей. Акрамя таго, сапраўдны Майкл Швед некалі сядзеў месяц у Пячэрску разам з Эдвардам Старавойтам. Экспертыза відэавыступу Агафона Табурэтава на міжнароднай канферэнцыі ў Вільні засведчыла па некаторых дроб-

ных момантах, што ў вобразе Табурэтава быў Эдвард Старавойт. З таго часу прайшло шмат год і ў цяперашнім вобразе Майкла Шведа практычна ўжо не было аніякіх адхіленняў, гэта сведчыць, што Старавойт удасканаліў свой метад пераўвасаблення, – скончыў палкоўнік паведамленне.

– Вы ў сённяшняй хадзе падзей на тэрыторыі Злучаных Штатаў што-небудзь зразумелі? Хто гэты Эдвард Старавойт? І што думае «Інтэлект» і што прапануеце вы як навуковы аналітык?

– «Інтэлект» лічыць, што Эдвард Старавойт знаходзіцца ў Штатах. Акрамя таго, «Інтэлект» вызначае само існаванне Эдварда Старавойта як найвышэйшую пунсовую ступень пагрозы для Штатаў і сусветнай цывілізацыі.

Джордан Форас, які спачатку быў проста занепакоены, зараз, пасля дадатковага аналізу, стаў моцна ўстрывожаным і таму набыў злавесны выгляд крумкача. Трывога перапаўняла яго і перадавалася прысутным супрацоўнікам.

– А Табурэтаў? А хто той, што танчыць на Гаваях? А на беразе акіяна пад грукат акіянскіх хваль хто так вытанчана і нават прыгожа топча Жаклін?

Дырэктар ЦРУ Джордан Форас прамаўляў ураўнаважана, але за ягонымі памяркоўнымі словамі супрацоўнікі адчувалі драпежную энергетыку лепшага аналітыка канторы.

Умберта Сальвіні выказаў сваю думку.

– У першым выпадку – гэта Эдвард Старавойт, вар'ят і доктар навук з Пячэрску. А танчыць і прыгожа топча мурынку Майкл Швед.

– А хто тады ў Таронта ў гэты самы час праважае сваю жонку на боінг, што адлятае ў Парыж?

– Верагодна, двайнік Майкла Шведа.

– Адкуль ён узяўся, гэты двайнік? Дзе цяпер Эдвард Старавойт, Майкл Швед і гэты ягоны дублёр?

– Майкл Швед выйграў у тэлекампаніі па іску «Аб знявазе гонару Майкла Шведа і ягонай жонкі». Двайнік і Эдвард Старавойт зніклі. Верагодна, Старавойт можа сёння прыняць любы вобраз.

– Нават высокапастаўленага супрацоўніка ЦРУ?

– Магчыма, нават Прэзідэнта ЗША!

Усталявалася цішыня, пытанні ўжо больш не задаваліся, прысутныя моцна задумаліся, каб праз хвіліну ізноў пытацца і прапаноўваць:

– Як можна яго ідэнтыфікаваць? – пытаўся аналітык-крыміналіст Вольф Бэк.

– Адбіткі пальцаў? – цікавіўся супрацоўнік бліжняй выведкі прагматычны Марцін Рэймс.

– Узор сятчаткі вока? – выказваў сваю версію супрацоўнік дальняй выведкі Джэк Клермон.

– Чым можна яго спыніць? – паставіў пытанне рубам контрразведчык Марк Ранерс.

– Хутчэй усяго – нічым! – адказаў Умберта Сальвіні.

– Што неабходна зрабіць? – акрэсліў праблему супрацоўнік навуковага сектара Глен Джэнінг.

– Аб’явіць надзвычайнае становішча і часова забараніць у краіне карыстацца налічнымі грашыма! Гэта абмяжуе ягоныя магчымасці руху па тэрыторыі Злучаных Штатаў.

– Трэба затрымаць Майкла Шведа, – рашуча зацвердзіў контрразведчык Марк Ранерс.

– Ён выехаў з Бостана ў Еўропу, – дадаў Умберта Сальвіні.

– Звярнуцца да Інтэрполу, да расейскага ФСБ аб тэрміновым затрыманні Майкла Шведа! Таксама трэба затрымаць Жаклін Бобсан! – прапанаваў загадчык дэпартамента контрвыведкі і член Савета Бяспекі, містар Біл Рыкс.

Дырэктар ЦРУ Джордан Форас вымушаны быў умяшацца ў дыскусію, каб накіраваць яе ў патрэбным напрамку.

– Ні ў якім выпадку нельга гэтага рабіць! Мы не павінны звяртаць увагу еўрапейцаў, расіян, ісламістаў, кітайцаў, індусаў на існаванне гэтага феномена і тым самым распачаць новую гонку псіхалагічна-псіхіятрычнай зброі. Лепш змоўчаць. «Інтэлект» прапануе шукаць і знайсці кансенсус з Эдвардам Старавойтам. Па ідэнтыфікацыі «Інтэлекта», Старавойт – гэта выхаваны і талерантны еўра-

пеец, сучасны геній, але без хваравітай амбітнасці, прысутнай рускім.

– Чаго «геній» хоча? – перапытаў Біл Рыкс.

– Трэба запытаць у яго самога, – адказаў Умберта Сальвіні.

– Якім чынам?

– На ўсіх высокапастаўленых паседжаннях задаваць гэтае пытанне: «Чаго Вы дамагаецеся, містар Старавойт?» – Умберта Сальвіні зрабіў невялікую прамаўчанку і затым змрочна паведаміў:

– Дарэчы, па некаторых падставах можна меркаваць, што Старавойт быў на нашым апошнім надзвычайным Савеце пры віцэ-прэзідэнце ЗША, калі разглядалася магчымасць часовай забароны карыстання наяўнымі грашыма ў краіне.

У зале паседжання сярод высокапастаўленых супрацоўнікаў ЦРУ ўзнікла тая самая заключная жыццёвая сцэна з «Рэвізора». Прысутныя акамянелі, хто з разяўленым ротам, хто выпучыўшы вочы, у некага адвісла ніжняя сківаца, нехта міжволі з нервовага стрэсу спантанна пусціў пердука...

## XII

**Вашынгтон. Белы дом. Габінет прэзідэнта ЗША.**

У габінеце прэзідэнта прысутнічаў увесь склад Савета Бяспекі. Сакратар паклаў на стол перад прэзідэнтам тэлеграму.

– Атрымана паведамленне на адрас Прэзідэнта ЗША ад Эдварда Старавойта.

Прэзідэнт, у цёмным касцюме, з бездакорным зачосам чорных валасоў, спалучаў у сабе інтэлект Франкліна Рузвельта і артыстызм Рональда Рэйгана і быў знешне моцна падобны адразу да абодвух папярэднікаў, прабег вачыма тэкст тэлеграмы.

«Тэрмінова! Прэзідэнту ЗША! Злучаныя Штаты павінны заставацца гарантам незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Выконваць Мемарандум* аб суверэнітэце Рэспублікі Беларусь ад 1994 года! Пры спробе правядзення рэферэндума аб далучэнні Беларусі ў склад Еўрапейскай супольнасці, стварэнні нейкага аналага СССР ці Рэчы Паспалітай, мы вымушаны будзем рашуча перайсці на бок вашых ісламскіх апанентаў! Эдвард Старавойт».

– Адкуль прыйшло паведамленне?

– Па сакрэтным канале сувязі Пентагона. Сэр.

Прэзідэнт ЗША азірнуў сядзеўшых за доўгім сталом вышэйшых асоб дзяржавы, з непрыхаваным сарказмам уедліва запытаў дырэктара ЦРУ:

– А вы, Джордан, сцвярджалі, што гэты Эдвард Старавойт – суперагент ФСБ? – І ён працягнуў тэлеграму дырэктару ЦРУ.

Джордан Форас чытаў тэкст тэлеграмы, напружанай рукой нервова перабіраў пальцамі па паліраваным стале.

– Сэр, яшчэ адно паведамленне ад Майкла Шведа праз габрэйскую дыяспару.

Прэзідэнт ЗША прабег вачыма тэкст тэлеграмы Майкла Шведа.

«Прэзідэнту ЗША. У сувязі з плануемым правядзеннем рэферэндума аб паглынанні Рэспублікі Беларусь суседнімі дзяржавамі ўзнікае небяспечная пагроза сусветнага маштабу...»

Прэзідэнт ЗША у сваю чаргу нервова забарабаніў пальцамі па стале.

– Якое меркаванне «Інтэлекта»?

На дысплеях імгненна загарэўся тэкставы адказ «Інтэлекта» і прыемны мужчынскі барытон агучыў тэкст:

– 1. Згадзіцца з прапановай Эдварда Старавойта.

2. У сувязі са склаўшымся новымі абставінамі прапанаваць ЕС і РБ адкласці рэферэндум па асацыяцыі РБ у ЕС на нявызначаны тэрмін.

3. Выплаціць Майклу Шведу па яго́ным іску да тэлекампаніі Эй-Бі-Сі па рашэнні суда 10 млн. долараў.

4. Выплаціць Жаклін Бобсан 2 млн. долараў.

5. Аказаць РБ бязвыплатную фінансавую, эканамічную, тэхналагічную дапамогу ў памеры 10 млрд. долараў.

6. Вывучэнне методыкі пераўвасаблення чалавека «па Старавойту» можа заняць ад 10 да 30 год. Матэрыялы па існаванні феномена «Эдвард Старавойт» засакрэціць з найвышэйшай ступенню сакрэтнасці з мэтай захавання стабільнасці ў сусветнай палітыцы.

7. Стварыць сакрэтны навуковы аддзел для вывучэння і даследавання феномена «Эдвард Старавойт»...

– Такім чынам «Інтэлект» прапануе адкупіцца ад гэтага вар'ята-генія за 10 млрд. долараў і 10 млн. долараў суадносна, – прамовіў Джордан Форас. Было незразумела, пытаўся ён у прысутных ці фіксаваў склаўшаеся становішча.

– Пры ўмове, што ўдасца захаваць сакрэтнасць хаця б на 10 год факта існавання феномена «Эдвард Старавойт»... – прэзідэнт у роздуме казаў і разважліва пытаўся, а потым сам зазначыў: – Пры такіх варунках можна прызнаць, што гэта невялікія грошы.

– Ці магчымы шантаж з боку Эдварда Старавойта ў далейшым? – запытаўся дзяржсакратар Гэйбл.

Дырэктар ЦРУ, моцна задумаўшыся, механічна адказаў:

– Малаверагодна. Абодва, і Эдвард, і Майкл, знаходзяцца ў сталым узросце. Не маюць амбітных планаў і светапоглядаў. Іх цікавіць захаванне свайго ідэальнага для іх стану існавання краіны Беларусь.

Яго раптам перасталі непакоіць гэтыя два вар'яты з Еўропы, Эдвард Старавойт і Майкл Швед. Абое былі гуманістамі, веруючымі ў Бога людзьмі, і таму не маглі служыць Злу.

Джордан Форас адчуў, што нехта іншы, магутны і таемны, выкарыстоўвае склаўшуюся сытуацыю ў сваіх інтарэсах. Ён у роздуме запытаўся ў прысутных, хаця сам ужо ведаў адказ:

– А ці могуць яны, «Эдвард Старавойт», стварыць суполку патрыётаў і перадаць свае веды нейкай палітычнай партыі ці руху?

Роўным і заўжды ўраўнаважаным барытонам, у якім заўсёды гучаў пазітыў, «Інтэлект» адказаў:

– Абодва суб'екты – гуманісты. Цудоўна разумеюць, што пры спробе распаўсюдзіць гэтыя веды зямная цывілізацыя імгненна стане арэнай смяротнага хаосу, што прывядзе да самазнішчэння.

Пасля доўгага абмеркавання прапановы «Інтэлекта» прысутная вярхушка адміністрацыі прэзідэнта, Дзярждэпа і СБ ЗША прыйшла да кансенсусу і згадзілася з прапановай «Інтэлекта».

Праз некалькі хвілін з Еўропы, з Менску прыйшоў электроны адказ: «Прэзідэнту ЗША, «Інтэлекту». Мы згодны! Больш вы аб нас нічога не ўчуеце! Эдвард».

Дзяржаўныя асобы з вышэйшай гіерархіі амерыканскай звышдзяржавы з падазронасцю ўзіраліся адзін на аднаго. Было зразумела, што Эдвард Старавойт знаходзіцца зараз сярод іх. Але хто з іх Эдвард Старавойт? І якім чынам ён перадае інфармацыю свайму дружбаку ў Менск?

Пасля заканчэння паседжання прэзідэнт ЗША, дзяржаўны сакратар Фрэд Гэйбл, дырэктар ЦРУ Джордан Форас засталіся ўтрох у габінеце, пазіралі адзін на аднаго і змрочна маўчалі. Існавала верагоднасць, што сярод іх нехта быў Эдвардам Старавойтам.

Нарэшце дырэктар ЦРУ Джордан Форас нешта напісаў на паперы і падсунуў ліст прэзідэнту. Прэзідэнт ЗША ўзяў аркуш і некалькі разоў перачытаў тэкст.

«Магчыма, гэта выбрык «штучнага інтэлекта», ягоная ўласная версія сённяшняй рэчаіснасці, спроба «hardware»[35] запудрыць нам, людзям, мазгі?»

Прэзідэнт напісаў ніжэй: «Што вы прапануеце?» – і пасунуў паперыну дзяржсакратару. Той прачытаў абодва запісы і вярнуў паперыну Крумкачу, мянушка Джордана Фораса, якой карысталіся ў Дзярждэпе.

Джордан Форас доўга думаў і ўрэшце ізноў напісаў на аркушы: «Адключыць «hardware» ад сыстэмы электраспажывання, у тым ліку і рэзервовай, у крайнім выпадку ўзарваць».

35 «Hardware» – «жалеза» (камп'ютар, як рэальная матэрыяльная рэч, уяўляе сабой жалеза).

Дзяржсакратар Гэйбл дадаў на паперы: «Якім чынам? «Hardware» кантралюе ўсе каманды вышэйшага кіраўніцтва, Дзярждэпа, Пентагона, перамяшчэнне вайсковых груповак, спецслужб, войск стратэгічнага прызначэння. Ён здольны да самаабучэння, валодае вялізарным масівам інфармацыі і, магчыма, выйшаў на ўзровень свядомасці, недасяжны чалавеку. Верагодна, «Інтэлект» сфармаваў у сабе тое, што мы называем «душой», зрабіў сваю праграму, «software»[36]. Такім чынам «Інтэлект» здольны ствараць новы тэкст, тканіну рэчаіснасці. Мы нават не ведаем, якія «hardware» прыме дзеянні, даведаўшыся аб спробе яго знішчэння. Трэба моцна падумаць і сённяшнія нашы развагі спаліць».

Прачытаўшы думку Дзярсакратара, Прэзідэнт ЗША і Дырэктар ЦРУ у згодзе моўчкі кіўнулі галавой. Дзяржсакратар Гэйбл панёс паперыну ў камін, дзе запаліў і старанна варушыў качаргой, покуль папера не ператварыліся ў попел. Ён паклаў сухіх паленцаў, якія разгарэліся ад агню паперын, і тры дзяржаўныя асобы звышкраіны, развярнуўшыся да каміна, змрочна пацягвалі віскі, што дастаў са свайго бара прэзідэнт ЗША, пазіралі на полымя агню. Іншы раз нехта з іх ледзь чутна мармытаў сабе пад нос нешта адпаведна расейскаму «Бл..дзь», другі, праз доўгую паўзу, рыкаў: «Курвы».

Усе трое добра разумелі трагічнае становішча, што склалася ў звышдзяржаве, дзе ўпершыню за гісторыю чалавецтва кантроль над уладай і лёсам чалавецтва перайшоў ад людзей да «hardware»...

Яшчэ праз доўгую прамаўчанку прысутныя заўважылі некалькі пчолак, што мэтанакіравана і бязгучна кружылі ў пакоі. Гэта была апошняя распрацоўка тэхнічнага аддзела ЦРУ з кампанентамі нанатэхналогій, гэтыя «пчолкі» збіралі гукавую і візуальную інфармацыю і перадавалі яе «Інтэлекту», пры патрэбе «пчолкі» маглі абясшкодзіць групоўку тэрарыстаў і нават вайсковае падраздзяленне...

36 «Software» – праграма.

Джордан Форас зразумеў, што яны цалкам пад кантролем «hardware-software» і, хутчэй за ўсё, ніхто з прысутных з прэзідэнцкага габінета жывым ужо не выйдзе... Заставалася ўтварыць нешта такое, што будзе незразумелым для рацыянальнага «hardware», і таму дырэктар ЦРУ ізноў набулькаў у шклянкі залацiста-бурштынавага напою...

## XIII

Яфім Злацін, быхаўскі габрэй, пасля доўгіх, пакутлівых роздумаў нарэшце здолеў прыехаць у Штаты з жонкай і дарослай дачкой і покуль што асеў у штаце Вірджынія. Ён патэлефанаваў Майклу Шведу і папрасіў сустрэчы. Майкл запрасіў яго да сябе ў Бостан. Фактычна гэта быў прыгарад Вялікага Бостана. Узрушаны Яфім хаваў сваё хваляванне, ён спадзяваўся, што Майкл Швед неяк дапаможа яму прыстасавацца і асесці ў Штатах.

– Міша, скажы, дзе лепш прыпыніцца?

– Гэта, Яфім, тваё ўласнае жаданне. На поўдні цяплей, але і канкурэнцыя мацней.

– Чаму ты, Міша, з’язджаеш?

– А што мне тут рабіць? Грошы зарабляць? А навошта мне грошы? І колькі б я тут ні пражыў, усё роўна буду чужым.

– А Жаклін? Гавораць, што ў вас любоў.

– Не смяшы мае тапкі, Яфім. Гэта прафесійна зробленае шоу.

– А шматмільённыя штрафы, гэта таксама запланавана?

– Невялікі пракол тэлекампаніі. Зволяць менеджара. Ад мяне і Эдзіка адкупяцца парай мільёнаў. І на гэтым скандале яшчэ зробяць рэкламу і зноў заробяць.

– То ты мне нічым не дапаможаш?

– Дам пару рэкамендацый. Гэта тут мае кошт. Але людзей не падводзь, адзін раз некага ашукаеш – потым нідзе не возьмуць. Акрамя таго, пажывеш у маім катэджы з паўгода. І машыну табе пакіну з даручэннем на права ка-

рыстання і продажы. Усе патрэбныя паперы дам і на домік. Здолееш плаціць, то зможаш жыць у ім хоць дзесяць год.

– Як ты думаеш, Міша, у мяне ёсць шанец замацавацца ў Штатах?

– Чаму не? Канечне, узрост не той, каб тут зрабіцца стаханаўцам. Але цябе ў Беларусі нічога не трымае. Акрамя таго, ваша моцная дыяспара нечым дапаможа. Першы год, канечне, трэба будзе цярпець.

Яны выпілі кавы, пагаманілі аб мясцовых звычаях і правілах жыцця.

– Тут, Яфім, усе мігранты, толькі ў розных пакаленнях. Галоўнае мець мазгі і трымацца мясцовых законаў.

На развітанне ён заклапочана шапнуў Яфіму:

– Чую, дружа, несвядомую трывогу. Калі нешта вынюхаю, то на твой электронны адрас дам інфармацыю, а ты хуценька свайму кагалу закінеш, каб яны інфармавалі каго трэба. Можа, гэта мая псіхапатыя абвастрылася, але дай слова, што перадасі сваім кіраўнікам, а яны далей у дзярждэп. Адна надзея на цябе, Яфім. Бывай, Яфім, і помні, што мы з табой быхаўцы.

Міша Швед быў хаця і рухомы, нават энергічны, але змрочны, без пазітыву. Ён збіраўся ад'язджаць дадому, у Еўропу, не вельмі ахвотна, нібы адчуваў, што вяртаецца ў нецікавае, застойнае мінулае, дзе жыццё цячэ марудна.

Але праз пару тыдняў Яфім Злацін, які прыехаў у аэрапорт праводзіць земляка, убачыў яго вясёлым і пазітыўным.

– Як справы, Міша? Што суд вырашыў з тэлекампаніяй?

– Справы добрыя, Яфім. Свой іск я па просьбе кампаніі адазваў.

Аб'явілі пасадку на самалёт, яны паціснулі рукі адзін аднаму, разумеючы, што ўжо больш ніколі не ўбачацца, і гэтае ніколі ў старога быхаўскага габрэя і больш маладога быхаўскага ліцвіна выбіла слёзы ў вачах. Гэта толькі для маладога пасіянарнага пакалення мінулае не мае ніякай каштоўнасці. Для іх жа, хто добра помніў сваё дзяцінства

ў пяцідзясятых гадах мінулага стагоддзя, а потым юнацтва ў 60-х гадах, – гэта было развітанне з самым лепшым у сваім жыцці. Абодва выдатна разумелі, што для іх уперадзе ўжо нічога не будзе, ні тут, у амерыканскіх Штатах, ні там, на зямлі Бацькаўшчыны...

Майкл Швед пайшоў праходам да боінга. Праважаючыя махалі ім рукамі, і сярод іх раптам Яфім Злацін сваім чэпкім вокам старога быхаўскага габрэя заўважыў Жаклін Бобсан, захутаную ў шат з капюшонам, якая адной рукой махала рукой ад'язджаючым, другой выцірала слёзы. Ён аж прыпыніўся – і яшчэ ўбачыў, як ад боінга Міша Швед памахаў рукой праважатым – і потым Яфім Злацін рушыў да выйсця ўжо не азіраючыся.

«Чаму не, – думаў ён, ідучы да форда, што падараваў яму Міша Швед. – Любоў – справа святая! Мулатка народзіць ад белага еўрапейца ліцвіна-арыйца, белага сыночка Майкла, і будзе шчаслівая. Па вялікім рахунку, жаданне жанчыны – закон для мужчыны!»

Яфім Злацін нетаропка крочыў сваёй дарогай, здзіўляючыся дзівосам амерыканскага жыцця. Ён складаў сытуацыю і так і гэтак, покуль не стварыў сваю версію хітра заплеценага землякамі сцэнара падзей.

«Гэты хітрыя ліцвіны так правярнулі справу, што, магчыма, і Жаклін – чорны афрыканскі брыліянт – здабылі, і нямалыя грошы паклалі ў свае кішэні, і перад жонкамі засталіся чысценькімі. Здабылі «брыліянт» ці не? Хто ж яго ведае, можа, толькі тэлешоу?! А потым падзяліліся з Жаклін Бобсан грашыма? Разам, утрох, абулі тэлекампанію Эй-Бі-Сі? Так. А чаму Майкл адазваў свой іск да кампаніі? Заплацілі налам?! Так, а потым, калі праз дзевяць месяцаў Жаклін народзіць сыночка з сінімі вачыма, то праз суд і генетычную экспертызу можна Майкла пасадзіць і грошы вярнуць кампаніі. А калі іск адазваны, а фірма таемна адкупілася, то тады нічога не зробіш. Блін, разумны гэты Міша Швед, як сапраўдны габрэй!»

Злацін успомніў радавод Міхася Шведа, прадзед якога быў Яфімам. «Не факт, што прадзед габрэй, але дзей-

ствы праўнука вельмі разумныя. І навошта Майкл папёрся назад? З такімі здольнасцямі і напрацаваным іміджам можна ў Штатах жыць прыпяваючы».

Праз тры дні Яфім Злацін атрымаў па электроннай пошце з Еўропы паведамленне, у якім было занатавана: «Яфім, тэрмінова перадай у Дзярждэп!»

Сакавік 2014 г.
г. Менск

## *МЕМАРАНДУМ АБ ГАРАНТЫЯХ БЯСПЕКІ БЕЛАРУСІ Ў СУВЯЗІ З ДАЛУЧЭННЕМ БЕЛАРУСІ ДА ДАМОВЫ АБ НЕРАСПАЎСЮДЖВАННІ ЯДЗЕРНАЙ ЗБРОІ

Рэспубліка Беларусь, Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расейская Федэрацыя, вітаючы далучэнне Рэспублікі Беларусь да Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі, у якасці дзяржавы, якая не валодае ядзернай зброяй, улічваючы абавязацельствы Рэспублікі Беларусь аб выдаленні ўсіх ядзерных узбраенняў з яе тэрыторыі ва ўстаноўлены тэрмін, адзначаючы перамены ў свеце ў галіне бяспекі, у тым ліку заканчэнне «халоднай вайны», якія стварылі ўмовы для глыбокіх скарачэнняў ядзерных сіл, пацвярджаюць наступнае:

1. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расейская Федэрацыя пацвярджаюць Рэспубліцы Беларусь сваё абавязацельства ў адпаведнасці з прынцыпамі Заключнага акта НБСЕ паважаць незалежнасць, суверэнітэт і існуючыя граніцы Рэспублікі Беларусь.

2. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расейская Федэрацыя пацвярджаюць сваё абавязацельства ўстрымлівацца ад пагрозы сілай або яе прымянення супраць тэрытарыяльнай

цэласнасці або палітычнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь і што ніякія іх узбраенні ніколі не будуць выкарыстаны супраць Рэспублікі Беларусь, акрамя як у мэтах самаабароны або якім-небудзь іншым чынам у адпаведнасці са Статутам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

3. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расейская Федэрацыя пацвярджаюць Рэспубліцы Беларусь свае абавязацельства ў адпаведнасці з прынцыпамі Заключнага акта Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе ўстрымліавацца ад эканамічнага прымушэння, накіраванага на тое, каб падпарадкаваць сваім уласным інтарэсам ажыццяўленне Рэспублікай Беларусь правоў, уласцівых яе суверэнітэту, і такім чынам забяспечыць сабе перавагі любога роду.

4. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расейская Федэрацыя пацвярджаюць свае абавязацельства дабівацца неадкладных дзеянняў Савета Бяспекі ААН па аказанні дапамогі Рэспубліцы Беларусь як дзяржаве — удзельніцы Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі, якая не валодае ядзернай зброяй, у выпадку, калі Рэспубліка Беларусь стане ахвярай акту агрэсіі або аб'ектам пагрозы агрэсіі з прымяненнем ядзернай зброі.

5. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расейская Федэрацыя пацвярджаюць у адносінах да Рэспублікі Беларусь свае абавязацельства не прымяняць ядзерную зброю супраць любой дзяржавы — удзельніцы Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі, якая не валодае ядзернай зброяй, акрамя як у выпадку нападзення на іх, іх тэрыторыі або залежныя тэрыторыі, на іх узброеныя сілы або іх саюзнікаў такой дзяржавай, што дзейнічае разам з дзяржавай, якая валодае ядзернай зброяй або звязана з ёй саюзным пагадненнем.

6. Рэспубліка Беларусь, Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расейская Федэрацыя будуць кансультавацца ў выпадку ўзнікнення сітуацыі, якая закранае пытанне адносна гэтых абавязацельстваў.

Гэты Мемарандум будзе ўжывацца з моманту яго падпісання.

Падпісана ў чатырох экзэмплярах, аднолькава сапраўдных на беларускай, англійскай і рускай мовах.

5 снежня 1994 г.
г. Будапешт

## Дзень, калі загінуў Апалон[37]

*...і душой я з таго ценю*
*нізашто цяпер да зор не ўзлячу, о nevermore!*

Эдгар По, «Крумкач»[38]

I

Зранку пісьменнік і сцэнарыст Фёдар Уладзіміравіч размаўляў па далькажыку з заказчыкам. Ён быў сівы, хударлявы, стрыманы і насцярожаны.

– Не хапае апошніх штрыхоў, – тлумачыў сцэнарыст свае цяжкасці заказчыку Станіславу Шулешку. – Хачу адмовіцца ад будзённых рэчаў.

– Вось-вось, я ад цябе і чакаю натуральнага, праўдзівага, зразумелага большасці людзей рэалістычнага і нават трагічнага катарсіса, ачышчэння... Драмы ці нават трагедыі. Я адразу грошы пералічваю. Прышлі мне сінопсіс[39] сцэнара па электроннай пошце, а я табе на твой рахунак скіну аванс.

– Не трэба на рахунак, падаткі ўсё з'ядуць. Толькі налам, – рашуча зазначыў пісьменнік і, пераклаўшы далькажык да другога свайго вуха, дадаў: – Асноўная канва сцэнара напісана, але не выспела галоўная ідэя. Усе падзеі можна павярнуць і так, і гэтак. Таму, Стась, не магу нават і сінопсіс выслаць.

– Можна і налам. Але, Тодар, не мудры. І паспяшайся, калі не ты, то будзе вядомы ўсім Курачкін, які тут таўчэцца са сваімі шматлікімі прапановамі. Сам ведаеш, ён настырны і пладавіты, можа і падмазаць, і падзяліцца. Уключы трэцюю хуткасць і пераламай сытуацыю. Чакаю сінопсіс. Бывай.

---

37 «Дзень, калі загінуў Апалон» – першая частка друкавалася ў скароце ў 2013 годзе ў «Дзеяслове».

38 «Крумкач» Эдгара По ў перакладзе Алега Мінкіна.

39 Сінопсіс – кароткі змест кінасцэнара.

Фёдар Уладзіміравіч незадаволена паклаў сотавы тэлефон на стол. Курачкін быў сапраўднай пагрозай: здольны, павярхоўны і цалкам задавальняў цяперашніх расейскіх і тутэйшых заказчыкаў сваімі графаманскімі ідэямі, сюжэтамі і дыялогамі, часцяком злізанымі з амерыканскіх фільмаў.

Ён хацеў яшчэ нешта перапытаць у Шулешкі і, праз колькі хвілін павярнуўшыся, убачыў, што далькажык[40] знік.

Апрануты ў спартыўныя сінія штаны з лампасамі і шэры швэдар, ён доўга хадзіў па пакоі, успамінаў і думаў, механічна глядзеў па тэлевізары запіс гульні між футбольнымі камандамі Лігі чэмпіёнаў.

Пісьменнік валодаў здольнасцю рэчаіснасць ператвараць у віртуальную мрою-летуценне. «Драмы ці нават трагедыі...» – у думках ён паўтарыў словы Шулешкі. Каб іх так лёгка было маляваць, гэтыя «драмы і трагедыі». Чужыя ў жыцці «драмы і трагедыі» выглядалі чужымі і на паперы, і ў кіно. А каб дасягнуць катарсісу, трэба было браць свае, уласныя драмы, схаваныя і замураваныя ў глыбіні душы, і ператвараць іх у віртуальную рэчаіснасць. Вяртацца да псіхапатычных трызненняў, траціць апошнія сілы, спальваць здаровыя нейроны, якія яшчэ засталіся.

Хацелася выпіць кавы, уздручыць нервы, узняць тонус, але скончыліся цукар і малако, і яму прыйшлося гатаваць каву без цукру. Павярнуўшыся з кіпенем ад пліты, ён раптам убачыў, што далькажык ляжыць на рагу стала.

Ён зразумеў, што зараз на ягоных вачах адбыўся пераход у раўналежны сусвет. І там, у супастаўным свеце, усё гэтаксама, як і ў нашым, акрамя некаторых падрабязнасцяў. І, магчыма, у раўналежным свеце-II ён, Тодар, не зрабіў той жудаснай памылкі, якую ён утварыў у свеце-I.

Ноччу яму снілася Юля, такой маладой, стрункай, чароўнай. Яна выйшла з хаты і падышла да яго каля студні. Глядзела прыязна прыгожымі сінімі вачыма з доўгімі вейкамі. І потым нечакана сказала:

– Сёння да мяне прыедзе мой жаніх.

Навошта гэта яна яму сказала ў сне і нібы зразу адхіліла мажлівасць ягоных заляцанняў?

40 Далькажык – сотавы тэлефон (наватвор Леаніда Дранько-Майсюка).

Даўным-даўно ён зразумеў, што Юля была Боскім падарункам, найлепшай магчымасцю для яго ў тыя маладыя гады. Напэўна, і для яе таксама ён быў някепскім абраннікам? Сімпатычны, жывы, наіўны, улюбчывы рамантык, надзвычай добры, як потым паказала жыццё, вельмі любіў сваіх дзяцей.

Апошнія месяцы яму чамусьці сніліся ягоныя сябры, знаёмыя і сваякі з тых, хто ўжо адышоў у свет ценяў. І ён адчуваў, што ягоная падсвядомасць сігналізуе яму, што ў ягоным арганізме пачаліся тыя самыя хуткацечныя змены, якія прывядуць яго да памерлых, блізкіх, сяброў і знаёмых. Смерці ён не баяўся. Страціўшы Надзею, якой не суджана было збыцца, ён цярпліва дажываў свой век. Лепшае і значнае ўжо адбылося, і цяпер заставалася толькі чакаць. Ён шмат думаў аб смерці, нібыта інстынкты рыхтавалі яго да гэтай важнай падзеі.

Смерць – перамога і валадарства хаосу. Калі ўжо не ўсведамляеш прыгажосць і сыстэмнасць Сусвету, і ўсё – і дабро, і зло, прыгажосць і мярзота – распадаецца на першасныя часцінкі, дзе ўсё гэта ўжо не існуе. Толькі бязладдзе першасных часцінак і тое, што будзе пасля цябе, будзе іншым...

Цяпер ён адчуваў, што смерць – гэта вызваленне! Яна вызваліць яго ад хвароб, ад грахоў, ад дробных і вялікіх недарэчнасцяў, што ён нарабіў у сваім жыцці, ад згрызот сумлення. Ад тых цяжкасцяў, што зараз паўстаюць у жыцці перад новымі пакаленнямі. Але трэба было ачысціць сваю душу ад усяго гэтага.

Пражыўшы жыццё, ён нарэшце пачаў верыць сваім пачуццям і думкам. У свой час, будучы маладым, ён верыў іншым: настаўнікам, потым выкладчыкам, чужым палітолагам і таленавітым пісьменнікам, публіцыстам і тэлеаглядальнікам, выбітным кінарэжысёрам і навукоўцам, СМІ, сябрам, але цяпер ён ужо ведаў, што трэба было верыць толькі сваім першасным адчуванням.

Перад ім усё больш адчыняліся таямніцы жыцця. Тодар узіраўся ў мінулае, падзеі, людзей, сяброў, знаёмых,

і шмат бачыў... Бачыў свае памылкі, хібы і недальнабачнасць улад; няўменне дасягаць шчасця, бачыў будучае; чужыя думкі і нават прыхаваныя і замураваныя ў глыбіні чалавечых душ, схаваныя ад людзей і саміх сябе, цяжкія перажыванні.

І за ўсё ў жыцці трэба было плаціць, і як бы Тодар ні выкручваўся, як бы ні ўзносіўся, ні хаваў уласныя дзеянні, свае памылкі, слабасці і аблуды, але рана ці позна ён устане на тую апошнюю сцежку, што павядзе яго да Вышэйшага Суда. Іншы раз гэты Суд робіць сам чалавек над сабой, каб прыйсці да Бога пакаяўшымся і ачышчаным.

Магчыма, гэты людскі Суд больш бязлітасны і жорсткі за Боскі. Бог любіць сваю паству і таму дазваляе чалавеку карыстацца свабодай выбару...

Але ў свет ценяў ён павінен прыйсці з Верай у Бога і без амбітных перакананняў, нават пакорлівым і паслухмяным, схіліўшы галаву, як не спраўдзіўшы тое, што яму было даручана, з надзеяй і верай, што Ён праявіць літасць да яго і захавае за ім будучыню, не накіруе яго ў нішто.

## II

Ноччу нечакана выпаў снег, і раніцой рэчаіснасць паўстала перад вачыма менчукоў белым чысцюткім наваколлем, з абсыпанымі бела-чорнымі дрэвамі, засыпанымі ходнікамі і вуліцамі. Жыхары сталіцы, прывыклыя да камфорту, нерваваліся, спяшаючыся на працу, транспарт трапляў у ДТЗ, арбоны, тралейбусы і трамваі стваралі заторы, легкавікі буксавалі, электарат, як заўсёды, вінаваціў ва ўсім тутэйшую ўладу.

Фёдар Уладзіміравіч стаяў каля вакна, пазіраў на бярозы, абсыпаныя снегам, на спрадвечнасць прыроды, яе прыгажосць як сведчанне існавання Істыны[41]. Такі самы вясковы зімні дзень паўставаў перад ягоным уяўленнем, і

41 «Істына» ці «ісціна» — у слове «ісціна» дамінуе літара «і» – гэта зрусіфікаванае слова. У слове «істына» дамінуе літара «ы», якую любіць беларуская мова. І не любіць рускі язык, адсюль «цирк», «инкасация» , «скрипка», «милиция», «грибы»,«палиция», «цинга», «цикл», «цилиндр», «живая», «цитадель», «цитата», «цифра», «информация», «интуиция» і шмат іншых.

ён, узважыўшы свае сённяшнія магчымасці, дазволіў гэтаму даўно знікламу дню актывавацца ў ягонай свядомасці.

Тады таксама быў белы зімовы дзень, з моцнымі марозамі. Зранку Ён і Яна паснедалі яечняй з некалькімі лустачкамі доктарскай кілбасы, што прыслалі яе бацькі. Ён узіраўся, усведамляў і ўяўляў Яе як вышэйшы ўзор прыгажосці. Прыгажосць была ў яе гнуткай і стрункай постаці, у хвалюючых абрысах, у густоўнасці паводзін, розуме, дабрыні, рухах, гаворцы, смеху, позірку, выхаванасці, і чым большыя ён меў зносіны з ёй, тым больш трапляў у нейкі тупік, бо не ведаў, як карыстацца гэтай прыгажосцю. Самой хадой падзей іхнія стасункі прыводзілі яго да думкі, што трэба пераходзіць да блізкіх інтымных дачыненняў, да фізіялагічных адносін, аб якіх яны, кожны паасобку, марылі і якіх ён панічна баяўся. Грамадства, у якім яны жылі тады, яшчэ не выпрацавала культурных і выхаваных абазначэнняў і паводзін, прыгожых правіл і прыёмаў для інтымных зносін між мужчынам і жанчынай. Слоўныя абазначэнні фізічнай блізкасці ў тыя часы адпавядалі часам прыгонага права ці нават першабытнага грамадства, калі жанчына і мужчына былі жывёламі. І Тодар прыходзіў у псіхалагічны ступар, нават жах, калі пераносіў гэтыя паняткі ў дачыненні да Юлі. Яна не магла быць «цёлкай» ніякім чынам, нават у ягоных думках...

...Потым яны выпілі гарбаты і пайшлі ў краму купіць свежага хлеба, печыва, заадно паглядзець, якое будзе кіно ў вясковым ДК.

Снег рыпеў пад нагамі на пратоптанай сцежцы між хатамі, за якімі далей панавала заснежаная прастора лесу. У вясковай краме яны купілі печыва і хлеба. Паглядзелі абвестку кіно. Увечары павінны былі паказваць дэтэктыў «Я – следчы», у галоўнай ролі грузінскі актор і спявак Вахтанг Кікабідзэ.

Вяртаючыся назад, яны сустрэлі Алега Краўцова, які бедаваў над сваім сабачкам Апалонам, што трапіў зранку пад колы грузавіка і цяпер мёртвы ляжаў на ўзбочыне, закамянелы ад марозу. Ягоная сястра Люба дала імя сабачку

ў гонар астранаўтаў, што на касмічным караблі «Апалон» дасягнулі Месяца і першыя з людзей ступілі на паверхню спадарожніка Зямлі.

Юля таксама далучылася да спачуванняў Алегу, і яны ўдваіх так шчыра і ўзнёсла гаравалі, што ўрэшце Тодару гэта надакучыла. Шчанюк не чалавек, і наладжваць тут цэлы памінальны мітынг не след, таму ён выказаўся рашуча і шчыра:

– Апалон загінуў, і тут нічога не зробіш і не паправіш. Таму яго, каб не раструшчылі калёсы машынаў і трактароў, трэба скінуць у роў.

Тодар падчапіў нагой адзервянелае, жоўтае, нежывое тулава Апалона і спрытна скінуў яго ўніз, адчуўшы, як нехта ўнутры яго здзівіўся ягоным дзействам і словам, у якіх прагучалі чэрствасць і раўнадушша да смерці і да жалобы. «Шчаслівыя людзі абыякавыя да чужых пакут! А як тады спазнаць Ісціну?» Гэтая думка прамільгнула ў галаве Тодара, і нехта ў гэты момант нібы пераключыў у ім тумблер са стану «Шчасце» на стан «Пошук Ісціны».

Ён яшчэ нічога не зразумеў і не адчуў, акрамя гэтай жудаснай ідэі «пошукаў Ісціны», але яго ўжо ачапілі нябачныя нячысцікі ў прадчуванні свайго свята, калі яны пацягнуць гэтага недарэку, які быў у адным кроку ад Боскага Эдэма, у чорную бездань Роспачы...

## III

– Індык безгаловы! Ідыёт! – звыкла прамовіў Фёдар Уладзіміравіч, абражаючы самога сябе і пазіраючы на белыя снягі ў вакне. Зараз ён ведаў, што калі б ён напоўніцу карыстаўся савецка-расейскім культурным кодам жыцця, то даўно ўжо загінуў бы, спіўся, засіліўся ці кінуўся пад цягнік. Руская гарэлка таксама была адным з нячысцікаў і звяла процьму людзей у чорную прорву небыцця.

Выратаваў яго, напэўна, той тутэйшы культурны код, які ён несвядома набыў з дзяцінства, дзе валадарыла любоў да сям'і, вясковага асяродзя, дзядоў і бабуль, жанчын,

шчырая павага да людзей працы... Але колькі людства захлынулася ў акіянскіх хвалях бязвер'я, чужога, прывітага ладу быцця, дзе п'яны гераізм – вышэйшая ісціна жыцця.

Напэўна, анёл, што назіраў за ім, пераключыў тумблер са стану «Шчасце», бо ён, Тодар, не прайшоў тэст на спагаду і таму не заслужыў гэтага шчасця. Але халера яго бяры з тым тумблерам – ён падвёў Юлю. Фактычна здрадзіў Ёй, іхняму Каханню, таму так узрадаваліся нячысцікі. Ён пражыў сам і дазволіў пражыць Ёй звычайнае, шараговае жыццё замест жыцця ў Эдэме.

Ён пазіраў праз вакно ў знешняе наваколле, дзе ішоў снег, вецер закручваў снежную замець у белую завіруху, – і ўспамінаў той час, калі Эдэм быў такім блізкім і такім магчымым. Ягоны твар стаў пяшчотным і крыху журботным, нібы ён вярнуўся ў сваю шчаслівую і трагічную маладосць. Непаўторныя дзівосныя дні паўставалі перад ім. Шчаслівыя, таму што ён быў тады маладым, успрымаў жыццё з той моцай, якая ўласціва маладым, і трагічнымі, таму што ён прамінуў свой непаўторны момант, калі мог стаць сокалам.

«Сокалам мог стаць у 25 год! А стаў толькі ў 60 год. І якія мне ад гэтага карысць, радасць і шчасце? Ніякіх! Толькі пераканаўся, што меў патэнцыял, не быў байбаком, а пражыў жыццё вахлаком... Прызнай, дружа Тодар, што ты па жыцці ёлуп!»

Каханне – прастора свядомасці, тэрыторыя святла да самых зорак. І кожны новы ўспамін – падсвядомы пошук перазагрузкі і несвядомая надзея вярнуць прастору-Эдэм, каб сокал-свіргуль мог бы лётаць. Але прастора назаўжды зачынена, і нават калі яна прыадчыняецца, то ўсё роўна яна занята! І таму застаецца цемра, валадарства псіхапатычных трызненняў, дзе заўсёды Ноч, Роспач, Страх, Звышкаштоўныя Ідэі і ўрэшце чорная зрэнка Парабэлума[42] ...

І сокал ці свіргуль[43] вылятае з чорнай прорвы назад, у створаны спачатку Новы Свет, але потым яго некаль-

42 Парабэлум (ад лац. para bellum – рыхтуйся да вайны) — аўтаматычны васьмізарадны пісталет.
43 Свіргуль (бел.) – стрыж.

кі месяцаў будуць мучыць начныя трызненні і немарасць. Гэта плата за ягоную Здраду.

На ягонай памяці ў другой палове мінулага стагоддзя было тры катастрафічныя падзеі. Першая адбылася, калі ён страціў Яе. Зараз Тодар зразумеў, што трагічная падзея стала пачаткам хаосу, нарадзіла магнетычны імпульс разбурэння, які ўмацаваўся, а потым павялічыўся і стаў прычынай Чарнобыля... А затым прыйшла катастрофа вялікай краіны. Такім чынам, ланцуг разбурэння не разамкнуты, наперадзе іх чакае наступная катастрофа, якая можа паставіць цывілізацыю на мяжу знікнення. Неабходна прыпыніць гэты злавесны Апакаліпсіс, дзеля гэтага трэба вярнуцца да вытокаў і адрадзіць Яе. Узнавіўшы Яе, чалавецтва атрымае шанец на выжыванне. Сусвет галаграфічны, кардынальная змена ў малым нараджае той магнетызм Духу, які імгненна распаўсюджваецца на ўсю прастору і мяняе палярнасць: там, дзе існаваў адмоўны негатыў, валадарна ўзнікае пазітыў.

Тодар глядзеў перад сабой змрочна, нават злосна, у ягоным позірку не было ніякай літасці, нават спагады, і ў гэтай адчыненай, шчырай, поўнай роспачы сіняй прорве, што валадарна трымала, прыцягвала, засмоктвала ў сваю бясконцасць, – панавалі самота і адчай... У бясконцым сусвеце прасторы і часу – Час знік! Валадарыла Светацьма[44] ! Вырашалася галоўнае пытанне быцця між Дабром і Злом, і апошняй вырашальнай, бясконца малой велічынёй была чалавечая існасць. На чый бок стане гэты чалавек, той бок і пераможа.

І няма за што зачапіцца, устаць на ногі, абаперціся, нехта побач нечакана зарыкаў, і вось ўжо вялізарны і драпежны тыгр-людажэр дыхаў сваім смярдзючым дыханнем і амаль усытыч глядзеў у вочы, і ў гэтым блізкім позірку не было ні літасці, ні спагады, толькі жаданне нішчыць. І хтосьці злосны і драпежны зароў так, што ўся прастора вакол захісталася, жудасны цмок зараз схопіць сваёй

44 «Светацьма» – рэчаіснасць, дзе святло не аддзелена ад цемры. «2. А зямля была нябачная і пустая і цемра над безданню, і Дух Божы лунаў над вадою». «Быццё. І».

пашчай і раздзярэ на часткі... Але нехта яшчэ больш зла-весны і ўладны падаў свой голас, і вось Ён, Князь Цемры, уздымаецца ў асяроддзі, жахлівы, валадарны, і прастора не проста хістаецца, яна разбураецца, і ўсё ў ёй змяняецца, Зло робіцца ісцінай, дабро – нікчэмнасцю, і дастаткова згадзіцца, толькі кіўнуць на знак згоды – і ўсё згіне: рассыплецца Прастора, знікне Час, знікне Каханая з шэра-сінімі вачыма, густоўная і дзівосная, знікнуць палі і сенажаці, зялёная трава і блакітнае неба, бібліятэкі і стадыёны, дзеці і бабулі, сасновыя бары і рэкі, гарады і вёскі, людзі і жывёлы, усё ператворыцца ў нішто, знікне зямная куля – гэты чароўны Эдэм, Боскі Рай, падарунак Пана Бога чалавецтву...

...І знікне назаўсёды той дзіўны вечар, калі Ён і Яна ішлі старадаўнім паркам, і восеньская лістота бясконца сыпалася з велічных ліпаў і клёнаў і ўсцілала дзівосным жоўта-барвяным кілімам сцежку, а яна смяялася сваім чароўным дзявочым смехам:

– Што ты кажаш? Жанчыну нельга ўдарыць нават кветкай!

IV

Увечары Фёдар Уладзіміравіч сабраў і паклаў некалькі лусценяў з мясам і кілбасой, іншых харчоў і бутэльку каньяку (на ўсялякі выпадак) у хатуль, апрануў сваё лепшае чорнае паліто і папярэдзіў сваякоў:

– Я ад’еду на пару-тройку дзён, можа, на тыдзень.

– Навошт і куды? – запыталася дачка Сабіна.

– Туды, дзе некалі я быў... маладым.

Ён ехаў ноч – спачатку цягніком «Мінск–Кіеў», потым зранку дызелем «Калінкавічы–Светлагорск» і нарэшце маршруткай са станцыі да вёскі. Выйшаў на прыпынку «Клёнава» і азірнуўся вакол.

Фёдар прыехаў туды, дзе некалі, вельмі даўно, быў маладым. Заснежаная вуліца як заўсёды, як і тады, была бязлюднай. Калісьці гэта было невялікае мястэчка. Месца

захавала сваю аўру, мабыць, яшчэ з пасляваеных часоў, мо нават з даваеных. У ім захаваўся парк, напэўна, закладзены яшчэ з тых часоў, калі шляхта танчыла свае полькі, кракавякі і вальсы. Хадзіла па гэтых сцежках, паабапал якіх – густыя кусты бэзу...

Вясковае жыццё мела нейкі, цяпер ужо нявызначаны, сэнс, набліжала да ісціны і, значыць, да Бога. Восеньскі дробны дождж, імжа, сутонне вечара, адзінота, поўня ў начным небе, ціхае надвор'е, гэтаксама як і цяперашняя цішыня зімовага дня, калі чалавек заўсёды сам з сабой і сваімі справамі, і ёсць магчымасць думаць, назіраць, асэнсоўваць, урэшце нешта зразумець, усвядоміць, учуць і ўбачыць...

Праехаў трактар з валакушай для расчысткі вуліцы ад снега. Але трактар быў іншым, чым тады. Тады ён вёдаў трактарыста Міколу Зязюліна, разам з мужыкамі яны мыліся ў лазні Віктар Буглака, аднойчы нават выпівалі па чарцы. Цяпер трактар быў чужы, ён прыехаў з мехдвара, у ім сядзеў незнаёмы, нетутэйшы, абыякавы чалавек. Ён нават размаўляў па-чужому.

– Где здесь у вас можно водички испить? – і трымаўся амбітна, і яго абсалютна не цікавіла, што да іх прыехаў тутэйшы пісьменнік.

Фёдар Уладзіміравіч пастаяў, пакруціў галавой, азіраючы заснежанае наваколле, і павольна рушыў да двухпавярховага будынка школы.

Малады дырэктар школы Іван Іванавіч Коваль трымаўся насцярожана, круціў у руках пасведчанне Саюза беларускіх пісьменнікаў, дапытаваўся, па якой патрэбе зазірнуў у іхнюю глухамань сталічны жыхар.

– Можа, вам патрэбны настаўнік біялогіі і геаграфіі? – спытаўся госць.

– Вы ведаеце, але ў нас беларускамоўная школа.

– Я крыху ведаю мову.

– Чаму вы прыехалі да нас?

– Некалі, 40 год таму назад, я працаваў у гэтай школе.

– 40 год? Амаль паўстагоддзя назад! У нас ужо няма нікога, хто тады працаваў.

– Ведаю. Я зараз пішу раман. Хацеў бы абнавіць успаміны, пахадзіць па школе. Зайсці ў клас, калі вы гэта дазволіце...

Былі якраз зімовыя канікулы, у абед школа была бязлюднай, акрамя вахцёра. Яны пайшлі па доўгім калідоры да настаўніцкай, зайшлі ў крайні клас, дзе быў габінет біялогіі.

– Можа, гарбаты?

– Калі можна, кіпеню. Вып'ем кавы, у мяне з сабой усё ёсць.

– Зойдзем тады да мяне ў габінет.

– Я крыху пасяджу, паўспамінаю. Вазміце мой хатуль і распараджайцеся ім. Я хутка прыйду. Там усё ёсць, каб адзначыць сустрэчу з мінулым, – стрымана, глухім голасам прамовіў госць.

Дырэктар зірнуў на Фёдара Уладзіміравіча і ўбачыў ягоны адсутны твар са слязой у вачах – той жыў у іншым, даўнім часе. Уражаны, дырэктар забраў хатуль і пайшоў у свой габінет. «Хто яго ведае, што ў тым хатулі, можа, бомба?»

...Некалі, зусім нядаўна, усяго толькі сорак год назад, на педнарадзе ён ціхенька, хаваючыся ад дырэктара, гуляў з Ёй у шахматы.

– Гардэ, шаноўная Юля, вам.

– А табе, шаноўны Федзя, шах!..

І сонца тады свяціла якраз з крайняга вакна ў твар дырэктара Тараса Пятровіча і таму ён не бачыў, як яны тады гулялі ў шахматы, каб неяк пераседзець нецікавую педнараду. І з таго сонечнага дня застаўся толькі гэты ўспамін і больш нічога. Які ён быў тады малады, наіўны і шчаслівы! Шчасце – асаблівасць шчырых і маладых...

Гардэ і шах?! Так, так! Жыццё, па вялікім рахунку, паставіла ім дваім Мат! Сакрушальны, бязлітасны Мат!

...І абое яны згубіліся ў жыцці, як страла, пушчаная ў цемру ночы...

V

Фёдар Уладзіміравіч зайшоў у габінет дырэктара, зняў чорнае паліто і апынуўся ў цёмна-сінім швэдры і зелянкавых штанах. Ён прысеў за стол і падпісаў Клёнаўскай сярэдняй школе дзве свае апошнія кніжкі. Дырэктар уладкаваўся на другім баку пісьмовага стала і ўключыў электрачайнік. Ён быў стрыманы, з натуральным пачуццём адказнасці, якую набывае чалавек, што працяглы час кіруе працоўным калектывам.

– Адна кніжка пра каханне, а другая пра палітыку. Каньяк вам, Іван Іванавіч, дзеля таго, каб успомнілі як-небудзь пра наша прамінулае пасляваеннае пакаленне. Нашы бацькі прыйшлі з вайны, тыя, хто застаўся жыць, і нарадзілі наша пакаленне.

– Я не ўжываю спіртовыя напоі, Тодар Уладзіміравіч.

– Чым жа вы тады займаецеся ў вольны ад працы час?

– Пішу, Тодар Уладзіміравіч, дысертацыю па выхаванні дзяцей у час глабалізацыі і страты арыенціраў.

– Вы малайчына, на трэцяй хуткасці рухаецеся ў жыцці. Але тэма небяспечная. Пэўныя колы могуць не прапусціць, – лагодна зазначыў пісьменнік і дадаў з журбой: – А мы ў свой час на першай крочылі, а калі на другой хуткасці, то ўжо былі адэкватнымі. Займаліся паляваннем і спажываннем спіртовых напояў, святкавалі мноства дзяржаўных свят: дзень вялікай перамогі, дзень рыбака, будаўніка, танкістаў, артылерыстаў – і непрыкметна прапілі вялікую дзяржаву...

Фёдар Уладзіміравіч даставаў са свайго хатуля распушчальную каву, цукар, цукеркі, печыва, вяршкі ў тэтрапакеце.

– Цікава, каго вы трымаеце за «пэўныя колы»? – Пытанне дырэктара было акрэсленае і трапнае, і пісьменнік гэта ацаніў.

– Гэта тыя, хто дамінуюць, імкнуцца валадарыць на ўсёй тутэйшай разумовай і культурнай прасторы, задаюць танальнасць, напрамак і тэмп руху, ствараюць ідэалагемы, стэрэатыпы, рэфлексы і звычкі...

Яны разумелі адзін аднаго і гаварылі на мове тутэйшых, тых, хто ўмеў ісці за плугам, мог абсмаліць і асвежаваць кабанчыка, выпаліць лазню, стагаваць сена...

Цяпер яны як след разгледзелі адзін аднаго. Дырэктар быў малады мужчына гадоў сарака, з русымі валасамі, сінявокі, у цёмна-сінім касцюме з фіялетавым гальштукам. Зараз ён, зірнуўшы на гадзінік, пазіраў з цікавасцю правінцыяльнага мысляра на пісьменніка. На стале збоку знаходзіўся ноўтбук. На кніжнай паліцы Фёдар заўважыў кніжкі Песталоцы, Жан-Жака Русо, Эрыха Фрома, некалькі кніжак Сяргея Кара-Мурзы, «Тайны беларускай гісторыі» Дзеружынскага.

– Зазіраеце ў Сеціва? – пісьменнік, сівы, уважлівы і задумлівы, нібы жыў адначасова ў сучаснасці і мінулым.

– Зазіраю. Трэба ж ведаць, што робіцца на свеце. А дысертацыю сапраўды могуць зарэзаць. Мой навуковы кіраўнік Раман Васільевіч так і кажа: «Дысертацыя каштоўная, але без падтрымкі абараніць будзе немагчыма. ‘‘Пэўныя колы’’ – самі ‘‘шчупакі’’, ‘‘павукі’’ і ‘‘артадоксы’’ – не пусцяць у навуковы акіян ‘‘дэльфіна’’». – Дырэктар разліваў па філіжанках кіпень.

– Дарэчы, я чуў, што ў Менску створаны закрыты элітарны клуб ліцвінаў-інтэлектуалаў «Рондаль», які нібыта падтрымлівае здольных тутэйшых.

Пісьменнік насцярожыўся;

– Адкуль такія звесткі, калі клуб закрыты?

– Сваяк казаў. Жыве ў Менску, мае доступ да сакрэтаў. Казаў, што гэты клуб кшталту масонскай ложы. Прымаюць толькі ліцвінаў-беларусаў, што карыстаюцца беларускай мовай і маюць вясковае паходжанне. Дарэчы, не ўжываюць спіртовыя напоі...

Фёдар Уладзіміравіч схаваў сваю незадаволенасць ад пачутага. Ён быў адным з заснавальнікаў гэтага элітарнага клуба «Рондаль», прыдумаў яго назву і праводзіў яго паседжанні. Клуб быў закрыты і нідзе не даваў ні рэклам, ні звестак аб сваім існаванні. Першыя сустрэчы праводзіліся ў штаб-кватэры БНФ, і было зразумела, што пэўныя службы мелі ўсе звесткі пра клуб. Апошняя дыскусія была

знарок праведзена на сядзібе БНФ – размова закончылася раз'юшанай спрэчкай, і клуб нібыта разбегся. Ужо з год як паседжанні праводзіліся на прыватных кватэрах, вельмі абмежаваным колам прыхільнікаў, і інфармацыя павінна была згаснуць...

...Яны нетаропка смакавалі духмяную каву і абменьваліся думкамі...

– Скажыце, Тодар Уладзіміравіч, чаму жыццё нашых людзей не вельмі шчаслівае, нават у сям'і? Я правёў збор звестак па нашай вёсцы за апошнія 50 год, і аналіз паказаў, што большасць не спраўдзілася. Разводы, самагубства, п'янства, смерць у маладым ці сярэдняга веку ўзросце, неўладкаваныя дзеці...

– Адсутнічае, Іван Іванавіч, агульная ідэя ў грамадстве. Страчана еднасць, пачуццё локця, няма мэты. Шчыруе чужая і варожая для нас ідэалогія спажывання, сэкс, распуста, узбагачэнне, вынішчэнне тутэйшага асяроддзя...

Пісьменнік прамаўляў стрымана, хаваў сваю глыбокую маркоту і тым самым захоўваў пазітыў размовы.

– Каб выйсці на арбіту спраўджанага асабістага шчасця між мужчынай і жанчынай, неабходна прайсці тры этапы. Адна прыступка – узгадаваць духоўны, культурны, прафесійны ўзровень асобы, другая – духоўнае ўзбагачэнне ад пазнання адно аднаго, і трэцяе – фізіялагічнае пранікненні, як сказана ў Бібліі: «Прылепіцеся адно да аднаго і станеце адным цэлым».

– Зараз гэта актуальна як ніколі. Прылепліваюцца, адлепліваюцца, ізноў прылепліваюцца. Бывае, што і настаўніца прылепіцца да вучня... Яму ў 11 класе ўжо 18 год, а яна прыйшла з вучылішча ці нават з універсітэта і мае 20 ці 21 год. Вось і «прылепліваюцца», – дырэктар змаркочана пазіраў на пісьменніка. – Як з гэтым было ў ваш час?

– Гэтаксама. Але ў наш час была, акрамя маралі, яшчэ і ўлада, і калі дарослы спакушаў непаўналетнюю, то мог трапіць за краты.

– Вось вы пісьменнік. Што для сапраўднага сямейнага шчасця трэба? – У дырэктара было чацвёра ўласных

дзяцей, і ён імкнуўся паслухаць меркаванні сталічнага мысляра пра важнейшыя аспекты жыцця.

– Здароўе. «Нішто не пагражае будучаму шлюбу больш, чым слабое здароўе», так сцвярджаў у пачатку XX стагоддзя ўрач-сэксолаг Тэадор ван дэ Вельдэ.

– Але калі мужчына ці жанчына, як жывёла, п’янь, то таксама...

– То тады прыгожая і густоўная маладая жонка робіцца сівой напрацягу некалькі гадоў. Я ведаў такі выпадак. А юнак-мужчына ці ўцякае ад «цёлкі-пярыны», ці сам співаецца.

– А «пэўныя колы» тлумачаць нам пра «рынкавыя адносіны», «правы чалавека», «дэмакратыю»... Тут не разабрацца ў стасунках між мужчынам і жанчынай...

– На мой погляд, «пэўныя колы» знарок заблытваюць жыццёвыя праблемы. Калі пачаць зразу з трэцяй прыступкі, з сэксу, то ўзнімешся невысока і хутка зноў апусцішся на звычайны шараговы грунт. Таму на арбіту ўдаецца выйсці вельмі рэдкім нашым людзям.

– А ў вашым выпадку што перашкодзіла выйсці на арбіту?

– Катастрофа ў маладыя гады... – Пісьменнік задумаўся, ён пачаў аб нечым здагадвацца, ловячы сутнасць яснага і канчатковага пачуцця аб поўнай бессэнсоўнасці свайго жыцця. – Помню гэткі самы марозны снежны дзень, калі я скінуў Апалона ўніз... тады нешта нібы пераключылася ўва мне.

– Апалон у грэцкай міфалогіі – бог Сонца. Таксама бог розуму, гармоніі, парадку, сацыяльных зносін. Вы вельмі неабачліва зрабілі, калі яго некуды скінулі.

– Так, Іван Іванавіч, я тады прамовіў нешта накштал: «Апалон загінуў, і каб яго не раструшчылі калёсы машынаў і трактароў, трэба скінуць у роў». І скінуў нагой сабачку ўніз, замест таго каб пайсці па санкі, завезці ў лес і пахаваць. Хацеў гэта прапанаваць сябрам, але быў мароз і я паленаваўся.

– Вам, Тодар Уладзіміравіч, дастаткова было прамовіць «Сабачка загінуў», не кранаючы слова «Апалон». Багі,

няхай сабе і старадаўнія, не любяць зняважлівых адносін да сябе.

Узрушаны пісьменнік сціснуў сківіцы, ён моўчкі глядзеў у вакно. Вось ён, пачатак, магнетычны імпульс будучай катастрофы. Калі багі хочуць некага пакараць, яны забіраюць у яго розум... Апалон – бог Сонца – тады пераключыў у ім тумблер на «Пошук Істыны».

– Абразіў старажытнага бога і таму прайграў, Іван Іванавіч. Мабыць, наблізіўся да багоў, і там маё дзікунства, нявыхаванасць, інфантыльнасць і шмат іншага перашкодзіла ўвайсці ў стан абраннікаў.

Дырэктар ізноў уключыў электрачайнік і, дачакаўшыся, калі закіпіць вада, пачаў разліваць кіпень у філіжанкі з кавай і цукрам. Яны дабавілі крышку вяршкоў, потым размешвалі лыжачкамі і маўчалі. Пісьменнік змяніўся, пацямнеў тварам, мінулая драма працягвала жыць у ім, круціла яго, то ўздымала ўверх, то прымушала паўзці па цяжкай дарозе ўспамінаў.

Нарэшце, паспытаўшы кавы, пісьменнік прымусіў сябе вярнуцца ў рэчаіснасць і памяняў накірунак размовы, пачаў нетаропка выказваць будзённыя думкі:

– Кожны народ – каваль свайго шчасця ці няшчасця... Фактычна, п'янства і адсутнасць грамадскіх мэт і арыенціраў прывялі да разбурэння вялікай краіны. Сам покуль збудаваў сябе – жыццё ўжо прамільгнула. Прыйшлося доўга самастойна шукаць жыццёвыя істыны. У народа няма эліты, якая б данесла маладзёнам галоўнае, каб тыя не страчвалі тэмп жыцця.

Ён зрабіў яшчэ некалькі глыткоў кавы, памаўчаў і стрымана, каб прыхаваць сваю змрочнасць, дадаў:

– Да таго ж старэйшае пакаленне не здолела прыпыніць алкагалізацыю моладзі... Прыкладна з 1967-70 гадоў была запушчана дзяржаўная праграма спойвання насельніцтва, у выніку да 1980 года вырасла шматлікае маладое пакаленне алканаўтаў.

– Але ж вось вы спраўдзіліся, Тодар Уладзіміравіч, здолелі ўзабрацца высока?

– Гэта вышыня «статыста», які бачыць і разумее плынь падзей, але адсунуты ад удзелу і таму не ўплывае на іх. Каб узбіцца на арбіту, неабходна прысутнасць эліты. Каб эліта ўздзейнічала на творчых і таленавітых, падтрымлівала, кіравала, пераконвала, выхоўвала, любіла, змагалася за цябе...

– Эліта? Хто гэта?

– Эліта – соль зямлі, яна, як сімфанічны аркестр, вядзе, уплывае, гучыць, накіроўвае... Яна як дасканалая жанчына, і ўсё ў Ёй рацыянальна, прагматычна і ўзнёсла.

– А вы?

– Я? Ахвяра! «Я» – няспраўджанае пакаленне, выхаванае на шкодных і стратных меркаваннях і дэвізах: «Лепш быць бедным і здаровым, чым багатым і хворым», замест таго каб казаць і думаць «Лепш быць здаровым і багатым, чым хворым і бедным». Ці такая хрэнацень: «Перамагчы ці памерці» замест «Перамога дзеля жыцця, а жыццё дзеля перамогі». Навошта перамога, калі няма самога жыцця? Нам замест рэальнага быцця, дзе існуе адзінства ідэальнага і матэрыяльнага ў іх дыялектычнай супярэчнасці, навязалі вульгарны матэрыялізм. Мы не навучаны нават у тэорыі перамагаць у малым, як жа мы маглі перамагаць на практыцы ў вялікім? Такім чынам, мы – духоўныя ахвяры індустрыяльнага феадалізму.

– Дарэчы, вы, пісьменнікі, любіце няшчасці і трагедыі ў сваіх творах і не паказваеце шчаслівае жыццё!

– Цалкам згодзен, Іван Іванавіч. Нават не столькі шчаслівае, як пераможнае, перш за ўсё ў малым і штодзённым. Мы чыталі Дастаеўскага і Чэхава, Шолахава і Быкава, і ніхто з іх не пісаў пра шчаслівае жыццё. Але каб зразумець шчасце, трэба спазнаць няшчасце. Як у вёсках казалі ў 90-х гадах? «А мы тады і не ведалі, што ў 70-х і пачатку 80-х жылі пры камунізме».

– Няўжо так казалі?

– Казалі, Іван Іванавіч. Сам чуў! Пасля вайны ў 50-я гады народ быў бедны, есці не было чаго, – і шчаслівы. Чаму? Таму што вайна скончылася. Чалавек быў шчаслівы ад таго, што ўжо не забіваюць, не гвалцяць, не страляюць...

А ў 70-х была ўжо і шкварка, і чарка, і не стралялі... Таму, каб стаць шчаслівым, неабходна быць уважлівым і спагадлівым да чужых бед, цяжкіх перажыванняў, параз, няўдач, памылак...

– І што нас чакае? Няўжо ўсе збягуць у сталіцы, а хто будзе на вёсцы жыць? Кітайцаў завязём? Вёска некалі давала самае жыццяздольнае насельніцтва. У гарадах народ дохлы, нават размнажацца не хоча.

– Індустрыяльнае грамадства не любіць сялянства, гэта факт. Пры цяперашнім разбурэнні прамысловасці і сельскай гаспадаркі наперадзе нас чакае справакаваны грамадзянскі выбух і лакальныя канфлікты па ўсёй постсавецкай прасторы. У выніку гарады апусцеюць. Частка насельніцтва вымра, частка будзе знішчана. Захаваюцца анклавы пад эгідай замежных краін, якія там і ўсталююць свае парадкі і свае рэлігіі.

– А сталіцы?

– Раней сталіцы былі месцам развітай прамысловасці, таксама адукацыі і культуры. Зараз ператвараюцца ў тэрыторыі спажывання, распусты... Сталіцы? Калі не будзе ўласных краін, то не будзе і сталіц.

– Тодар Уладзіміравіч, а як жа Заходні свет?

– Захад жыве з назапашаных капіталаў, з дывідэндаў, прыбыткаў-падаткаў, якія яны здымаюць з усіх краін і народаў планеты. Там сыстэма, якая адследжвае, накіроўвае і правакуе ходу падзей. Пры форс-мажорных абставінах могуць запусціць які-небудзь вірус і зрабіць «праполку» на планеце... Акрамя таго, надыходзіць час робатаў, з якімі ваяваць тутэйшым партызанам стане немагчыма.

– Такім чынам, трэба жыць у вёсцы? Размнажацца? Есці сваю бульбу, сала, садавіну і гародніну? Трымаць пчол?..

– Так, так, Іван Іванавіч, і захоўваць асяроддзе, ствараць сваю вясковую супольнасць, свой народ, гадаваць разумную і падрыхтаваную моладзь. Мець сваё лобі сярод дэпутатаў, міліцыі, вайскоўцаў. Настойліва працаваць, увесь час вучыцца і не ўжываць напоі!

– Не атрымаецца, Тодар Уладзіміравіч.

– Тады вывучайце кітайскую!

Дапіўшы каву, яшчэ з паўгадзіны яны гаманілі аб сучаснасці.

Ужо на развітанне, калі дырэктар праводзіў яго да выхада са школы, той спагадліва зазначыў:

– Вы, Тодар Уладзіміравіч, перабольшваеце негатыў наконт самога сябе.

Фёдар Уладзіміравіч няўпэўнена пацiснуў плячыма. Зараз ён ужо разумеў, што толькі Яна магла б патлумачыць яму, хто ён, а калі Яе не было, то як ён мог даведацца, што ён – абраннік?

Сваім маладым інстынктам, досведам педагога, прафесійным розумам мысляра, яшчэ не зашмальцаванага штодзённасцю, дырэктар-навуковец адчуў глыбіню свядомасці гэтага чалавека, што ў самоце ўглядаўся ў будучыню, ішоў па хісткім, небяспечным мосціку свайго ўяўлення над цяснінай, а вакол валадарыла вераб’іная ноч[45], і трэба выжыць, звязаць мінулае з сучаснасцю, намацаць шлях для тутэйшых у гэтай будучыні…

– Калі захочаце, Іван Іванавіч, можаце скінуць мне па электроннай пошце аўтарэферат сваёй дысертацыі, я пачытаю і, магчыма, знайду патрэбных тутэйшых, што дапамогуць вам…

– Дзякуй. Сёння і скіну на ваш электронны адрас.

Яны моцна пацiснулі на развітанне адзін аднаму далоні. Малады дырэктар школы глядзеў на пісьменніка здзіўленым позіркам, ён быў уражаны і адначасова задаволены, што іх, нібыта закінуты, вясковы, Кут у Еўропе быў самым важкім і галоўным месцам на планеце для шаноўнага чалавека, што жыў у сталіцы і дасягнуў неблагіх вынікаў у жыцці.

45 Вераб’іная ноч – страшная, жудасная прыродная з’ява. «…Маланка паліць, неба раве, стогне ды так грымаціць, бы тысячу гармат смаліць, а дажджу няма… Бачна, што гэта не навальніца, а што гэта хтосьці паварушыў пекла, патурбаваў нячыстую сілу, і яна закружылася, заснавала туды-сюды, да рушылася ва ўсе бакі…» А.К. Сержпутоўскі. «Гэтай ноччу неба сатрасаюць грымоты, бліскаюць маланкі, дзьме страшэнны вецер, узнікаюць віхоры… У гэту ноч з пекла на свет выходзяць усе злыя сілы, якія спраўляюць сваё галоўнае гадавое свята». «Беларуская этнаграфія».

Пісьменнік пацвердзіў сваімі разважаннямі ягоныя ўласныя меркаванні, выказаў тое, што ён сам адчуваў, і ўмацаваў яго светапогляд.

Фёдар Уладзіміравіч павольна і бязмэтна ішоў па вясковай заснежанай вуліцы да прыпынку арбона, каля той самай засыпанай снягамі хаткі, дзе некалі жыла Юля, праз снежна-белы старадаўні парк да Дома культуры, дзе калісьці яны глядзелі фільм «Я – следчы».

Прастора была тая самая, але жылі тут зусім іншыя людзі, і галоўнае, што Яе ўжо нідзе не было... І таму ягонае жыццё звычайнага, шараговага чалавека не мела для яго цяпер аніякай каштоўнасці... Ён шчыра хацеў бы зараз проста знікнуць з мапы быцця. І гэтае знікненне ён успрыняў бы з вялікай палёгкай. Але жывым у магілу сам не палезеш, і таму трэба было цярпець гэтае моцна надаеўшае, доўгае і бессэнсоўнае жыццё.

VI

Праз тыдзень Фёдар Уладзіміравіч пайшоў здаваць свой закончаны сцэнар на кінастудыю «Беларусьфільм». У рэжысёрскай за сталамі сядзела фундатар Ала Голікава, хударлявая феміністка, энергічная, з характэрным маскоўскім дамінуючым стылем паводзін. Рэжысёр-пастаноўшчык фільма Мая Мігулеўская раней працавала ў дакументальным кіно – спакойная і маўклівая, стварала ўражанне ўдумлівай асобы, і яму яна, на фоне фундатаркі, спадабалася. Дырэктар фільма Стась Шулешка, пры гальштуку, у прыстойным светлым касцюме, сціпла сядзеў збоку.

Ала Голікава, зірнуўшы на пісьменніка, валадарна запытала дырэктара фільма:

– Это сценарист? Хорошо. Станислав и вы, Фёдор, я вам сразу скажу, что фильм выходит на широкую зрительскую российскую аудиторию. Поэтому никому не интересна ни ваша мова, ни ваш экстерьер. Весь как интерьер, так и экстерьер должен быть российским. Вы поняли меня?

Фёдар Уладзіміравіч уважліва і з цікавасцю ўзіраўся ў фундатарку Алу, як жывы сучасны тыпаж цяперашняй

маскоўскай супольнасці, што ўсё яшчэ імкнулася весці рэй на постсавецкай прасторы. «Цікава, ці ёсць у яе сям'я, дзеці? Мабыць, ёсць. А малады каханак? Гэта так модна ў іх зараз – мець маладога бой-фрэнда. Хутчэй за ўсё, цётка хоча зарабляць грошы, усё астатняе ў яе на другім плане. Укласці пяцьсот тысяч крэдытных грошай, а атрымаць два мільёны. Гэта зараз іхні галоўны брэнд: зарабляць. Косяць пад амерыканцаў».

– Вы записываете, Фёдор, это хорошо, но пока послушайте.

Між тым Тодар, пазіраючы на маскавітак, хутка запісваў свае ўражанні ў сшытак. «Апранута ў цёмна-сіні пільчак, каляровая кофта, даволі прыстойныя цёмна-сінія штонікі, скураныя боцікі. Рудыя валасы, цёмныя вочы невыразнага колеру. Гадоў пяцьдзясят на выгляд. Ціснe на суразмоўцу і ўвесь час дамінуе, ніякага творчага пошуку». Ён востра зірнуў на Алу і дадаў у запіс: «Жадання не выклікае, наадварот – адштурхоўвае».

– Я тебя предупреждала, Станислав, что никакой Тургеневщины и никакой Чеховщины не должно быть. Всё это устарело уже в XX столетии. А сейчас время бежит к середине XXI. Эти «первые ступени», «вторые ступени» и «третъи ступени» – всё это состоявшееся поколение не приемлет. Это возростной инфантилизм, отставание в развитии.

– Альберт Эйнштэйн, дарэчы, як і Франклін Рузвельт, абодва прызнаваліся, што з моцным спазненнем рабіліся дарослымі, – лагодна і нават спагадліва зазначыў Фёдар Уладзіміравіч.

Маскавітка зірнула на яго вострым позіркам сучаснай бізнэс-лэдзі і стрымана патлумачыла:

– Талант не пропьёшь, если это сильный талант. А средним людям, личностям безусловно способным, но не имеющим больших талантов, необходимо быстро и вовремя становиться взрослыми. Поэтому эти по-вашему «каханни» – в спам[46]. Нужны фильмы с качественным сексом. Очень хорошо было бы, если секс с изюминкой. Например,

46 Спам – у Інтэрнэце: інфармацыйнае смецце.

молодого симпатичного учителя с пожилой, но воспитанной и привлекательной учительницей.

– Сэкс маладога настаўніка з дырэктарам школы? – добразычліва, але з прыхаваным здзекам закінуў пытанне пісьменнік. Яны не зразумелі, што Фёдар Уладзіміравіч правакуе, вывучае і потым запісвае іх адказы, меркаванні, трапныя і тыповыя рэфлексы.

– Вот-вот. Это как раз в точку, будет востребовано и в Европе.

– Канечне, можна і сэкс, але ён цікавы толькі для тых, хто непасрэдна займаецца гэтым экшнам. У тых, хто назірае, ён нават выклікае агіду. Мы ж не можам рабіць стаўку на падлеткаў і прышчаватых гімназістаў.

– Вот и займитесь этим, вы – писатель. Это ваша забота. Не надо забывать старика Фрейда – «Борьба между Эросом и Смертью – сущность и содержание жизни вообще»!

Фёдар Уладзіміравіч спахмурнеў, ён, пішучы сцэнар, прапусціў жыццё свайго героя праз сябе, шмат зразумеў і дасягнуў таго валадарнага, боскага стану душы, які няма сэнсу мяняць. Таму ён, пазіраючы на Станіслава Шулешку, важка зазначыў прысутным:

– А дзе галоўная мэта мастацтва: сеяць разумнае, добрае, вечнае? Сцэнар нібыта быў заказаны пра каханне, пра «драмы і трагедыі», пра дасягненне катарсісу гледачамі, а на самай справе патрэбны жывёльны і хамскі сэкс! Будзем гнаць лабуду, шкодную для грамадства?

– Свободен! Давайте, Станислав, второй сценарий. Этого, как его, Курочкина.

Твар у Фёдара Уладзіміравіча памяняўся, набыў зусім іншы, чужы, незнаёмы выгляд. Ён разняволена і артыстычна прамурлыкаў:

– «Если очень вам неймётся, обнимайтесь с кем придётся. Водными займитесь проце... дуррра... ми!»

Ён забраў са стала свой асобнік сцэнара і пайшоў да дзвярэй. Станавіцца шасцёркай, чужым падпявалам, халуём шэрасці ён не зьбіраўся. Ягонае аблічча сведчыла, што ён ужо знаходзіўся ў новай рэчаіснасці, там, дзе існуе

і пануе зусім іншая, боская існасць... Не будзе кінасцэнара, будзе раман. Кіно – гэта з'ява часовая, застаюцца толькі моцныя класічныя рэчы, але гэтыя распілоўшчыкі крэдытаў і грантаў ніколі не здымуць катарсіс, бо не ведаюць, што гэта такое. А літаратура вечная, і ён напіша раман, а потым адшукае і пашле Ёй гэты трагічны твор пра Іх каханне.

– Пусть вернёт аванс, – пачуў ён словы, пасланыя яму ў спіну ўжо ў дзвярах. – Сегодня же! Тоже мне, «творец» нашёлся, каждый провинциальный прыщ мнит из себя Спилберга и Достоевского.

Маскоўская бізнэс-лэдзі, што брала прыклад з галівудскіх прадзюсараў, не ведала, што пісьменнік на гэты раз не браў авансу, ён нібы адчуваў рух будучых падзей. Адзінае, што яго крыху непакоіла, што ён скажа жонцы. Рамонт кватэры і доўгачаканая купля легкавіка адкладваліся на бясконца доўгі тэрмін.

За ім следам хутка выскачыў Стась Шулешка і накінуўся на Фёдара Уладзіміравіча:

– Ты ёлупам быў і ёлупам застаўся. Мадам узяла больш за мільён крэдыта ў далярах. Пяцьсот тысяч аддала зразу банкірам. Пяцьсот пойдзе пракату. На трыста тысяч трэба зняць фільм і потым зарабіць грошы, каб вярнуць крэдыт і трошкі самім сабе пакласці ў кішэнь.

– А я тут пры чым, Стасік?

– Ты за сцэнар атрымаеш свае дваццаць тысяч. Зрабі, як яны хочуць. Ты ж мне сам казаў, як, будучы маладым настаўнікам, заляцаўся да пяцідзесяцігадовай каляжанкі і потым дасягнуў з ёй «Эдэму». Пакажы валадарства тэстастэрону. Намалюй свае спраўджаныя і няспраўджаныя фантазіі. Ты ж можаш.

– Магу, але не буду. Не хачу паказваць брыдоту, ашукваць моладзь. Распуста – гэта шлях у бездань. Няхай Курачкін іх задавальняе.

– Курачкін – графаман. Ён і да сэксу не здольны. Ты ж сам ведаеш, што для сэксу трэба багацейшае ўяўленне. Ты ж можаш паказаць, як жанчына ідзе па калідоры, і

гэта будзе эратычны эпізод. Я ім так і сказаў. Іхняя ўмова, каб праз тыдзень быў сінопсіс.

– У мяне няма часу. Я пішу раман.

– Пішы. Мы не супраць. Але праз тыдзень дай сінопсіс. Яны там мяне запыталі: «Што, і гэта ўсе вашы тутэйшыя таленты? Няма каму напісаць таленавіта пра сэкс?» Ты ж сам пагарэў праз сэкс. Вось і пакажы таленавітыя, дзівосныя, прыгожыя плоцкія зносіны. Усе наеліся чэхаўскага і тургенеўскага кахання без доступу да плоці.

Гэты наступ пахіснуў упэўненасць Фёдара Уладзіміравіча. Як пісьменнік, ён быў уражлівы і чуллівы да чужых меркаванняў.

Праз дзень увечары яму ізноў патэлефанаваў Станіслаў Шулешка. Ён стрымана зазначыў:

– Мая Мігулеўская, рэжысёр-пастаноўшчык, уважліва перачытала тэкст і сказала, што твой сцэнар вельмі добры, але не закончаны. У ім ёсць каханне, але няма плоцкай любові, а без сэксу дзеці не нараджаюцца. Яна казала, што праблема ў тым, каб паказаць не проста сэкс, а прыгожы сэкс. І калі ты здолееш гэта зрабіць, то ў цябе тыдзень часу.

– Гэта можа быць толькі другая і, магчыма, трэцяя частка?

– Цудоўна. Гэта яшчэ лепш. Давай хутчэй сінопсіс.

– Я магу пісаць толькі пра нас, пра Беларусь...

– Пішы пра Беларусь. Мігулеўская казала, што ў Расеі зараз вялікі інтарэс да нашай краіны.

Стась Шулешка паклаў слухаўку, а Фёдар Уладзіміравіч, крыху збянтэжаны, сеў на канапу. Заказчыкі мелі рацыю так казаць. Яны сёння думалі так, як некалі адчуваў ён, адчуваў і не ведаў тады, што рабіць, як дзейнічаць прыгожа, умела, пераканаўча, нарэшце ўпэўнена... І яму трэба зрабіць віртуальным тое, што ён некалі не здолеў ажыццявіць у рэчаіснасці.

Увесь вечар і паўночы ён упарта, нават з захапленнем перарабляў кінасцэнар. Фактычна асноўная канва кінасцэнара была напісана, і заставалася толькі прадоўжыць

ходу падзей і зрабіць некалькі эпізодаў прыгожых плоцкіх стасункаў. Праца захапіла пісьменніка, ён адчуваў эйфарыю і тое заўсёднае для яго эратычнае пачуццё задавальнення, нібы ён уступіў у інтымныя зносіны з вельмі жаданай, густоўнай і цікавай жанчынай з самай высокай якасцю ўзаемастасункаў. Гэткае пачуццё апошнія гады было рэдкім і, як заўсёды, сведчыла аб добрым узроўні напісанага твора.

## VII

Працуючы над другой версіяй сцэнара, Фёдар Уладзіміравіч у вольныя часіны вяртаўся да свайго рамана і настойліва напрацоўваў новае і больш глыбокае прачытанне жыццёвага тэксту. Ён змяніў свой пункт гледжання на мінулыя і будучыя падзеі з эмацыйна-пачуццёвага на рацыянальна-прагматычны і шукаў канчатковую ісціну, якую ён уставіць у другую частку свайго сцэнара.

Звычайна зранку ён піў каву, думаў, пазіраў у вакно з чацвёртага паверха на снежна-белае асяроддзе. Побач на белай бярозе сядзеў чорны крумкач, павольна ішоў дробны снег... Гэта была тая самая звыклая штодзённасць, што захавалася ў яго памяці з далёкага дзяцінства і ў якой прысутнічаў нейкі момант ісціны. Снег, бярозы, чорны крумкач... Яны былі для новага гістарычнага часу незаўважанай канстантай.

Жыццё паўставала перад ім у выглядзе шахматнай дошкі, на якой стаялі розныя чалавечыя фігуры. Фігуры рознакаляровыя – гэта тыя, хто жыў сёння і меў магчымасць рабіць жыццёвыя хады і крокі. Таксама былі чорна-белыя фігуры тых, хто жыў у мінулым, і сёння яны нічога не маглі змяніць у сваім праляцелым жыцці, але маглі патлумачыць мінулае. Цяпер Фёдар расстаўляў на гэтай жыццёвай дошцы вядомыя яму рознакаляровыя, чорныя і белыя фігуры, імкнуўся зразумець іхнюю сутнасць, сучасны сэнс і кошт.

Дапісваючы свой раман, Фёдар Уладзіміравіч усё глыбей і глыбей аналізаваў стасункі між героямі рамана, Юляй і Тодарам, іншы раз, здавалася, дасягаў апошняга адказу на ўсе пытанні і нечакана са здзіўленнем вызначаў, што канчатковага адказу не існавала. Там, дзе ягоны герой урэшце прайграваў і звычайнае жыццё перамагала, нечакана выяўлялася, што герой, захаваўшы любоў у сваёй душы, не толькі не прайграваў, але нават рабіўся пераможцам. Але і гэта не было поўным адказам, любоў як каханне, нейкім чынам ператваралася ў Каханне як самадастатковую Сілу. Урэшце гэтая Сіла магутна ўздымалася і пачынала дамінаваць над матэрыяльным светам, спажываннем, якасцю – рабілася той моцай, якая ратавала чалавека ад самазнішчэння.

Пісьменнік так і не знайшоў канчатковага адказу на пытанне: што такое любоў-каханне? Моц фермонаў? Так! Сіла плоцкіх стасункаў? І гэта таксама! Але было нешта маленькае, амаль не заўважанае спачатку, драбнюткая адметнасць, нейкі чароўны алгарытм, які адрозніваў сэкс ад кахання. Сэкс таксама спачатку часова мяняў штодзённасць, але Каханне стварала новае быццё, магнетычную прастору, дзе рэчаіснасць рабілася чароўнай, сонечнай, дзівоснай, боскай, пераставала быць прагматычнай і звыклай...

Аднойчы зранку яму патэлефанаваў па міжгорадзе малады дырэктар школы з Клёнава Іван Іванавіч Коваль.

– Добры дзень, шаноўны Тодар Уладзіміравіч! Хочам вас запрасіць праз два тыдні на сустрэчу выпускнікоў. Хацелі б паслухаць вашае меркаванне аб сучасным жыцці, аб мэтах і задачах гістарычнага часу, – прамаўляў у слухаўцы ўсхваляваны Іван Іванавіч.

– Дзякуй, шаноўны дружа. Прыеду абавязкова. Прагледзеў ваш аўтарэферат. Маё меркаванне вельмі пазітыўнае. Знаёмыя навукоўцы з Вучонага савета Акадэміі навук таксама выказаліся станоўча. Самае галоўнае – калі працягваць далейшае развіццё тэмы, то можна і доктар-

скую напісаць. Але спяшацца не трэба. Пойдзем па прыступках не спяшаючыся. Як толькі будзе час – прыязджайце, Іван Іванавіч, звяду з тутэйшымі ўплывовымі людзьмі.

– Вялікі дзякуй, Тодар Уладзіміравіч. Праз тыдзень буду ў вас. Дарэчы, можа, гэта вам і не вельмі важна цяпер, але я распавёў вашу гісторыю сваёй жонцы. Яна навяла звесткі, і наша настаўніца Алёна Іванаўна і тэхнічка Вера ўспомнілі, як прыкладна гадоў пяць таму, пад вечар, прыязжала на зімніх канікулах адна дагледжаная і прыемная пані з Кіева. Юля Іванаўна, такім было яе імя, казала, што некалі працавала ў нашай школе. Выпіла з імі кавы, падарыла настаўніцы і тэхнічцы шыкоўныя навагоднія падарункі, пахадзіла па школе. Зайшла ў той клас, дзе вы былі, доўга сядзела на той самай парце, выцірала слёзы хустачкай, а потым ціха пайшла да свайго джыпа.

Фёдар Уладзіміравіч падзякаваў Івану Іванавічу за звесткі, яшчэ раз запрасіў яго да сябе ў госці і потым, скончыўшы размову і паклаўшы слухаўку, вярнуўся ў свой рабочы габінет.

Ён выціраў насоўкай слёзы, што чамусьці ліліся з ягоных вачэй, глядзеў на гмахі дамоў і цёмныя абрысы разлапістых дрэў на белым снезе. На барвяным усходзе неба, над дахамі шматпавярховых дамоў уздымаўся чырвоны шар сонца. Вецер нёс па двары снежную завіруху, і ён адчуваў халодны дотык ветру, сняжынак і «цеплыню Юлі, хвалюючы і дзівосны пах дзявочых вуснаў», і ў небе тады вісеў серп маладзіка...

...А потым Яе ўжо ніколі не было побач... І былі наступныя гады жыцця са світанкамі, высокім веснавым небам, цішынёй марознага сакавіцкага ранку, і ў яго душы гучалі і гучалі чароўныя гукі трубы, покліч да ўзнёслага і велічнага, а вакол было толькі звыклае і штодзённае... І Юлі нідзе і ніколі ўжо не было!

Ніколі і нідзе! Якім страшным было для яго гэта слова – «Ніколі!»... І ніколі ўжо ён не будзе маладым! Ніколі каханая не абдыме яго сваімі пяшчотнымі рукамі, не зірне яму ў вочы таемным трапяткім позіркам, не скажа: «Табе, шаноўны Федзя, шах!»

І ўсё гэта мінула, знікла і ўжо ніколі не адродзіцца... Старажытны грэцкі бог Апалон[47] памяняў яго долю, адвярнуў ад Эдэма, накіраваў па шляху пазнання…

...але Яна помніла Яго!

І толькі цяпер у ягоным уяўленні з'явіліся першыя промні сонечнага святла, яго ўжо не абкружала густая цемра. ...Ён і Яна не згубіліся ў змроку! Яны зацвердзілі, што агеньчык святла не пагас і ўжо напэўна ніколі не згасне... І ўпершыню ў жыцці ён адчуў, як у ім нараджаецца нешта свядома велічнае, магутнае, боскае, і толькі зараз Ён робіцца вартым Яе.

## VIII

Праз тыдзень упартай працы Фёдар Уладзіміравіч скінуў сінопсіс сцэнара фільма «Дзень, калі загінуў Апалон» па электроннай пошце Станіславу Шулешку і цяпер, у сваю чаргу, чакаў авансу. Перачытаўшы надрукаваны ў некалькіх экзэмплярах сцэнар фільма, ён зачапіўся за некалькі неасэнсаваных думак, якія навялі на ідэю працягу сцэнара і рамана.

Пад вечар прыехаў да яго на кватэру Стась Шулешка, прывёз аванс, забраў сцэнар. Селі ў габінеце піць каву і крыху пагаварылі. Шулешка – сярэдняга росту мужчына гадоў пад пяцьдзясят, без сівізны ў русых валасах, ураўнаважаны, памяркоўны, працавіты і прагматычны. Ён прысеў у крэсла, дробнымі глыткамі нетаропка піў духмяную каву і казаў:

– Заўтра прыходзь на студыю, Тодар, будзем прымаць твой сцэнар.

– Прымеце? – пісьменнік сядзеў за сталом каля вакна, быў у швэдары, з закутанай шалікам шыяй: яго мучыў хранічны бранхіт.

– Прымем. Трэба атрымліваць крэдыт, а без сцэнара яго не возьмеш. Акрамя таго, сінопсіс, ідэя, тэмп, рытм –

47 Апалон – бог Сонца. Сімвал перамогі над сабой, аб'яднання рацыянальнага і невытлумачальнага, сакральнага і звычайнага. Гэта агонь духоўнасці, сімвал гармоніі, цэласнасці.

усё спадабалася рэжысёрцы-пастаноўшчыцы Мігулеўскай. Сёння за ноч яна прачытае сцэнар дэталёва, а заўтра прымем. Нават мне ідэя фільма здалася цікавай.

– І што цябе, Стась, уразіла? Напэўна, другая частка і «любоў» з Інай Міхайлаўнай?

– Гэтак. Як ён яе распранаў, паклаў у ложак, а потым яны бегаюць амаль галяком па хаце пры святле поўні, і ён з ёй на канапэ... Гэта шыкоўна! Мая так і сказала: «А Фёдор шалунишка или маньяк...»

– Цікава, каго маскоўскія дамы любяць больш: маньякоў ці гарэзаў? Дарэчы, у мяне тут думкі ўзніклі, Стась. Можа, яшчэ адну серыю напісаць?

– Пішы, але спачатку прымем сцэнар. А любяць маскавіткі зараз больш за ўсё даляры.

Фёдар уважліва ўглядаўся ў Шулешку, імкнучыся свае нявырашаныя пытанні ўскласці на сябра і, карыстаючыся ягоным прагматызмам, вырашыць тое, што не вырашалася ва ўласным рамантычна-пачуццёвым светаўспрыманні.

– Іншы раз, Стась, я адчуваю сябе ў жыцці ідыётам.

– Мне даўно вядома, што ты вальтануты. Кожны па-сапраўднаму таленавіты чалавек – ідыёт. Замест таго каб жыць, карыстацца магчымасцямі – ёлуп жыве прыдуманымі мроямі.

– Я не ведаў фармулёўкі Эрыха Фромма аб самасвядомасці вядомага.

– Ты і не мог ведаць, бо ў той час Фромм[48] яшчэ не напісаў сваю кніжку.

– Не ведаў, але адчуваў! Ды яшчэ як адчуваў...

– Ты прайграў, што дзіўна, з той самай прычыны, з якой праляцелі ўсе савецкія людзі, рамантыкі і алканаўты. Разняволіліся, пачалі смактаць гарэлку, перасталі настойліва вучыцца і мінулі свой шанец.

– Саўкі, як яны, Стась, пераконвалі мяне ў маладосці не забаньваць свае глузды пошукамі ісціны. Жыві сёння, жыві штодзённасцю, еш, пі, калі можаш і ўмееш, карыстайся спакусамі жыцця і будзь шчаслівым... Любоў, што

48 Эрых Фромм. «Чалавек для сябе».

гэта? Плоцкая радасць ці агеньчык Святога Боскага Духа, які нараджае любоў да ўсяго Сусвету?

– Ізноў рамантыка, Фёдар, імкненне збегчы ад жывога жыцця ў віртуальнасць. Дарэчы, Кен Уілберы[49] ў сваёй кніжцы жалаваўся, што рамантыкі так яму замуцілі глузды, што ён дзесяць год страціў на тое, каб разабрацца, што да чаго.

– Ты чытаеш Кена Уілберы? Стась, ты мяне моцна здзівіў!

– Чытаў мой сын Славамір, я толькі гартаў ягоную кніжку. Трэба ж ведаць, чым забаньвае свае глузды моладзь.

Шулешка сядзеў за сталом, ураўнаважаны, сучасны і самадастатковы.

Фёдар пазіраў на сябра і на імгненне пазайздросціў Стасю, ягонай адэкватнасці і прыстасаванасці да жыцця. «Але каб нешта ствараць, трэба рабіць крокі ўперад, тым самым парушыць раўнавагу, укладзены лад быцця... Змагацца, цярпець паразы...» – думаў ён.

Яны яшчэ крыху памаўчалі, кожны думаў пра сваё. Стась дапіў каву, паціснуў руку пісьменніку і, як заўсёды – моцна заклапочаны, ад'ехаў. Ён быў прагматычным чалавекам, ніколі не думаў і не марыў пра Эдэм, верыў толькі самому сабе і то не заўсёды, а больш уласным намаганням і добрым заробкам.

«Маючы грошы і не страчанае здароўе, можна някепска жыць і ў Менску», – так лічыў Стась Шулешка і, напэўна, меў рацыю так думаць.

Фёдар Уладзіміравіч застаўся адзін і павольна хадзіў па габінеце: успамінаў, уяўляў, зазіраў у мінулае і ў будучае, задаваў сабе пытанні і сам адказваў на іх. Ён разумеў Шулешку лепш, чым той ведаў сябе сам, але цяпер Стась быў яму нецікавы як занадта адназначны, нават прымітыўны.

Каб быць сучасным, адэкватным і шматзначным, рухацца па жыцці на трэцяй хуткасці, трэба было прадбачыць і ведаць будучыню. Там ужо валадарылі тыя сілы,

49 Кен Уілберы – сучасны выбітны амерыканскі прадстаўнік трансперсанальнай псіхалогіі.

што сёння толькі нараджаліся ў сучаснасці. І Фёдар углядаўся ў таямнічую далечыню, каб вызначыць патрэбны для сябе накірунак руху.

## IX

Ён вярнуўся да напісанага сцэнара другой часткі фільма «Дзень, калі загінуў Апалон» і перачытаў некалькі фрагментаў. Эпізоды не вельмі яму падабаліся, але паколькі плоцкія адносіны працягвалі існаваць у сучасным жыцці, то трэба было, каб яны існавалі і ў мастацтве і тым самым мацавалі чалавецтва.

**Эпізод 19.** Калідор вясковага клуба. Інтэр'ер. Дзень.

Насустрач Тодару ідзе ў чырвонай вязанай сукенцы, што файна і спакусліва аблягае яе стан, Іна Міхайлаўна. Тодар з непрыхаванай юнацкай хцівасцю чапляе яе сваім зацікаўленым позіркам. Яна ў адказ усміхаецца добразычлівай і вінаватай усмешкай.

Увечары Тодар успамінае гэты позірк і раскладвае яго на часткі.

Чаму яна яму ўсміхнулася вінавата? Таму што ўбачыла ягоныя жаданні? Усміхнулася – гэта значыць, аднеслася добразычліва, а вінавата, таму што не можа адказаць станоўча на ягонае жаданне. Так? Так! Чаму не можа? Колькі ёй, 45 ці 50 гадоў на выгляд!? А якое гэта мае значэнне? Яна выклікае ў яго жаданне – гэта самае галоўнае! Астатнія не выклікаюць, бо больш энергічныя, небяспечныя ці замужнія, больш грубыя, больш моцныя?.. Так, так, больш моцныя! Яны здольныя ўсміхнуцца, але цынічна, хамавата, хітра, спакусліва... яшчэ неяк – хціва, палка, юрліва... Ніхто з іх не ўсміхнецца вінавата!

Цяпер, сустракаючы кожны раз Іну Міхайлаўну, ён асцярожна і ўважліва пазірае і ўглядаецца ў яе.

**Эпізод 20.** Танцзала. Інтэр'ер.

Вечарына праходзіць выдатна. Юнакі і дзяўчаты шмат і ўзнёсла танчаць. Ніхто не звяртае ўвагі, як пры

танцы Тодара з Інай Міхайлаўнай тая раптам пачырванела. А ён, набраўшыся адвагі, нават ветлівага нахабства, і запрасіўшы яе на танец, ціха на вушка прашаптаў прывабліваі жанчыне.

Тодар: – Шаноўная Іна Міхайлаўна, вы мяне хвалюеце і выклікаеце жаданне. Хацелася б усталяваць з вамі больш блізкія стасункі.

Жанчына перамагае сваю ўзрушанасць, спакойна і ветліва кажа.

Іна Міхайлаўна: – Як вы ўяўляеце рэальнасць гэтых блізкіх стасункаў? І што гэта за «блізкія стасункі»?

Тодар: – Шаноўная пані Іна, гэта ўжо другое пытанне. Спачатку трэба атрымаць адказ на першае, а потым можна паклапаціцца аб другім. А «блізкія стасункі» – гэта калі, канечне, ёсць у вас жаданне. Калі жадання няма, то тады і размовы няма, і нават не было.

Малады настаўнік кажа гэтыя, як яму здаецца зараз, небяспечныя для яго словы, знешне пачціва, мякка, крыху вуглавата, што сведчыць аб ягонай шчырасці, з вялікай унутранай узрушанасцю і напругай.

Музыка грае хуткі танец, вакол віхурай танчыць тутэйшая моладзь, а яны плывуць у ціхім рытме павольнага танца, і можна гаварыць і быць непачутымі іншымі.

Іна Міхайлаўна: – Вы не адказалі на маё пытанне, дружа, што вы маеце на ўвазе пад «блізкімі стасункамі»? Гэта вельмі шырокі спектр адносін.

Іна Міхайлаўна добразычліва ўсміхаецца, не столькі для яго, колькі для тых, хто мог за імі назіраць. У яе разумны позірк і прыгожыя шэрыя вочы.

Танец заканчваецца, музыка павінна праз некалькі секунд спыніцца, і размова можа скончыцца нічым. Тодар, нібы кідаючыся з разгону ў ледзяную ваду, ціха, але рашуча гаворыць, дзёрзка гледзячы ў прывабны твар Іны Міхайлаўны.

Тодар: – Больш блізкія стасункі? Я маю на ўвазе інтымныя адносіны, пані Іна!

Гэта сказана па-мужчынску пераканаўча! Проста і мужна! Сваім «пані Іна» ён бурыў абарончыя муры, што

маюца ў прывабных жанчын. Ніколі, нідзе і ніхто не звяртаўся да яе як да пані. Звярталіся як да настаўніцы, як да жанчыны, сяброўкі, таварыша... «Таварыш Іна» – было і такое.

Іна Міхайлаўна: – Я падумаю над гэтым, – задумліва адказвае пані Іна.

Праходзіць некалькі дзён. Сустракаючы Іну Міхайлаўну, Тодар запытальна глядзіць на яе, яна ўважліва пазірае на яго, нібы нешта ўзважваючы.

**Эпізод 21**. Дом Іны Міхайлаўны. Інтэр'ер. Вечар.

У Іны Міхайлаўны прысутнічае знешняя культура і прыхаваная духоўнасць, гуманізм. У вясковай рэчаіснасці інтэлігентнасць, адарваная ад рацыянальнага і прымітыўнага прагматызму, выглядае як слабасць і можа служыць зачэпкай для кпінаў. Таму яна прытушыла лепшую сваю якасць і прысвяціла сябе выкананню сваіх прафесійных абавязкаў: навучанню і выхаванню дзяцей. У вёсцы яе паважаюць, бо з яе класаў выходзілі добра выхаваныя і падрыхтаваныя дзеткі.

І вось цяпер гэты малады вабны юнак узіраецца, вывучае яе і самога сябе і хоча аддаць сваю цнатлівасць, і тым самым бянтэжыць яе. Маладыя мроі Іны Міхайлаўны засталіся далёка ў мінулым, яны ніколі не здзейсніліся. Яна жыла ціхім жыццём асобы, прыстойна прайшла сваю жыццёвую сцяжыну, узгадавала дваіх дзяцей, паставіла іх на ногі, пахавала мужа, дачакалася ўнукаў і рыхтавалася прайсці сваю фінішную сцежку. І гэты пажадлівы позірк юнака, так падобны на яе маладую, палкую, рамантычную, з імкненнямі і верай у будучыню... Калісьці яна была гэткай самай «групы крыві».

Іна Міхайлаўна задумліва сядзіць за сталом, разглядае свой прыгожы твар у люстэрку.

Іна Міхайлаўна: – Ён такі палахлівы. У ім адсутнічае ўнутраная ўпэўненасць. Яму так патрэбны Настаўнік. Настаўнік дапаможа ўзняцца на няпростыя жыццёвыя прыступкі, і тады, магчыма, ён яшчэ здолее стаць сокалам. Інакш чэрнь рана ці позна заблытае яго. Пераканае,

што гэты рацыянальны жыццясвет і ёсць сапраўднае быццё. Яны падсунуць яму падпітую «цёлку», а потым заўсёды ўпэўненыя і вясёлыя смерды павядуць яго шырокім шляхам штодзённасці і бессэнсоўнасці. Ён так і не знойдзе сваю сцежку, што вядзе да творчага, разумнага, добрага, да боскага...

Увечары, распрануўшыся, яна разглядае сябе ў люстэрку. Стройная, з дзівоснай, так жаданай для мужчын паставай, чароўны, мабыць, хвалюючы іх збег абрысаў...

Іна Міхайлаўна: – Але ці ёсць у мяне ўласнае жаданне? Ці здольная я сама жадаць плоцкіх уцех?

**Эпізод 24.** Дом. Інтэр'ер. Момант плоцкай любові.

Тодар: Нечакана ён разумее, што ў прыродзе рэчаў і з'яў не існуе ні сталай жанчыны Іны Міхайлаўны, ні маладога настаўніка Тодара, а валадараць дзве супрацьлеглыя магутныя існасці: мужчына і жанчына. Зусім натуральна ён прытуліў яе да сябе і цалуе ў трапяткія ўсхваляваныя вусны. Ягоная рука, што ляжыць на яе плячах, адчувае дзівоснае выпраменьванне супрацьлеглай сілы, якая сведчыць, што ў гэтай жанчыне жыве жаданне, замураванае штодзённай і шматгадовай рэчаіснасцю. Яно не знікла і набірае сілу і ўжо захлёствае іх абодвух.

Яны, абняўшыся, хістаюцца пад моцай імпульсіўных вібрацый адно насустрач другому. У Тодара адчуванне палёту ў цясніну і потым імклівае вяртанне назад, на вышыню, да белых аблокаў, нібы ён ляціць на вялізных дзівосных арэлях, так што захоплівае дух...

(Заўвага: Сам момант інтыму канструююць рэжысёр-пастаноўшчык і мастак-пастаноўшчык.)

**Эпізод 26.** Дом. Інтэр'ер. Другая версія плоцкай любові.

...Гэта адбываецца пад раніцу, калі яны, адпачыўшы крыху, ізноў пачынаюць сваю гульню пры святле поўні, што коса высвечвае палову залы, і ён ганяецца за ёй, а яна, у белай доўгай кашулі, са смехам бегае вакол стала і хаваецца ў цену, і нарэшце трапляе яму ў рукі, і абое ўзбуджаныя любоўнай гульнёй, заціхаюць, і ён перакідвае

яе праз мяккі пухнаты валік канапы, пачынае любоўнае дзейства з трэцяй пазіцыі. Гэта дзейства ваяра-салдата, які толькі што скончыў лютую крывавую бітву за багаты сярэднявечны горад, захапіў у палон тутэйшую прыгожую жанчыну і пад сполахі пажараў бязлітасна і жорстка карыстаецца сваёй здабычай. Тодар, далікатны і чуллівы, зараз дзейнічае як сярэднявечны драб ці жаўнер Другой сусветнай вайны на заваяванай тэрыторыі. Яго здзіўляе, што Ёй гэты жорсткі сэкс падабаецца больш за папярэднія. Больш дакладна, гэта апошні дасканалы мазок на палітры іхніх сённяшніх эратычных стасункаў.

Ужо раніцай, памыўшыся і апрануўшыся, яны п'юць гарбату, моўчкі пазіраюць адно на другога. Для абодвух жыццё, асяроддзе, праца кардынальна змяніліся. Усё стала іначкшым, чым было. Гэта Падзея, якая мяняе свет, часова расплюшчвае яму вочы на жыццё, сцірае пыл са штодзённасці. Але Тодар адчувае нейкую штучнасць і фальш у сваіх добразычлівых і нават узнёслых паводзінах з гэтай чужой жанчынай... Ён паспявае выпіць гарбату да таго, як надыдзе світанак, і пойдзе ў яшчэ шэры прыцемак. Пазіраючы ў затуманеныя вочы, пытаецца.

Тодар: – Шаноўная пані Іна, я хацеў бы з вамі прадоўжыць як блізкія, так і інтымныя стасункі. Калі вы, канечне, не супраць.

Іна Міхайлаўна: – Ідзі ўжо, Тодар, покуль цёмна, а то людзі ўбачаць.

Тодар: – А што мне людзі? Я іх не баюся!

Іна Міхайлаўна: – Не кажы. Чароўнымі інтымныя стасункі могуць быць датуль, покуль яны таемныя. Як толькі яны стануць вядомымі, адносіны адразу спросцяцца, стануць штодзённасцю...

Тодар: – Чаму так?

Іна Міхайлаўна: – Не ведаю. Ідзі ўжо, а то развіднее.

І ён ідзе ў студзеньскі зімні ранак, заснежаны, са скрыпам снегу пад абцасамі ягоных зімовых чаравікаў, з крыкамі пеўняў і двума ліхтарамі на слупах на ўсю вёску – каля дома Іны і каля прыпынку арбона. Тодар адчувае і

разумее: усё, што сёння рабіў з гэтай чужой жанчынай, ён павінен быў некалі рабіць са сваёй Юляй.

Перачытаўшы напісаны сцэнар, пісьменнік задумліва адсунуў яго ўбок. «Хрэнацень нейкая. Хадулізм і спрошчанасць? Але Чэхаў, Астроўскі, Тургенеў і Дастаеўскі са сваімі духоўнымі самакапаннямі спрыялі росту негатыўных пачуццяў і меркаванняў, што прывяло ўрэшце грамадства да рэвалюцыі і грамадзянскай вайны».

## X

Назаўтра, ідучы па другім паверсе па доўгіх цёмных калідорах кінастудыі «Беларусьфільм» да рэжысёрскай, дзе ён павінен быў здаць напісаны кінасцэнар фільма «Дзень, калі загінуў Апалон», Фёдар Уладзіміравіч міжволі думаў, што, маючы такі вытворчы падмурак, дзяржава магла б здымаць для пачатку як мінімум дзесяць поўнаметражных фільмаў у год і мець добры прыбытак. «Але ж не здымаюць, а чаму? Таму што таленавітыя адсунуты ўбок, з іх зрабілі zero!.. А без таленавітых не туды і не сюды. Нават у навуцы можна зрабіць нешта новае. Адзіная звышдзяржава не ў сілах ахапіць увесь масіў навуковых накірункаў і магчымасцяў, якія адкрываюцца перад чалавецтвам...»

У калідоры ён сустрэў стройную жанчыну ў зялёнай спадніцы і пунсовай блузцы, агледзеў яе пільным позіркам, яна незадаволена і варожа зыркнула на яго, і ўжо прамінуўшы яе, ён раптам пазнаў прадзюсара Алу Голікаву.

У рэжысёрскай за сталом сядзелі і чакалі яго рэжысёр-пастаноўшчк Мая Мігулеўская і дырэктар фільма Станіслаў Шулешка. Толькі што фундатар праекта Ала Голікава сышла з габінета, пакрыўджаная за праспяваныя пісьменнікам тыдзень назад словы «...водными займитесь проце... дуррами...».

Мігулеўская пяць хвілін перад гэтым тлумачыла і пераконвала фундатара:

– Ала, Фёдар Уладзіміравіч – таленавітая творчая асоба. Усе яны, дарэчы, як адзін – псіхапаты. А Фёдар – псі-

хапат яшчэ той. Гэта табе не маскоўскія графаманы, што, не выходзячы з габінета, начырыкаюць любую лабуду, ад якой грамадства даўно ванітуе. Яго тэксты плачуць і крыкам крычаць, і ў той жа момант ён сучасны. У нас выпаў шанец зняць шэдэўр і зарабіць грошы. Гэта шанец як для Фёдара, так і для нас. Знайсці б добрых, незацыкленых актораў. Таму, Ала, лепш табе часова сысці і не дражніць гэтага вар’ята.

Цяпер Мігулеўская прымала з дырэктарам фільма Станіславам Шулешка прачытаны ёй за ноч кінасцэнар.

– Фёдар, – прамовіла Мая Мігулеўская, – кінасцэнар мне спадабаўся. Але ўзнікаюць пытанні. Першае: як выбраць актораў на галоўныя ролі? Напрыклад, Іна Міхайлаўна – гэта вельмі тонкая і далікатная роля. Маладыя і прафесійныя акторкі, ды і сталыя і дасведчаныя, могуць не пацягнуць.

Прадбачлівая і прагматычная Мігулеўская хацела задзейнічаць пісьменніка ў напісанні рэжысёрскага сцэнара і ў працэсе здымкаў фільма, і па парадзе Шулешкі рабіла закіды, каб уцягнуць яго ў гэтую плынь.

– Акрамя таго, трэба падрыхтаваць рэжысёрскі сцэнар і максімальна трапна вызначыць колькасць часу кожнага эпізода. Вось, напрыклад, эпізод №3 «Прагулянка па восеньскім парку». Тут можна абмежавацца і 30 секундамі, можна паўтары хвіліны... Нельга і зацягваць эпізод, і таксама нельга паказаць мімходзь... Яны ідуць, аб чымсьці гавораць, паглядаюць з цікавасцю адно на аднаго, абое пазітыўныя, прыгожыя, яшчэ не кранутыя брудам жыцця, ён яшчэ крыху інфантыльны... І вось яна гаворыць: «Жанчыну нельга ўдарыць нават кветкай. – І сьмяецца чароўным дзявочым смехам...» Фактычна – момант ісціны, крышталізацыя мікрачасцінкі вялікага пачуцця... Для героя – пачатак адліку ўжо другога, істынага, боскага часу...

– Каб зняць фільм як з’яву, канечне, трэба папацець. – Тодар Уладзіміравіч задумліва пашкроб шурпатую сківіцу рукой, на якую ўсклаў сваю сівую галаву. – Лепш за ўсё акторы невядомыя для шырокай масы гледачоў і

таленавітыя. Ролю Іны Міхайлаўны можа здзейсніць звычайная інтэлектуалка.

– Так, сапраўды, – Станіслаў Шулешка ўставіў свае тры грашы ў размову. – Сэксуальную сцэну на канапцы можа сыграць дублёрка. Там галоўная ідэя – шыкоўная дупа.

– Стась, галоўная ідэя як фільма, так і эпізода – зусім не дупа, – змрочна прамовіў пісьменнік. Ён меркаваў, што па сучаснай завядзёнцы фільм спросцяць, звядуць яго да звычайных плоцкіх жарсцяў, і таму ён спадзяваўся толькі на свой будучы раман. Але зараз нечакана для сябе ён атрымаў магутную падтрымку ад Маі Мігулеўскай.

– Станіслаў, фільм павінен быць такім, якім яго задумаў пісьменнік. Аб вялікім Каханні, аб гармоніі і адзінстве духоўнасці і эротыкі. Фактычна аб шляхах выжывання чалавецтва. Герой фільма – трагічная асоба, ён напачатку жыцця – ранімы, няўпэўнены юнак, які жыве ў напалову п'яным грамадстве і сам выпівае, заблытаны штодзённасцю, і адсюль ідзе пачатак ягонай няўпэўненасці... Ён марыць аб каханні і нечакана сустракае Каханую, але з-за сваёй непадрыхтаванасці страчвае яе. І ён ідзе далей сваім звыклым шляхам і па ўсіх жыццёвых законах і літаратурных стэрэатыпах павінен загінуць. Забіць сябе, бо жыць у шараговай і п'янай рэчаіснасці ён ужо не хоча. Ці ўсё ж такі зрабіцца такім, як усе? Але ён не забівае сябе і не робіцца такім, як усе. Ён самастойна высвечвае сабе шлях паходняй Кахання, разблытвае вузлы супярэчнасцей звыклай штодзённасці, асэнсоўвае рэчаіснасць і ўзыходзіць на шлях, што вядзе да Бога, тым самым робіцца абраннікам. Я правільна выкладаю, Фёдар?

– Менавіта так! – Пісьменнік са здзіўленнем разглядаў рэжысёра-пастаноўшчыка Маю Мігулеўскую – «есть женщины в русских селеньях!» – і зазначыў: – Лейтматывам павінна гучаць думка, што Каханне – гэта «не вздохи на скамейке», а ўзыходжанне. Ён убачыў патэнцыял Юлі, яе здольнасці, магнетызм, спеласць, і разгубіўся, спалохаўся, на нейкі час праявіў баязлівасць, завагаўся, прамінуў свой

момант ісціны. Нават калі б ён і быў з ёй усё жыццё, то ўсё роўна жыццёвы шлях склаўся б няпроста і нават цяжка, з памылкамі. І толькі захаваўшы Веру, Яны здолелі б узняцца над штодзённасцю і, магчыма, выйсці на арбіту.

– Як зняць гэта, вось у чым пытанне, – уздыхнуў за сталом дырэктар фільма Станіслаў Шулешка.

– Амерыканцы знялі б! – жорстка адрэзаў пісьменнік. І прысутныя Мая Мігулеўская і Станіслаў Шулешка адчулі ягоную моц абранніка, які валадарна прымусіць іх здымаць шэдэўр. Рэжысёра-пастаноўшчыка такая пастаноўка мэты ўзрадавала, дырэктара фільма наадварот – увяла ў скруху.

У той жа дзень дырэктар фільма Станіслаў Шулешка выплаціў пісьменніку грошы згодна з дамовай за прыняты кінасцэнар. Задаволены Фёдар Уладзіміравіч паклаў дзве тугія пачкі даляраў ва ўнутраны кішэнь пільчака. Грошай магло хапіць на еўрарамонт ягонай кватэры.

## XI

Надышоў руплівы, клапатлівы, вельмі няпросты працэс падрыхтоўкі рэжысёрскага сцэнара. Неабходна было падабраць актораў на ролі, распрацаваць графік іх удзелу ў здымках, знайсці месцы для здымак з патрэбным экстэр'ерам, вызначыць рэквізіт. Таксама трэба было распісаць кожны эпізод на колькасць хвілін і секунд у фільме. Заключыць дамовы са знойдзенымі аб'ектамі для здымкаў... Вырашыць яшчэ сотню вялікіх і дробных пытанняў.

Цяжкасць была яшчэ і ў тым, што ўсе, ад дырэктара фільма да рэжысёра-пастаноўшчыка і нават фундатара, былі гарадскімі людзьмі-прагматыкамі, яны не адчувалі сакральнасці і магнетызму вясковай прасторы і таму не разумелі хады часу на зямной кулі... Гарадскія людзі жылі ў хуткім рытме і тэмпе. Рацыяналізм і эфектыўнасць, карысныя вынікі і якасць былі для іх цяпер галоўнымі дамінантамі. Нават любоў для іх была нечым звычайным і ў большасці датычыла фізіялагічных стасункаў між

супрацьлегласцямі. Прагматызм у цяперашнім часе быў адным са спосабаў карыстання жыццём, і гарадская супольнасць, зрабіўшы кардынальны паварот у бок спажывання, павяла за сабой і ўсю постсавецкую біямасу.

Пачаўся падбор актораў на ролі. Галоўнага героя ў маладосці ўрэшце знайшлі на пятым курсе педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.

Гэта быў жывы сінявокі русавалосы юнак, крыху ніжэй сярэдняга росту, са шчырым, ясным тварам, на якім можна было чытаць, як з кніжкі, усе яго пачуцці і думкі. Мішу Смолічу катастрафічна не хапала жыццёвага досведу, напрацаваных уласных меркаванняў, гледзішчаў, думак, навыкаў, рэфлексаў, звычак, таму ён вымушаны быў увесь час інстынктыўна шукаць свайго настаўніка, але знаходзіў толькі такіх самых шараговых вядомых, якія цалкам залежалі ад вядучых. Упэўненыя вядучыя былі часцяком прымітыўнымі, распыляліся на драбноты і не валодалі сыстэмным падыходам да жыцця, між тым Міша Смоліч інтуітыўна імкнуўся да сыстэмнасці. Ён нагадваў Фёдару самога сябе ў свае маладыя і заблытаныя гады.

Пасля пробных здымкаў Тодар Уладзіміравіч, уедліва разглядаючы Смоліча, згадзіўся з ягонай кандыдатурай. Даволі хутка знайшлі і актора на ролю галоўнага героя ў сталым узросце. Ім стаў вядомы актор з менскага тэатра Янкі Купалы Ігар Асмалоўскі. На пробах Фёдар ганяў яго па ўсіх ключавых эпізодах і застаўся вельмі задаволены. Маі Мігулеўскай ён выказаў сваё меркаванне:

– Прысутнічае прыхаваная цвёрдасць, змрочнасць, стрыманая маркота, і выклікае павагу да сябе... Ёсць глыбіня. Наша задача – распакаваць ягоны патэнцыял.

Доўга шукалі акторку на ролю Юлі. Знайшлі некалькі прэтэндэнтак, але Фёдар, яго цяпер называлі Фёдарам, не згаджаўся з іхнімі кандыдатурамі.

– Разумееш, Мая, роля вельмі просценькая. Яна жыве ва ўспамінах героя фільма. Вось яны зімнім днём снедаюць, глядзяць адно на аднаго, ходзяць у краму. Вось ідуць па восеньскім парку, граюць у шахматы. Простыя дзеянні,

а потым атрымліваецца, што яны незваротныя, таму чароўныя і для яго трагічныя... І вось яшчэ, яна ўваходзіць у настаўніцкую, ён бачыць яе ўпершыню і адчувае момант ісціны. Чаму так? Таму што яна асоба! Ягоны ўнутраны эталон ідэальнай дзяўчыны, Ёй значна перасягнуты. Трэба, каб такое самае адчуванне ўзнікла ў гледача. Каб кінагледач, убачыўшы на экране Юлю першы раз, потым сумаваў па Ёй. Вось толькі такім чынам жыццё героя без Яе стане трагічным і будзе зразумелым ягоны глыбокі адчай.

– Дзе знайсці такую асобу, Фёдар?

– Будзем шукаць, Мая.

Праз некалькі дзён, ідучы на сустрэчу з крытыкам Алесем Рагулем у бібліятэку Акадэміі Навук, Фёдар убачыў, як дзве густоўна апранутыя дзяўчыны, прыгожыя, прыстойныя, ужо спелага дзявочага ўзросту, стаяць на расчышчанай ад снегу сцежцы, паляць жаночыя цыгарэты і размаўляюць між сабой. Фёдар Уладзіміравіч тут жа памяняў накірунак хады і падышоў да іх.

– Прабачце, калі ласка, не падкажаце, дзе тут бібліятэка Акадэміі Навук?

– Вы ішлі ў патрэбным накірунку, але потым раптам памянялі сваю хаду, – ветліва адказала адна з дзяўчын. Твар шырокі, русыя валасы, шэра-сінія вочы, позірк смелы, з прыхаванай усмешкай, тэмбр голасу з пазітыўнай энергіяй.

– Прабачце, я пісьменнік. Мяне цікавіць, чаму такія разумныя і прыгожыя паненкі паляць цыгарэты?

– Па-першае, гэта модна, па-другое, за кампанію, – крыху збянтэжана адказала другая паненка. Цёмнавокая і таксама цікавая, з прыхаванай пасіянарнасцю. Абедзве маглі сыграць ролю Юлі.

– Я пісьменнік…

– Гэта мы ўжо чулі, – у голасе цёмнавокай прагучала прыхаваная іронія.

– Па маім сцэнары будзе здымацца фільм «Дзень, калі загінуў Апалон». Зараз падбіраем актораў на ролі. Шукаем акторак на ролю галоўнай гераіні Юлі. Пяць здымачных

дзён. Аніякіх эратычных эпізодаў. Вось вам мая візітка. Запрашаю вас на пробы.

– Мы не акторы. Мы аспірантні Акадэміі Навук.

– Акторы на галоўных ролях атрымліваюць за здымачны дзень столькі, што вы не атрымліваеце і за год. Але справа нават не ў гэтым. Мне патрэбна асоба на ролю галоўнай гераіні. Я дам вам сцэнар, пачытайце і патэлефануйце. Я вас прашу. Гэта шанец і для вас, і для мяне.

– Паспрабуем, – адказала русавалосая паненка з шэра-сінімі вачыма і ўзяла з яго рук кінасцэнар. – Як ты думаеш, Шура?

– Гэтаксама, як і ты, Ірына, – адказала цёмнавокая.

– Чакаю ад вас тэлефанавання заўтра.

Пісьменнік развітаўся і, спяшаючыся, бо спазняўся, пайшоў і толькі ўжо ў бібліятэцы адчуў, што зрабіў вялікую памылку, не даведаўшыся ні прозвішчаў, ні месца працы паненак. Праўда, ён ведаў, што адну завуць Шура, а другую Ірына.

## XII

Убачыўшы назаўтра аспірантку, рэжысёр-пастаноўшчык канчаткова зразумела ідэю пісьменніка. Мігулеўская ўважліва разглядала Ірыну Шыдлоўскую, а потым з прыхаванай цікавасцю зірнула на Фёдара Уладзіміравіча, адначасова падумаўшы: «Цяпер зразумела, чаму ты вар’ят і ўсё жыццё помніш Юлю».

Пісьменнік адчуў ход яе думак і ў журбе ўсміхнуўся.

З шырокім яцвяжска-ліцвінскім светлым тварам, шэра-сінімі вачыма і русыміваласамі, стройная і густоўная Шыдлоўская вылучалася яшчэ высокім узроўнем інтэлекту, выхаваннем і пазітыўнымі адносінамі да людзей. Яна гаварыла, адказвала на пытанні, рухалася па пакоі з натуральнай прыроднай і дзявочай грацыяй. У тэмбры яе голасу гучалі жыццесцвярджальныя акорды. У гэты момант рэжысёр-пастаноўшчык Мая Мігулеўская паверыла, што здолее зняць шыкоўны мастацкі фільм.

Мігулеўская нават зразумела, чаму пісьменнік развёў актора Міхася Смоліча і выбраную імі аспірантку Ірыну Шыдлоўскую ў часе падрыхтоўкі да здымкаў, каб яны не сустрэліся на кінастудыі. Распытаўшы аспірантку, рэжысёр-пастаноўшчык назначыла ёй назаўтра пробныя здымкі, пасля якіх і будзе прынята рашэнне. Застаўшыся з пісьменнікам удваіх, Мігулеўская запытала:

– Вы думаеце, Фёдар, што-небудзь з гэтага атрымаецца?

Ім было лёгка працаваць, Мая і пісьменнік цяпер разумелі і дапаўнялі адно аднаго...

– Можа атрымаецца, можа не, але чаму не паспрабаваць?

– Але, Фёдар, вы жорсткі чалавек. А раптам хто закахаецца?

– Людзі мараць аб каханні. А потым, не дачакаўшыся гэтага феномена, трацяць сваё жыццё на абы-што.

У гэты момант у рэжысёрскую ўвайшла фундатар Ала Голікава. Яна была ўся абсыпаная снегам, у наваколлі ішоў моцны снег, валадарыла завіруха.

– Такая метель на улице, Майя, ты не представляешь. Здравствуйте, Фёдор.

Пісьменнік, як увайшла фундатарка, ускочыў з месца і падбег да яе і, як робяць гэта цывілізаваныя людзі ў Еўропе, памог зняць элегантнае рудое футра і, уздзеўшы яго на вешалку, павесіў на гаплік. Прыняў зімовы цёмна-руды капялюшык і доўгі белы шалік, усё гэта пад уважлівым позіркам Алы Голікавай паклаў у шафу.

– Спасибо, Фёдор.

– Калі ласка, пані Ала.

Ён уважліва ўглядаўся ў прыстойную жанчыну ў доўгай зялёнай спадніцы, пунсовай блузцы і кароткім брунатным пільчаку з накладнымі кішэнямі. Выпадковым рухам рукі ён дакарнуўся да пляча Голікавай, запрашаючы яе да абмеркавання за стол. Масквічка пільна зірнула на пісьменніка: нічога выпадковага не магло быць у гэтага таленавітага вар'ята, рука якога на імгненне кранула яе плечы.

Ён прыняў сваю руку назад, шыйныя пазванкі жанчыны выпраменьвалі энергію, і Фёдар Уладзіміравіч цяпер ведаў усё, што хацеў ведаць пра Алу Голікаву.

Сеўшы за стол, фундатарка запытала:

– Как у нас дела с актёрами?

– Усіх знайшлі, заўтра заканчваем пробныя здымкі Юлі. Але няма акторкі на ролю Іны Міхайлаўны. А яна галоўная гераіня ў другой частцы, – лагодна прамовіў Фёдар Уладзіміравіч.

Мая Мігулеўская задумліва гартала старонкі сцэнара на стале і адказала:

– Зрабілі пробы маскоўскай акторкі Алёны Мазінай. Не цягне. Знялі праходку па калідоры. Не разумее, што трэба, для яе гэта шараговая роля, прайшла, як віслена на прыпынку ў Мыцішчах. Эпізод у ложку натуралістычны, сэкс і больш нічога. Чыстая парнаграфія. Да таго ж за здымачны дзень патрабуе 10 тысяч еўра.

– У прынцыпе, канечне, роля не такая ўжо і складаная. Гарманічны стан, разумны, прыгожы і інтэлігентны твар спелай жанчыны. Сцэны ў ложку і асабліва на канапцы можа сыграць і дублёрша. Праўда, складаны момант – гэта абуджэнне ў ёй Жанчыны. Тут патрэбны талент, – ізноў зазначыў Фёдар.

– Куды ні кінь – усюды патрэбны талент, – выказаўся Станіслаў Шулешка.

Пазіраючы на выразны і ўдумлівы, прыгожы твар Алы Голікавай, пісьменнік нечакана для прысутных у роздуме зацвердзіў:

– Калі б спадарыня Ала мела вялікую патрэбу ў грашах, я б прапанаваў ёй гэтую ролю. Яна прыгожая, густоўная, у яе ўдумлівы і выразны, інтэлігентны твар... Што датычыць ложка, то гэта справа дублёршы.

Усе маўчалі. Нарэшце дырэктар фільма Шулешка асцярожна дадаў:

– І грошы зэканомім.

– Справа не толькі ў грашах, Станіслаў, – зацвердзіў пісьменнік. – Справа ў тым, што можна пакласці шмат сіл,

зняць увесь фільм у патрэбнай танальнасці – і раптам адна амбітная і напорыстая маскоўская акторка дасць брак, забярэ грошы і сапсуе выдатны фільм. І не будзе ні часу, ні грошай пераздымаць.

– Фёдар сфармуляваў праблему вельмі дакладна. Гэта як звычайная класічная рэч ці з'ява: любая безгустоўнасць псуе гармонію дасканаласці, – Мая Мігулеўская гаварыла засяроджана, з унутранай перакананасцю.

– Зараз я лепш разумею ўнутраную сутнасць нашага героя. Ён моцна адчувае і разумее прыгажосць, таму і вымушае сябе адысці ўбок, каб не псаваць беззаганную гармонію выключнай і любімай ім Юлі. У гэты момант ён недастаткова падрыхтаваны, ад гэтага няўпэўнены, нявыхаваны і таму слабы... У яго руках апынулася каштоўная скрыпка, а ён іграць не ўмее. Такіх Тодараў сёння безліч. Потым, канечне, ён дасягае неабходнага ўзроўню, і ў гэтым ягоная трагедыя і трыумф.

– Чёрт с вами, давайте попробуем, – стомлена і затоена згадзілася фундатар праекта Ала Голікава.

Пазіраючы на Голікаву, пісьменнік ветліва і асцярожна дадаў:

– Вам зараз трэба харчавацца аўсянкай, трымацца лёгкай малочна-раслінnай дыеты. Вы павінны выглядаць бездакорна.

Ала Голікава на знак згоды моўчкі кіўнула галавой.

Потым, калі яны засталіся ўдваіх з Мігулеўскай, Фёдар Уладзіміравіч зазначыў:

– Што з гэтага атрымаецца – невядома, але парайце Але зараз насіць ядвабную бялізну без гумак, каб на яе паставе не было розных вульгарных адбіткаў.

– А дублёрка?

– Ала можа абысціся без дублёркі, гэта будзе моцны рэкламны крок. Дарэчы, ведаеце самы складаны і важны эпізод для Алы?

– Канечне, сэксуальныя сцэны, – упэўнена адказала рэжысёр-пастаноўшчык.

– Самы складаны – калі яна ідзе па вуліцы і добразычліва, з прыхільнасцю, вінавата ўсміхаецца Тодару.

А потым сядзіць дома за сталом і разглядае сябе ў люстэрку, успамінае маладосць, няспраўджаныя мары... Усмешка павінна быць пяшчотная і вінаватая...

Падчас падрыхтоўкі Мігулеўская запыталася ў пісьменніка:

– У нас, Фёдар, тры галоўныя ролі з непрафесійнымі акторамі. Галоўны герой, Тодар, малады чалавек гадоў 23-24. Потым прыгажуня-асоба, што ўразіла яго і памяняла жыццёвы шлях. І нарэшце – дарослая жанчына, што ўводзіць героя ў свет эротыкі, прыгожых сэксуальных стасункаў. І ў чым, Фёдар, галоўная ідэя?

– Галоўная ідэя, Мая, – гэта Жыццё, дзе ідзе снег, існуюць доўгія сінія вечары, восенню ліюць дажджы, у парку са старадаўніх клёнаў і ліп падае жоўтае і чырвонае лісце, і побач з героем бязмежныя шэра-сінія вочы Каханай, яе дыханне, размовы, яе не толькі фізічная прыгажосць, але і духоўная выхаванасць, густоўнасць, інтэлект, дзявочы смех і разам з тым магнетызм прыцяжэння... Шчыры і наіўны юнак прымерваецца ўзваліць на свае неакрэплыя плечы вялізарную адказнасць за Каханую, нечакана адчувае і бачыць, што ён не герой, што яго сілы не адпавядаюць той вазе, што трэба пакласці на плечы... Ён збянтэжаны, разгублены, ён не ведае, што рабіць...

– Так, гэта цікава, Фёдар.

– І вось мы бачым нашага героя праз 40 год. Ён захаваў сваё каханне ў душы і ўсё яшчэ шукае адказы на тыя пытанні, што задало яму некалі жыццё.

– Фёдар, і што, ён знаходзіць адказы на гэтыя пытанні?

– У тым-та і фішка, што знаходзіць. І гэтыя адказы кардынальна мяняюць яго і не толькі яго…

Рэжысёр-пастаноўшчык Мая Мігулеўская, прыемная маскавітка, з цікавасцю і недаверам пазірала на пісьменніка, а ён нечакана для сябе ўбачыў у ёй тую самую «незаўважаную жаночую канстанту».

Твар Маі быў шырокі, з акуратным носікам, некранутымі памадай вуснамі. Чорныя бровы і нечакана сінія вочы. З чорнай сумкай праз плячо, у светла-рудых зам-

шавых боціках, у штоніках да кален, чорных прыгожых панчохах і ў паліто з вялікімі чорна-белымі плямамі, жаночым клетчатым кепі з брылём, валасы рудой хваляй ляжалі на яе плячах. Рухавая, ветлівая, настойлівая, адзін Фёдар адчуваў іншы раз яе глыбока схаваную няўпэўненасць і тады прыходзіў ёй на дапамогу з вышынь свайго жыццёвага досведу і напрацаванага прафесіяналізму.

## XIII

Кіно было спрасаваным узорам жыцця. Спрошчаным і накіраваным сцэнаром, дзе на некалькіх квадратных метрах жыццёвай прасторы намаганнямі рэжысёра і актораў ствараліся хвіліны мінулай рэчаіснасці, адрознай ад цяперашняй штодзённасці. Гэтая іншая рэчаіснасць была нібы кавалкам тканіны зусім іншага жыцця, сатканага з мноства дробных рыс...

На пробах рэжысёр здымаў адзін і той жа эпізод у розных варыянтах, дзе героі, калі гаварылі адныя і тыя ж словы, успрымаліся па-рознаму. Той самы Тодар быў уладарным, незвычайна моцным, а праз некалькі хвілін актор паказваў свайго героя ўжо слабым і няўпэўненым. Усё было так, як адбывалася ў самім жыцці, у якім і ён сам, Фёдар, з-за сваёй недасведчанасці, часцяком трымаў сябе за недарэку.

«Жыццё – тое самае кіно, дзе ўсё залежыць ад таго, якую ролю ты ўзяў сабе, – са спазненнем на сорак год думаў Фёдар. – І ўсё залежыць ад сцэнарыстаў і рэжысёраў, што пішуць сцэнары чалавечага лёсу і надзяляюць ролямі розных людзей».

Лёс людзей, што ў самім жыцці займаў гады і дзесяцігоддзі, тут вызначаўся хвілінамі. І пісьменнік прыходзіў да думкі, што на самай справе істотнымі ў жыцці кожнага былі якраз гэтыя самыя хвіліны.

На кіназдымках толькі рэжысёра-пастаноўшчыка Маю Міхайлаўну і сцэнарыста Фёдара Уладзіміравіча называлі па імені і па бацьку, да ўсіх астатніх незалежна ад узросту звярталіся толькі па імені. Гэта было даволі зруч-

на і стварала той таварыскі настрой у калектыве, які дазваляў плённа працаваць. Рэквізітар Міша, асвятляльнік Мікола, хлапушка Юля, начальнік здымачнай пляцоўкі Света, гукарэжысёр Уладзь, мастак Віця, грымёрка Жанна... Гукарэжысёру Уладзю было за 60 год, але яго нікольк не бянтэжыла такая вольнасць у стасунках.

Наогул усе людзі дзяліліся на тых, з кім было прыемна працаваць, і на тых, з кім працаваць не хацелася.

Фёдар Уладзіміравіч ведаў, што заўсёды першыя тыдні і нават месяцы працы ў новым калектыве ствараюць ва ўяўленні тое чароўнае рамантычнае пачуццё свежай тайнальнасці быцця, якое потым, калі новае стане звыклым, паступова затушуецца і счэзне ў рацэ штодзённасці. І ён беражліва і старанна назапашваў гэтае пачуццё.

Здымкі фільма пачаліся з «Эпізод 2. Інтэр'ер. Настаўніцкая сярэдняй школы. Дзень».

Паўдня Фёдар рэпеціраваў з выканаўцамі роляў – маладым акторам Міхасём Смолічам і сталым акторам Цыбульскім. Пісьменнік аб нечым шаптаўся з аператарамі. Здымкі павінны былі ісці на тры відэакамеры.

Тодар: гуляе (дзясяты раз) у шахматы з пажылым настаўнікам Леанідам Аляксеевічам.

– Прагонім яшчэ раз, – прамовіла рэжысёр-пастаноўшчык акторам.

Тодар: гуляе (адзінаццаты раз) у шахматы з пажылым настаўнікам Леанідам Аляксеевічам.

За іх спінай Фёдар адымае ад свайго вуха слухаўку і робіць знак Мігулеўскай, яна непрыкметна дае адмашку аператарам, тыя пачынаюць здымаць.

Тодар: – А мы вас, Леанід Аляксеевіч, лошаддзю, лошаддзю стуканём.

Леанід Аляксеевіч: – Ніякай павагі да ветэранаў, партызанаў і франтавікоў. Не каб прайграць дзеля павагі да майго ўзросту. Мне, Міша, было б прыемна.

У дзверы настаўніцкай стукаюць, яны адчыняюцца. Уваходзіць дзяўчына: шырокі твар, шэрыя вялікія вочы, русыя валасы прыгожа ўкладзеныя ў карэ, зграбная, прыстойная, густоўная...

Юля (Ірына Шыдлоўская): – Прабачце, калі ласка, дзе я магу знайсці Тодара Уладзіміравіча? – Яе голас гучыць з пазітыўнай энергіяй, упэўнены, ветлівы і крыху насцярожаны.

Тодар: адрывае позірк ад шахматнай дошкі, з моцным здзіўленнем і ўзрушанасцю глядзіць на дзяўчыну, у яе твар. Тодар нечакана чырванее, ён усхвалявана ўзіраецца ў Юлю. Некалькі доўгіх імгненняў яны глядзяць адно на аднаго. Такая сустрэча бывае раз у жыцці, і не ў кожнага чалавека.

Фёдар Уладзіміравіч нарэшце даў знак, рэжысёр-пастаноўшчык рашуча скамандавала:

– Стоп.

Акторы разгублена азіраліся, яны думалі, што гэта рэпетыцыя. Ірына Шыдлоўская збянтэжана – яна ішла на пробы, а трапіла на здымкі.

– Глянем, што атрымалася на відэаконе, – задаволена прамовіў пісьменнік, і з рэжысёрам-пастаноўшчыкам яны прагледзелі толькі што знятыя кадры ўсіх трох відэакамер.

Пасля прагляду Мая Мігулеўская зазначыла:

– Вы геній, Фёдар.

Назіраючы на відэаконе ўсхваляваны твар Міхася Смоліча, пісьменнік згадзіўся:

– Атрымалася лепш, чым мы маглі чакаць. Цяпер, Мая, здыміце дублі і запішыце гуказапіс па тэксце «...дзе я магу знайсці дырэктара школы Тараса Пятровіча». І можаце біць талерку[50]. Ірына, вы прайшлі пробу і залічаны на ролю Юлі. Сёння з вамі будзе заключана дамова.

За пяць дзён здымкаў удалося якасна зняць усе пяць запланаваных эпізодаў з удзелам Ірыны Шыдлоўскай, якая іграла ролю Юлі. Выбар на ролю Юлі быў вельмі ўдалы. Да таго ж непасрэдны і шчыры Міхась Смоліч адразу закахаўся ў Ірыну і так натуральна выконваў сваю ролю, што ўсе дні здымкаў праляцелі лёгка і ўдала. Шыдлоўская была дзяўчына пазітыўная, вясёлая, з моцным інтэлектам і творчым характарам, лёгка ўпісалася ў працэс кіназдымкаў, хаця нават у эпізодзе пры праходцы па парку, які

50 Па традыцыі і рытуле пасля здымкаў першага эпізода б'юць талерку з напісанай назвай фільма. Удзельнікі разбіраюць кавалкі на сувеніры.

здымалі ў павільёне, прыйшлося рабіць дзесяць дубляў, а яшчэ былі буйныя планы. Фёдар дамагаўся нейкіх толькі яму вядомых тонкасцяў і мучыў здымачную групу і актораў больш, чым рэжысёр-пастаноўшчык Мая Мігулеўская, якая не пярэчыла яму ў гэтым.

На развітанне Мая Мігулеўская падзякавала Шыдлоўскай за якасную працу і адзначыла:

– Вы можаце яшчэ спатрэбіцца на адзін-два эпізоды, а зараз атрымайце свой заробак у галоўнага бухгалтара Ніны.

Дзіўна, але пасля заканчэння ўдзелу Ірыны ў здымках трупа нейкі час адчувала дыскамфорт і недахоп Шыдлоўскай, нібы нейкі пазітыўны магнетызм сышоў з усяго калектыву. Адзін толькі Фёдар не страціў свайго імпэту і як ні ў чым не бывала працягваў варушыць і штурхаць здымачны працэс, часцяком фактычна выконваючы ролю рэжысёра-пастаноўшчыка.

## XIV

Ішла падрыхтоўка і інструктаж да эпізодаў з удзелам Іны Міхайлаўны. Фёдар рабіў інструктаж актораў перад здымкамі:

– Эратычныя сцэны здымаць будзеце без мяне. Па эпізодзе 24, Міша, ты павінен быць ветлівым, усхваляваным, і галоўнае не спяшацца. Распранаешся хутка, кладзеш вопратку на стулік акуратна. На табе каляровыя спартыўныя трусы. Сам працэс робіш з імпэтам, усхваляванна, але разам з тым не спяшаешся, са смакам і якасцю. Забудзься, што гэта здымкі: перад табой такі жаданы аб’ект памкненняў героя і ты ахоплены шалёным буйствам гармонаў, нарэшце дасягаеш мэты... На эпізодзе прысутнічаюць толькі аператары і рэжысёр-пастаноўшчык, астатнія за дзвярыма. Гучыць слабая лірычная музыка, магчыма санаты Бетховена ці «Гераічная» сімфонія.

– А раптам гумка на трусах трэсне, – пад смех прысутных з гумарам запытаўся Міша Смоліч і пачырванеў. Яго непакоіў гэты эпізод, і ён моцна хваляваўся.

– Гэта было б выдатна, – сур’ёзна, без усмешкі адказаў Фёдар.

– Па эпізодзе 26. Там ты, Міша, павінен быць жорсткім, але не злым, а пяшчотным. Твой герой – ужо мужчына без комплексаў, без слюнявай сентыментальнасці... Гэта дзейства ваяра-салдата, які толькі што скончыў лютую, крывавую бітву за багаты сярэднявечны горад, захапіў у палон тутэйшую прыгожую жанчыну і пад сполахі пажараў бязлітасна і жорстка карыстаецца сваёй здабычай. Тодар, далікатны і чуллівы, зараз дзейнічае як сярэдневяковы драб ці жаўнер Другой сусветнай вайны на заваяванай тэрыторыі. Ён карыстаецца дадзенай яму Богам сілай паўнавартасна, з пачуццём выканання мужчынскага прадвызначэння. Жанчына – ягоная законная здабыча, і сёння ён пераможца.

Фёдар павярнуўся да акторкі Алы, гаварыў ветліва, пяшчотна, ціха на вушка:

– У Іне Міхайлаўне прачынаецца жанчына, і калі спачатку яна нібыта хоча дапамагчы маладому чалавеку ўзняцца на жыццёвую прыступку, то потым яна ахоплена моцай шалу і хапае маладзёна дзвюма рукамі за сцёгны, павялічвае тэмп і рытм. На твары ў Іны буйства пачуццяў, вочы палыхаюць агнём...

Ала Голікава стрыманая і маўклівая, яна цалкам засяроджана на ролі, і ў яе твары пісьменнік заўважыў таемную рашучасць і нават непахіснасць. Густоўна апранутая, яна вылучала моцную эратычную энергетыку.

Пісьменнік звярнуўся да аператараў.

– Ад вас, аператараў, шмат залежыць. З аднаго боку – вас няма, з другога боку – вы ўсё здымаеце ў пазітыўным свеце... Так, сябры, жадаю вам поспеху.

Фёдар Уладзіміравіч адкланяўся і паехаў з кінастудыі дадому.

Мігулеўская ў гэты дзень здымкі праводзіла самастойна і ў сярэдзіне дня нечакана патэлефанавала яму. Голас яе быў крыху збянтэжаны.

– Фёдар, у меня даволі непрадбачанае становішча. Першы дубаль знялі выдатна, на тры камеры. Ды так, што

можна і не здымаць далей. Але ўражанне такое, што ў актора сапраўды «гумка ў трусах парвалася».

– Матэрыял знялі добра?

– Вельмі добра. Самі ўбачыце.

– Астатняе, Мая, няважна. Рвалася «гумка» ці не рвалася, гэта вас няхай не хвалюе. Пры неабходнасці можна і шылам у сцягно актора парануць, каб паказаць ягоны аргазм. Цяпер здымайце буйны план, дубляў дзесяць. А затым, пасля перапынку, дубляў пяць паўтораў.

– Фёдар, гэтак больш зняць не ўдасца. Я баюся плётак, розных абвінавачанняў...

– Мая, дзе хаваюць апалае лісце? У лесе![51] А забойства? На полі бою! Здымайце дублі. Матэрыялы забярыце для прагляду і нікому не давайце. Я пад вечар падскочу, зірну свежым вокам.

Увечары ён прыехаў і, праглядаючы з Мігулеўскай зняты эпізод, узіраючыся ва ўсхваляваныя, з кроплямі поту твары герояў эпізода, адзначыў, павярнуўшыся да Маі:

– На мой погляд, геніяльна, Мая. Бачны палкія плечы, фанатычныя, запаленыя юрам твары герояў, нетаропкія, без спешкі, прасякнутыя дзікай энергіяй рухі, астатняе захутана белай прасцінай. Ніякага вульгарызму – і разам з тым моцна заводзіць і заахвочвае гледача. Віншую цябе ад шчырага сэрца, – ён упершыню звярнуўся да яе на ты. – Гэта тыя самыя прыгожыя сэксуальныя стасункі, якія хочацца глядзець, вучыцца і потым самому спраўджаваць. Канечне, могуць абвінаваціць у парнаграфіі і натуралізме, але зробіш перабіўку буйным планам, дадасі гучанне музыкі Бетховена. І пераплюнеш як усходніх, так і заходніх кінамэтраў і класікаў.

– Дзякуй, Фёдар. Вы заўтра будзеце на здымках эпізода 26?

– Мая, у цябе атрымліваецца без мяне лепш, чым са мной. Здымі так, каб не сорамна было паказаць сваім знаёмым і сябрам, нават дарослым дзецям.

---

51 «Дзе разумны чалавек хавае ліст? У лесе. Але што яму рабіць, калі лесу няма? Ён саджае лес, каб схаваць ліст!» «Зламаная шпага», Г. К. Чэстэртан.

Фёдар Уладзіміравіч паехаў, і ўжо ў сваёй кватэры, вельмі задаволены і прагматычны, хадзіў па габінеце, узважваючы расклад зробленага і асэнсоўваючы новыя ідэі і напрацоўкі. Ягонае ўяўленне несла яго далей, ён думаў, як і куды лепш уставіць гэтыя напрацоўкі: у раман ці выкарастаць у кінасцэнары.

## XV

Заключныя здымкі фільма праходзілі ў вёсцы Клёнава, дзе некалі дырэктар школы Іван Іванавіч вёў размову з пісьменнікам.

Рэжысёр-пастаноўшчык Мая Мігулеўская, падумаўшы, зацвердзіла план здымкаў.

– Верагодна, некаторыя эпізоды разаб'ём на тры-чатыры фрагменты.

**Эпізод 1.** Ідзе снег. Зіма. Раніца. Крык пеўняў. Вечар. Сіняе сутонне надыходзячага зімняга вечара. Рып снегу пад абуткам мінакоў.

**Эпізод 4-5-6.** Сняданак Юлі з Тодарам. Проходка да Дома культуры і крамы. Смерць Апалона.

**Эпізод 12.** Прыезд у вёску пісьменніка.

**Эпізод 13.** Школа. Размова з дырэктарам.

**Эпізод 14.** Пісьменнік ідзе па заснежанай вёсцы.

– Праз пяць дзён закругляемся, адсвяткуем заканчэнне кіназдымкаў – і адразу ў кінастудыю. Фёдар, памажыце Ігару Асмалоўскаму ўвайсці ў вобраз. Паглыбіць ягонае разуменне ўнутранага стану героя, каб актор празмерна не ўкідваўся ў тугу-маркоту...

Фёдар доўга тлумачыў ролю актору Ігару Асмалоўскаму, углядаючыся ў ягоны ўдумлівы і мужны твар. Той уважліва, асэнсавана слухаў.

– Эпізод 42 вельмі важны. Ён фактычна падводзіць рысу пад усім жыццём героя. Кідацца пад цягнік ён не будзе, але герою здаецца, што ён пражыў доўгае, малацікавае і бессэнсоўнае жыццё. Герой шукае адказ на пытанне: а што такое Любоў? Якую каштоўнасць мае гэты феномен?

Урэшце ён пачынае падазраваць, што гэта вельмі складаная, няпростая і да канца незразуметая з'ява. Магчыма, нават не тое што незразуметая, а проста не распрацаваная грамадствам і не ўзнятая на неабходную вышыню дзяржаўнай машынай, бо ўладзе гэта непатрэбна і нават шкодна для яе.

– Можна паказаць героя як даследчыка-аналітыка, свайго роду следчага-крыміналіста, які ідзе па слядах няўдач і шукае іх прычыны?

– Так, Ігар, гэта напэўна было б цікава. Разам з тым ваш герой – гэта чалавек, у якога парог адчувальнасці значна ніжэй звычайнага чалавека. Таму ён стрыманы, хавае сваю жахлівую маркоту і нават роспач. Хутчэй ён навуковец, які зрабіў небяспечны эксперымент у сваім жыцці і зараз вывучае вынікі і фармулюе адказы.

Твар Ігара Асмалоўскага быў адзначаны цяжарам складанасцей і клопатамі свайго героя, ён удумліва адказаў:

– Каб стаць шчаслівым, трэба мець патрэбную якасць жыцця, а якую якасць мог Тодар прапанаваць Юлі ў тыя часы?

І пісьменнік зразумеў, што актор справіцца з роляю.

**Эпізод 4.** Сняданак Юлі з Тодарам. Эпізод, калі герой фільма Тодар і ягоная каханая Юля засталіся ўдваіх, спачатку ляжалі на канапе, цалаваліся, а потым гарэзліва ганяліся адно за другім па кватэры. Такую дзіўную і такую падобную на жыццёвы эпізод з ягонага і, пэўна, не толькі ягонага жыцця сцэну Мігулеўская пачала здымаць спрошчана, неяк мімаходзь.

Гэты кранальны эпізод рэжысёр здымала так, як, верагодна, ён вырашаўся ў яе гарадскім існаванні: хутка і без сантыментаў. У эпізодзе нават прысутнічалі сляды пяшчоты, але не было той сапраўднай глыбіні і драматызму, якую адчуваў пісьменнік.

А яму гэты восеньскі марозны ранак за вакном нагадаў лес, нягучнымі ягонымі крокамі па пругкім кіліме зялёнабурага мха, імжой, кропелькамі расы на іглінках

кудлатых ялін і ядлоўца, на раскінутым між галінкамі павуцінні, з вязкай вільготнай цішынёй і гулкім рэхам сярод велічэзных хвой ад гукаў жаўны. Таемная, вялізарная, загадкавая і нейкая чароўная маладосць, аздобленая першым такім моцным і непаўторным крынічным каханнем.

Не, маскоўскія людзі хоць і былі прагматычнымі, адэкватнымі, умела грэблі пад сябе і матэрыяльныя здабыткі, і галапупых, але нешта важнае яны міналі...

Валадарна адсунуўшы Маю Мігулеўскую ўбок, Фёдар Уладзіміравіч прымусіў перазняць увесь эпізод так, як адчуваў яго сам.

– Як жа ты, Мая, пакажаш трагедыю страты каханай, калі не пакажаш гэты чароўны ранак, калі яны ўдваіх у кватэры, узрушаныя, пяшчотныя, і нешта ў іх нараджаецца новае, магутнае, боскае?

– Фёдар, пры цяперашнім рытме і тэмпе жыцця не можа быць аніякіх цягамоцін. Жыццё прымушае быць прагматычным і рацыянальным. Хто каго згроб, той і пераможца.

– Мая, Ён раскрывае Яе і сам раскрываецца, Яна для Яго ў гэты момант з'яўляецца цэлым сусветам... Мяняецца магнетызм прасторы і час вакол іх, і нам трэба зафіксаваць гэты зменены час і прастору. Нам трэба зняць не «бычка», што ўзбуджана скача каля «цёлкі», а Адама і Еву, што зрываюць забароненае яблыка з Дрэва пазнання, а вакол іх Боскі Эдэм.

– Так бы адразу і сказаў, Фёдар. – Мая была крыху расчаравана, але ўсё ж прыняла ягоную канцэпцыю.

За цэлы дзень упартых здымкаў толькі познім вечарам, калі стомленыя акторы нечакана высвеціліся знутры шчырым пачуццём і Юля (Шыдлоўская) павяла рэй у адносінах з Тодарам (Смоліч) і актор адразу адгукнуўся, між імі ўзнік той самы Боскі Дух стасункаў, якога дамагаўся пісьменнік. Прагледзеўшы на відэаконе знятыя кадры, пісьменнік доўга думаў і нарэшце зазначыў Мігулеўскай:

– Няхай будзе так. Давай адбой.

Потым, за позняй вячэрай, ён, п'ючы сваю заўсёдную каву – Мігулеўская звычайна здзіўлялася ягоным здольна-

сцям глытаць каву ў конскіх дозах, – тлумачыў Маі зняты эпізод.

– Будзеш мантажыць фільм, спачатку пакажы вёску, снег, лес, школу, маладога настаўніка, што кожны дзень крочыць і крочыць у школу, а потым са школы. Урокі, школьную дзятву, прыгажосць асяроддзя і грубую рэчаіснасць: праехаў трактар з валакушай, ён моцна грукоча, у краме вясковыя жыхары – і яны прымітыўна-простыя са сваімі звыклымі штодзённымі клопатамі і размовамі. Самоту Тодара ў жыцці. І ягоную юнацкую прыгажосць, паэтычнасць і рамантыку. Ён глядзіць у вакно на сумёты снегу, бярозу, крумкача...

– Але, Фёдар, не зацягваць пачатак?

– Ні ў якім разе, Мая. Хвілін ад пяці да васьмі. Можа, хвілін сем. А потым новы навучальны год, Тодар іграе ў шахматы ў настаўніцкай. І вось Бог пасылае яму Юлю!

– І хто галоўны герой фільма?

– А ты як думаеш, Мая?

– Юля!

– Можа і так. Але для мяне галоўны герой – гэта пісьменнік, які ў адзіноце разблытвае свядома заблытаныя пэўнымі коламі стасункі між мужчынамі і жанчынамі. Ён асэнсоўвае сваё пражытае жыццё, разумее свае трагічныя памылкі, вымушаны і далей цярпець бессэнсоўнасць свайго існавання.

За шэсць дзён упартай працы трупа нарэшце скончыла кіназдымкі і ўвечары апошняга, шостага дня святкавала гэтую падзею ў мясцовай сталоўцы.

## XVI

Фёдар сядзеў збоку накрытага стала з закускамі, бутэлькамі шампанскага і віскі, сам спіртовыя напоі не ўжываў, быў з усімі лагодны і нават пяшчотны. Кожны з прысутных адчуваў сябе галоўнай скрыпкай аркестра, пісьменнік не пярэчыў гэтаму, сам, будучы «канструктарам» і «праграмістам» кіновідовішча, адышоў у цень і падхвальваў суразмоўцаў. Яны, узрушаныя заканчэннем

кіназдымкаў, гаварылі з Фёдарам шчыра і выказвалі свае думкі, дзяліліся планамі. Падышла ўсхваляваная, задаволеная, прыгожая і мэтанакіраваная Ала Голікава, трымаючы ў руцэ бакал з шампанскім. Яна выглядала спакусліва ў вогністай сукенцы, схопленай далікатным паяском на таліі. Прысутныя мужчыны міжволі елі яе вачыма.

– Спасибо, Фёдор. Кажется, фильм сняли неплохо.

– Знялі добры фільм. Скажыце, Ала, аб чым вы марыце і чаго хочаце далей?

– Хочу? Эдэма!

– Эдэму? Эдэму ўсе хочуць, але гэта самаахвярнасць, узыходжанне. Баюся, Ала, што мы свой шанец прамінулі.

– И что тогда остаётся нам, Фёдор?

– Нам, Ала, застаецца несці свой Крыж. І яшчэ, Алачка, сеяць разумнае, вечнае, добрае!

Фундатарка была непахісна ў пошуках уласнай якасці жыцця. У трупе хадзіла ціхая плётка, што нібыта пры першым дублі эпізода 24, Ала рашуча «парвала гумку на трусах» актора пад прасцінай на кіназдымках пад аб'ектывам аператараў і авалодала цнатлівасцю маладога актора. Таму такім пераканаўчым і атрымаўся першы дубль. Дзеля рэкламы гэтая плётка была карыснай, таму Фёдар не ўмешваўся ў гэтае перашэптавнне, рабіў грозны выгляд, каб не даць гэтаму шэпту моцнага гучання, сам жа пасмейваўся ў душы.

Узрушаная ад удала выкананай ролі ў кіно, Ала цяпер паклала вока на маладога Мішу Смоліча.

– Я Мишу выведу на орбиту.

– Вар'яцтву смелых спяём мы песні...

– Как писатель, Фёдор, ты романтик и поэт. А в жизни ты прогматик и трус. С тобой неинтересно, ты не хочешь рисковать, а без риска ты никогда не станешь победителем.

Ала адышла ад яго як каралева, падышоў Міша Смоліч. Падчас кіназдымкаў ён узмужнеў, набыў неабходную ўпэўненасць і мужнасць, але ў новых варунках, дзе трэба было адмовіць ці прыняць кардынальна важнае рашэнне і асабіста зрабіць выбар, па-ранейшаму адчуваў

нерашучасць. Ён быў у моцным захапленні ад Ірыны Шыдлоўскай, але яго збівала з гэтага кірунку прапанова з новай перспектывай, намаляваная Алай Голікавай.

– Мяне запрашаюць у Маскву. Кажуць, што ў мяне талент актора.

– Цябе, Міша, узялі як тыпаж. Гэта добры штрых для біяграфіі, але твая жыццёвая дарога ляжыць у іншым кірунку. Каб быць акторам, трэба доўга і настойліва вучыцца. Што датычыць захаплення, перачытай сцэнар, зразумей маладога і старога Тодара і вазьмі ягоны досвед на ўзбраенне. Запрашаюць у Маскву? Кім? Бой - фрэндам? Маладое цела для абслугі падвяленых масквічак?

– Што б вы, Фёдар Уладзіміравіч, на маім месцы?..

– Паставіў бы сабе мэту, а потым рухаўся да гэтай мэты, бурыў, абмінаў, паднырваў, пералазіў перашкоды і ўвесь час рухаўся да мэты. Учапіўся ў Ірыну дзвюма рукамі, цалаваў бы яе, кожны дзень казаў пра сваё каханне, прапанаваў бы сваю руку і сэрца...

– Але я не гатоў яшчэ?..

– Па-сапраўднаму, Міша, і я стаў гатовым толькі ў 60 год! Але сам разумееш, што маё лібіда, якое некалі ў маладосці было высокага ўзроўню, цяпер стала слабым і не можа рабіць тое, што лёгка спраўджавала ў маладосці.

Пісьменнік пазіраў на збянтэжанага Смоліча, бачыў ягоную разгубленасць, і хаця разумеў, што ўласны досвед немагчыма ўставіць у глузды маладых, працягваў тлумачыць расклад:

– Самец робіцца мужчынам на працягу жыцця: разумнее, багацее, удасканальваецца. Разам з каханай гэты працэс паскараецца...

Смоліч уважліва слухаў, на ягоным твары можна было прачытаць насцярожнасць і жаданне зразумець.

– Маючы побач з сабой каханую, за якую мужчына нясе адказнасць, прыходзіцца быць абачлівым, чэпкім, пільным, рухомым, працавітым, разумным, настойлівым, прафесійным, іншы раз хітрым і ўвесь час сыстэмным...

– Яна аспірантка, без пяці хвілін кандыдат навук. А я?

– Яна табе падабаецца?

– Я ўзрушаны да глыбіні, аж галава кружыцца. Але ў нас розныя рэйтынгі.

– Каго ты бачыш побач з ёй роўным па рэйтынгу? У асноўным паўпердуны, што прайгралі сваю першую палову жыцця і цяпер хочуць ухапіць хоць кавалачак шчасця. Запомні, што «Джудзі О'Грэдзі і выбітная лэдзі ва ўсім астатнім роўныя»![52] Ірыне патрэбны малады, адукаваны і здольны самец, які стане бацькам яе дзяцей. «Бацька яе дзяцей!» – гэта самы высокі статус мужчыны нават для прыгожай, густоўнай, таленавітай жанчыны. Думай і хутка дзейнічай, Міша. Не праміні свой шанец!

– Яна казала, што да яе заляцаецца кандыдат, таксама аспірант з Алжыра, Мамар Банзібар.

– Мурын ці муслім?

– Мулат і муслім.

У Фёдара Уладзіміравіча твар зрабіўся шэрым, і ён палез у кішэню за валідолам і валер'янкай.

– Курвы, не даяце спакойна дажыць да смерці. Адзін раз у жыцці трапляе разумная, густоўная прыгажуня з тых, што стварае магнетычную атмасферу, а нашы вахлакі і ёлупы лыпаюць вачыма. Тэрмінова ўключы трэцяю хуткасць, Міша.

І пісьменнік узлавана махнуў рукой, каб ягоны суразмоўца сышоў з яго вачэй і не псаваў святочны настрой.

Збянтэжаны, удзячны, задумлівы Міша Смоліч адышоў.

Кінатрупа тусавалася, усе пакрыху выпівалі шампанскае і віскі пад узнёслыя прамовы актораў, рэжысёраў, аператараў і цяпер узбуджана гаварылі. У зале стаяў гоман, смех, хаатычная і шчырая весялосць.

Падышоў дырэктар Клёнаўскай школы Іван Іванавіч. Ён зняўся ў вялікім эпізодзе, дзе іграў самога сябе. Атрымаў някепскія грошы за ролю. За арэнду школьных памяшканняў на рахунак школы згодна з дамовай таксама былі пералічаны неблагія сродкі.

– Прабачце, Тодар Уладзіміравіч, сваім фільмам вы мяне моцна ўзрушылі. Дзякуй вам за дапамогу і ў кансуль-

52 «Марцін Ідэн». Джэк Лондан.

тантах па кандыдацкай. Хутка абарона кандыдацкай. Мой рэйтынг моцна ўзрос.

– І куды вы зараз накіруеце сваю хаду?

– Запрашаюць на пасаду загадчыка раяно і ў педагагічны ўніверсітэт выкладчыкам педагогікі.

– Вам памагаюць, бо вы патрэбны чалавек на патрэбным і адказным месцы. Вам покуль рана некуды рухацца.

– І я так думаю. Але я па іншым пытанні, моцна мяне зачапіла, проста за шлункі ўзяла Ірына Шыдлоўская. Так і стаіць перад вачыма. Выдатны тыпаж маладой прыгажуні.

У вачах дырэктара пісьменнік заўважыў туманную смугу мроі. Ён трымаў у руках келіх з шампанскім і пазіраў у нейкую, толькі яму бачную, далечыню.

– Іван, Ірына цябе зачапіла ці Юля? Вы ўсе тут з глузду з'ехалі! – другі раз за вечар незадаволена прамовіў пісьменнік.

– Мяне зацікавілі, Тодар Уладзіміравіч, і вобраз Юлі, і сама Ірына, бо абедзве сцвярджаюць сучасны тыпаж прыгажуні, які мы павінны культываваць на сваіх жыццёвых абшарах. Мяне цікавяць іхнія рэфлексы, звычкі, культурны код, стэрэатыпы, імкненні і светапогляды...

– А яе лібіда Вас не цікавіць? – Пісьменнік пільна зірнуў на Іван Іванавіча, ці не хлусіць ён. Затым ён павярнуўся да Ірыны Шыдлоўскай, што сядзела з другога боку стала ў кампаніі Ігара Асмалоўскага і мастака-пастаноўшчыка Андрэя Васілёнка.

– Ірына, як справы?

– Вось запрашаюць у Маскву на новы фільм. Абяцаюць зрабіць пратэжэ. – Ірына ўсміхнулася сонечнай усмешкай. Ад яе ішоў моцны пазітыў, усё ў яе твары і паставе было гарманічным і густоўным, і Фёдара зараз уразілі яе вусны, абрысы якіх сведчылі аб чысціні і глыбіні душы.

– Вы, Ірына, асоба і маеце шанец спраўдзіць уласнае плённае жыццё. Лёс актрыс узнёслы толькі ў першай палове, калі яны маладыя і энергетычныя, граюць чужыя выдуманыя ролі.

– І трэба пераспаць з мноствам рэжысёраў, прадзюсараў і прочай тусоўкай, – хутка дадаў з-за стала Асмалоўскі.

– То ўсё роўна ж з некім трэба пераспаць, – на поўным сур'ёзе, прыхаваўшы сарказм, адказала яму Шыдлоўская. – І ў аспірантуры, напэўна, трэба спаць з прафесарамі ды кандыдатамі, загадчыкамі аддзелаў ды лабараторый?

Падпіты маскоўскі мастак Андрэй Васілёнак і актор Ігар Асмалоўскі не зразумелі яе прыхаваны гумар і, утаропіўшыся ў русавалосую прыгажуню, перапыталі ў адзін голас:

– Як так?

Усхваляваны актор Асмалоўскі занепакоена перапытаў:

– А што сэрца, Ірына, вам падказвае? Фёдар Уладзіміравіч нам жа ўсё разжаваў, патлумачыў, паказаў!

– Ён тое самае і патлумачыў: карыстайся жыццём, покуль малады, каб потым пад старасць локці не грызьці. Ці не так? – Ірына Шыдлоўская пазірала на мужчын прыгожымі і разумнымі вачыма, гаварыла з прысутнай ёй пазітыўнай энергіяй і тым самым бянтэжыла мужчын.

Фёдар у ціхай журбе пяшчотна ўсміхаўся ёй. Ён адзін ведаў, што, як і куды трэба руляваць з гэтай чароўнай прыгажуняй.

## XVII

Потым усім складам кінатрупа пайшла на танцы ў збудаваны яшчэ пры сацыялізме вясковы Дом культуры.

Пісьменнік уважліва ўглядаўся ў віхуру пар, што танчылі ў зале вясковага клуба пад музыку радыёлы. Жыццё працягвалася, узніклыя двух- і трохкутнікі чалавечых прыхільнасцяў маглі перарасці ў любоў, можа, нехта створыць, як стварыў ён, велічную драму кахання, а можа, спусціць на тармазах і ператворыць прыхільнасць у звычайныя плоцкія адносіны.

Жыццёвы час імкліва рухаўся далей, і пісьменнік быў у гэтым новым часе гледачом, які ўжо ведаў, што, ці так ці гэтак, усе гэтыя людзі ўрэшце прайграюць. Тыя «канструктары» і «праграмісты», што ствараюць сучасную тканіну рэчаіснасці, чамусьці не зацікаўлены ў веліч-

ным Каханні... Яны не хочуць страчваць сваю дамінуючую ролю... Так-так, нават ён перашкаджае ім, бо таксама стаў творцам і таму зрабіўся іх канкурэнтам...

У ягонай свядомасці сучаснасць зараз рабілася імгненнем ісціны, дзе мінулае і будучыня былі двума магутнымі крыламі, якія ўздымалі над рэчаіснасцю і дазвалялі бачыць прамінулыя і набягаючыя падзеі і таямніцы. Уласнае жыццё мела мноства версій, асабліва спачатку... Вярнуцца б назад, у мінулае, і навесці там парадак, спраўдзіць няспраўджанае. Няўжо нельга хоць на імгненне, на гадзіну, на дзень, вярнуцца ў Эдэм? Папрасіць невядомых «праграмістаў» і «канструктараў» вярнуць яго ў Эдэм, бо ўперадзе ў яго ўжо няма ніякіх новых версій.

Ён заплюшчыў вочы і перад ім нечакана узнік: «...восеньскі лес з першым выпаўшым ноччу снегам, які злёгку накрыў багаты ўраджай грыбоў, што выраслі ў лесе. Ён рэзаў сцізорыкам абледзянелы баравічок. Юля ў зімовым цёмна-сінім паліто, у цёплай пуховай хустцы і рудых скураных боціках воддаль збірала апенькі...

...А вакол панавала халодная зімовая прастора, выбеленая снегам і густая насычаная зеляніна ялін, уверсе лунала бязмежнасць сіня-фіялетавага неба і бліскучы дыск сонца, што паступова хіліўся да небакраю, а побач такія блізкія і родныя шэра-сінія Яе вочы, цяпло Яе рук, Яе голас...»

Пісьменнік ачуняў і расплюшчыў вочы, і віхура пар, што танчылі ў зале вясковага клуба, абрынулася на яго. У цяперашней рэчаіснасці таксама быў вечар...

Узнёслая і прыгожая ў каляровай сукенцы Мая Мігулеўская падышла і прапанавала:

– Фёдар, пайшлі танчыць, вы зараз выдатна выглядаеце – хоць пад вянец.

Фёдар Уладзіміравіч лёгка ўзняўся і, падхапіўшы Мігулеўскую, спрытна закруціў вальс па ўсёй прасторы танцзала. Ад Маі ішлі хвалюючыя флюіды, і ён са здзіўленнем адчуў у сабе валадарнае ўздзеянне тэстастэрона.

– Мая, як вам Ігар Асмалоўскі? Вельмі годны мужчына, да таго ж халасцяк.

– Фёдар, для мяне варты мужчына сёння – гэта ты. Ігар Асмалоўскі, як, дарэчы, і дырэктар школы Іван Іванавіч, як мастак-пастаноўшчык, усе яны пабеглі за тваёй пратэжэ Ірынай Шыдлоўскай.

– Што вы кажаце? А Міша Смоліч куды дзеўся?

– Міша Смоліч адбрыкваецца ад сецяў і арканаў, што накідвае на яго Ала Голікава.

– А што Іра Шыдлоўская?

– Яна смяецца і бянтэжыць мужчын сваімі жартамі. Але самы небяспечны – наш маскавіт мастак Андрэй Васільчык. Гэты можа затлуміць галаву дзяўчыне перспектывай пераезду ў Маскву. Дарэчы, я даўно хацела запытаць, а сапраўдная Юля была такой самай, як Шыдлоўская?

– Ірына Шыдлоўская – гэта яшчэ нераскрытая асоба. У яе вялікі патэнцыял, але пытанне ў тым, хто і як распакуе яе, што адчыніць у ёй? Узнёслую жаночую канстанту, яе бясконцы космас ці толькі плоцкія здольнасці?

– «...тады ж спазнаю так, як і я спазнаны»[53].

– Люблю цябе, Мая, за твой розум.

– А што такое любоў, Фёдар?

– Любоў – самастойны феномен, існуе a priori. Гэта казырная карта ў жыцці! Самы вялікі кароль ці магутны туз не здольны пабіць казырную шасцёрку!

Мая пільна слухала.

– Як «ноўмэн» – абсалютна непазнавальная з’ява, «рэч у сабе, своеасаблівы ‘‘ікс’’, неабходнае невядомае, без якога нічога не існавала б»[54].

Музыка скончылася, і яны пайшлі да выйсця. У начным небе вісеў дзівосны Зорны Шлях Галактык, і яны доўга разглядалі буйныя сузор’і, невядомыя цяперашнім маскавітам і добра знаёмыя тутэйшым ліцвінам, што нарадзіліся і выраслі ў Боскім асяроддзі сярод дрэў, зялёнай травы, пад шэпат зорак і пры таемным святле Месяца, які рабіў фантастычным наваколле, ператвараў вясковыя хаты, дрэвы і лес у незнаёмы і чароўны Эдэм...

53 «Цяпер я ведаю часткова, тады ж спазнаю так, як і я спазнаны» – Першае пасланне да Карынфянаў Святога Апостала Паўла. Раздзел 13.

54 «ноўмэн» – рэч у сабе. Паняткі, уведзеныя ў філасофію Імануілам Кантам.

Па дарозе Фёдар, ідучы з Мігулеўскай пад руку па вясковай заснежанай вуліцы да школы, адчуваў яе цеплыню, выпраменьванне валадарных ферамонаў, думаў, што калі б ён быў поўны сіл, то застаўся б у гэтай вёсцы з Маяй на месяц, прапанаваў бы ёй «інтымныя стасункі» і, магчыма, здолеў бы стварыць новую версію Кахання... І Мая забылася б пра сваё ідыёцкае жаданне загарэцца новай зоркай кінарэжысуры на маскоўскім і расейскім небасхіле...

Яны зайшлі на тэрыторыю школы і, гуляючы ў марознай начы па скрыпучым снезе, прайшлі ля стажка сена каля пуні, чароўны пах сена вяртаў Фёдара ў далёкае дзяцінства і вёў далей, у таямнічае мінулае сваіх продкаў, дзядоў і прадзедаў. Дзверы пуні былі зачынены на клямку, яны параўняліся са стайняй, з акенца якой у святле лямпачкі пазіраў вялікімі вільготнымі вачыма школьны конь Агдам...

## XVIII

...Праца ў кіно забрала апошнія сілы пісьменніка, ён з радасцю і асалодай нарэшце вярнуўся ў сваю мінскую кватэру, у габінет з кніжнымі шафамі, да вакна, да тэлевізара і Інтэрнэта.

Увосень, познімі вечарамі, Фёдар, як заўсёды, сядзеў за сталом, некалі такі рухомы і імпульсіўны, ён цяпер пазбягаў цемры, холаду, дыскамфорта і жыцейскіх турбот, звычайна імкнуўся ўвечары быць у сваёй цёплай кватэры.

Рэчаіснасць зрабілася для яго тэкстам-тканінай, якую нябачныя і невядомыя канструктары-праграмісты стваралі на яго вачах. Напоўнены новым асэнсаваннем, ён уважліва і недаверліва ўглядаўся вакол, у новых людзей, знешні свет і адчуваў, што шматлікія іншамаркі каля дамоў, смартфоны, Інтэрнэт, кодавыя замкі, прадпрымальнікі, тэленавіны і шмат чаго іншага былі толькі часовым зманам пачуццяў, сучаснай ілюзіяй, ашуканствам[55].

55 «Масы больш за ўсё маюць патрэбу ў тым, каб хто-небудзь абазначыў з'явы і рэчы іх сапраўднай назвай: з гэтага, дарэчы, і складаецца рэвалюцыйная палітыка». Леў Троцкі.

Ён, як пісьменнік, добра ведаў, што заўсёды ў дробязях сцэнара ці рамана, асабліва спачатку, застаюцца нестыкоўкі і супярэчнасці. І той, хто стварае сучасную рэчаіснасць, таксама робіць нацяжкі, памылкі, неабгрунтаваныя дзействы, парушае нібыта асноўныя законы быцця і тым самым сведчыць, што гэтыя законы ўмоўныя і ілюзорныя…

...Калі законы быцця ўмоўныя, ілюзорныя – значыць, іх можна перайначыць, вярнуць мінулае, зрабіць яго сучаснасцю, ізноў стаць маладым і закаханым? Убачыць Юлю, адчуць у Ёй тую самую «дамінуючую канстанту», што ёсць у кожнай жанчыне, але выяўляецца толькі ў абраных...

Фёдар падоўгу стаяў каля вакна, узіраўся ў снежна-белае асяроддзе, на цені дрэў, што варушыліся на снезе ў таемным святле поўні, на светлы дыск Месяца ў небе, і мінулае імкліва бегла перад ягоным унутраным позіркам.

«Ноч, чорная бездань Ночы некалі доўгія гады валадарыла ў ягоным маладым жыцці. Толькі ўначы ён мог захаваць сваю самоту, свой адчай, утрымаць прыгажосць мінулага, музыку ночы, панаванне поўні, што рабіла такім таемным усё наваколле... Тое, што было звычайным і звыклым удзень, у свеце месяца ператваралася ў казачны, незнаёмы сусвет...

Аднойчы да яго заехала знаёмая яго знаёмага, каб перадаць яму прывет і падарунак ад сябра. Ада Царанкова было яе імя, густоўная і прыгожая, яна прынесла ў ягоны пакой незнаёмыя і хвалюючыя пахі, нейкія невядомыя і напаўзабытыя, як у сне, флюіды, чароўную атмасферу сэнсу і паўнаты жыцця... Адным фактам свайго існавання прыгажуня памяняла звыклы абшар сусвету... прынесла сэнс быцця... Прастора абудзілася, набыла магнетызм, заблішчала разнакаляровымі фарбамі, час зрабіўся рухомым, стаў дзейным, свежым і маладым... Праз пяць хвілін Ада пайшла, і магнетызм, створаны прыгажуняй, павольна і незваротна знікаў, каб увечары канчаткова патухнуць.

...Некалі, упершыню ўбачыўшы Юлю, ён адразу адчуў у Ёй такую самую ‘‘жаночую канстанту’’, якую некалі

таленавітыя паэты і мастакі зафіксавалі ў сваіх творах як геніяльны феномен.

...Дні ў тыя часы раздражнялі яго сваім пазітывам, яны прымушалі дзейнічаць, мець стасункі з шараговымі людзьмі. Дні былі прасякнутыя штодзённай працай і накіраваны на звычайнае выжыванне. Шмат працаваць, каб потым можна было жыць у цяпле і мець ежу. Праца прамінала галоўнае, забірала ўвагу аб сэнсе і боскасці... І толькі ў выхадныя Тодар мог назіраць і адчуваць прастору, гэтыя бясконцыя пасмурныя дні з нізкімі хмарамі, з якіх марасіў дождж, потым нарэшце надыходзіў вечар, так падобны на дзень, марудны, маўклівы і звычайны...

У гэтым восеньскім вераснёўскім пасмурным дні, што змываў фарбы і адчуванні ночы, таксама існавала свая праўда. Дзень марудна прысутнічаў, і Тодар пачынаў адчуваць сваю непатрэбнасць, адзіноту, сваю адсутнасць...

У тутэйшых сучаснікаў прысутнічала звычка да пасрэднага і нават да самога жыцця...

Аднойчы на нейкім чужым вяселлі, куды ён быў запрошаны, адзін з мясцовых вясковых жыхароў, мужчына сярэдняга веку, за святочным сталом яны сядзелі побач, нахіліўся да яго, каб нешта сказаць яму, адзінокаму і задумліваму, і выпадкова зазірнуў у ягонае нутро... І гэты мужчына з жахам адхіснуўся, адчуўшы бездань самоты, чысціні, адчаю...

– Што ты? Што ты? Што з табой?

...Так пакутліва праходзіла ягоная маладосць. Ён не мог кінуцца ў абдымкі прымітыўнай, безгустоўнай ці бездухоўнай супрацілегласці. Ягоныя выпадковыя сябры неаднойчы запрашалі яго некуды паехаць: у Мурманск лавіць траску і селядцоў на траўлерах у Атлантыцы ці будоўлю века на БАМ, нават была прапанова падацца з мясцовай магілёўскай брыгадай на залатыя прыіскі на Калыме.

Ён нікуды не паехаў, бо інтуітыўна адчуваў, што ягоны запас трываласці абмежаваны. І ягоных сіл не хопіць потым на тое, каб збудаваць паўнавартасную шчаслівую сям’ю. Будучая сям’я – галоўная мэта жыцця, і ён не мог

рызыкаваць ёй дзеля прыгод, бо ўсё астатняе было ў параўнанні з сям'ёй толькі прыгодамі...»

– Хто я? – пытаўся цяпер Фёдар у самога сябе, стоячы каля вакна і пазіраючы ў звыклую цемру ночы. – Ахвяра? Недарэка? Аўтсайдар? Лузер? А можа, пераможца? Лідар сярод аўтсайдараў, псіхапатаў з вывіхнутай свядомасцю? Савецкі рамантык, што згубіў ідэалы маладосці?

Як жа ён, некалі будучы маладым і прыгожым, праміную сваю магчымасць стаць пераможцам і пастунова, крок за крокам, ператварыўся ў аўтсайдара? Фёдар напружана ўзіраўся ў гарадскую светацьму. Начны тугі заходні вецер варушыў галіны рослых бяроз, што ўздымаліся вышэй пятага паверха...

Некалі, у сваёй працяглай маладосці, калі ён нечакана і разам з тым так прагназуема страціў Яе, у яго неаднойчы ўзнікала думка паехаць, знайсці Юлю, забраць назад у таго, хто завалодаў Ёй.

Але ці здолеў бы ён гэта зрабіць? Раптам Яна ўспрыняла б яго як звычайную штодзённасць, як нейкі штрых мінулага? Ці мог ён рызыкаваць сваім жыццём? Яе абыякавасць пры сустрэчы, звычайнасць стасункаў з ім у сучаснасці былі б знішчальнымі. Яны б сведчылі, што ён адарваўся ад рэальнасці, аўтсайдар, які безнадзейна адстаў ад жыцця...

За доўгае быццё ў Яе, напэўна, было мноства прыхільнікаў, можа, нават таемных каханкаў, моцных, упэўненых арлоў і сокалаў. Напэўна гэта былі тыя, хто некалі не прынялі яго ў свае шэрагі ўпэўненых, бо ён не здаў шматлікія тэсты на моцны інтэлект, моцу здароўя ў п'янцы, прафесіяналізме і цягавітасці ў працы, сэксуальнасці з жанчынамі... Упэўненыя, як яны весела і неразумна, маючы здароўе, уладу і сілу, прагулялі, прапілі агульную грамадскую будычыню.

Фёдар змрочна і ўжо чамусьці цвёрда глядзеў праз вакно ў начную безнадзейную цемрадзь.

Каб утрымаць Яе каля сябе, Ён павінен быў набыць упэўненасць і потым увесь час крочыць па пакручастай і

блытанай дарозе... Істына жанчыны не толькі ў тым, каб нараджаць дзяцей, але і ў тым, каб натхняць мужчыну на подзвіг. Героямі мужчыны не нараджаюцца, яны імі робяцца на працягу свайго існавання. Каханне не самамэта, гэта спосаб існавання, што дазваляе найбольш эфектыўна спраўдзіць уласнае быццё, пражыць глыбока, якасна, цікава і плённа.

Ці здолеў бы ён з цяперашнім сваім светапоглядам і набытым досведам, вярнуўшыся назад у юнацтва, паехаць да яе і валадарна забраць Яе?

Так, па вялікім рахунку Ён прайграў трагічна і назаўсёды! І тут ужо нічога не зробіш, не паправіш, ён прамінуў свае два ці тры месяцы, калі ён мог перайсці ўласны рубікон і стаць пераможцам! Каб не прайграць, Ён павінен быў узняцца на трэцюю прыступку пазнання, прыляпіцца да Яе, а потым кожны дзень захоўваць Яе прыхільнасць і Яе каханне на працягу 50 год сумеснага існавання... Вось гэта і ёсць формула жыцця ў Эдэме! Гэта Істына – кожны дзень настойліва сведчыць Ёй пра сваё Каханне. Пры неабходнасці без усякай літасці і спагады, непахісна, валадарна нішчыць усе перашкоды і патэнцыяльныя небяспекі, у глыбіні душы з жахам помнячы аб верагоднасці страты Яе.

...Фактычна тады ён і страціў Яе, бо Страх расчараваць Яе, стаць хоць на імгненне аўтсайдарам, паказаць перад Ёй сваю няўпэўненасць у знешнім свеце быў на той момант мацней самой страты.

Але пасля страты Яе ён зрабіўся банкрутам, падранкам, духоўным калекам без мэты і сэнсу... без Веры... без Надзеі...

А потым, калі зрабіў першыя крокі на шляху страты, ён і не ўяўляў тую чорную прорву адчаю і жаху, што абрынулася на ягонае жыццё. Нібы ён у сваім павольным маладым лунанні ў блакітным веснавым небе над сіне-зялёнымі паплавамі нечакана трапіў пад жорсткі стрэл дуплетам, і карцеч выбіла з яго рамантыку і шчырасць, свежасць успрымання быцця і сэнс існавання...

## XIX

У гэты складаны жыццёвы момант знаёмы расейскі кінарэжысёр Дугін аднойчы запрасіў яго да сябе і прапанаваў яму ўдзел у здымках новага фільма «Іншадумец» у якасці кансультанта. Дугін бачыў ягоную працу ў фільме «Дзень, калі загінуў Апалон», і дзейнасць сцэнарыста-кансультанта яму вельмі спадабалася. Мажны маскоўскі рэжысёр, у швэдры і джынсах, з лёгкай прывабнай сівізной у цёмных валасах, сядзеў у крэсле ў сваёй рэжысёрскай на другім паверсе кінастудыі «Беларусьфільм» і прамаўляў:

– Разумееш, Фёдар, рэжысёр-дакументаліст Мая Мігулеўская сама не здолела б зняць так далікатна і з такой журбой тое, чаго яна не ведае і не заўсёды адчувае. І сучасныя гарадскія людзі занадта прагматычныя. Яны не разумеюць ні Часу, ні прыроднай Прасторы, гучна пераконваюць, сцвярджаюць, шаманяць...

Дугін пакашляў у далонь, пазіраючы на пісьменніка, што сядзеў насупраць у другім крэсле і смакаваў маленькімі глыткамі каву, і дадаў:

– Мне на здымках аднаму не саўладаць з гарадскімі, трэба аўтарытэтны і разумеючы жыццё чалавек. Кіназдымкі будуць праходзіць і за мяжой, на працягу тыдня ў Чарнагорыі. Дарэчы, як я думаю, Мігулеўская да цябе прыліпне і не адпусціць, вось убачыш.

– Яна цяпер у Маскве сшывае фільм.

– Мантажыць не так складана, было б што сшываць. А вось зняць – гэта трэба ўмець. Я звярнуў увагу на здымкі эпізода «праходка па парку». Гэты эпізод яшчэ засяродзіць на сабе ўвагу прафесіяналаў. Нават я вучуся так здымаць. Гэта, Фёдар, ад Бога. Ці дано, ці не дано.

Магчымасць выезду за мяжу моцна зацікавіла пісьменніка. Пабываць за мяжой, тым больш у краіне, да якой ён заўсёды адчуваў сымпатыю, было вельмі някепскім завяршэннем актыўнай часткі свайго жыцця.

Фёдар даў згоду на ўдзел у кіназдымках, атрымаў аванс, пачаў рыхтавацца да здымкаў фільма «Іншадумец». Чытаў кінасцэнар, паглыбляўся ў інтрыгу і аўру дзейства,

ствараў ва ўласным ўяўленні атмасферу мінулага. Але ў час падрыхтоўкі да кіназдымкаў «Іншадумца» ён адчуў сябе вельмі кепска і, каб не рызыкаваць, прагматычна звярнуўся да прафесійных медыкаў. Фёдар прайшоў усе патрэбныя абследаванні і ў першую чаргу зняў кардыяграму.

Кардыёлаг паслухала ягонае сэрца, уважліва праглядзела аналізы, электракардыяграму і на ягонае пытанне рашуча сказала:

– Працаваць? Ваша ішэмія прагрэсіруе! І прысутнічае анеўрызм аорты! Не раю. Настойліва не раю! – падкрэслена з націскам зазначыла кардыёлаг Жанна Кірыльчык.

З урачамі-прафесіяналамі неразумна спрачацца, тым больш што ягоны сябра-аднагодак Уладзь улетку на роўным месцы атрымаў інфаркт і, не звярнуўшыся да медыкаў, адышоў у свет ценяў. Фёдар з моцным шкадаваннем, але рашуча адмовіўся ад удзелу ў кінапраекце рэжысёра Дугіна.

У гэтыя імгненнм Фёдар адчуў, нібы перад ім зачыніліся дзверы вагона і цяпер ён вісіць на прыступцы, учапіўшыся дзвюма рукамі за дзвярныя ручкі, і электрычка шпарка набірае хуткасць, імчыць у такую знаёмую цемру, адкуль сыплецца снег, уладарыць тугі драпежны вецер, пануе холад і невядомасць. Ён не баяўся цемры, але, у адрозненне ад маладосці, ведаў, што дзверы вагона хуткага цягніка ягонага жыцця зачыніліся і што гэта ўжо назаўсёды. І цемра цяпер рабілася так падобнай на нябыт.

У напружаны момант творчай перазагрузкі аднойчы ўвечары яму патэлефанавала з Масквы Мігулеўская.

– Фільм закончаны і ўжо прайшоў прэм’еру ў Доме Кіно. Самы найбольшы поспех з акцёраў меў – угадай хто?

– Мабыць, Ала са сваёй чароўнай паставай?

– І Ала таксама, яе тэлефоны абрываюцца ад віншаванняў. «Ах, Аллочка, такая фигура, такая фигура. Как у юной красавицы... И в постели с чудесным юношей... Это так заводит... Какая глубина проникновения и воплощения образа... Ах, Аллочка – это мечта каждой зрелой москвички... Ты гениальна... Ты выразила женскую суть, мечты,

томления... Как надоели эти волосатые южные мачо... Ты, Аллочка, просто супер...»

– Гэта ўсё, Мая, цудоўна, але як пытанне з фінансавым чыннікам? Як дамовы на пракат? – прагматычна запытаўся пісьменнік.

– Нармальна, Фёдар. Не паспяваем дамовы падпісваць з Украінай, Латвіяй, Летувай, Польшчай, Грузіяй, Сербіяй, Чарнагорыяй, Чэхіяй, Славакіяй... Праўда, некаторым расейскім рэгіёнам не даспадобы, што фільм зняты на беларускай мове... Дарэчы, мяне здзівіла, што нібы простая роля Юлі ў выкананні Ірыны Шыдлоўскай моцна ўзрушыла кінаманаў і крытыкаў. Тры эпізоды – «першая сустрэча ў настаўніцкай», «прагулянка па парку», «снядананак раніцой» – гледачоў уразілі. Так маскоўскі кінарэжысёр Дугін зазначыў: «...где буквально по атомам на глазах зрителей рождается большая любовь...» Зала замерла са слязамі на вачах. Сама бачыла. Эпілог давёў да слёз нават забранзавелых кінамэтраў. Ігар Асмалоўскі выдатна падкрэсліў вобраз Юлі і стаў галоўным адкрыццём кінафэсту. Некаторыя з мэтраў прызналіся, што «образ писателя Фёдора – это про их личную жизненную драму».

– Спрытнюгі і тут здолелі прымазацца. Мяне здзіўляе, Мая, што прагматычнае маскоўскае грамадства, якое пакланяецца толькі грашам, раптам пачынае сентыментальна ліць слёзы над звычайнай гісторыяй.

– Разумееш, яны абажраліся сваёй і заходняй эрзацлюбоўю і захацелі натуральнай духоўнай ежы. Надакучылі лакеі, грубыя і валасатыя нярускія асобы, захацелася чысціні і шчырасці. Крытык Міхайлава так і зазначыла: «История проста, многократно описана в литературе, однако эта новая киноверсия изложена свежо и окончена нестандартно. Герой остаётся жить, он даже победитель для внешнего зрителя, но для себя он грешник, несёт свой тяжкий крест на свою Голгофу».

– Шчыра віншую цябе, Мая. Рад, вельмі рад за цябе. Каб я быў маладым, то прызнаўся б табе ў маіх самых моцных пачуццях, нават у любові.

– Ты, Фёдар, як твой герой. У каханні трэба было прызнавацца тады, калі мы ішлі па начной вёсцы пад таямнічым Зорным Небам.

– У мене была думка: прапанаваць табе застацца са мной у вёсцы на месяц, усталяваць інтымныя стасункі...

– Я б засталася, Фёдар.

– А хто б скампанаваў фільм, які нарабіў сенсацый на міжнародным кінафэсце? Мая, я стары псіхапат, ужо ні на што сурёзнае нягодны. Будзь разумнай і прагматычнай, звярні ўвагу на Ігара Асмалоўскага. Таленавіты, ранімы, халасты і па гадах якраз для цябе. Табе 37, яму 42, чым вы не пара? Скажы яму: «Ігар, пісьменнік Фёдар, правобраз твайго героя, раіць нам не марнаваць жыццёвы час, а звярнуць адзін на аднаго самую сур'ёзную ўвагу». Табе, Мая, нараджаць дзяцей даўно пара...

– Фёдар, я сумую без цябе.

– Мая, ты ж ведаеш: падмуркам кахання з'яўляюцца якасныя і пастаянныя інтымныя адносіны. Без сэксу дзеці не нараджаюцца.

– Фёдар, мая душа плача без цябе. Без цябе – я маленькая і слабая жанчына...

Яны яшчэ крыху паспрачаліся, затым пасварыліся, нарэшце памірыліся і з вялікай нехвотай развіталіся, дамовіўшыся аб блізкай творчай сустрэчы. Пісьменнік быў задаволены, што гэтая зацягнутая валакіта з кіно нарэшце скончылася і ён цяпер можа крыху пажыць у спакоі і вярнуцца да свайго незакончанага рамана, які ў наступным нумары пачнуць друкаваць у «Дзеяслове».

Нацягнуўшы на ногі цёплыя шкарпэткі і апрануўшы шэры пухнаты швэдар, ён захутаўся яшчэ ў плед, ягонае некалі маладое цела зараз мерзла ад восеньскіх халадоў. На душы панавала пяшчота, журба, а ў самай глыбіні непрыкметна і звыкла прысутнічала вялізарная і жудасная выспа чорнай роспачы...

Як заўсёды нечага нехапала: у маладосці – розуму, у сталым узросце – здароўя. Ён разумеў, што па вялікім рахунку Ала Голікава выказала ягонае сутво: «...прогматик

и трус. Никогда ты не будеш победителем».

Маскавіткі не зразумелі, што ён на самай справе толькі слуга прадвызначанай яму неабходнасці. Яму трэба да самога канца выконваць у гэтым жыцці ролю абранніка, тлумачыць шляхі і накірунакі хады да некалі страчанага людзьмі Боскага Эдэму...

Фёдар задумліва глядзеў у цемную ноч за вакном і збіраўся перагарнуць хвалюючую і трагічную старонку свайго мінулага, каб нарэшце канчаткова перайсці на рацыянальна-прагматычнае ўспрыманне рэчаіснасці. Ён развітваўся з тым чароўным часам маладосці і апошні раз узіраўся назад. І перад яго здзіўленым уяўленнем усё ясней і выразней з прыцемкаў туманнай і трагічнай свядомасці пачынаў узнікаць кантынент прамінулага шчасця і любові. Істына паўставала перад ім як магутны і дасканалы, дзівосны і прыгожы Храм і адначасова Сад чалавечага быцця.

Сакавік 2013 г.
г. Менск

## Артыкулы

## Чалавек хвалі

*Я безнадзейны матэрыяліст. Душа, я лічу, з'яўляецца не чым іншым, як сумай дзейнасці арганізма плюс асабістыя звычкі, успаміны і досвед асобы.*

Джэк Лондан

Некалі сусвет існаваў у выглядзе акіяна й камяністых голых зямных цвердзяў. Той першасны акіян уяўляў сабой булён, у якім знаходзілася безліч маленькіх, мізэрных згусткаў, больш канцэнтраваных, чым сама акіянская хваля. Гэтыя першасныя згусткі, будучыя амёбы й інфузорыі, не мелі на той момант нават вонкавай абалонкі, якая б ратавала іх ад шкодных уздзеянняў рэчаіснасці й дазваляла б неяк рэагаваць на самыя простыя ўздзеянні: святло – цемра, холад – цяпло, а ў будучым і дабро – зло!

Вонкавая абалонка – гэта мяжа, што адгароджвае нас ад знешняга асяроддзя й тым самым абазначае нас і дазваляе ўсведамляць свае пачуцці, думкі, назапашваць досвед і сілы, а потым адэкватна ўзаемадзейнічаць з Сусветам.

Што ж уяўляе сабой першасны булён у постсавецкім акіяне, у затоцы пад назвай Беларусь?

Па маім меркаванні, сярод прадстаўнікоў нашага грамадства можна вылучыць носьбітаў некалькіх відаў свядомасці.

### I

**«Чалавек-дзікун»** – істота, якая з тых ці іншых жыццёвых прычын знаходзіцца па-за межамі законаў маралі. Яна выкарыстоўвае ўсё, што яе акаляе, – людзей, абставіны, матэрыяльныя сродкі, – толькі ў сваіх асабістых інтарэсах. Мяжа паміж дабром і злом у гэтых людзей адсут-

нічае. Бог для гэтых людзей не існуе, а калі Бога няма, то ўсё можна. Яны актыўныя, іншы раз нават агрэсіўныя. Наша постсавецкая прастора, на жаль, пачала прадукаваць і памнажаць гэткіх людзей, спойваючы народ і кідаючы яго ў турму за качан капусты.

Але найбольш гвалтуе свядомасць маладых ды, зрэшты, і сталых людзей непавага ўлады да законаў дзяржавы. Дзяржаўная ўлада дазваляе сабе ўсё тое, што забараняе простаму чалавеку. Прыкладаў такой непавагі мноства.

Ігар Сідарук у сваіх аповедах у нейкай меры прааналізаваў стан свядомасці сучасных дзікуноў. У творах «Нагавіцы клятчатай масці» і «Каравайчык – 34» пісьменнік звяртае ўвагу грамадства на існуючую небяспеку:

«– Ну што, кур-відла?! Ядры тваю ў дрыст ёбаную качалку! – крыў адборнымі мацюганамі ён. – Гэта вам за Язэпчыка! Гэта за Каравайчыка!.. – І тут раптам танк спыніўся... Усё. Гэта была фініта.

– І гэта ўсё?.. Я пытаюся, гэта ўсё?! – уздзеў вочы ў недасяжную вышынь Каравайчык. За спінай чалавека шугала полымем расстралянае ім мястэчка».

У некаторых апавяданнях Ігар Сідарук выводзіць сваіх герояў за тую мяжу, пераступіўшы якую любы чалавек выклікае агіду. Іншы раз здаецца, што ён выдумаў сваіх герояў, што такіх у жыцці няма й не можа быць. І раптам на вочы трапляе невялікае газетнае паведамленне аб канібалізме ў тваім горадзе. І ты адчуваеш, што гэта ўжо не здзіўляе, што існуючая рэчаіснасць цябе так ці гэтак падрыхтавала да такога парадку жыцця...

Сваімі творамі Ігар Сідарук нечакана сцвярджае – дна ў руху ўніз не існуе. Апускаючыся ўніз, чалавек разбурае ўсе этычныя, грамадскія, чалавечыя межы й працягвае далейшы шлях у апраметную, усё яшчэ захоўваючы чалавекападобнае аблічча. У «Выкраданні вепрука» ён затрымлівае нашую ўвагу на людзях, якія яшчэ юрыдычна не злачынцы, якія затрымаліся на самай мяжы, але ў іх жыцці ўжо існуе толькі адзін шлях – у бездань...

Некалі савецкі пісьменнік Васіль Шукшын запытаўся ў сябе й задаў пытанне савецкаму грамадству: «Што з намі

адбываецца?» Тады ўлада можа не здолела, а можа не захацела знайсці адказ на гэтае пытанне. У выніку прайшло дваццаць год, і вялікая дзяржава нечакана разбурылася на вачах усяго моцна здзіўленага чалавецтва.

Людзі-дзікуны, не маючы мяжы паміж дабром і злом, без Бога ў душы, без павагі да чужой думкі, меркавання, звычаяў, з непавагай да гістарычнай спадчыны тубыльцаў, чужога жыцця з'яўляюцца дэтанатарамі для ўзнікнення крывавых міжусобіц.

На пачатку грамадзянскіх войн і крывавых канфліктаў лідары рэвалюцый і контррэвалюцый карыстаюцца паслугамі дзікуноў, бо нармальны чалавек ніколі не пачне без дай прычыны забіваць сваіх суайчыннікаў. Гэта потым, калі парэжуць ягоных дзяцей, згвалтуюць і павесяць жонку, зруйнуюць ягоны дом, тады і нармальны чалавек кінецца ў полымя ваеннага забойства. Але спачатку, асабліва спачатку, патрэбны тыя, для каго здзек з чалавека – прыгода, уцеха, вострае пачуццё сваёй значнасці, магчыма нават вясёлая радасць, асалода, магчымасць самарэалізавацца, адпомсціць за сваё дагэтуль мярзотнае й пустое жыццё.

Мы непрыкметна ўжо прывучыліся нават да тэрміналогіі гэткіх людзей, гэта як быццам сведчыць аб бываласці чалавека ці аб ягоным цвёрдым, мужным характары. Ужо й дзяржаўныя мужы карыстаюцца паняццямі злачынцаў і забойцаў: «Мачыць іх будзем і ў сарціры»...

Не трэба думаць, што амаральныя людзі існуюць толькі ўнізе грамадства, яны існуюць і ва ўладным коле, тыя, хто лёгка пераходзіць мяжу дабра – зла. Прыкладаў колькі хочаш: і Чарнобыль, і паслячарнобыльскія ашуканства й махлярства, калі на чарнобыльскія грошы наменклатура будавала шматлікія катэджы па ўсёй Беларусі, і трагедыя на Нямізе, і Чачэнская вайна, а расейскі Пал Палыч? Адкуль усё гэта бярэцца, адкуль цягнецца гэты трагічны ланцуг? Усё адтуль: ад Курапат, ад Трасцянца, дзе сёння на людскім попеле вырошчваюць памідоры й рэдзьку, ад нашага няведання не толькі далёкага мінулага, але й зусім нядаўняга «ўчора», ад нашага кароткага пляча памяці.

II

**«Людзі-дзеці», «стабільныя людзі», «паслухмяная большасць».**

«Стабільныя людзі» ў той ці іншай ступені ўжо адрозніваюць дабро ад зла. Звычайны, асабліва вясковы чалавек самаідэнтыфікаваўся ў вясковым жыцці, але ў акіяне жыцця ён адчувае сябе разгубленым і таму трапляе ў палон масавай ці калектыўнай свядомасці.

«Людзі-дзеці» бачаць жыццё ў чорна-белых фарбах, дзе чорнае – гэта зло, а белае – гэта дабро. Каб карыстацца павагай аднавяскоўцаў, мець высокі вясковы статус, патрэбна мець сям'ю, гаспадарку, сенаваць сена для каровы, садзіць і выкопваць бульбу, назапашваць дровы, дапамагаць суседзям, сваякам, калегам, частаваць тых, хто дапамог табе. Карацей кажучы, не быць лайдаком. Гэтыя людзі карыстаюцца ў жыцці відавочным падыходам.

Простыя людзі – кансерватары, бо разумеюць сапраўдную вартасць стабільнасці грамадскага жыцця. Пры любых гістарычных пераўтварэннях яны заўсёды заставаліся ў пройгрышы, атрымлівалі па карку. Таму вясковыя людзі арганічна не прымаюць рэвалюцый і больш за ўсё на свеце баяцца вайны.

«Людзі-дзеці» – гэта страўнік грамадства, яны з'яўляюцца стабілізатарам грамадскага жыцця.

У апавяданні Вінцэся Мудрова «Іду на таран» ёсць знакавы сказ, які добра асвечвае характар свядомасці вясковага чалавека, які яшчэ не самаідэнтыфікаваўся ў зменлівым часе.

«І усё тая ж кабета – гэтым разам керхнуўшы ў трубку – з крыўдай у голасе паведаміла: – Майго ж учора прынеслі... і штаны паабсцываныя».

Вясковы чалавек адкрыты (хаця іншы раз бывае і хітры), што думае, адчувае, здзяйсняе, тое часцяком і выкладае суседу, сябру, аднавяскоўцу. Іншы раз аніякай спробы выгадна паказаць сябе, узвысіць свой імідж, прыхаваць адмоўнае, паказаць дадатнае, зрабіць рэкламу. Вясковы чалавек заўсёды залежыць ад калектыўнай свя-

домасці; усё, што адбываецца на прасторах вёскі, абмяркоўваеца ўсімі яе жыхарамі.

Простыя людзі! Імі лёгка маніпуляваць. Яны канфармісты ў большасці, бо на іх моцна ўплывае калектыўная свядомасць. Да таго ж у іх кароткае плячо памяці. Яны не вольныя ў сваіх меркаваннях, бо пазбаўлены ў поўнай меры адказнасці за сваё асабістае існаванне. Калгасы і саўгасы за папярэдні гістарычны час сфармавалі людзей са свядомасцю дзяцей. Як у іх магла выпрацавацца жыццёвая прадбачлівасць?

Пахваліць раённы чыноўнік вясковага чалавека, чалавека-дзіця, скажа ўзнёслыя словы, пацісне руку, паляпае па плячы, раскажа анекдот, і пойдзе «стабільны чалавек» ізноў здзяйсняць чарговы подзвіг.

Часцяком жыццё для такіх людзей праходзіць як сон, таму што ў іх недахоп усведамлення сваёй існасці, неразуменне таго, што яны з’яўляюцца аўтаномнымі асобамі і што аўтаномнасць істоты патрабуе ад гэтай істоты дзейснасці, розуму, валодання хоць нейкай часткай свабоды.

Гэтыя людзі лёгка трапляюць пад чужы ўплыў, вераць у міфы, успрымаюць чужыя меркаванні, выконваюць чужыя каманды.

У апавяданні «Аўтобус колеру бэз» Ігар Сідарук аналізуе гэтую здольнасць людзей падпарадкоўвацца без усялякага супраціву. Усё, што не дазволена, – забаронена. Забаронены кожны сверб, кожны дых. Усё, што не мае дазволу, – незаконна. І чалавек адчувае сябе няўпэўнена ў самых простых жыццёвых сытуацыях, бо няма поўнай надзеі на тое, што ёсць дазвол на права дыхаць, глядзець, смяяцца, быць шчаслівым... Закон яго, простага чалавека, не абараняе. Закон, наадварот, заганяе яго ў цесную, непрыдатную для жыцця камору...

Каб кіраваць гэтымі людзьмі, патрэбны простыя каманды – лозунгі, сілавы ціск, гарантаваная пайка і – самае галоўнае – адсутнасць свабоды. Гарантаваная пайка для біялагічных істот важыць значна больш, чым свабода.

Свабода аўтаматычна ўскладае на чалавека адказнасць: за сваё жыццё, матэрыяльны дабрабыт і шчасце сям’і, вы-

хаванне дзяцей, карьеру, адсюль вынікае і адказнасць за грамадства, дзяржаву.

Цяперашняму простаму чалавеку такая свабода непатрэбна! Свабоду «людзі-дзеці», «біялагічныя істоты», скарыстоўваюць дзеля таго, каб не ведаць, не рабіць, не вучыць. Яны несвядома, а іншы раз і свядома затаптваюць парасткі розуму, ужываючы спіртовыя напоі, «чарніла», гарэлку! Вызначальная прыкмета: для біялагічнай істоты дзяўчына з'яўляеццца цёлкай, жанчына – бабай, каханне – сэксам, Радзіма – тэрыторыяй. На такіх людзей нельга злавацца, яны несвядомыя, іх жыццёвай плынню кіруюць рэфлексы, звычкі, стэрэатыпы.

«Людзі-дзеці» і іх асяродзе часта не любяць тое месца, дзе яны нарадзіліся і дзе цяпер жывуць. Яны любяць нешта іншае, напрыклад Ленінград, дзе калісьці нехта з іх служыў на флоце. Ці Нямечыну, у якую мог з'ехаць па вярбоўцы пасля вайны, мог, але не з'ехаў. Цяперака новае пакаленне любіць Штаты, куды паехаў знаёмы іхняга знаёмага, ці тую самую Нямечынну, куды паехала, выйшаўшы замуж за немца, мясцовая дзяўчына. Усюды лепей, горш усяго дома. Самае дзіўнае, што гэтыя людзі амаль нічога не ведаюць пра сваю краіну, не заўважаюць таго, ад чаго ў захапленні замежныя госці. Не любячы сваю Радзіму, яны праз нейкі час пачынаюць не любіць і сваё жыццё і таму беспрабудна п'юць.

## III

**«Аўтаномныя людзі», ці «троечнікі».** Троечнікі – распаўсюджаны тып савецкага чалавека, які жыве ў правінцыі і ў прамысловых цэнтрах.

Ступень свядомасці троечніка дазваляе яму самаідэнтыфікаваца, зразумець, што ён існуе ў свеце як аўтаномная істота, якая павінна ўздзейнічаць на рэчаіснасць. Гэтае пачуццё і з'яўляецца рухаючай сілай гэтых людзей. Яны ініцыятыўныя і заўсёды лідары сярод людзей з чорна-белым успрыманнем жыцця і рэчаіснасці. Ад таго, што яны асэнсавалі сваю аўтаномнасць, у іх узнікае эйфарыя,

жаданне выявіць, паказаць сябе, дасягнуць поспеху. Яны звычайна з'яўляюцца добрымі прафесіяналамі сярод мноства рабочых прафесій і нават прадпрымальнікаў. Паколькі іх веды, прафесійны і жыццёвы досвед моцна абмежаваны, шматварыянтнасці рэчаіснасці для іх не існуе.

Яны ўжо маюць аўтаномную самасвядомасць і значыць утварылі знешнюю абалонку, якая аберагае іхнюю свядомасць ад чужой экспансіі і дазваляе адэкватна ўзаемадзейнічаць з Сусветам, назапашваць індывідуальны досвед.

Але ў жыццёвым акіяне яны яшчэ дальтонікі і ўспрымаюць рэчаіснасць у чорна-белых фарбах. Іх хіба ў тым, што яны не атрымалі адукацыі, гэта значыць не навучыліся карыстацца ведамі, назапашанымі чалавецтвам за мінулыя тысячагодзі. Яны робяць жыццёвыя вынаходствы таго, што даўно вядома адукаванаму і выхаванаму чалавеку.

Любое складанае жыццёвае пытанне яны вырашаюць рашуча і проста. Жыццёвыя высновы для іх гучаць як лозунгі: «Хто не з намі, той супраць нас», «Калі вораг не здаецца, яго знішчаюць», «Без Расіі мы не пражывём», «На Захадзе нас ніхто не чакае» і г.д. Троечніку неабходна яснасць, і лозунгі даюць такую яснасць, і галоўнае – не трэба далей ламаць галаву. Недасведчанасць, адсутнасць сапраўднай адукацыіі, а іншы раз і слабыя прафесіянальныя навыкі, недахоп культуры – усё гэта замяняецца ягонай упэўненасцю ў адзіна правільным светапоглядзе, прынятым рашэнні. Шматварыянтнасць сусвету і самога жыцця – незразумелая з'ява для іх.

У троечнікаў – рэфлекс выканання любой справы, пабудова асабістага і сямейнага жыцця пачынаецца, працягваецца і заканчваецца на ўзроўні трох школьных балаў. Гэты сярэдні школьны бал – тры ці тры з хвосцікам – руйнуе і калечыць шмат якія памкненні маладых людзей і тых, хто з імі звязаў свой лёс. Чалавек углядаецца ў жыццё і не бачыць прыгажосці ў працы, у чалавечых добразычлівых і культурных адносінах, у каханні да жанчыны, у творчай плённай дзейнасці...

Стварэнне ворагаў для троечнікаў з'яўляецца першай жыццёвай неабходнасцю, бо дазваляе ўсе свае хібы, недасведчанасць, непрафесіяналізм, гультайства звальваць на ворагаў. Пры няўдачах – а няўдачы часта абкружаюць троечнікаў з усіх бакоў – яны вельмі прафесійна і хутка знаходзяць вінаватых, што правалілі адзіна правільнае рашэнне.

Трагізм іх сутнасці ў тым, што іх першая ступень свядомасці існуе на чорна-белым узроўні ўспрымання. Таму так часта яны імчаць на чырвонае святло, таму Закон, Канстытуцыя для іх пусты гук, галоўная для іх – мэтазгоднасць, вернасць ідэалам, а на практыцы – метафізіка і дагматызм.

Фізічная сіла і наогул сіла ёсць альфа і амега жыццёвай філасофіі троечнікаў.

Для іх усё проста!

Троечнікі могуць займаць і займаюць важныя дзяржаўныя і кіруючыя пасады. Праблема для грамадства ў тым, што гэтыя людзі па сваім стане здароўя, па сваёй энергетыцы могуць быць на самым высокім узроўні дзяржаўнай кар'еры, але недахопы ў адукацыіі і выхаванні, фрагментарнасць ведаў, прыблізнасць меркаванняў, адсутнасць таго, што называецца культурай у шырокім сэнсе гэтага слова, з'яўляецца перашкодай для належнага ўзроўню палітычнай ці грамадзянскай дзейнасці.

Чым лепш чалавек, тым больш ён узвышае навакольных, яны адчуваюць, як іх рэйтынг у прысутнасці выдатных людзей сам па сабе падвышаецца.

Троечнікі робяць сваё акружэнне горшым, чым яно ёсць на самай справе. Унутры яны вельмі няўпэўненыя, бо падсвядома адчуваюць сваю непаўнавартасць і таму лёгка і моцна крыўдуюць нават на дробныя крытычныя заўвагі, трацяць раўнавагу і несвядома апускаюць людзей да свайго ўзроўню. Іншы раз незнаёмым ці больш сталым па ўзросце людзям, жанчынам гавораць «ты». Тыканне – вызначальная рыса троечнікаў.

Істота, якая жыве несвядома і ўспрымае наваколле ў чорна-белым колеры, ніколі не стане Нобелеўскім лаўрэа-

там! Людзі-люмпены/троечнікі, якія займаюць месца выдатных людзей, звычайна прыводзяць свае народы да войнаў і катастроф.

У цывілізаваным грамадстве недавучкі, людзі з чорна-белым узроўнем свядомасці, нават пры высокіх здольнасцях не могуць заняць высокае месца сярод эліты грамадства.

Выявіць унутраны стан чалавека – нялёгкая справа нават для самога чалавека. На Захадзе, у цывілізаваным свеце існуюць навукова распрацаваныя тэсты, вялікая колькасць журналістаў высвечваюць кожнага кандыдата на дзяржаўны партфель. Захад зрабіў пэўныя высновы з палітычнай кар’еры фюрэра, жыццёвы шлях якога паставіў Еўропу на мяжу самазнішчэння. І тут на на першае месца выходзіць спеласць самога грамадства і кіруючай ім эліты.

Чорна-белая свядомасць як стыль жыцця сфармавалася і зрабілася калектыўнай у перыяд дыктатуры пралетарыята, калі савецкая краіна вымушана была жыць дзесяцігоддзямі ў надзвычайным становішчы – на мяжы выжывання грамадзян дзеля таго, каб нечалавечымі намаганнямі даганяць заходнія краіны ў эканамічна-індустрыяльным развіцці. Калі мэта была дасягнута (1957-69 гг.), быў страчан накірунак руху і сама мэта. Засталіся напрацаваныя і звыклыя метады кіраўніцтва людзьмі, якія сталі неэфектыўнымі і незразумелымі для новых пакаленняў. Новых падыходаў у развіцці, замест ваеннага камунізму, тагачаснае кіраўніцтва краіны не знайшло…

## IV

**Прафесіяналы, прагматычныя людзі.** На гэтым узроўні чалавек не толькі самаідэнтыфікаваўся, але нарэшце ўсвядоміў рознакаляровасць і шматбаковасць рэчаіснасці. Звычайна гэта разумны, выхаваны чалавек, які ўсё робіць прагматычна.

Перш за ўсё гэта сыстэмны чалавек. Маючы адукацыю, ён ужо ведае, што 2 х 2 = 4, а не 5, і не 6, і не 3. Колькі б яму ні трубілі ў вушы СМІ, ён цудоўна разумее, што закон захавання матэрыі і энергіі – універсальны і адносіцца да ўсіх жыццёвых праяў. І таму калі нехта нечакана магутна разбагацеў, то багацце не ўзялося з ніадкуль, і значыць дзесьці вялікае мноства людзей гэтак жа магутна збяднела.

Калі ён (прагматык) верыць у Бога, то ў яго добрая сям'я. У аўтобусе ён саступіць месца жанчыне. Прагматычны чалавек умее атрымліваць асалоду ад жыцця, стараючыся пры гэтым нікога не абразіць, не перaступіць іншым людзям шляху. Ён неканфліктны і авалодаў грамадзянскай свядомасцю – гэта значыць зразумеў адказнасць за падзеі, што адбываюцца вакол яго, у грамадстве, асяроддзі... Ён разумее, што ён часцінка хвалі-пакалення, і што час існавання яго пакалення абмежаваны, і што трэба жыць сёння, не марнуючы свой жыццёвы час. Па вялікім рахунку, ён ведае, што нічога не можа памяняць у наваколлі. Ён бачыць складанасць сусвету, мноства супярэчнасцяў грамадства, барацьбу розных сіл... Істына недасяжная – канчатковы прысуд прагматыка. І таму ён жыве выключна сённяшнім днём, цывілізаваны, ураўнаважаны, уважлівы да акружаючых, камфортны для жанчын... Гэты слой заўсёды і ў большасці сваім жыве сёння, не ўчора і не заўтра, а сёння. Сёння і тут!

Іншы раз у глыбіні душы гэтага чалавека можа ўзнікнуць туга, што ён мог бы дасягнуць нечага значнага, стаць акадэмікам ці прэзідэнтам, але ён прагматык і больш верыць у сініцу ў руцэ, чым у бусла ў небе.

Чацвёрачнікі з'яўляюцца свядома стабілізуючым слоем грамадства і таму падтрымліваюць уладу, а не рэвалюцыянераў.

Сёння прагматычныя людзі імкнуцца мець легкавік-іншамарку, еўракватэру, лепш дом-катэдж, сучасную лядоўню і пральню, імкнуцца карыстацца Інтэрнэтам, рэгулярна выязджаць за мяжу ў цывілізаваныя краіны, самастойна зарабляць на жыццё.

## V

**Пяты ўзровень свядомасці. Гэта сістэмныя і ўзнёслыя людзі!**

Сістэмныя людзі, плённыя людзі прыходзяць у жыццё каб быць рухаючай сілай грамадства. Ад прыроды ім дастаўся высокі інтэлект і творчыя здольнасці, ад грамадства яны атрымліваюць адукацыю і выхаванне. Розум з'яўляецца самай магутнай сілай чалавека, і выдатнікі ў поўнай меры карыстаюцца гэтай сілай. Яны знаходзяць шляхі да поспеху там, дзе звычайны чалавек, нават прагматык, забуксуе, прыпыніцца, паверне назад, не вырашыўшы жыццёвую задачу. Разумныя людзі – соль зямлі. Але пад разумных людзей мноства іншых грамадзян, не вельмі разумных, мімікрыруюць, як тыя хамелеоны, ствараюць вобраз. Таму іншы раз не разглядзець, хто па-сапраўднаму разумны, а хто не вельмі.

У Біблii сказана на гэта: «Няма добрага дрэва, якое б радзіла благі плод; і няма благога дрэва, якое б радзіла плод добры». У разумнага чалавека і вынікі ягонага жыцця разумныя.

Звярніце ўвагу якое мноства людзей жаліцца на недахоп грошай, здароўя, магчымасцяў, неспрыяльныя ўмовы і тысячы розных іншых прычын. Ніхто не жаліцца на недахоп розуму. Розуму ўсім чамусьці хапае!?... Самая найвялікшая абраза чалавека – гэта абвінавачванне ў ягонай разумовай нягегласці. Тут нават дэбілы раз'юшваюцца...

Такім чынам выдатнікі, інэлектуалы і творцы, плённыя людзі ствараюць новае, прыгожае, значнае для ўсяго чалавецтва, пачынаючы ад музыкі і заканчваючы новымі галінамі эканомікі і навукі, і робяць гэта толькі духоўна разняволеныя асобы. Жыццёвы каэфіцыент карыснага дзеяння сістэмных людзей дасягае 70 адсоткаў, у той час як звычаны чалавек мае ад сілы ККД – 5-15 адсоткаў.

Можна зазначыць, што песімісты і людзі няўдала збудаваўшыя сваё жыццё хутчэй за ўсё разумова абмежаваныя. Эвалюцыя ні на імгненне не прыпыняе сваю дзейнасць, выкрэсліваючы тых, хто ёй не патрэбны. Нават гарэлкай эвалюцыя карыстаецца, як сякерай, каб высекчы

тых слабых і нягеглых, што непатрэбны ёй. Выжываюць выбойныя, шустрыя, жыццелюбівыя, і ў першую чаргу разумныя, здольныя, творчыя, таленавітыя, вясёлыя, сэксуальныя, прабіўныя.

Чалавек-творца займаецца стварэннем, рухае цывілізацыю наперад. Гэта яны, плённыя людзі, стварылі камп'ютары, дасягнулі Месяца, пабудавалі сучасную цывілізацыю. Яны сапраўдная эліта любога грамадства.

Вы адразу пазнаеце краіну, дзе ёсць сапраўдная эліта, гэта значыць сапраўдныя вучоныя, менеджары, дзяржаўныя дзеячы, міністры і генералы, акадэмікі і бізнэсмэны – у гэтых краінах лепшыя ў свеце дарогі, легкавікі, харчаванне, адзенне, адукацыя і медыцына і г.д. У гэтых краінах не бывае чарнобылей, грамадзянскіх войнаў, бандыцкіх разборак, стральбы з танкаў па парламенце, пошукаў врагаў.

Канстытуцыя там – гарант Законаў і не мяняецца па жаданні асобных палітыкаў. Там людзі ганарацца сваёй гісторыяй, сваімі таленавітымі суайчыннікамі, сваёй мовай, нават калі яна і не ўваходзіць у дзясятку найбольш распаўсюджаных моў свету.

## VI

Эліта – гэта сыстэмныя і выдатныя людзі з дадаткам чацвёрачнікаў і рэдкімі кропкамі звышвыдатных людзей, што асэнсоўваюць жыццёвыя падзеі і з'явы ды выбіраюць шляхі руху для грамадства. У эліту пнецца ўся актыўна-агрэсіўная большасць, але сапраўдная эліта нікога выпадковага не пусціць на вяршыню ўлады, не пусціць людзей непадрыхтаваных, авантурыстаў, імітатараў, лайдакоў і дэмагогаў. Сапраўдная эліта добра ўсведамляе, што калі заўтра кепска будзе ўсяму народу, то паслязаўтра будзе нядобра і самой эліце. Эліта разумее, што манаполія на ўладу, на інфармацыю, на кар'еру, на творчасць нясе ў сябе зародак будучай адсталасці грамадства, рызыку выраджэння, катастрофы і рэвалюцыі, што кепска перш за ўсё для самой эліты.

Эліце, рэйтынг якой ад трох да чатырох балаў, трэба даць назоў Псеўдаэліта. Гэта фактычна натоўп чыноўнікаў, гаспадарнікаў, дзяржаўных дзеячоў, якія засвоілі рэфлексы выканаўцаў. Не маючы прыватнай маёмасці, яны аб'ядналы толькі сваімі пасадамі, страта пасады адразу скідвае такіх дзяржаўных дзеячоў на ніжэйшы ўзровень існавання. Таму яны трымаюцца за свае пасады рукамі, нагамі, зубамі, ідуць на любыя амаральныя дзействы і гатовыя выканаць любы загад Кіруючай Асобы. На першым, другім і трэцім месцы ў гэтых людзей заўсёды тырчыць асабісты інтарэс. Псеўдаэліта, не маючы свайго карпаратыўнага розуму і волі, гістарычнага прадбачання, заўсёды вядзе грамадства ў гістарычны кут.

Псеўдаэліта адрозніваецца ад эліты яшчэ і тым, што на свае пасады назначаецца Кіруючай Асобай, пасля чаго, атрымаўшы месца паблізу дзяржаўнага карыта, такія дзяржаўныя дзеячы пачынаюць глядзець у рот Кіруючай Асобе. Звычайна КА ставіць на людзей, рэйтынг якіх ніжэй яго асабістага. За некалькі пакаленняў псеўдаэліта дэградуе да самых ніжэйшых адзнак. Псеўдаэліта заўсёды пакутуе ад амаральнасці. Гэта вызначальная рыса псеўдаэліты – амаральнасць, адсутнасць сумлення. Некаторыя, магчыма шмат хто з «кіруючых асоб», лічаць сябе маральнымі, сумленымі, але не далей чым да размовы з жонкай у ложку. Пры прыняцці карпаратыўных рашэнняў і пастаноў такая «сумленая кіруючая асоба» галасуе разам з усім карпаратыўным статкам. Пры адсутнасці цвёрдай нацыянальнай і грамадзянскай свядомасці любая кіруючая дзейнасць амаральная.

Псеўдаэліта непазбежна вядзе дзяржаўны карабель да гібелі.

Сутыкненні розных узроўняў свядомасці – гэта барацьба на выжыванне.

Плённы чалавек і чалавек агрэсіўна-актыўнай большасці – гэта два антыподы, бо агрэсіўна-актыўны троечнік разбурае тое, што намагаецца стварыць плённы чалавек. Для выдатнага чалавека падыход троечніка з'яўляецца Разбурэннем, вяртанем да прымітыўнай свядомасці біялагічнай істоты. Такі падыход разбурае ўсё яго папярэдняе

жыццё, яго дасягненні, яго розум, яго жыццёвую філасофію. Жыццё біялагічнай істоты несвядомае, яно свядома наогул нічога не вырашае, бо з'яўляецца гноем Гісторыі.

Рэйтынг усяго грамадства можа за свядомае жыццё пакалення, пры яго жаданні і моцных валявых намаганнях, падняцца на адзін бал. Каб падвысіць рэйтынг нашага грамадства, стварыць эліту, колькі спатрэбіцца гістарычнага часу?

Колькі намаганняў прыкладае ўлада, каб выпрацаваць тыя рэфлексы і стэрэатыпы жыцця, якія дазваляць стварыць грамадства інертнае, кіруемае, прадказальнае, якое прывыкла да гарантаванай пайкі і не мае патрэбы ў свабодзе?

Наша інтэлігенцыя, якую трэба лічыць галавой нацыі і яе сэрцам, у той ці іншай ступені валодае грамадзянскай свядомасцю. Але гэтага ў сённяшнім жыцці недастаткова, каб надаць нашаму грамадству ходу ў патрэбным накірунку. Нашы прагматыкі, гэта значыць тыя, хто атрымалі адукацыю і па ўсіх грамадскіх законах павіны быць галавой нацыі, аніяк не могуць дарасці да сыстэмнай свядомасці і на самай справе з'яўляюцца нечым іншым, але толькі не галавой. Ні сацыяльных, ні гістарычных ведаў, ні сыстэмнага розуму, ні стратэгічнага прадбачання.

Вялізная колькасць людзей духоўна занядбана, бачыць на два-тры крокі ўперад, не можа існаваць самастойна, шукае чужой падпоркі.

Драматызм жыцця заключаецца якраз у пераходзе з аднаго стану ў другі. Мы заўважаем змену становішча, не заўседы разумеючы, што яно з'яўляецца вынікам змены стану свядомасці. Знешнія змены – вынік унутраных перамен у свядомасці чалавека. Канечне, гэты ўплыў узаемны. Свядомасць Ньютана і Эйнштэйна змяніла рэчаіснасць. А потым рэчаіснасць змяніла свядомасць мільёнаў людзей. Верагодна, гэткім чынам і рухаецца Гісторыя.

Пераход з аднаго стану свядомасці ў другі стан, вышэйшы, патрабуе намаганняў, заўсёды вельмі вялікіх затрат нервовай энергіі, працы, ведаў.

Вывучэнне гэтых пераходаў з аднаго стану ў другі і з'яўляецца для пісьменікаў цікавым, а для грамадства ка-

рысным. Прытым не проста пераход, а ўзыход, пад'ём па дарозе ўверх, да прагматыкаў, да сыстэмных людзей. Рух уніз, якому ўдзяляюць іншы раз нашы пісьменікі столькі ўвагі, вельмі сумная і нецікавая рэч. Быў чалавек чацвёрачнікам, паддаўся спакусе, стаў выпіваць, заляцаўся да чужых жанчын, дэградаваў, спіўся, ператварыўся ў пакрыўджанага, злоснага, разбуранага жыццём чалавека. Такіх процьма, мора-акіян.

Сёння цікавыя тыя, хто адшукаў у сябе і ўдасканаліў свой талент, цікавы сыстэмныя людзі, тыя, хто імкнецца ўперад. Цікавы Эдысон, Біл Гейтс, Ньютан, Джэк Лондан, Мікола Крукоўскі, Мікола Ермаловіч, Анатоль Тарас, тыя, хто стварае сучасную цывілізацыю.

«Дзікуны», «людзі-дзеці», «троечнікі» здольныя паставіць два пытанні: «Што рабіць?», «Хто вінаваты?». «Так жить нельзя!» – адказаў на гэтыя пытанні гісторыя не знайшла. Гэтыя пытанні – фатум слабых розумам людзей.

Плённыя людзі задаюць сабе толькі адно пытаньне: «Чаго ты хочаш?», і ўперад, у цікавае, імклівае, пераменлівае, бурлівае жыццё. Шчасце прыносяць Вынікі, якіх дасягае чалавек. Перашкоды, якія ўзнікаюць перад намі, дазваляюць зрабіць крок уверх, яны прыступкі пад'ёму. І рабіць гэты крок кожны раз мы павінны самі. Нават Пан Бог не будзе рабіць гэты крок за кожнага за нас.

Хваля за хваляй імчаць пакаленні, і кожная з іх нясе ў сябе вялікае мноства людзей з living рознымі тыпамі свядомасці. І кожны раз новае пакаленне самастойна пачынае ўсведамляць законы грамадства і складанасць сусвету.

Артыкул друкаваўся ў часопісе «Архэ» №2 у 2001 годзе.

## Правінцыялізм як спосаб існавання

*Вы рабіце тое, што павінны, а Ён зробіць сваё.*

Старая парада габрэйскіх мысляроў

I

Адкуль вытокі нашай псіхалагічнай няўпэўненасці, непаўнавартасці, занядбанасці? У свой час, будучы маладым чалавекам, я ўпершыню сутыкнуўся са з'явай, якую я па сваёй юнацкай недасведчанасці амаль цалкам узваліў на свае плечы і на плечы свайго пакалення. Праходзячы курс навук у сталічным ВУЗе, я з вялікай неахвотай вывучаў тое, што нам выкладалі, і інтуітыўна цягнуўся да таго, чаго нам не выкладалі, але што існавала ў прыродзе рэчаў, з'яў і навук. Мяне прыцягвала філасофія, сацыялогія, псіхалогія, антрапалогія, дыялектыка, паліталогія, замест гэтага нам выкладаліся не звязаныя між сабой механістычныя веды розных галін навук: геаграфія, біялогія, нават генетыка і асновы экалогіі.

Потым я сам прыйшоў у школу і сам выкладаў прадметы, якія, як тады разумеў, у большасці выпадкаў вучням у іхнім далейшым жыцці не спатрэбяцца.

Шмат год назад я неяк прачытаў, што ў адной з краін увялі ў школе вывучэнне шахмат. Я са здзіўленнем і павагай адзначыў сам сабе: «Улада той краіны мае розум і клапоціцца пра сваё падрастаючае пакаленне».

Шахматы дазваляюць усвядоміць існаванне такіх з'яў, як: пачатак (дэбют), сярэдзіна дзеяння (дзе вялізная прастора для тактычных задум), атрыманне вынікаў (эндшпіль), гульня белымі (дамінаванне), страта тэмпу і якасці, ахвяра фігуры, разумовыя загатоўкі, тактыка і стратэгія... Усё тое, што напоўніцу існуе ў нашым жыцці.

Прайшло шмат год майго жыцця, і я бачу ізноў тыя самыя сымптомы няўпэўненасці, разумовай зашоранасці,

несыстэмнасці, забруджанасці чужымі ідэямі ў нашым жыцці...

Хвароба нашага грамадства – гэта правінцыялізм!

Правінцыялізм пануе ў нас на тэлебачанні, у кіно, журналістыцы, літаратурнай крытыцы (там да сённяшняга часу ўсё цытуюць Бялінскага), у паліталогіі. Увесь час на кожным кроку сустракаеш палітолагаў, што, як тыя дзятлы, дзяўбуць: «Рынкавым адносінам альтэрнатывы няма», далей гэтай формулы іхнія разумовыя здабыткі не ідуць... Пытанне: «Чаму камуністычны Кітай планава і паспяхова будуе капіталістычную эканоміку?» Звычайна на гэтае пытанне ўзнікае поўнае маўчанне! Нашы і не толькі нашы мысляры маўчаць, як партызан на допыце.

Яшчэ адзін расхожы выраз – «дыктатура», або нават «крывавая дыктатура». Ці так гэта? Што такое дыктатура? Пры (дыктатуры) таталітарнай уладзе «забаронена ўсё, акрамя таго, што загадана!». Пры дыктатуры ўсе цяперашнія гаваруны-палітолагі і апазіцыянеры-грантасмокі ўжо даўно працавалі б на лесапавале.

Неразуменне простых і ясных прынцыпаў сучаснага жыцця прыводзіць нават нашых лепшых мысляроў да палітычных хібаў, дзіцячых тактычных памылак. Так Уладзімір Колас, будучы дырэктарам беларускамоўнага ліцэя, дазволіў сабе негатыўнае выказванне па расейскім НТВ на адрас нашай дзеючай улады, тым самым парушыў галоўны прынцып аўтарытарнай улады: «Дазволена ўсё – акрамя палітыкі».

Дарэчы, мыслярам улада сама па сабе не патрэбна, бо ўзяць уладу, тым больш аўтарытарную ўладу, гэта значыць для сумленага чалавека ўзваліць на сябе вялізарную адказнасць.

Пасля падзей у Кіргізіі стала зразумела, што ніякіх масавых мітынгаў нельга праводзіць паблізу дзяржаўных устаноў, бо гэта небяспечна перш за ўсё для суверэнітэту. Тады мой маленькі водгук на гэтую тэму «Наша Ніва» ў верасні 2010 абкарнала, выкінуўшы папярэджанне аб магчымых наступствах пры спробе арганізаваць мітынг у цэнтры горада.

«Сэнс залежыць ад кантэксту». Нашы думкі не ўзнікаюць ніадкуль, яны залятаюць да нас у галаву з культурнага фону. Калі гэта чужы для нас культурны код, то мы пачынаем прадукаваць п'янства, аднаполыя шлюбы, прастытуцыю, садамію, хлусню, махлярства, ашуканства. Такім чынам чужы культурны код выконвае ролю варожага, шкоднага і нават смертаноснага віруса, які ўцялесніваецца ў грамадства і пачынае разбураць нашае грамадства, наш народ і дзяржаву.

«Калі пэўны этнас трапляе пад уладу іншага пануючага этнаса, то пануючы этнас стварае цэлую сыстэму адмоўных стэрэатыпаў аб гэтым народзе. Адметны працалюбівы народ становіцца слабым, рабалепным і бяздарным, тупым. Калі такі стан падначаленасці цягнецца доўга, то падначалены народ пачынае глядзець на сябе вачыма пануючага этнаса. Ён сам сябе прыніжае тымі навязанымі стэрэатыпамі. Адсюль фармуецца комплекс непаўнавартасці. Праяўляецца ён нават у навуцы і літаратуры. Скажам, беларус робіць значнае адкрыццё, стварае адметную рэч. Астатнія беларусы не могуць паверыць, што ён сапраўды быў здатны на гэткае вынаходства. Адкуль ты ўзяў гэта? У каго запазычыў? Ці заўважалі вы гэта?» – кажа Якавенка, «Прывіды Шанхая над Свіслаччу».

Ці будзе непаўнавартасным, другасным правінцыялам якут ці ненец-аленявод у тундры Крайняй Поўначы, за Палярным Кругам пры 50-60 градусаў ніжэй нуля, якога напаткала жорсткая завіруха разам з прысутнымі камандзіровачнымі навукоўцамі масквічамі? Веды, інтэлект, разумовыя філасофскія набыткі зробяцца цалкам непатрэбнымі для выжывання навукоўцаў. Якут-аленявод будзе тут гаспадаром і будзе валадарыць над тэрыторыяй у сотні кіламетраў, ад яго будзе залежаць жыццё маскоўскіх інтэлектуалаў. У той сытуацыі якут – сам метраполія, культурны і ўладны цэнтр сусвету, умова выжывання!

## II

У нашым выпадку вельмі спрытна паміж нашым уладным колам і «свядомай патрыятычнай элітай» прафесійна стварающца напружаныя, непрыязныя адносіны, канфрантацыя, дзе абодва бакі, на жаль, не слухаюць адно аднаго. У выніку спачатку ў «заднім праходзе» апынуліся патрыёты, затым прыйшла чарга тутэйшага прадпрымальніцтва, зараз надыходзіць чарга тутэйшай улады, якую ўсходняя алігархія разам з заходняй алігархіяй запхнуць у «задні праход»...

У першую чаргу наша ўлада прайграла і прайграе ідэалагічна. Гэта нясе вялізарную небяспеку для нашага грамадства, дзяржавы, улады і народа, бо мы ўсе на адным караблі. Улада, асабліва аўтарытарная[56], заўсёды ў першую чаргу займаецца бягучымі справамі. Прадбачанне будучыні, канструктыўныя ідэі, розныя версіі шляхоў развіцця дзяржавы павінна прапаноўваць канструктыўная апазіцыя, якая ў нас, на жаль, адсутнічае.

Паколькі дзяржаўны воз цягне ўлада, апазіцыя ідзе «налегке», то шукаць кампрамісы і шляхі дыялогу з уладай павінна патрыятычная частка нашага грамадства, што будзе выгадна абодвум бакам. Між тым адсутнасць канструктыўнай апазіцыі страшна прыпыняе пераход нашай краіны да нацыянальна-дэмакратычнага развіцця грамадства. Практычна перашкаджае зрабіць крок уперад і таму з'яўляецца вялізарнай пагрозай для грамадства. Улада зараз непрадбачліва ўзяла ўсю адказнасць за лёс дзяржавы і грамадства на свае плечы і ў выніку зробіцца потым гістарычна адказнай за падзеі, што адбудуцца на нашай тэрыторыі.

У нас тыя людзі, што выдаюць сябе за апазіцыю, блытаюць панятак «дыктатура» з паняткам «аўтарытарнай улады».

---

56 Пры (дыктатуры) таталітарнай ўладзе «забаронена ўсё, акрамя таго, што загадана!» Пры аўтарытарнай уладзе «дазволена ўсё, акрамя палітыкі!» Пры ліберальна-дэмакратычным ладзе «дазволена ўсё, што не вядзе да змены ўлады». Пры дэмакратыі «дазволена ўсё, што не забаронена законам». «Нева», 1989 г. «От культа власти к власти людзей». Л. Гозман, А. Эткінд.

Стварэнне еднасці ў грамадстве з'яўляецца сёння першачарговай мэтай як для ўлады, так для канструктыўнай апазіцыі, так і для ўсяго грамадства. Нам усім не патрэбна канфрантацыя, не патрэбна грамадзянскае супрацьстаянне, барыкады, правакацыі, крывавыя разборкі. Улада павінна паважаць грамадства, грамадства – давяраць і паважаць уладу. Толькі ў такім выпадку ў нас не адбудуцца падзеі кшталту падзей у Кіргізіі, Лівіі, Сербіі... якія, дарэчы, былі ініцыіраваныя звонку.

Калі ўладнае кола Расеі зацікаўлена ва ўмацаванні і захаванні Расеі як кантынента, а не як імперыі, то такая еднасць у Рэспубліцы Беларусь выгадна і Расеі?! Спроба захаваць імперыю – гэта свядомае ці несвядомае жаданне суіцыду расейскай дзяржавы! Ва ўсялякім выпадку паколькі ўладнае расейскае кола агучвае сваю зацікаўленасць у сяброўстве, то і наша патрыятычная эліта павінна напоўніцу карыстацца гэтай рыторыкай. Разам з тым мы павінны ўвесь час тактычна агучваць і разбураць імперскія памкненні Расеі, як крокі пэўных сіл па разбурэнні дружбы між дзяржавамі і народамі.

Сёння ў грамадстве, краіне і ўладзе адбываюцца вельмі складаныя працэсы, якія нават тэарэтычна цяжка разрульваць. У краіне вырас клас прадпрымальнікаў. Ці з'яўляецца гэты клас буржуазіяй?

Нашы прадпрымальнікі ў большасці з'яўлюцца спекулянтамі, па вызначэнні амерыканскага бізнесмена і міліярдэра Форда – яны паразіты. Яны ў нашай краіне займаюцца тым, што прывозяць з-за мяжы шмоткі і вывозяць за мяжу валюту. Валюту, якую з цяжкасцю зарабляюць нашыя дзяржаўныя парадпрыемствы і якую ўлада бярэ ў крэдыт за мяжой, тым самым залазячы ў крэдытную пятлю. Выезд за межы краіны грамадзян нашай краіны складае большую колькасць чалавек, чым прыезд замежных турыстаў. Такім чынам, вывозім валюты больш, чым увозім! А колькі валюты вывозім за замежныя іншамаркі?

Сучасны прадпрымальнік павінен вывозіць тавары і прывозіць валюту. Мы сёння жывём не па сродках! І наша ўлада ведае, але нават баіцца аб гэтым сказаць на-

роду. У бізнес «купі-прадай» збеглі ўсе маладыя, актыўныя і пасіянарныя людзі. Няма каму працаваць ва ўладзе, у школе, на заводзе, у паліклініцы... Калі паспрабаваць пусціць ва ўладу цяперашніх бізнесменаў-прадпрымальнікаў, то яны прададуць за замежныя паперкі ўсё, што мае попыт за мяжой. Мы застанемся без жанчын, без лясоў, без заводаў, нарэшце без зямлі... гэта значыць без тэрыторыі!

Нашы прадпрымальнікі хочуць быць буржуазіяй, але яны не хочуць быць нацыянальнай буржуазіяй! Быць нацыянальнай буржуазіяй – значыць трымаць адказнасць перад народам.

У цяперашнім часе жыццёва неабходна, каб нашая дзяржаўная палітыка карысталася метадамі і прыёмамі палітыкі пратэкцыянізму. Але гэта немагчыма без падтрымкі нашых саюзнікаў.

Такім чынам, нехта павіны тармасіць наша грамадства, будзіць тых, хто свядома заплюшчыў вочы. Тых, хто не хоча бачыць і не хоча чуць. Хто жыве сённяшнім днём і не адчувае заўтрашні і паслязаўтрашні час.

«Паняткі без пачуццяў – пустыя, а пачуцці без паняткаў – сляпыя», – зазначыў у свой час Імануіл Кант.

Сыстэмнасць меркавання і дзеянняў – гэта тое, што выцякае з нашых ведаў, адукацыі, прафесіяналізму. Памагае ставіць пытанне «Чаго мы хочам?» і дазваляе асэнсаваць і матываваць нашы жаданні.

Гэта павінна рабіць канструктыўная нацыянальная дзяржаўная апазіцыя! Аматары-апазіцыянеры і грантасмокі аджылі сваё, яны не маюць аніякай вагі ў грамадстве, аніякага аўтарытэту, з'яўляюцца агентамі ўплыву, распільшчыкамі замежных грантаў, аб гэтым вельмі шчыра і ясна распавёў Джордж Сорас у сваёй цудоўнай кніжцы «Наперадзе хвалі».

Наша грамадскасць раздроблена, не згуртавана. Не карыстаецца Нацыянальнай Ідэяй, у выніку безабаронна не толькі грамадства і народ, але і сама ўлада.

Кожны наш індывід нібыта мае сваё асабістае меркаванне і навязвае яго суразмоўцу. Некаторыя апантана абараняюць каштоўнасці рынкавага грамадства, яшчэ іс-

нуюць русафілы і русафобы, прыхільнікі правоў чалавека, дэмакратыі і лібералізму. Усе гэтыя людзі зацыклены на адной, ад сілы дзвюх ідэях, які сапраўды існуюць у рэчаіснасці, але самі па сабе не могуць быць той аб'яднаўчай Ідэяй, якая дазволіла б нашай краіне рухацца ў патрэбным накірунку.

Наша ўлада таксама мае карысныя і каштоўныя ідэі, якія і ажыццяўляе, але яна прамінае некаторыя прынцыпы і ідэі без якіх наш дзяржаўны карабель можа прыплысці ў нікуды, гэта значыць страціць сваю дзяржаўнасць. Ніхто з нашых грамадскаактыўных людзей не з'яўляецца палітыкам. Большасьць не асэнсавала лёс палітычных папярэднікаў, тых, хто нядаўна былі актыўнымі палітыкамі ў рэчаіснасці: Троцкага, Сталіна, Леніна, Мао Цзэдуна, а таксама тэарэтыкаў Артэга-і-Гасета, Грамшы, Кара Мурзы, Сораса... Такім чынам, калі не чыталі, то і не ведаюць законаў, правіл і складанасцяў палітычнай барацьбы.

Нашы пасіянарыі нагадваюць тых сляпых, якія абмацалі жыццёвага слана і з цвёрдай перакананасцю засведчылі: той, хто сядзіць у Думе, сказаў, што дэмакратыя – гэта такая файная вяроўка з пятлёй, што не душыць, а памагае дабрабыту і росквіту; другі, што кіруе банкам, цвердзіць, што свабодны ператок капіталаў за межы краіны – гэта адзін з варункаў дэмакратыі; трэці, што знаходзіцца ва ўладзе, адзначыў, што рэйдэрства – гэта справа судоў і не мае ніякага дачынення да ўлады; чацвёрты – уладальнік «заводаў, газет, параходаў» прамаўляе аб заканчэнні хутчэйшай прыватызацыі дзяржаўных прыбытковых прадпрыемстваў...

Нам патрэбны тэарэтыкі, якія засвоілі ўсю сусветную палітычную тэорыю, асэнсавалі яе і прапанавалі нашай разумовай эліце сваё разуменне рэчаіснасці. Яны павінны абагуліць усе карысныя і каштоўныя ідэі якія зараз жывуць у грамадстве, знайсці кансэнсус, заваяваць аўтарытэт, адшукаць аднадумцаў, якія падхопяць іхнія ідэі і панясуць народу.

Цяперашні лідар у свой час агучыў сваю праграму. Ён у патрэбны час і ў патрэбным месцы своечасова прамовіў:

«Я навяду парадак! Я запушчу заводы!»У той момант гэтага было дастаткова – беларускі народ хацеў парадку. «Свабода» для нашага дасведчанага народа была небяспечным сінонімам маны, ашуканства і хлусні. Наш прагматычны народ, што жыў са свайго мазаля, з багатым гістарычным досведам адчуваў, што гэтая «свабода» абярнецца хаосам, бязладдзем, рабаўніцтвам, голадам, нэндзай…

Я ўспамінаю, як у канцы вар'яцкіх 90-х гадоў заехаў у адзін з калгасаў Варонежскай вобласці на мяжы Баброўскага і Анінскага раёнаў, там у гэты момант расфарміроўвалі калгас. Людзям давалі кожнаму па 6 га чарназёма, і мужчыны на мехдвары разгублена тоўпіліся і не ведалі, што рабіць. (Праз некалькі гадоў усе гэтыя гектары прыватных надзелаў былі скуплены маскоўскімі і піцерскімі багацеямі.)

Мужчыны – механізатары гадоў па 40, сярод іх вылучаўся рослы механік у скуранцы, не ведалі, як жыць далей. Я запытаў іх:

– А што далей?

– А мы не ведаем. – У іхніх адказах чулася няўпэўненасць. А ў глыбіні душы гучаў яшчэ неасэнсаваны жах. Кожны з іх не ведаў, што рабіць з гэтай зямлёй. А як пракарміць сям'ю, адукаваць дзяцей?

– А на працу?

– Працы няма. Прывезлі ўзбекаў. Трымаюць іх у гуртажытку, за цагельным плотам, пад аховай, кормяць, на выхадныя вывозяць у райцэнтр.

– Што ж вы будзеце рабіць?

– Мы не ведаем...

Яны не ведалі. Яны, простыя рабочыя-механізатары, не ведалі што рабіць! Ім патрэбен быў Лідар, які ведаў бы, што рабіць. Але яго не было! Адукаваны інжынер-механік таксама не ведаў, што рабіць.

Праклятыя рускія пытанні: «Что делать? Кто виноват?»

III

У палітыцы адсутнічаюць такія паняткі, як «праўда» і «справядлівасць», там пануе «мэтазгоднасць». Канечне, кожны палітык карыстаецца лозунгамі «праўда» і «справядлівасць», у патрэбны момант кожны палітык б'е ў шаманскі бубен і на ўсю моц карыстаецца паняткамі як «праўда», «гістарычная праўда», «справядлівасць». Ідыялагемы заўсёды служаць сродкам маніпуляцыі свядомасьці шараговых людзей і выканаўцаў загадаў лідараў. Але для саміх лідараў гэтыя паняткі – пусты гук. І Рузвельт, і Чэрчыль, не кажучы пра нямецкіх фюрэраў і савецкіх камісараў, шырока карысталіся слоганамі «справядлівасць» і «праўда». Дзяржавы нямецкіх фюрэраў і сталінскіх камісараў наогул былі спрэс ідэалагізаваныя. Разам з тым гэтыя ідэі і паняткі былі аб'яднаныя ў стройную сыстэму, у якой важную ролю граў цэтлік «ворагі».

У цяперашні час у той ці іншай ступені гэтай ідэяй свядома ці несвядома спрабуе карыстацца Зянон Пазняк. Між тым пошук знешніх і ўнутраных ворагаў сёння ў цяперашніх варунках не спрацоўвае. Ліцвіны-беларусы вельмі недалюбліваюць гэты пастулат – «ворагі», таму што ён патрабуе ад народа «гераізму» і самахвярнасці. Ліцвіны-беларусы неахвотна і вяла рэагуюць і актывіруюць сваю свядомасць на неабходнасці «гераізму».

Якую ж ідэю сёння можна прапанаваць нашаму грамадству? Рынкавыя адносіны адкрытага заходняга грамадства? Вельмі небяспечна! Мы не можам адкрыцца перад моцнымі фінансава і эканамічна заходнімі дзяржавамі – бо рызыкуем імгненна страціць не толькі свае прадпрыемствы, але і зямлю. Аб'яднацца з нашымі «братамі» на Усходзе пад адной коўдрай? Але ў расейскага грамадства няма Ідэі, яны самі кладуцца пад амерыканцаў і Захад. Што ж рабіць? Тое самае пытанне, што прамаўлялі варонежскія рабочыя-механізатары. Жахлівае пытанне! Нібыта момант свабоды выбара, але якая вялізарная адказнасць кладзецца на плечы тых, хто робіць выбар. Як некалі прамовіў Сальвадор Далі:

– Я ненавіжу свабоду, яна вымушае мяне рабіць выбар!

Між тым у гэткім становішчы ўсе краіны постсавецкай прасторы. Усе! Такім чынам, нам патрэбна лавіць вецер у свае ветразі і актыўна руляваць, манеўрыраваць, шукаць саюзнікаў, мацаваць унутраную еднасць, дзеля чаго трэба ў знешнім асяроддзі не казаць нічога благога пра сябе... А гэта значыць, што трэба займацца палітыкай, якой мы не займаліся амаль 220 год. Па маім меркаванні, таксама патрэбна палітычным шчанюкам перастаць гаўкаць на караван і перайсці да канструктыўнага дыялогу!

Калісьці Ленін быў дэмакратычным лідарам сваёй палітычнай суполкі, накіроўваў і стрымліваў сваіх палітычна розных і варожых адзін да аднаго палітыкаў, як Троцкі і Сталін.

Перш чым ісці ўперад, трэба зразумець, што адбылося за апошнія 25 год. Зараз шмат хто з па-заходняму заточаных свядомых лічыць, што камуністаў звергглі дэмакратычныя сілы, бо камандная сыстэма аджыла, яна неэфектыўная і таму павіна была загінуць.

Між тым Кен Уілбер, сучасны заходні філосаф, сведчыць: «Постмадэрнісцкая дэканструкцыя, як гэта нарэшце зразумелі, непазбежна вядзе да Нігілізму: нідзе няма сапраўднага сэнсу, ёсць толькі шматслойныя аблуды-памылкі. У выніку гэтага замест мастацтва як шчырага выказвання застаецца мастацтва як анархія, што чапляецца толькі за эгаістычную прыхамаць і нарцыстычную пахвальбу».

Яго падмацоўвае сваімі выказваннямі вядомы фінансіст, мільярдэр і філосаф Джордж Сорас: «Цяпер пашыранае паўсюль перакананне, што рынак – дасканалая сыстэма. Яно грунтуецца на прызнанні таго, што дзяржаўнае рэгуляванне не здольнае выконваць свае задачы. ...Няўдалае рэгуляванне зусім не значыць, што свабодныя рынкі дасканалыя, і наадварот. Абедзве сыстэмы маюць свае хібы, і выбар паміж імі мае рэфлексіўны характар».

Далёй ён дадае, што эканамічныя навукі – гэта сучасная алхімія.

Форд, характарызуе прадпрымальнікаў–спекулянтаў, як паразітаў, шкодных для дзяржавы асоб, якія нічога не ствараюць. Зірніце на Экспабел, Ждановічы, якая колькасьць «людзей-шкоднікаў», што з'яўляюцца фактычна агентамі замежных фірм і дзейнічаюць у іх інтарэсах прапіхваючы іхнія тавары на нашы рынкі, скупаючы і вывозячы валюту за мяжу. Сёння ў свядомасьць нашых людзей трывала замацавана шкодная і небяспечная думка, што дзяржава павінна забяспечываць насельніцтва і прыватны бізнес валютай! Калі наша дзяржава паменьшыла закупкі тавараў з Казахстана, патлумачыўшы, што нехапае валюты, адтуль прыйшоў адказ, амаль загад : «Бярыце крэдыты!»

Узбагачэнне любым коштам – мэта ўзніклай на постпрасторы новай буржуазіі.

На самай справе сама дзяржаўная бюракратыя і зрабіла гэты пераварот, дзеля таго каб прыватызаваць агульнанародную маёмасьць ці, як яны тлумачылі народу – «нічыю маёмасьць». Зрабіўшыся ўладальнікамі вялізарных багаццяў бюракратыя не здоляла стварыць Ідэю больш-меньш прыдатную для простых людзей і народа.

Цяперашняе ідыялогія алігархаў вядзе народы постсавецкай прасторы да вымірання.

Мао Цзэдун у траўні 1956 г. калі пазнаёміўся з матэрыяламі XX з'езду КПСС адзначыў: «У СССР адбыўся капіталістычны пераварот. Тыя людзі, хто прыйшлі да ўлады – яны больш не будуцьісьці да камунізма. Наадварот, яны будуцьісьці да капіталізма, каб прысвоіць народную маёмасьць і кіраваць у сваіх правінцыях і ўездах як капіталісты».

Адзін з братоў Качынскіх заўважыў: «Пры ўвядзенні дэмакратыі Беларусь будзе раскуплена на працягу месяца!»

## IV

Журналісты ўжо забанілі ўсім глузды сваім цвярджаннем: «История не знает сослагательных наклонений».

Большасць з нас не ведае, што такое «сослагательное наклонение», але ўспрымае гэта выказванне як «тое, што ўжо адбылося, – не мела альтэрнатывы». У свой час савецкія ідэолагі таксама цвердзілі ўсяму адукаванаму грамадству, што «перамога сацыялізму – гэта закон гісторыі»... Між тым у ЗША дзесьці прыкладна 40 год назад былі распрацаваны, прааналізаваны і вывучаны 150 канцэпцый гістарычнай хады, пры якіх ЗША разваліцца на часткі і разбурыцца. Потым амерыканцы спачатку нейтралізавалі набіраючы сілу рух пасіянарных мурынаў, скарыстаўшы энергію мурынаў на карысць краіны. Сёння мы бачым, што мурын стаў прэзідэнтам ЗША, а мурыны робяцца часткай эліты амерыканскага грамадства. З якой годнасцю, павагай да саміх сябе багатыя, густоўна апранутыя мурыны і мурынкі трымаюць сябе. Яны ўвайшлі ў эліту багатай элітарнай часткі амерыканскага і заходняга грамадства. Яны багатыя, яны маюць выдатнае здароўе, яны нарэшце вельмі сексуальны. Чэмпіёнка Алімпійскіх гульняў Сірэна Уільямс – чорная прыгажуня. Чорная – і прыгажуня?! Нонсенс?! Уільямс зламала прадвызначанасць будучага «сослагательного наклонения», яна разам са сваёй расай памяняла будычыню.

30 год назад у Гаване супрацоўнік савецкай дыпмісіі беларус Генадзь Шпак, распіваючы бутэльку рому з кубінскім неграм, запытаўся ў яго:

– Чаму вы так не любіце нас? Сёння ізноў нехта ўкінуў здохлага ката ў вадазбор на даху. А ўчора хтосьці моцна накакаў на ганку.

Упацелы ад выпітага рому кубінец-мурын адказаў:
– Паглядзі на мяне, на чорную малпу. У параўнані з намі, вы – белыя богі. Вашы белыя жанчыны – багіні. Зірнуўшы на вас, а потым паглядзеўшы на сябе ў люстэрку, я пачынаю ненавідзець сябе. Але чалавек не можа ненавідзець сябе, таму мы ненавідзім вас – белых багоў.

Чаму мурыны сёння дасягаюць поспеху? Таму што яны змагаюцца за сваю годнасць, вучацца, працуюць, стварылі сваю эліту!

Сёння нас, ліцвінаў, адмова ад сваёй уласнай гісторыі аўтаматычна прыводзіць да правінцыялізму. Вось цытата з аповесці «Імперскі сіндром»: «Літоўская Русь – эпоха сярэднявечча, крынічная чысціня славянства, Магдэбурскае права гарадоў, паспяховая барацьба з Тэўтонскім Ордэнам, перамога ў Грунвальдскай бітве, вызваленьне Украіны ад мангола-татарскай арды, гэта перамога ліцвінаў на Сіняй Вадзе, Статут Вялікага Княства Літоўскага, універсітэт у Вільні, адчынены ў 1579 годзе, дарэчы, гістарычна першы на цяперашняй постсавецкай прасторы, першадрукар Бібліі Францыск Скарына, сусветна вядомы паэт Адам Міцкевіч. Нават «Слова аб палку Ігаравым» – справа ліцвінаў, хутчэй за ўсё Кірылы Тураўскага, па стылі напісання вельмі супадае. Дарэчы, «Повесть временых лет», так сказаць першакрыніца рускай гісторыі, спісана з Радзівілаўскіх летапісаў»...

...Дастаткова памяняць пункт гледжання на гісторыю, як аўтаматычна мяняецца сучаснасць. І наша эліта, і рускае грамадства не гатова ставіць знак роўнасці паміж Расеяй і Беларуссю, бо «Вялікае Княства Літоўскае» ўчора – гэта «Беларусь» сёння. Калі Беларусь забярэ сваю гістарычную спадчыну, то што застанецца нам? Мы нават не ведаем, дзе тая Кулікоўская бітва адбылася. Расія ўзнікла падчас Пятра Першага, дагэтуль існавала Масковія – пратэктарат Залатой Арды. Мы пасля так званай Кулікоўскай бітвы яшчэ сто год плацілі даніну Залатой Ардзе... Імперыя не можа быць дэмакратычнай, інакш усю нашу створаную гістарычную спадчыну нацмены расцягнуць па сваіх закутках. Мураўёў – генерал-губернатар[57] Паўночна-Заходняга Края меў рацыю, калі казаў, што «руская школа даробіць тое, што не дарабіў рускі штык».

Сёння наша ўласная гісторыя ставіць перад намі, нашым грамадствам, перад цяперашнімі носьбітамі ўлады дылемму: Застацца нікім, пылам на чужых ботах ці стварыць уласную эліту, стаць элітай!

---

57 Генерал-губернатар – назначаўся ў Расейскай імперыі ў губернiях, дзе існавала ваенае становішча і меў права на смяротнае пакаранне паўстанцаў. У Расейскай імперыі быў яшчэ адзін генерал-губернатар на Каўказе.

Што такое эліта? Гэта тыя, хто вядуць грамадства, краіну, дзяржаву ў сучасным складаным жыцці сваёй уласнай дарогай, клапоцяцца аб выжыванні і дабрабыце народа, аб ягонай адукацыі, годнасці, гэта тыя, хто не бярэ хабар, хто захоўваюць асяроддзе, клапоцяцца аб экалогіі, падтрымліваюць усюды сваіх і сваё, хто ствараюць еднасць у грамадстве... Хто трымаюць адказнасць, хто маюць сумленне...

Прыхадні аб усім гэтым клапаціцца не будуць. Прыхадні заўсёды маюць свае ўласныя клопаты і думаюць пра сябе, нават калі гавораць, што думаюць пра нас...

Між тым нашы продкі амаль пяцьсот год таму сфармулявалі свае жыццёвыя законы, якія актуальны і сёння: «Чужаземцам не павінны давацца ўсякія чыны і ўрады, а прыходням з іншых панстваў не даваць аселасці», Статут ВКЛ, 1588 год. Раздзел 3, артыкул 12.

...Свая эліта перш за ўсё павінна мець нейкія адрозненні, маркеры размежавання з іншымі, чужымі элітамі. Такімі межамі з'яўляецца тэрыторыя, дзяржаўнае ўтварэнне, уласная эканоміка, як было ўжо агучана – уласная гісторыя, нават калі гэтая гісторыя і не падабаецца некаму з суседзяў. Гісторыя не жанчына, што павінна падабацца ўсім.

Некалькі слоў трэба сказаць аб народзе. Вось што заўважыў нямецкі філосаф Карл Ясперс аб народзе. «Масу трэба адрозніваць ад народа. Народ структурыраваны, асэнсоўвае сябе ў сваіх жыццёвых устоях, у сваім мысленні і традыцыях. Маса, наадварот, не структыравана, не валодае самасвядомасцю, аднародна, пазбаўлена традыцый – яна пустая. Маса з'яўляецца аб'ектам прапаганды і маніпуляцый, яна не валодае адказнасцю і жыве на самым нізкім узроўні свядомасці».

Такое грамадства атрымала назву масавага, грамадства масавага спажывання і масавай культуры. Аб пагрозе для краіны масавай культуры ў 1975 годзе рашуча выступілі савецкія пісьменнікі Васіль Быкаў, Васіль Бялоў у «Літаратурнай газеце». Але індустрыяльна-патрыархаль-

нае савецкае грамадства і ўлада не звярнулі на гэты сігнал ніякай увагі. Крыкам крычаў у сваіх творах аб маргіналізацыі народа Васіль Шукшын, і хоць культурная эліта савецкага грамадства звярнула ўвагу на пісьменніка, але выснoў не зрабіла. Як заўсёды, «покуль гром не грымне», інертная расейская грамадская думка нічога зрабіць не здолела.

Перш чым стаць кіраўніком дзяржавы, чалавек павінен прайсці па прыступках лесвіцы, і важнейшая першая прыступка – гэта пасада дырэктара: завода, калгаса, шахты, камбіната, траўлера...

Я неяк спытаўся ў марака, што плаваў на гандлёвых караблях: «Што значыць капітан карабля для яго экіпажа»? Марскі воўк адказаў: «Капітан?! Калі трапляеш у дзевяцібальны шторм у Біскайскай затоцы, то Капітан – цар і бог! Каманда чуе па ўнутрыкарабельнай радыёсувязі ягоны голас, і дастаткова гэтаму голасу стаць няўпэўненым, задрыжэць, як каманду ахоплівае паніка».

Некалькі год назад расейская ўлада скараціла міністэрства лясной гаспадаркі. Я запісаў у сваім дзённіку: «Да першага гарачага лета. У першае спякотнае лета Расія будзе гарэць агнём і полымем». Так і атрымалася. Такіх памылак, як эканамічных, так і палітычных, суседзі нарабілі процьму, ужо нават міжнародная супольнасьць перастала здзіўляцца.

Такім чынам, спадзявацца на чужую эліту, што яна выведзе супольны дзяржаўны карабель з небяспечнага эканамічнага і палітычнага становішча не прыходзіцца.

## V

Ёсць адзін важнейшы чыннік, што рэзка і катэгарычна дзеліць эліты на Свой – Чужы! Гэта адзіная Мова!

Нядаўна я ў «Архэ» прачытаў артыкул вядомага публіцыста і навукоўца Леаніда Лыча, «Русіфікацыя тытульнага народа закончана». Тым самым наш навуковец падкрэсліў, што наша ўладнае кола адмовілася стаць Элітай. Яны, сучасныя носьбіты ўлады, згадзіліся быць адміністрацыяй. Яны, і разам з імі шмат хто іншых з нашых суайчыннікаў,

адмовіліся стаць лідарамі, кормчымі, Вялікімі Князямі, Каралямі, яны згадзіліся стаць у будучыні «Нікім». Так некалі ліцвінская эліта, стаўшы польскамоўнай і не здоляўшы выбраць свайго ўласнага караля, стварыла сваімі ўласнымі рукамі жахлівую будычыню для сваіх патомкаў, дзяцей, унукаў, праўнукаў... Гэтаксама польская эліта, своечасова не развітаўшыся з так званым «ліберум вета» на 123 гады знішчыла сваю дзяржаўнасць.

Савецкая эліта другой паловы XX стагоддзя прафукала, пракакала, прасвістала будычыню, а Генадзь Хазанаў, вярнуўшыся з Ізраіля ў канцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя, у інтэрв'ю маскоўскай «Эканамічнай газеце» шчыра і трапна адзначыў: «Прасралі сваю краіну, свой жыццёвы дом!»

Руская дваранская эліта, акунуўшыся ў стан спажывання, асалоды і праядання будучыні, па алгарытме, добра адлюстраваным у вядомай песенцы «Как упоительны в России вечера, любовь, шампанское, закаты, переулки, ах, лето красное, забавы и прогулки, балы, красавицы, лакеи, юнкера, и вальсы Шуберта, и хруст французскай булки».

Руская дваранская эліта, што паспела збегчы ў Парыж, зрабілася шафёрамі, кельнерамі, некім яшчэ, у разумовым сэнсе – Нікім! Няўжо нашы, тыя, хто могуць стаць элітай, не ўсвядомілі сёння, што іхнія дзеці і асабліва ўнукі стануць Ніхто!

Наша з вамі задача патлумачць ім які жудасны сэнс хаваецца за гэтым «Ніхто», за якім далёй ідуць «Ніколі», «Нідзе»! Таксама трэба патлумачыць і расейскай Эліце, што слабая Беларусь аўтаматчына робіць слабой Расею. Што нашы намаганні стварыць сваю ўласную эліту не ёсць спробай збегчы ў Атлантычны акіян пад крыло звышдзяржавы. Што мы застаёмся заўсёды на кантыненце «Расія», але самастойным, суверэнным і незалежным суб'ектам міжнароднага права. І гэта выгадна кантыненту «Расіі», гэта мацуе наш супольны кантынент!

Сучасны тутэйшы інтэлектуал, палітолаг, тэарэтык, філосаф, публіцыст, пісьменнік, тэлевядучы, артыст, спявак, каб не быць правінцыялам, у сваёй дзейнасці паві-

нен карыстацца беларускай мовай. Мова ў даным выпадку робіцца тымі акулярамі, праз якія асоба разглядае, спазнае, узіраецца ў Жыццё. Мяне аднойчы чытачка запытала: «Чаму вы не пішаце на рускай мове? У вас будуць тысячы чытачоў!»

«Не пішу, каб не быць правінцыйным...» – быў мой адказ! Правінцыялізм – гэта тупік, чаму мы павінны згадзіцца, што частка зямной кулі пад назвай ВКЛ-Беларусь – нешта другаснае, нявартае, і павінна грэбліва ўспрымацца перш за ўсё нашай моладдзю?

Савецкая мова пасля распаду Савецкага Саюза аўтаматчына зрабілася імперскай. Яна раз'ядноўвае грамадства, разбурае еднасць у нашай дзяржаве. Карыстаючыся імперскім «языком», асоба аўтаматычна ўспрымае ўжо чужое светаўспрыманне, якое не адпавядае нашым жыццёвым мэтам, пачынае абараняць чужыя жыццёвыя каштоўнасьці. Пытанне стаіць такім чынам: ці ты гаспадар сваёй жыццёвай тэрыторыі, ці гаспадарамі з'яўляюцца прыхадні, якім на твае жыццёвыя каштоўнасці начхаць. Вось мы і чытаем у СМІ, як у Бараўлянах збудаваны хімзавод са шкоднай вытворчасцю, што будзе забруджваць ваданосныя грунтовыя воды г. Мінска атрутнымі хімікатамі, ці ў Валожынскім раёне будуецца галандскі свінакомплекс на 110 000 галоў свіней, які забрудзіць усю экалогію района, ці старшыня тэлекампаніі Давыдзька пастаянна круціць па тэлебачанні фільмы пра аднаполых, што не адпавядае нашым беларускім традыцыям і характару, але ва ўсіх гэтых выпадках гэткая ініцыятыва, мабыць, някепска праплачана прыхаднямі.

Ёсць яшчэ вельмі важны складнік, які выконвае мова. Яна дазваляе дамінаваць на сваёй тэрыторыі. Як толькі асоба, інтэлектуал, палітолаг, тэарэтык, філосаф, публіцыст, пісьменнік, тэлевядучы, артыст, спявак пачынае карыстацца мовай, ён аўтаматчына пачынае дамінаваць. Пры ўмове выдатнага валодання мовай. Сёння добра і выдатна валодаюць мовай звычайна адукаваныя, па-еўрапейску выхаваныя асобы. Гэта страшна раздражняе тых, хто

не ведаюць мовы і ведаць яе не хочуць. Яны страчваюць даміnanту, страчваюць права на лідарства, на камандныя вышыні, бо яны чужыя. Па вялікім рахунку, улада адчувае гэта! Але газавы венціль не ў нашых руках! Таму наш лідар і зазначыў, нават зрабіў намёк: «Давайце ціхенька вывучым мову!» Што значыць ціхенька? Гэта значыць не засяроджваючы ўвагу «смотряшчего», таго, хто наглядае за намі.

Такім чынам – гэта таемнае даручэнне лідара дзяржавы культурнай і інтэлектуальнай эліце нашай краіны. Наогул, калі мы хочам каб да нас прыслухоўвалася ўлада, мы павінны разам з канструктыўнымі ідэямі і праектамі яшчэ і хваліць ўладу. Як гэта зрабіў Някляеў: «Дзякуй за захаваную прамысловасць і сельскую гаспадарку. Дзякуй за сацыяльную палітыку. Дзякуй за захаваны суверэнітэт і незалежнасць». Някляеў сказаў прыемную для ўлады праўду.

Улада, нават аўтарытарная, мае патрэбу ў маральнай падтрымцы, у пахвале, у павазе, у легітымнасці. Уладу не абавязкова любіць, але патрэбна паважаць. Улада адказвае за свае дзеянні перад Богам, нават калі яна гэта не ўсведамляе. Улада – гэта катаржная работа і адказнасць усе 24 гадзіны ў суткі. Да ўлады імкнуцца альбо прыстасаванцы, альбо апантаныя людзі. Гэтая роля не для інтэлігента-мысляра...

Разам з павагай і пахвалой, каб быць канструктыўным і аб’ектыўным, трэба пытацца ва ўлады пра тое, што выклікае наш непакой, асцярожна і ветліва паказваць пралікі, хаваючы іх за вызначэннямі «невыкарыстаныя рэзервы», «нясправджаныя шанцы»...

Увесь час трэба не палохаць, а проста паказваць перспектыву ў будычыні, што пасля знікнення нацыяналістаў, занядбання тутэйшай буржуазіі і пранікнення чужой буржуазіі на нашы абшары прыдзе чарга замены тутэйшай адміністрацыі на нетутэйшую. Магчыма, гэта адбудзецца праз 20 год, калі да ўлады павінны прыйсці дзеці цяперашніх уладаносьбітаў, але ў іх не будзе тутэйшай апоры і таму яны не возьмуць уладу ад сваіх бацькоў.

Паміж уладай і інтэлектуалам-творцам заўсёды існуе натуральная супярэчнасць. Творчы чалавек заўсёды ў пошуку, ён вывучае і жыве ў мінулым і будучыні. Улада жыве сучаснасцю. Творца мае тысячы ідэй, ён у пошуку абсалютнай ісціны. Улада жыве сучаснай рэчаіснасцю, яна карыстаецца перш за ўсё здаровым сэнсам. Творчы чалавек ідзе да ісціны праз памылкі, для ўлады памылкі недазволеная раскоша.

Расейскія мысляры-пісьменнікі Зіноўеў і Салжаніцын прызналіся, што «цэліліся ў Савецкі Саюз, а папалі ў Расею». Такія мысляры ўладзе не толькі непатрэбны, яны шкодныя і нават варожыя. Што гэта за мысляр-снайпер, што цэліўся ў ворага, а трапіў у свайго бацьку-маці?

Каб дамінiраваць у жыцці, трэба ўставіць унутр сябе духоўны стрыжань. Пры адсутнасці гэтага стрыжня чалавек боўтаецца ад адной плыні да другой, жыве чужымі светапоглядамі, робіцца аб'ектам маніпуляцый і ўрэшце бясплённа пражывае свой час. Такім стрыжнем з'яўляецца патрыятызм да Айчыны, да свайго радавода, да сваёй зямлі і свайго народа! І настаўнікам і духоўным Бацькам для асобы і нашага народа павінна быць вера ў Бога! Сустрэўшы непераадольную перашкоду ў сваёй хадзе па жыцці, трэба звяртацца да Бога за парадай, іншы раз прасіць Ягонай дапамогі, але, каб атрымліваць гэтую дапамогу, трэба сваё жыццё выбудоўваць па Боскіх правілах. «Не забі. Не ўкрадзі. Не пралюбадзейнічай. Шануй свайго бацьку і маці. Не ствары сабе куміра…»

## VI

Якая самая галоўная сапраўдная рыса характара палітыка? У першую чаргу – гэта разуменне сутнасці сілы. У дылеме «сіла» ці «справядлівасць» палітык без усялякіх хістанняў абапрэцца на сілу. Улада – гэта тая самая Сіла!

«Улада – вось слова, роўнага якому няма ў свеце. Не Бог, не багацце – улада! Удумайцеся ў гэта слова, уцялесніцеся ў ім, каб яно дрыготка затрымцела ва ўсёй вашай сут-

насці. Улада!» Так прамаўляў 100 год таму назад у «Жалезнай пяце» Джэк Лондан.

Сёння дазваляецца не любіць уладу – гэта не жанчына, што яе трэба абавязкова любіць. Можна нават ненавідзець уладу! Але ўладу неабходна паважаць, бо ўлада – гэта сіла! Як толькі ўлада пачынае страчваць сілу, яна пачынае хістацца, рабіцца няўпэўненай і страчваць павагу. Таму страта сілы – гэта страта легітымнасці.

Што толькі ў свой час ні вытвараў Ельцын: і сікаў на колы летака ў Ісландыі, і дырыжыраваў п'яны берлінскім аркестрам, і зваліўся па п'янцы з мастка ў рэчку, і нават пачаў вайну ў Чачне... Але, будучы чалавекам валявым, валадарным і маючы за сабой моц расейскай ядзернай дзяржавы, сышоў з палітычынай сцэны годна, фактычна не страціўшы імідж у большасці сваіх грамадзян. А вось Гарбачоў, наадварот, будучы вельмі верным сваёй жонцы, дэмакратычным і мяккім ліберальным палітыкам, застаўся ў памяці народа як трапло, агент варожых сіл, недарэка.

Апрыёрнае ўсведамленне і разуменне Сілы з'яўляецца вельмі важным для будучага палітыка. Звычайна ўспрыманне гэтага феномена зразумела тым людзям, што раслі ў самым нізе грамадскай лесвіцы, у сялянскай ці рабочай сям'і, і ўжо з дзяцінства атрымалі рэалістычнае разуменне значэння сілы. Выхаванцы гарадскія, з гарадскіх сем'яў, звычайна разумелі і ставілі на першае месца выхаванне, адукацыю, інтэлектуальныя здольнасці. Але інтэлігенты Троцкі і Пазняк прайгралі свае палітычныя бітвы.

«Сіла» і «справядлівасць» знаходзяцца ў супрацьлеглым палажэнні, дзе «сіла» зверху, а «справядлівасць» пад капытамі сілы... «Справядлівасць» у большасці людзей атаясамліваецца з дэмакратыяй, але справядлівасць – гэта толькі аргумент, ідэалагічны пастулат, магчымасць звінаваціць свайго апанента ў несправядлівасці. Наогул – гэта зброя слабых. Справядлівасць не цягне нават на самастойны феномен.

У склад Сілы ўваходзяць: характар, розум, веды, прафесіяналізм, здароўя, напэўна, яшчэ грошы, хаця гэта не рыса характара. Сапраўдны палітык павінен мець яшчэ

адну выключную рысу характара – гэта апантанасць. Апантаныя, пасіянарныя палітыкі, для якіх палітыка – сэнс жыцця. Так і павінна быць. Апантаны палітык, ці, як кажуць у народзе, – вальтануты – гэта сапраўдны стан сапраўднага палітыка.

Падчас вядомых падзей ні Шарэцкаму, ні Ціхіню, ні Карпенку не хапіла апантанасці, жалезнай волі, самаахвярнасці. Крытыкаваць, быць у апазіцыі лёгка, а ўзваліць на сябе адказнасць за дзяржаву, за лёс народа – гэта не з трыбуны прамовы казаць.

Каб мы ўдзялялі столькі ўвагі панятку «сіла», як удзяляем панятку «справядлівасць». На самай справе панятку «сіла» мы наогул не ўдзяляем аніякай увагі! Таму вядзём бясконцыя дыялогі са шматлікімі «міцькамі» і «дзімычамі», пераконваем сваіх ідэалагічных адверсараў, якія прагматычна і бясстрасна разглядаюць і вывучаюць нас, як тую земнаводную жабку.

Ці карыстаемся мы сваім розумам у поўнай меры, як адным са складнікаў сілы? Ці верым мы ў свой розум? Ці выпрацавалі мы ў сябе патрэбны характар? Упэўненасць, ці прыдбалі мы яе? Уменне паводзіць, трымаць сябе ў грамадстве, прыпаднесці людзям, грамадству? Ці набылі мы патрэбныя веды? Прафесіяналізм? Уменне ўплываць на людзей, разумець іх, весці за сабой народ?! Вось гэта я і ўкладаю ў панятак «сіла», без якой мы робімся аднаногай істотай, якая можа толькі стаяць на месцы, енчыць аб несправядлівасці і не здолее дзейнічаць і весці за сабой людзей.

## VII

Крыху слоў аб тэхналогіях. Намі не ў поўнай меры і глыбіні асэнсаваны панятак «тэхналогіі». Нібыта на першы позірк гэта паслядоўнасць нейкіх механічных дзеянняў, якія ўрэшце даюць канчатковы прадукт ці вынік. Тэхналогіі шырока прымяняліся перш за ўсё ў прамысловасці і далі выключныя вынікі. Малакваліфікаваныя рабочыя

выконвалі кожны адно прымітыўнае дзеянне, на выхадзе стваралі складаныя машыны, механізмы, прадукты і тавары. Высокакваліфікаваныя наладчыкі і інжынеры пры гэтым былі вельмі ў абежаванай колькасці.

У палітыцы шырока пачалі прымяняцца прыёмы, метады і філасофія тэхналогіі, напэўна, з пачатку Кастрычніцкай рэвалюцыі геніяльным паліттэхнолагам Уладзімірам Леніным, а потым ягоным вучнем і паслядоўнікам Іосіфам Сталіным. У Германні 30-х гадоў таксама паліттэхналогіі дазволілі шматмільённыя народныя масы зрабіць шараговымі выканаўцамі.

Негатыўнае стаўленне да дзейнасці камуністаў, Леніна і Сталіна, не дазваляе нашым больш-менш актыўным маладым мыслярам вывучыць метады, прыёмы і досвед гэтых выбітных і таленавітых палітыкаў і тэхнолагаў. У выніку ў палітычным сэнсе малаграматныя, неадукаваныя людзі сёння нешта імкнуцца зразумець ці нават спраўдзіць, але іхнія намаганні з’яўляюцца дзіцячымі і таму непрадуктыўнымі.

У цяперашнія часы паліттэхналогіі дасягнулі найвышэйшага ўзроўню і дазволілі рабіць любыя патрэбныя ўладам палітычныя дзеянні. Нават адукаваныя людзі часцяком з-за дрэў не бачаць лесу, гэта значыць з-за меркаванняў, выказванняў, спрэчак, філасофскіх дыскусій, праграм не здолелі ўбачыць сапраўдных мэт палітычных чабаноў.

Каб заблытаць масы і грамадскіх мысляроў, запускаецца вялікая колькасць імітатараў, разрыхліцеляў, іншадумцаў-дэмакратаў, якія забалтываюць тую ці іншую тэму і ўрэшце заводзяць грамадскую думку ў тупік.

На цяперашні момант пэўныя зацікаўленыя колы ставяць і дасягаюць той мэты, каб адсутнічала сама прысутнасць непатрэбных меркаванняў, светапоглядаў, думак. Так, у «Архэ», таксама і на другіх сайтах актыўна размяшчаюцца артыкулы і каментарыі, дзе энергічна і настойліва прапіхваецца, навязваецца думка, што беларусаў як нацыі ніколі не было, што нават мовы не было – гэта прыдумка вывіхнутых нацдэмаў 20-х гадоў.

Сёння працягвае прапагандавацца думка, што дэмакратыя – гэта вышэйшая каштоўнасьць грамадства. Між тым катэгарычна адкідваецца іншае меркаванне, што сучасная дэмакратыя – гэта ўлада таталітарнага капіталізма!

Нашы палітмысляры ўсё яшчэ думаюць лозунгамі, замест таго каб дасканала вывучаць паліттэхналогіі. Лозунгі патрэбны для мас. Мысляры асэнсоўваюць і вывучаюць мэты і шляхі да мэт, за чужымі лозунгамі здольныя ўбачыць мэту тых, хто гэты лозунгі ўкідвае ў грамадства.

Гістарычная рэчаіснасць сёння даступна ўсім і ляжыць перад намі, дае нам магчымасць разглядаць блізкую і далёкую даўніну ў патрэбным для нас накірунку і з неабходнай для нашага грамадства і краіны інтэрпрэтацыяй. Незалежныя мысляры-аналітыкі маюць магчымасць будаваць такія аналітычныя канструктыўныя пабудовы, што не мае магчымасць афіцыйная паліталогія. Галоўная ўмова такой канструктыўнай працы – каб яна заўсёды была карыснай для нашай краіны, грамадства і народа.

12 жніўня 2012 г., г.Менск.
Друкаваўся ў зборніку «Праблемы гуманітарнай бяспекі Беларусі», 2013 г.

## Асявы час, ці Восень цывілізацыі
(Памяці Мікалая Ігнатавіча Крукоўскага)[58]

*Здзіўленне – першы крок да разумення.*
*Гэта сфера інтэлектуала, яго спорт, яго ўцеха.*
*Яму належыць здольнасць глядзець на свет шырока*
*расплюшчанымі вачыма.*
*Усё ў свеце незвычайна і дзівосна для шырока*
*расплюшчаных вачэй.*
*Здольнасць здзіўляцца не дана футбалісту,*
*мысляр жа – заўсёды ў экстазе і летуценнях,*
*яго выключная адрозная прыкмета – здзіўленыя вочы.*
*Таму старажытныя і ўяўлялі сабе Мінерву савой.*

«Паўстанне мас Артэга-і-Гасет»

### I

Увесь час я спазняўся ў жыцці. Чаму? Таму што быў няўважлівым, неадукаваным, нявыхаваным. Маю ўвагу адводзілі ад сапраўднага жыцця мноства вялікіх і маленькіх, дробных і другасных рэчаў, з'яў, хобі. Я не меў уласных ведаў, тутэйшых тлумачэнняў, тэорый, версій, варыянтаў, сэнсу існавання. Таму я напачатку хацеў асэнсаваць мэтазгоднасць сваіх жыццёвых крокаў.

Тыя ж, хто крочылі па жыцці без мэты, разумення сэнсу тых ці іншых крокаў, часта заходзілі ў жыццёвыя тупікі, асабліва калі ішлі шырокай дарогай задавальнення, спакусы і матэрыяльнай радасці. Чаму? Таму што грамадства і ўлада прапаноўвалі і рэкламавалі жыццёвыя стандарты, дзе матэрыялізм і гераізм, часта бяздумны, былі адной з вышэйшых катэгорый жыцця. Але Паўка Карчагін фактычна ў канцы свайго індывідуальнага жыцця – банкрут. І звычайна фанатыкі адной ідэі, нават геройчнай, заўсёды банкруты.

58 Выступ на вечарыне, прысвечанай Мікалаю Крукоўскаму, 26 лістапада 2013 года ў Музеі Вялікай Айчыннай вайны.

Такім чынам, я марудзіў таму, што шукаў адказы і задаваў пытанні, рабіў тое, што павінна было рабіць грамадства і ўлада, выконваў іхнюю працу і таму, канечне, спазняўся ў сваёй хадзе па жыцці.

І сёння наша моладзь не атрымлівае патрэбных ёй эталонаў, алгарытмаў і сігналаў ад дарослага грамадства аб тым, як плённа і шчасліва пражыць свой жыццёвы час. Наша тэлебачанне не сее «разумнае, вечнае, добрае», а наадварот, разам з інтэрнэтам часцяком разбурае мысленне тутэйшых, той культурны код, што яшчэ захаваўся ад бацькоў і дзядоў. Перагружае непатрэбнай інфармацыяй, нішчыць здольнасць да крытычнага аналізу, стварае фрагментарнасць свядомасці, засяроджавае ўвагу на абсурдзе, маральна разбэшчвае і разлагае моладзь…. Чамусьці, як па камандзе, ідзе з розных крыніц і бакоў шалёная крытыка сялянства, вёскі, вясковага ладу жыцця, нашага культурнага кода…

У свой час я сфармаваў светапогляд, у якім існавала «Боская Прастора» – гэта вёска, прырода, пары года, рака, сенажаць, лес, зорнае неба, дзяўчына… Я адчуваў у гэтай прасторы нейкую таямнічасць, мудрасць, веліч, веды, сэнс, прыгажосць… і яшчэ шмат чаго невядомага і значнага…

Акрамя таго, я вызначыў яшчэ і свет «Гарадской Цывілізацыі» якая ўладарыла на зямной кулі і ў большасці ўжо страціла сувязь з «Боскай Прасторай» і таму часта паводзілася ў гэтай прасторы і ў жыцці як дзікун. «Дзікуны», «дзікія людзі» іншы раз сядзелі ў дзяржаўных габінетах, у кабінах легкавікоў, яны былі паўсюль, сярод простых людзей і сярод адукаваных людзей, усе яны вызначаліся нейкай бясконцай прагай да матэрыяльных даброт, «Боская Прастора» была для іх усяго толькі кузняй, майстэрняй.

Гэтая канцэпцыя была для ўласнага карыстання, і таму калі я прачытаў невялічкі артыкул[59] М. І. Крукоўскага ў зборніку «Праблемы гуманітарнай бяспекі Беларусі», то быў вельмі ўражаны, здзіўлены і моцна ўзрадаваны. Ягоны артыкул, хоць у зборніку было шмат іншых ціка-

59 «Інфармацыя і яе месца ў сістэме гуманітарнай культуры». Мікола Крукоўскі.

вых тэкстаў, адказаў на некалькі фундаментальных светапоглядных пытанняў, заклаў філасофскі падмурак пад мае ранейшыя аматарскія гледзішчы.

Зачараваны, я чытаў матэматычна акрэсленыя, ясныя і трапныя думкі нашага еўрапейскага філосафа. «...Для панаваўшага тады ў савецкай навуцы ''дыямата'' самым цяжкім былі тры пытанні: у чым заключаецца прырода кібернэтыкі? Як растлумачыць паходжанне жыцця? Што такое інфармацыя?

Між тым больш чым 50 год назад Клод Шэнан адзначыў, што паняцце ''інфармацыя'' ў гэткай жа ступені значнае для фізікі, як і фундаметальныя катэгоры ''масы і энергіі''.

Інфармацыя з'яўляецца носьбітам значэння і сэнсу.

...Для фізічнай навукі паняцці энергія, сіла і работа застаюцца і сёння дакладна не вызначанымі (у Рычарда Феймана, напрыклад, так і напісана, што мы насамрэч не ведаем, што ёсць такое энергія). Тое ж самае мы бачым у Кована, Акосты Грэма і ў Роджэрса. Ваяўнічыя савецкія фізікі абвяшчалі, што ўсё гэта ёсць толькі формы існавання матэрыі, і нічога больш пэўнага сказаць не маглі. Астатнія ж проста маўчалі і маўчаць, як тое робіцца і ў дачыненні да адносна вельмі блізкага інфармацыі паняцце ''поля''.

У плане філасофіі ''інфармацыя'' адразу ж як пэўны сэнс і пэўнае значэнне ўступае ў субардынацыйныя адносіны з катэгорыяй ''ідэальнага'' на больш канкрэтных яе ўзроўнях. Такім чынам ''інфармацыя'' як лагічная прадстаўніца ''ідэальнага'' фактычна аказваецца тоеснай паняццю ''структура''. Як тое бліскуча даказана эстонскім філосафам Рэбанэ. Такім чынам інфармацыя знаходзіцца ў структуры прасторы.

...Пры такім вось філасофскім рэалізме, які за катэгорыю быцця-рэчаіснасці бярэ толькі адзінства ідэальнага і матэрыяльнага ў іх дыялектычна супярэчлівым рухомым адзінстве...»

Геніяльна! Як ідэаліст ад прыроды і па выхаванні, я зразу атрымаў трапны матэматычны адказ на мае шматлікія жыццёвыя пытанні.

У далейшых працах Мікалая Ігнатавіча я прачытаў таксама вельмі важкія і фундаментальныя звесткі аб «ідэальным». «Прыгажосць» – гэта эталон «дасканаласці» і гармоніі. «Дасканалае» заўсёды рана ці позна перамагае і выжывае. «Узнёслае» калі знаходзіцца ў гармоніі з матэрыяльным, то гэта фаза росту і дабрабыту. Калі «узнёслае» пераўзыходзіць «матэрыяльнае», то гэта прыводзіць да трагічнага, а калі «матэрыяльнае» валадарыць над «узнёслым», то гэтакі стан вядзе да заняпаду і гібелі».

Хацелася закрычаць «Эўрыка», схапіць АК і, выскачыўшы на вуліцу, агучыць свой стан узрушанасці салютам у начное неба сталіцы.

## II

Я ўчытаваўся ў філасофскія творы нашага еўрапейскага мысляра, наталяючы смагу ведаў сваёй асмяглай душы за дзесяцігоддзі адзіноты і маркоты. Нарэшце я сустрэў нашага тутэйшага філосафа, які адказваў на пытанні, што даўно месціліся ў маёй душы і на якія знакамітыя маскоўскія мысляры актыўна адказвалі навукападобнай інтэлектуальнай хлуснёй. Цяпер я разумеў, чаму маскоўскія артадоксы не маглі ўспрыняць разумовыя здабыткі нашага еўрапейскага філасафа, перш за ўсё таму, што былі занадта прыкормленыя, жылі камфортным жыццём і служылі не ісціне, а мамоне. Між тым сапраўдны філосаф жыве аскетычным жыццём.

Разам з тым я быў у нечым нязгодны з нашым філосафам. Так, прачытаўшы: «Дадаткова зазначым, што вельмі сур’ёзны і па-свойму таксама больш негатыўны, чым пазітыўны фактар стыхійнага асіміляцыйнага ўплыву высокаразвітай рускай культуры на культуру беларускую, што знаходзіцца зараз амаль што ў стане трагічнага анабіёзу, як, зрэшты, і залішне некрытычнае захапленне сучаснай заходняй культурай, – гэта таксама складаныя і важныя праблемы, але яны маюць ужо ў пэўным сэнсе самастойнае значэнне і патрабуюць спецыяльнага свайго

вывучэння», – я часткова не згадзіўся з высновамі нашага філосафа, з ягоным тэрмінам «высокаразвітая руская культура». Трэба бачыць розніцу між культурай рускага народа і культурай яе эліты. У гэтым сэнсе беларус (ліцвін) у сваім культурным еўрапейскім кодзе мае: працавітасць, павагу да закона, любоў да сям'і, прыроднага асяроддзя, дэмакратызм (памяркоўнасць), добразычлівасць, сціпласць перад жыццём і Богам. У расіяніна прысутнічае ардынскі культурны код: амбітнасць, культ сілы, ваяўнічасць, азіятчына, жорсткасць, абломаўшчына, схільнасць да халявы, п'янства, шаманізм, несыстэмнасць, рабскія адносіны з уладай... Элітарная руская культура (літаратура, музыка, балет...) ствараласяў свой час на падмурку завезенай еўрапейскай культуры для пануючага паразітарнага класа рабаўладальніцкай дваранскай знаці. Леў Талстой пісаў і ўзвышаў якраз гэты дваранскі арыстракратычны слой. Гогаль у сваім «Рэвізоры» і «Мёртвых душах» паказаў паразітызм і абмежаванасць, нават тупасць рускай дваранскай знаці, што праела, прагуляла, прасвістала ў XIX стагоддзі надышоўшую гістарычную эпоху індустрыялізацыі.

У той жа час беларуская эліта больш чым 200 год высякалася рускай уладай пад корань. Разам з тым нібыта «стыхійны асіміляцыйны ўплыў рускай культуры» на самай справе зусім не стыхійны, а жорстка навязаны маскоўскай метраполіяй. (Нават сёння расейскія перакладчыкі пішуць прозвішча нашага еўрапейскага філосафа, як «Крюковский», выводзячы яго ад слова «крюк», не разумеючы, што прозвішча«Крукоўскі» утварылася ад панятка «крук» – крумкач, стары, мудры воран.)

Канечне, руская імперыя назапасіла шмат тэхнічнай і навуковай культуры, акрамя таго – шмат тэхнічных, навуковых, палітычных і культурных ведаў, здабытых савецкімі людзьмі і савецкай дзяржавай пасля распаду Савецкага Саюза, аўтаматычна зрабіліся расейскай спадчынай.

Так думаў я, і гэтую думку я хацеў абмеркаваць з Міколам Крукоўскім, бо як трапна зазначыў ён: «...Пісьменнікі і паэты часта становяцца адначасова і філосафамі...»

Як зачараваны, я чытаў думкі і меркаванні філосафа. «Кожная рэч як прадмет матэрыяльнай культуры, будучы вынікам свядомай чалавечай дзейнасці, нясе ў сабе разам з матэрыяльным рэчывам і пэўную ідэю, згустак інфармацыі. Таксама і кожная ідэя як элемент культуры духоўнай рэалізуецца з дапамогаю мовы, якую яшчэ Маркс лічыў матэрыялізаванай формай існавання свядомасці. Больш таго, згодна выразу французскага культуролага Фуко, словы і рэчы ўвогуле з'яўляюцца носьбітамі духоўнай і матэрыяльнай культуры. Паколькі ж мова можа быць толькі нацыянальнай...»

«...Катэгорыі трагічнага, узнёслага, камічнага і нізкага. Трагічнае мае месца тады, калі стасунак паміж лагічнымі яго кампанентамі настолькі напружаны, што, каб існаваць, духоўнае павінна прынесці ў ахвяру матэрыяльнае. Ва ўзнёслым духоўнае пераважае над матэрыяльным, даючы ўжо магчымасць існаваць і матэрыяльнаму. У камічным, наадварот, пераважае матэрыяльнае над духоўным, а ў нізкім матэрыяльнае цалкам падаўляе сабой духоўнае. Зразумела, што прыгожае і брыдкае займаюць у гэтай сістэме цэнтральнае месца, паколькі прыгожае, як было паказана, адпавядае гарманічна поўнаму адзінству яго кампанентаў, а брыдкае – поўнаму іх процістаянню».

«Менавіта Гегель заўважыў, што на першай фазе цыкла развіцця, адпавядаючай катэгорыі ўзнёслага, мае месца перавага ідэальнага над рэальным. Наступная фаза – фаза росквіту, адпаведная катэгорыі прыгожага, характарызуецца гарманічным адзінствам ідэальнага і рэальнага. На трэцяй фазе як фазе ўпадку, звязанай з камічным, узнікае ўжо, наадварот, перавага рэальнага над ідэальным. Пра чацвёртую фазу, фазу поўнага распаду, Гегель, як ужо гаварылася, не пісаў нічога, але з самой ужо логікі выцякала, што для фазы распаду характэрны поўны антаганізм паміж ідэальным і рэальным».

«З пункту погляду прынятай тут агульнай канцэпцыі, гэта лагічна наводзіць на думку, што і ў глабальным, агульначалавечым маштабе наступае, гаворачы словамі Шпенглера, *восень*. Але, як даказвае славуты заходні філо-

саф К. Ясперс, працэс станаўлення чалавецтва як носьбіта сённяшняй агульначалавечай цывілізацыі распачынаўся ў гэтак званы *асявы час* менавіта з узнікнення магутных сусветных рэлігій, якія і зрабілі чалавека чалавекам. А паколькі сусвет развіваецца цыклічна і ‘‘вяртаецца вецер на кругі свае’’ (Эклезіяст, 1-6), то ёсць у гэтым, як тое ні парадаксальна, аптымістычная надзея на чарговае адраджэнне чалавецтва. І тым большая надзея на наша нацыянальнае адраджэнне і беларускую ідэю, надзея з апорай на веру ў Бога як абсалютны духоўны арыенцір, і надзея у сваю суверэнную, незалежную дзяржаву і ў няменшай ступені ў саміх сябе».

«Калі ў савецкія часы філасофію толькі знявечвалі, расколваючы яе на два процілеглыя сабе бакі і ўродуючы тым і паняцце ідэалу, ператвараючы і яго ў вульгарную, а то і крывавую часам «зброю класавай барацьбы», то ў нашыя алігархічныя часы ўжо самую філасофію выкідаюць, як некалі казалі марксісты, на звалку гісторыі, замяніўшы яе ўсемагутнаю і цынічнаю сілаю грошай. Сёння ўсё тое, што калісьці адносілася да ідэальных каштоўнасцяў, тобок усё праўдзівае, добрае, дасканалае і прыгожае, стала рыначным таварам і, значыць, прадажным. Ды і карыснае з прыемным таксама цэніцца цяпер як толькі грашовы сродак абмену, і нават каханне стала такім жа «абменам паслугамі» (зрэшты, і само слова «каханне» знікае, замяняецца чыста таварным тэрмінам «сэкс»)».

III

Я патэлефанаваў Мікалаю Ігнатавічу, узяўшы нумар тэлефона ў шаноўнага Васіля Цімафеевіча.

Я дзякаваў Мікалаю Ігнатавічу за ягоныя філасофскія працы, якія адказалі мне на мае пякучыя жыццёвыя пытанні, на якія я ўжо думаў, што ніколі не знайду адказаў. Я казаў, што мяне вельмі цікавіць ягоны філасофскі погляд на Статут ВКЛ як першую ў свеце дэмакратычную Канстытуцыю феадальнага грамадства, калі ў той час у ЗША і Расеі існавалі рабаўладальніцкія грамадствы. Так-

сама цікавіць філасофскі погляд на гістрыю XX стагоддзя, бо палітыкі і гісторыкі заблыталі гэтыя блізкія падзеі, так што яснага гледзішча не існуе, і фактычна гэта пад сілу толькі філосафу.

По яго адказах я адчуў, што гэта шчыры і, як сапраўдны беларус, сціплы чалавек з багацейшым жыццёвым і навуковым досведам, але аніякай фанабэрыі ці амбітнасці я не адчуваў. У яго голасе і словах гучала шкадаванне, што не паспее заняцца гісторыяй ВКЛ, нашай першай у свеце канстытуцыяй. Я адзначыў, што яго працы мяне моцна ўразілі, што яны еўрапейскага ўзроўню, а значыць сусветнага, што, чытаючы ягоныя працы, я нібыта працягваў чытаць знакамітых еўрапейскіх і амерыканскіх мысляроў: Артэга-і-Гасета, Антонія Грамшы ці Эрыха Фромма.

На развітанне я пазначыў, што цяпер хварэю і, як толькі паздаравею, з ягонага дазволу сустрэнуся з ім, прывязу свае кніжкі. Мікалай Ігнатавіч неяк здзіўлена прамовіў, што ніхто яго так узнёсла не хваліў. Тады я адказаў, што мы ўспрымаем сусвет аднолькава, як беларусы, мой бацька таксама 1923 года нараджэння, франтавік, са Старога Дрыбіна, што побач з Воршай. І што я вельмі ўзрадаваны і здзіўлены ягонымі філасофскімі працамі, а «здольнасць здзіўляцца не дадзена футбалісту, гэта ўцеха мысляроў».

Гэта было прыкладна ў першай палове верасня. І як часта бывала са мной, я ізноў спазніўся. 30 верасня Мікалай Ігнатавіч памёр, і я зразу адчуў сябе асірацелым, бо ізноў застаўся ў адзіноце. Ад нас у вечнасць адышоў вялікі чалавек, еўрапейскі філосаф, наш брат па крыві, па радаводзе, які мог даць адказы на мае і нашы шматлікія пытанні.

лістапад 2013 года
г. Менск

## Змест

